

# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання XI.

## У нумары



5

май

1963

Выдавецтва «ЗВЯЗДА».
МІНСК.

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

---

**Вокладка Б. ЗАБОРАВА.**

**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:**

**— Злоўлен сігнал...**
**— Адкуль!**
**— З Новасібірска,— адказвае лабарант Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна Ігар Кобак, чэмпіён рэспублікі па радыёспорту.**

**НА ТРЭЦЯЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ — адзін з варыянтаў рабочага адзення для тэкстыльшчыкаў, распрацаваны Рэспубліканскім домам мадэлей у Мінску. Трэба ўлічыць усе заўвагі, выказаныя пры абмеркаванні. Гэтым і заняты цяпер канструктар Тамара Рыгораўна Корына, мастак Энгеліна Веранчык і кансультант Раіса Амельчанкава.**

Фота **А. Дзітлава.**

---





*Славамір Хадаронак нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Укля на Браслаўшчыне. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў у рыбалавецкай арцелі. Скончыў Полацкае педвучылішча і цяпер працуе загадчыкам Соўлаўскай пачатковай школы Маладзечанскага раёна.*

**Славамір ХАДАРОНАК**

# МЯСЦОВЫ ПАЭТ

Забыўшы аб стоме,
аб млявасці соннай,
Аб мазалях,
што рукі кусаюць,
Радкі вяртлявыя,
як дзікіх коней,
Лаўлю,
кілзаю
і ў верш упрагаю.
Прапахлыя
вугалем,
рыбай,
саляркаю,
Героі прыйшлі
ка мне
з шахтаў,
з-за воблакаў.
Адкрыта,
як родзічы часам за чаркаю,
Гавораць,
падказваюць
тэмы і вобразы.
Як рукі,
праменні
мне сонца
працягвае.

Дымяцца акуркі,
бы гільзы патронныя...
І ноч захавалася
дзесь за прасцягамі,
Як рукапіс мой,
пакрамсаная,
чорная.

## БРАСЛАЎСКІЯ АЗЁРЫ



агоднай,
цёплай ласкі
небагата я
Спазнаў ад гэтых
пеністых азёр.
Не раз мяне
ў прапахлым рыбай катэры
За грудзі трос
гарласты,
дзёрзкі
шторм.
Цяжкую стому
ўпарта
з цела гонячы,
На мокры жвір
я падаў,
нібы ў сне.
Праз шкельцы
акуляраў супрацьсонечных
Курортнікі
глядзелі на мяне.
Назойліва,
як авадні,
бубнелі:
— Ты б, хлопча,
шчэ па лужынах скакаў...
І я тады,
да ніткі узмакрэлы,
Як чэмер,
слёзы горкія
глытаў.
О, прэсныя Браслаўскія азёры,
Вы
гарт
мне ў сэрца
назаўжды ўлілі!



На хвалях вашых
не адзін пуд солі
Я разам з рыбакамі
падзяліў!..

## ТРЭНЕР



партсмену —
букеты,
воплескі,
прэміі,
Тысячы
цёплых усмешак ветлых,
І толькі
ўбаку застаецца
трэнер,
Бясконца шчаслівы
і... непрыкметны.
А колькі
ён пачак «Прыбою» выкурыў,
Спакою не меў
ні ў спёку,
ні ў сцюжу.
Затое
спартсмена такога
выкаваў,
Што рве ён
заўсёды
фініша стужку.
Балельшчыкі!
Будзеце дружна старацца вы
Пляскаць спартсмену —
ведайце,
верце:
У такт грамавой,
як абвал,
авацыі
Радасна стукае
трэнера сэрца!..



*Галіна Васілеўская нарадзілася ў Клічаве. Скончыла сярэднюю школу, а ў 1950 годзе факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Цяпер Галіна Васілеўская працуе ў рэдакцыі часопіса «Работніца і сялянка». «Маланка ўночы» — першая аповесць журналісткі.*

Галіна **ВАСІЛЕЎСКАЯ**

# МАЛАНКА ЎНОЧЫ

**Дакументальная аповесць**

Мал. Г. Скамарохава.

## ВЫПРАБАВАННЕ

1

Яркае сонца свяціла проста ў твар. Рыма адвяла вочы. Убачыла шафу, камоду, мамін ложак, ужо засланы. Рыма ўсхапілася, села на пасцелі і — раптам успомніла, што сёння нядзеля і спяшацца няма куды.

У акно пастукалі. Рыма глянула і не змагла стрымаць усмешкі: у акне паказалася страшнае аблічча з прыплюснутым носам, расцягнутым ротам і вялікімі вачыма.

Ну, вядома, гэта Марк. Ён і адчыніў аканіцы, упусціўшы ў пакой сонца, якое разбудзіла Рыму.

Рыма хуценька надзела сукенку і выбегла на двор. Мама корпалася на гародзе, бацька абразаў садовымі нажніцамі дрэвы. А Валодзя ўсцягваў амаль на самую верхавіну ліпы старое драўлянае кола.

— Няхай вядуцца буслы! — крыкнуў ён. — Кажуць, яны прыносяць шчасце.

— А ты што — нешчаслівы? — спытала Рыма.
— Чаму? Няхай будзе ў запас. Можа, каму спатрэбіцца.
Рыма паглядзела на ліпу, старую, з пышнай, развесістай кронай. Ліпа расла ад самых сенцаў. Пасадзілі яе гадоў якіх сто назад, а сенцы пабудавалі мінулай вясной. Ліпа замінала будаўнікам, але бацька нізавошта не захацеў, каб яе спілавалі.
Не раз і Рыма ўзбіралася на самую верхавіну дрэва і адтуль, схаваўшыся ў густой кроне, аглядала наваколле. Насупраць іх доміка, на горцы, стаяла школа. Унізе, за дарогай, адразу пачынаўся круты абрыў, за ім — рака. На другім яе беразе — лес, густы, дрымотны.
Гэта, калі глядзіш у адзін бок.
Павернеш галаву — і бачыш сквер, пасярэдзіне якога старая драўляная царква. Царкву пераабсталявалі пад клуб, там раз на тыдзень паказваюць новыя фільмы. Гэта — цэнтр вёскі. За скверам плошча. З трох бакоў яе абступілі магазіны. З ліпы нават відаць укапаныя ў зямлю доўгія драўляныя лавы і сталы. У нядзелю жанчыны раскладваюць на сталах сыры, яблыкі, яйкі. Гэта рынак. Праўда, усе ў вёсцы маюць сваіх кароў, парсюкоў, чароды курэй, якія цэлымі днямі купаюцца ў пяску на дарозе. Але ў нядзелю ў вёску прыходзяць рабочыя з чыгункі ды з кляпальнай майстэрні лесгаса. Рабочых многа. Таму на рынку заўсёды ёсць пакупнікі.
Далёка відаць з дрэва.
Рыма з зайздрасцю паглядзела на Марка, які ганарліва ўсеўся на будучым бусліным гняздзе. Захацелася і самой вырвацца на прастор. Яна страсянула цёмнымі косамі і пабегла па сцежцы ўніз да ракі.
— Рыма, далёка не адыходзь! — данёсся да яе голас маці.
— Я за-а-раз!
Пераскочыла дарогу, узбегла на мост і спынілася. Унізе ціха плыве вада, і, калі доўга на яе глядзець, здаецца, што гэта не вада, а ты плывеш, плывеш у паветры.
Адзін бераг ракі пясчаны, а на другім — зялёны лужок з волатамі-дубамі. Далей, уніз ад моста, кучаравыя вербы глядзяцца ў ваду, як у люстэрка.
Па вадзе плывуць белыя воблакі. А Рыме здаецца, што гэта не воблакі, а ветразі дзівосных караблёў.
Доўга яна сачыла за воблакамі ў блакітнай вадзе, потым пабрыла ў лес. Нарвала там пралесак. Адзін букецік дамоў, другі, каб пакінуць на поручнях моста. Яна ведала: вечарам, калі на мост прыйдзе моладзь, на поручнях будзе многа пралесак. Але яе букецік будзе тут першы.
...Праз некалькі дзён па даносу паклёпніка Усачова арыштавалі Рымінага бацьку.

## 2

Настала зіма. Пайшоў снег. Маленькі домік стаў падобны на вялікі снежны сумёт.
Пад акном Рыма зрабіла кармушку для птушак. Аднойчы на кармушцы яна ўбачыла вераб'я. Ён, ей здавалася, сумна глядзеў у акно. Праз фортку яна ўзяла яго ў рукі. Верабей быў цвёрды, як кавалак лёду. Яна хукала на яго, саграваючы дыханнем. Але так і не вярнула да жыцця.
Аднаго разу Марк узяў Рыму на паляванне. Калі яна «мазала», ён, уздыхаючы гаварыў:



— Хіба дзяўчо можа замяніць сапраўднага хлопца?
Гэта ён меў на ўвазе Валодзю, які ўжо вучыўся ў Мінску ў політэхнічным інстытуце.
Рыма крыўдзілася.
— Пачакай, навучуся — буду лепш за цябе, лепш за Валодзю страляць.
Але вучыцца страляць было не так проста. Марк хаваў ад яе патроны.
Рыма ішла ў лес і снежкамі цэлілася ў дуплы старых ліп. Спачатку яна трапляла рэдка і то толькі ў самыя блізкія. Потым рука стала больш упэўненая, цвёрдая.
Аднойчы за такой трэніроўкай яе застаў Марк. Ён доўга назіраў з-за куста за Рымай. Нарэшце падышоў да яе і сказаў:
— Не так кідаеш. Трэба збоку і крыху нагнуўшыся. Вось так!
Ён замахнуўся і далёка-далёка шпурнуў снежку.
— Бачыла? А ты кідаеш, як усе дзяўчынкі, цераз галаву.
Доўга трэніравалася Рыма і стала «снайперам па кіданню снежак».
Усё гэта была гульня, дзіцячая забава. А жыццё дыктавала сваё. Рыма сталела. Хатнія, гаспадарчыя клопаты клаліся і на яе.
Аднойчы снежным марозным днём радыё прынесла трывожную вестку — вайна з Фінляндыяй.
Марк засумаваў. Ён, выдатны лыжнік і трапны стралок, сядзіць за партай, вучыць тэарэмы і паўтарае храналогію старых гістарычных падзей. А на свеце адбываецца такое...
І раптам пісьмо ад Валодзі. Ён ідзе добраахвотнікам на фронт. «Лічу гэта сваім абавязкам»,— пісаў ён. У той жа дзень і Марка выклікалі ў ваенкамат. І ён падаў заяву, хадзіў, даказваў, што дзевяты клас — гэта не так ужо мала, што ён снайпер, што з пятнаццаці гадоў мае паляўнічы білет. І яму дазволілі.
Разам з Валодзем ён быў у Першым лыжным беларускім батальёне.
Трывожна стала ў доме. Газеты пісалі: маразы, жорсткія баі... Рыма хадзіла разгубленая, не знаходзіла сабе месца. І не вытрымала, рашуча сказала маці:
— Мама, я пайду на вайну!
Вера Маркаўна здзіўлена паглядзела на дачку.
— Малая ты яшчэ,— сказала яна строга.— Не дзіцячы гэта занятак.
— Усё роўна пайду.
— А што ты там будзеш рабіць?
— Разведчыцай буду, раненых буду з поля бою выносіць.
— Не пушчу! І гаварыць больш не хачу з табою!
Рыма змаўчала. Навошта спрачацца, калі ўжо ўсё вырашана. Употай Рыма пакінула дом. Вера Маркаўна нядоўга ламала галаву над тым, дзе шукаць дачку. На станцыі фарміраваліся добраахвотныя батальёны. Вера Маркаўна паехала туды. Прызыўны пункт знайсці было не цяжка, туды ішлі юнакі з невялікімі вузельчыкамі ў руках. Вера Маркаўна рушыла за імі.
Рыму яна ўбачыла на прыступках ля ўваходных дзвярэй прызыўнога пункта. Рыма сядзела, закрыўшы твар рукамі, плечы яе ўздрыгвалі. Яе не ўзялі на вайну...

## 3

Салдацкія пісьмы-трохкутнікі прыходзілі рэдка. Хлопцы пісалі скупа: «жывыя, здаровыя, не хвалюйцеся».

Рыма складвала трохкутнікі ў бляшанку з-пад цукерак, хавала яе на самае дно чамадана — пісьмы былі з вайны, адтуль, дзе ішлі гарачыя баі, дзе людзі не шкадавалі жыцця за шчасце Радзімы. І яна берагла іх.

Вярнуўшыся з Оршы, маці і дачка ні разу не гаварылі пра ўцёкі, не ўспаміналі пра іх.

Толькі Валя, Рыміна сяброўка, незнарок напомніла.

Было гэта пад вечар у нядзелю. Рыма з Валяй глядзелі кінафільм «Чапаеў». Пасля кіно яны моўчкі выйшлі з клуба. На плошчы было многа народу. Яны мінулі сквер і ўбачылі п'янага. Ён стаяў ля плота, цыбаты, хударлявы, і ніяк не мог ад яго адарвацца. Трымаючыся рукамі за шурпатыя дошкі, ён лаяўся брыдкімі словамі.

Рыма прыпынілася, агледзелася і, заўважыўшы непадалёку купку мужчын, якія весела гаварылі пра нешта смешнае, падышла да іх.

— Я вас вельмі прашу,— сказала яна,— завядзіце яго дадому. Сам ён не дойдзе.

Мужчыны аглянуліся.

— А, гэты? Гэты дадому дабярэцца. Не першы раз.

— Але ж тут людзі ходзяць, дзеці, а ён лаецца...

Мужчыны пераглянуліся.

— Добра, дзяўчынка, зараз.

Яны падышлі да п'янага і ўзялі яго пад рукі.

Рыма вярнулася да Валі. Яны мінулі плошчу, звярнулі на Галёны. Гэта была вуліца, дзе калісьці жылі батракі, галота. Магчыма, таму і вуліцу назвалі — Галёны, ад слова голыя. Нарэшце Валя сказала:

— Пашкадавала? Гэта ж Усачоў, той самы, што напісаў данос на твайго бацьку.

— Ведаю,— ціха адказала Рыма.

— Дык чаму ж ты папрасіла, каб яго завялі дадому?

— Брыдка глядзець... Ён не падобны на чалавека. Крадзе, п'е, лаецца...

Нейкі час ішлі моўчкі. Рыма думала пра Усачова. Ён сказаў аднойчы п'яны пра бацьку, убачыўшы Рыму:

— Будзе ведаць, як майму сыну двойкі ставіць. Я адзін раз паставіў подпіс, і ён да смерці не забудзе.

«І навошта такія людзі жывуць на свеце? — думала Рыма.— Толькі каб рабіць зло».

А вось Чапаеў загінуў: смелы, храбры, адданы рэвалюцыі. Чаму ён загінуў? Чаму наогул гінуць харошыя людзі?

— Чапаеў столькі мог зрабіць для людзей і загінуў. Ненавіджу вайну,— сказала яна.

— Ненавідзіш, а сама ўцякала на вайну,— напомніла Валя.

— Таму і ўцякала, што ненавіджу,— адказала яна.

Валя збоку недаверліва паглядзела на Рыму.

— Не верыш? Эх ты! Хіба можна сядзець дома і чакаць, калі гінуць другія, калі не ты, а яны бароняць Радзіму ад ворага? Хавацца за іх спіны? Не, я так не магу,— сказала Рыма.

Дома яе чакалі. За сталом сядзелі абодва браты ў ваенных гімнасцёрках.

— Брацікі! Валодзя, Марк! — Рыма кінулася да іх.

«Брацікі» былі ўжо намнога вышэйшыя за маці, шырокія ў плячах, з абветранымі і апечанымі марозам тварамі. Яны схапілі Рыму за рукі і закружыліся з ёю па пакоі.

— Ну, як там было? Раскажыце, ці надоўга дамоў? У водпуск, так? — пыталася Рыма.



— Дэмабілізаваныя салдаты! — Валодзя стукнуў абцасамі шыраканосых лыжных чаравікаў.

— Назусім?

— Назусім.

Рыма села за стол, на якім кіпеў самавар. З яе твару не сыходзіла радасная ўсмешка.

— Ну, раскажыце, як там, страшна?

Марк стрымана ўздыхнуў, твар яго стаў суровы, заклапочаны.

— Вайна ёсць вайна,— сказаў ён.— А страх трэба пакідаць дома, калі ідзеш ваяваць...

Валодзя памешваў у шклянцы лыжачкай і, здавалася, думаў толькі пра чай. Потым і ён сказаў:

— Вайна ёсць вайна. І лепш, каб яе не было.

## 4

Ноч. Усе спяць. А Веры Маркаўне не спіцца. І сэрца баліць. Яна б устала, выпіла лякарства, ды не хоча будзіць Рыму. Стамілася дзяўчынка, сёння здала апошні экзамен. Няхай паспіць.

Апошні час Вера Маркаўна часта хварэе. Не так проста адной гадаваць дзяцей. І хоць дзеці ўсё разумеюць, памагаюць ёй, як могуць, але клопаты, трывогі за іх кладуцца толькі на яе плечы.

Ужо некалькі разоў у яе былі сардэчныя прыступы, і яна падоўгу ляжала ў пасцелі. Калі ёй было асабліва цяжка, яна гаварыла сабе: «Ты не маеш права хварэць!»

Вера Маркаўна ўздыхае і варочаецца ў пасцелі. За Валодзю яна ўжо спакойная, ён выбраў сабе дарогу ў жыцці, будзе інжынерам-будаўніком. А Марк? Праз тыдзень атрымае атэстат сталасці... А ці ёсць у яго тая сталасць? Вёрткі, непаседа, сто планаў у адну мінуту. Думае паступаць на філалагічны. Быццам з яго выйдзе настаўнік... Праўда, вершы піша, і, здаецца, неблагія. Але каб добры верш напісаць, таксама трэба пасядзець, а сядзець ён не можа...

Раніцай Вера Маркаўна прымала экзамены ў школе і вярнулася дадому стомленая. Паклала на стол стосік сшыткаў, хацела паклікаць Рыму, але нешта зноў забалела ў грудзях, і яна асцярожна апусцілася на крэсла.

Увайшла Рыма, убачыла маці, спалохана падбегла да яе.

— Зноў сэрца?

— Зараз пройдзе.

Рыма адчыніла буфет, узяла з палічкі маленькую бутэлечку, накапала ў шклянку кропель, падала маці. Вера Маркаўна выпіла. Праз некалькі хвілін боль прайшоў.

Уляцеў у хату Марк, кінуў на стол падручнікі і заўважыў шклянку.

— Табе сур'ёзна палячыцца трэба,— сказаў ён.

Маці ўздыхнула:

— У нас у школе пуцёўка ў Крым, з 15 чэрвеня... Не ведаю, што рабіць...

— Як не ведаеш? — страпянулася Рыма.— Трэба ехаць.

— Баюся пакінуць вас адных.

— Ну што ты, мама, — запярэчыў Марк, — хіба мы маленькія? Управімся. Ды і Валодзя здасць сесію, у канцы чэрвеня прыедзе. Так што не хвалюйся.

— Цяжка рашыцца, гэта ж цэлы месяц.

— Ён праляціць так, што і не заўважыш.

— І настаўнікі, і дырэктар мяне ўгаворвалі, казалі, возьмуць над вамі шэфства.

— Абыдземся! — скрывіўся Марк.
— А я да твайго прыезду сунічнага варэння навару,— сказала Рыма, лічачы, што справа з ад'ездам ужо вырашана.
Маці праводзілі аж да Асіповіч. Стаялі на пероне. Поезд набіраў хуткасць, вагон адплываў усё далей і далей, а яны не зводзілі вачэй з акна, ля якога стаяла іх маці з белай хусцінкай у руцэ.

## 5

У нядзелю Марк са сваім сябрам Іванам Паплаўскім пайшоў у суседнюю вёску Вяззе. Рыма асталася адна. Прыбрала ў хаце, хацела пераставіць мэблю, як гэта часта рабіла мама, потым перадумала: «Прыйдзе Марк, зробім разам».
Яна выйшла ў сад. Дрэвы, што садзіў яшчэ бацька, разрасліся. Цяпер пад імі быў добры цень, і Рыма любіла пасядзець тут з кнігай у руках.
«Паляжу, пачытаю, пакуль прыйдзе Валя». З Валяй яны дамовіліся ісці ў лес па ягады.
Час ішоў, ужо сонца пачало прыпякаць, а Валі не было. «Што такое?» — не разумела Рыма. Дамовіліся раненька ісці, каб да абеду вярнуцца. Да прыходу Марка ёй трэба яшчэ прыгатаваць абед.
Яна выйшла за веснічкі, каб паглядзець, ці не ідзе Валя. Валі не было. Ля школы Рыма ўбачыла купку настаўнікаў. Яны былі босыя. Рыма ніколі не бачыла босых настаўнікаў. Вось Аляксандр Міхайлавіч Цяцерын, дырэктар школы. Ён жыў у суседнім доме. Рыма любіла яго ўрокі. Ён многа бачыў, многа ведаў, ён расказваў заўсёды так цікава, што на ўроках Рыма заплюшчвала вочы, і ёй здавалася, што гэта яна, не зважаючы на небяспеку, узбіраецца на вяршыні Каўказскіх гор ці апускаецца на марское дно і бачыць там дзівосных рыб. Рыма цвёрда парашыла стаць географам. Аляксандр Міхайлавіч быў заўсёды такі спакойны, упэўнены, і Рыма міжволі пачынала пераймаць яго звычкі. А цяпер дырэктара было не пазнаць.
Выкладчыца рускай мовы і літаратуры Надзея Фёдараўна ўбачыла Рыму, падышла да яе.
— Рымачка, ты чула? — голас разгублены, на вачах слёзы.— Ты чула, Рыма? Вайна...
Рыма глянула на Надзею Фёдараўну, нічога не разумеючы.
— Якая вайна? — перапытала яна.
— Немцы перайшлі граніцу.
«А мамы няма,— пранеслася думка.— Якая вайна, калі мамы няма дома...»
— Не можа быць,— сказала яна.
— У дванаццаць у клубе мітынг,— гаварыла настаўніца.
Рыма кіўнула галавой, сказала «прыйду» і пайшла.
Ноччу бамбілі Асіповічы. Да Ліпеня, дзе жыла Рыма, даносілася цяжкае вухканне. Рыма не спала. Яна ляжала і слухала.
У пакоі было цёмна. Толькі праз зачыненыя аканіцы на стол падаў тонкі прамень месяца. Са спальні Рыма бачыла і гэты прамень і асветленую ім маленькую паперку, што ляжала на стале. Заўтра Марк павінен з'явіцца ў ваенкамат. Пойдзе ваяваць. А яна застанецца адна... Чаму яна не нарадзілася раней, чаму ёй толькі чатырнаццаць гадоў?
Прыходзіла да іх Палагея Аляксандраўна Сакольчык. Яна суцяшала Рыму і Марка:
— Нічога, дзеткі, усё будзе добра. І мама прыедзе, і немца прагонім.



Увечары па радыё перадалі, што немцы бамбілі Севастопаль. Там мама. Што з ёй, ці жывая яна?
Рыма ўткнулася тварам у падушку. Яна не хацела, каб Марк чуў, як яна плача. Потым заснула, але яшчэ доўга ўсхліпвала ў сне. Ёй снілася мама. Яна была дома. Шыла сукенку Рыме. У акно глядзела сонца. І раптам у пакоі стала цёмна, так цёмна, як бывае ў глухую асеннюю ноч, калі на небе ні месяца, ні зоркі, а толькі суцэльная чарната. Падзьмуў моцны вецер. Мама знікла. Рыма засталася адна. Яна крыкнула:
— Мама! Мама! Дзе ты?
Мамін голас даляцеў здалёк:
— Ры-ыма! Ры-ымачка!
Рыма расплюшчыла вочы. Перад ёю стаяў Марк.
— Рымачка,— гаварыў ён.— Мне трэба ісці. Можа ўжо не навędаюся дамоў, можа адразу ў часць...
— А як жа я... І я з табою! — падхапілася Рыма.
Марк паглядзеў на яе — худзенькую, тоненькую, як былінка. Яна сядзела на ложку і бездапаможна глядзела на Марка.
— Калі не вярнуся, ідзі ў Дукору да бабкі Парaскі.
Ён абняў Рыму, прыціснуўся тварам да яе мокрай шчакі і выбег з пакоя.
Рыма не паварушылася. Яна думала: «Чаму я засталася, чаму не пайшла з Маркам у ваенкамат? Чаму тады, калі была вайна з Фінляндыяй, я ведала, што мне рабіць, а цяпер не ведаю, чакаю. Чаго? Каго? Можа — маму?»
Бразнула клямка, і Рыма пачула глухаваты бурклівы голас Палагеі Аляксандраўны..
— Дзе вы ўсе падзяваліся? Дзверы адчынены і няма нікога.
Рыма сядзела на ложку неадзетая. Палагея Аляксандраўна палажыла цёплую далонь ёй на галаву:
— І што ж ты, дзіцятка, тут адна? А Марк дзе?
— Пайшоў у ваенкамат...
— Ну вось. Ён у ваенкамат, а ты — да нас. Бульба хутка зварыцца, снедаць разам будзем. А то адна. Хіба можна быць адной?
Гаворачы гэтак, яна падала Рыме сукенку, сандалі, гальштук, і Рыма паслухмяна пачала апранацца.
К абеду вярнуўся Марк, яго пакуль што адпусцілі. Ён прыйшоў да Палагеі Аляксандраўны пануры, за стол не сеў.
— Не магу есці,— сказаў ён.— Пойдзем, Рыма.
Але і дома ён не знаходзіў сабе месца.
— Марк, што з табой? — спытала Рыма.— Што здарылася?
Марк спыніўся перад Рымай, неяк уважліва паглядзеў на яе. І раптам твар яго скрывіўся, як ад болю.
— Разумееш,— ціха пачаў ён,— я быў на вайне, бачыў смерць. Гэта вельмі цяжка, калі побач з табою падае чалавек. Але ж ён гіне са зброяй у руках, ён баец. А сёння я бачыў зусім іншую смерць.
Марк хмурыў бровы. Потым ён сярдзіта зачыніў акно, і Рыма здрыганулася ад гэтага стуку.
— Ты памятаеш Сашу Грыгаровіча?
— Такі вясёлы? — нерашуча перапытала Рыма.
— Сёння ноччу іх хату разбамбілі. Загінулі маці і Зіна.
— А... Саша?
— Ён быў з бацькам на рэчцы, лавілі рыбу... Прыходзяць, а замест дома вялізная яма, і ўсё... у адно імгненне... Першая бомба...

Рыма адчула, што ў яе дрыжаць рукі. Яна ўзяла з шафы маміну пуховую хустку, ахінулася ёю. Але сагрэцца не магла. Уключыла радыё. «Грамадзяне, — данёсся да яе здалёку голас, — ніякай панікі. Заставайцеся на сваіх месцах. Вораг будзе адбіты». Дыктар паўтарыў гэта некалькі разоў, потым зайграла музыка. Рыма з палёгкай уздыхнула.

## 6

Чацвёрты дзень ішла вайна. Чацвёрты дзень Марк адчуваў сябе, бы птушка ў клетцы. Чаму яго не бяруць у армію? Ён зноў схадзіў у Асіповічы, у ваенкамат. Але ваенкамат эвакуіраваўся.

Цяпер ужо навокал не было цішыні: усё грымела, грукацела ўдзень і ўночы. Раўлі танкі, гулі машыны, цягнучы гарматы, вайсковы скарб, першых раненых. Байцы ішлі пешшу, і ўсё на ўсход, на ўсход.

З Мінска прыйшоў Валодзя. Ён пераступіў парог і моўчкі паставіў у кут вінтоўку.

— Не пазнаеш? — хрыплавата спытаў ён у Марка, які здзіўлена глядзеў на даўно няголены, аброслы Валодзеў твар, на абшарпаны, падраны пінжак.

— Чаму ты не ў форме? — спытаў Марк, і ў яго голасе прагучала не простая цікаўнасць.

— Потым, усё потым,— сказаў Валодзя стомлена.

Рыма ўзрадавалася, убачыўшы Валодзю. Цяпер яны разам, дома, цяпер не так страшна. Валодзя старэйшы, ён што-небудзь прыдумае.

— Дай мне пераапрануцца,— папрасіў ён.

Рыма кінулася да шафы і стала хуценька перабіраць складзеную ў стосік бялізну.

А хлопцы выйшлі на двор.

Валодзя доўга мыўся, а Марк з вядра падліваў і падліваў у рукамыйнік ваду і ад нецярплівасці пераступаў з нагі на нагу.

Рыма вынесла чысты ручнік, кашулю, потым распаліла трэскі пад трыножнікам і паставіла патэльню.

Калі яна прынесла вячэру ў пакой, хлопцы ўжо сядзелі за сталом і Валодзя расказваў:

— На Мінск налятаюць самалёты, усё ў агні, здаецца, нават брук гарыць. Па вуліцах ходзяць нейкія падазроныя, чужыя людзі. Напэўна, дэсантнікі.

Валодзя змоўк. У пакоі была ціха. Толькі звінела і звінела пчала на акне. Напэўна, яшчэ ўдзень яна заляцела праз адчыненую фортку і цяпер білася аб шкло. Рыма адчыніла акно. У паветры яшчэ адчувалася дзённая спякота. Было душна, як перад навальніцай.

Валодзя зноў загаварыў, адрывіста, нехаця. Адчувалася, што гэтыя ўспаміны балючыя.

— Прыходжу ў ваенкамат, а там мне даюць паперку, сіненькую такую. У ёй напісана, дзе трэба мабілізавацца. Пачаў я дабірацца да станцыі, дзе машынай, дзе пехатою. На дарогах народу — не прабіцца. І больш жанчыны і дзеці — бежанцы. А над імі каршунамі носяцца фашысцкія сцярвятнікі і скідаюць бомбы, расстрэльваюць з кулямётаў. Тады я пачаў шукаць глухія сцежкі. І вось я дома.

Назаўтра з Гомеля прыйшоў Валодзя Сакольчык. Утрох хлопцы доўга аб нечым шапталіся. Потым выйшлі да Рымы, спыталіся, дзе ляжыць шпагат і вяроўкі.

— А навошта вам?



— Трэба,— адказаў Марк,— вельмі трэба.

Рыма паглядзела на іх, паківала галавой.

— І не сорамна? — сказала яна з дакорам.— Хіба я вораг вам, што вы ад мяне тоіцеся?

— Ведаеш, Рыма, гэта справа сур'ёзная і не для дзяцей,— адказаў за ўсіх Валодзя Сакольчык.

— Што, па-вашаму,— успыхнула Рыма,— піянеры ніколі не займаліся сур'ёзнымі справамі, а чакалі, пакуль іх прымуць у камсамол? Так, па-вашаму?

— Ну, не зусім так, але ж...

— Хлопчыкі, родненькія, вазьміце мяне з сабою,— папрасіла Рыма.

— Ну, добра,— не вытрымаў Марк,— нясі шпагат, а я зараз.

Ён збегаў у хлеў, што стаяў за школай, і прыцягнуў адтуль бляшанку з густым машынным маслам.

— У мяне склад,— хітравата ўсміхнуўся Марк.

— Мы сёння гэты склад эвакуіруем у надзейнае месца,— сказаў Валодзя, старэйшы брат.

Загарнуўшы ў старыя газеты бляшанку з маслам і шпагат, яны выйшлі з дому. Спусціліся з абрыву і пайшлі лугам. Па дарозе Марк растлумачыў Рыме:

— Мы ідзём па зброю. Сакольчык схаваў. Гадзіны праз дзве вернемся да старой ліпы, памятаеш, з вялікім дуплом, там яшчэ твой цір быў. Там многа дрэў з дупламі. Змазаную зброю на вяроўках спусцім у дуплы, каб дома не трымаць.

Прайшлі луг, поле, звярнулі ў хмызняк. Там, закіданыя галлём, ляжалі вінтоўкі, якія сабраў Валодзя Сакольчык.

## 7

З-за рэчкі пачуўся гул матораў.

— Трактары, — сказала Рыма.

— Танкі,— паправіў Валодзя.

Яны стаялі на сваім маленькім гародзіку і прыслухоўваліся. Гул набліжаўся. Адсюль была відаць дарога, як і ў першы дзень вайны,— бязлюдная.

— Новая калона, і зноў на ўсход,— са злосцю сказаў Марк і павярнуўся, каб ісці ў хату.

Валодзя схапіў яго за руку.

— Глядзі,— і паказаў вачыма на мост. За мостам, за кустамі, стаяў танк,— не стаяў, а бадай што вісеў, нахіліўшыся на адзін бок, як вялізная чарапаха. Відаць, танкіст, спяшаючыся, крута павярнуў на мост, танк і занесла.

Люк адкрыўся, з танка высунуўся чалавек, увесь у чорным, і стаў разглядаць карту.

— Эх, дурні мы,— прашаптаў Марк,— усе вінтоўкі ў лесе пахавалі.— От, дурні!

— А стрэльба? — напомніла Рыма.

Хлопцы кінуліся ў дом. Схапілі стрэльбу, але патроны ляжалі ў пісьмовым стале, а шуфляда была замкнёна на ключ. Пакуль справіліся з замком, дасталі патроны — ля танка ўжо нікога не было.

— Яны пайшлі праз лес,— сказала Рыма, якая заставалася за дазорнага.

— Колькі іх? — спытаў Валодзя.

— Трое.

Валодзя нахмурыўся. Кінуў позірк на танк, які бездапаможна вісеў над ракою. Немцы маглі пайсці да сваіх прасіць дапамогі. Яны вернуцца сюды, выцягнуць танк, і ён зноў будзе поўзаць па нашай зямлі, сеючы смерць.

— Рыма, газы... Хуценька! — крыкнуў Валодзя.

У сенцах стаяла бляшанка з газай, Рыма схапіла яе. З пакоя выбег Валодзя, трымаючы ў руках торбу і вялікую адвёртку.

— Пералі ў бутэлькі! Марк, бяры сякеру!

Пакуль Рыма пералівала газу, Валодзя стаяў на сцежцы і глядзеў, ці не ідзе хто.

Потым усе трое спусціліся да ракі. Рыма ўжо здагадвалася, навошта ім газа. Зараз яны падкрадуцца да танка. А там... «Гэты танк не будзе больш забіваць нашых савецкіх людзей».

Па дарозе загрукатала падвода.

— Хавайцеся! — крыкнуў Валодзя.

Яны нырнулі ў кусты, стаіліся.

Валодзя расхінуў галінкі і стаў углядацца на дарогу. З-за яго пляча выглянула і Рыма. З вёскі ехаў дзядзька. На падводзе была навалена вопратка, стаяла некалькі крэслаў і блішчаў на сонцы медны начышчаны самавар. Дзядзька пугай сцябаў каня, спяшаўся. Відаць, яшчэ не ўсё забраў з хаты, якую аграбіў.

Валодзя плюнуў. Сціснуўшы зубы, ён чакаў, пакуль праедзе падвода, і злаваў, што нейкі рабаўнік перашкаджае ім.

Каб дабрацца да танка, трэба толькі перайсці мост. А мост высокі, далёка відаць, і калі ідзеш па ім — таксама відаць здалёк.

Падвода прагрукатала міма і схавалася за ўзгоркам.

— На мост! — скамандаваў Валодзя. — Калі хто зноў з'явіцца на дарозе — прыгнiцеся да парэнчаў, каб не пазналі.

Рыма бегла сагнуўшыся. Яна ніколі не думала, што мост такі доўгі. Раней яна прабягала яго хутка і ёй нават здавалася, што яна пралятае яго. А цяпер яму не было канца.

Калі яна дабегла да танка, Валодзя і Марк ужо былі ля яго.

— Ты схавайся ў кустах і глядзі, каб ніхто не ішоў. Мы з Маркам хутка, — і Валодзя знік у люку танка. Следам за ім улез туды і Марк.

Рыма чакала. Ёй здавалася, што браты надта доўга сядзяць у танку. Што яны там робяць?

Трэснула сухая галінка. Ад нечаканасці Рыма ўздрыганулася, азірнулася. Але гэта прабег нейчы сабака. З люка паказалася Валодзева галава.

— Нікога няма?

— Нікога.

Валодзя вылез, памог Марку выцягнуць з люка кулямёт.

— Ідзі сюды, — сказаў ён Рыме.

Марк узяў з Рыміных рук бутэлькі з газай. Рыма з Валодзем павалаклі цяжкі кулямёт, а Марк выліў газу ў люк танка, чыркнуў запалку і кінуў туды.

Ужо ля дома Рыма пачула выбух.

Праз дзень у вёску прыйшла рота чырвонаармейцаў. Вёў яе малады лейтэнант.

— Адступаеце? — спыталі ў яго хлопцы.

— Будзем займаць абарону.

Акапаліся, паставілі кулямёты, супрацьтанкавую гармату, залеглі. Па дарозе рухалася калона нямецкіх матацыклаў. Рота ўдарыла па ёй. Некалькі матацыклаў было разбіта, астатнія павярнулі назад. Выпаўз танк. Яго абстралялі, і ён павярнуў. Пасля гэтага стала ціха.

Ноччу рота атрымала загад адыходзіць. Немцы пачалі абстрэльваць вёску. Снарады то пераляталі, то не даляталі. Толькі некалькі ўпала на вуліцу. Потым праз вёску папаўзлі танкі з чорна-белымі крыжамі на баках. Яны ішлі на Оршу.

Кожны дзень хлопцы блукалі па месцах, дзе былі баі, шукалі зброю. Аднойчы Марк сустрэўся каля лесу са сваім сябрам Васілём Баразной, з якім вучыўся разам у школе. Васіль жыў у Брыцалавічах, кіламетраў за сем ад Ліпеня, з бацькамі і сястрой Нінай, равесніцай Рымы.

— Як справы, Васіль? — спытаў Марк. — Што робіш, што думаеш рабіць?

— Ды вось, бадзяюся пакуль без усякай справы, — адказаў Васіль, насцярожана глянуўшы на Марка.

— А што гэта ў цябе кішэня так адтапырваецца? Ці не гарэлка?

— Так, цацка адна.

— А можа, мы з табой аднолькавыя цацкі шукаем?

— Можа, — Васіль пацiснуў плячыма.

«Не верыць», — падумаў Марк, і яму стала крыўдна. Хацелася паказаць пісталет, з якім вось ужо два дні ён не расставаўся, але ўспомніў, што яму гаварылі брат і Сакольчык: «Ты, хлопец, гарачы надта не будзь, цяпер асцярожнасць патрэбна». І ён стрымаў сябе.

— Вось што, Васіль, — сказаў ён, — прыходзь вечарам да нас, пагутарым.

Марк ужо расказаў абодвум Валодзям пра сустрэчу — яны чакалі Васіля. Калі той прыйшоў, зашчапілі дзверы, не запальваючы лямпы, прыселі да стала і, нахіліўшыся адзін да аднаго, ціха гаварылі пра армію, пра фронт, які быў ужо за Оршай, пра тое, як жыць далей.

— Мне б цяпер крылы — пераляцеў бы на той бок фронта! — летуценна сказаў Марк.

А Васіль, насупіўшы бровы, буркнуў:

— І тут людзі патрэбны.

Так у іх маленькай групе з'явіўся яшчэ адзін чалавек.

У тумбачку, што стаяла ў спальні, Валодзя ўмантіраваў маленькі сабраны ім самім радыёпрыёмнік, і кожны вечар яны слухалі Маскву. Весткі былі невясёлыя: нашы адступалі.

## 8

Раніцай Рыму пабудзілі стрэлы. Яна ўсхапілася і падбегла да акна. Аканіцы былі зачынены. Падышлі і Валодзя з Маркам, прыслухаліся. Стралялі ля самага доміка, у школьным садзе.

Рыма памкнулася на двор. Але браты яе не пусцілі. Калі страляніна сціхла, Валодзя асцярожна адчыніў дзверы і выглянуў. У садзе было ціха, толькі на дарозе гергеталі немцы.

Непадалёку ад доміка нерухома ляжаў савецкі баец. Калі немцы зніклі за ўзгоркам, хлопцы падышлі да яго. Валодзя дастаў дакументы забітага, прачытаў.

— «Віталь Ануфрыевіч Сярпко, нарадзіўся 22 сакавіка 1922 года ў Новасібірску».

— Яму было дзевятнаццаць,— сказала Рыма, углядаючыся ў незнаёмы спакойны твар.

Хлопцы пайшлі ў хлеў па лапаты, каб тут жа, ля яблыні, пахаваць байца. А Рыма забегла ў дом, схапіла паляўнічую стрэльбу, што ляжала пад буфетам цяпер ужо зараджаная, і, вярнуўшыся ў сад, лягла за кустом, прыцэлілася. Па дарозе зноў ехалі немцы.

Валодзя заўважыў сінюю сукенку за кустом і кінуўся да Рымы, рвануў стрэльбу:

— Што ты робіш, цябе ж заб'юць!

— Хоць аднаго немца і я заб'ю,— упарта прашаптала Рыма.

— Дурніца. Хіба так ваяваць трэба?

Неяк пад вечар Валодзя прывёў дамоў чалавека з цёмным, абветраным тварам, у выцвілым на сонцы плашчы. Нізка на вочы ў яго была насунута камандзірская фуражка.

Рыма ўбачыла на фуражцы маленькую чырвоную зорачку, і ў яе ад радасці моцна застукала сэрца: гэты чалавек здаўся ёй блізкі і родны.

Валодзя адправіў яе на кухню.

— Накарміць трэба чалавека,— сказаў ён, і Рыма гатова была паставіць на стол такому госцю ўсё, што ў яе было. Яна спяшалася. Хацелася хутчэй вярнуцца ў пакой, каб паслухаць, пра што там гавораць.

Не прайшло і дзесяці хвілін, як на стале ўжо сквірчэла яечня, а ў місцы ляжалі свежыя гуркі і праснакі. Але пабыць у пакоі Рыме не ўдалося.

— Марк пайшоў па нашы лодкі,— сказаў Валодзя.— Але трэба яшчэ адна. У каго б папрасіць?

— Можа, да дзядзькі Ціта схадзіць? — прапанавала Рыма.

— Схадзі.

— А куды прыгнаць?

— Плыві ўніз па рацэ, мы там будзем.

Рыма выбегла з хаты.

Стары Ціт быў дома, латаў дзіравыя мяшкі.

— Дзядзька Ціт, можна, я вашу лодку вазьму, мне трэба.

— А вашы, што, сплылі?

— Ага,— падхапіла Рыма,— сплылі і няма на чым пераняць.

— Вазьмі, вунь ля дзвярэй ключ вісіць.

Рыма схапіла ключ, крыкнула:

— Дзякуй!

Не забыла ўзяць вёслы, што стаялі пад страхой, і праз хвіліну ўжо выплывала на сярэдзіну ракі. Плынь падхапіла яе і панесла. Рыма лёгка ўзмахвала вёсламі, ледзь дакранаючыся імі да вады, і ёй здавалася, што яна ляціць на крылах.

«Вось так бы ляцець і ляцець усё жыццё, не спыняючыся»,— думала яна.

— Асцярожна! — даляцеў да яе Валодзеў голас.

Рыма крута павярнула ўбок. Яна ледзь не ўрэзалася ў Валодзеву лодку, якая нізка, амаль па самыя барты, сядзела ў вадзе. Крыху далей узмахваў вёсламі Марк. На лодках сядзелі нашы байцы. Рыма здагадалася, што гэта той самы полк, які трапіў у акружэнне і пятнаццаць дзён вёў няспынныя баі з немцамі. А цяпер полк прабіраўся на ўсход, на фронт.

Рыма падплыла да берага, дзе стаяла група байцоў. Яны хуценька ўскочылі ў лодку, узялі з яе рук вёслы. Яна села на карму руляваць.



Да позняй ночы лодкі хадзілі ад берага да берага. Калі ўсе байцы былі перавезены, Рыма падышла да камандзіра і сказала:

— Я ведаю лясныя сцежкі. Давайце правяду.

Камандзір паглядзеў на дзяўчынку, асцярожна запытаў:

— А не цяжка табе будзе?

— Не! — узрадавалася Рыма.— Я прывыкла.

— Ну, вядзі,— і, добразычліва ўсміхнуўшыся, дадаў.— Сусанін у спадніцы...

Яны пайшлі. Камандзір ішоў за Рымай, і ёй гэта было вельмі прыемна. Яна не адчувала ніякага страху. «Добра вось так, з усімі разам, у адным страі»,— думала яна.

А камандзір раптам сказаў:

— Табе яшчэ ў лялькі гуляць, а ты з намі... як сапраўдны баец.

І калі напамінак пра лялькі пакрыўдзіў Рыму, то слова «баец» прымусіла падняць галаву.

Камандзір усміхнуўся, і няголены чорны твар яго стаў добры.

Ён крануў Рыму за плячо.

— Ну, хопіць, вярніся, дзяўчынка, далей мы самі пойдзем.

Рыма запярэчыла:

— Не, вы можаце выйсці на дарогу, а там немцы... Я яшчэ трошкі правяду.

— А ты не будзеш баяцца адна ісці назад?

— Не. Я цяпер нічога не баюся.

Толькі пад раніцу Рыма вярнулася дадому, лягла на ложак і адразу заснула. Спала моцна, як да вайны. Шчаслівая ўсмешка доўга не зыходзіла з яе твару.

А потым зноў пацягнуліся дні, аднастайныя, трывожныя. Хлопцы ўсё часцей пакідалі Рыму адну, наказваючы нікуды не выходзіць. Рыма злавалася. Яна ж даказала ім, што можа быць карыснай, дык чаму яны зноў ад яе хаваюцца? Яна не ведала, што рабіць. Спрабавала чытаць кнігі — не чыталася.

Немцы арганізавалі ў вёсцы паліцыю. На чале яе паставілі паволжскага немца Лютара, кляпальшчыка з лесгаса. Раней непрыкметны, заўсёды маўклівы Лютар цяпер гаспадаром хадзіў па Ліпені. Крок яго стаў шырэйшы, плечы ён расправіў і, здаецца, ростам падняўся. Ён добра ведаў жыхароў Ліпеня і трымаў людзей у страху. Пачаліся арышты.

Наконт Кунькоў у Лютара былі свае меркаванні. Ён лічыў сябе вялікім псіхолагам. «Бацька арыштаваны,— думаў Лютар,— значыць, у дзяцей адзін шлях — паліцыя». І ён сказаў пра гэта хлопцам. Браты аднекваліся:

— Мы яшчэ крыху пагуляем.

— Ну што ж, гуляйце,— паляпаў іх па плячы Лютар,— але майце на ўвазе, вялікай Германіі патрэбны адукаваныя, сумленныя людзі.

Хлопцы дома смяяліся з Лютара:

— Пачакай, пачакай. Мы табе наладзім такую паліцыю, што век не забудзеш...

Рыме было страшна ад усяго гэтага. Часам яна выходзіла з дому і спускалася да ракі. Садзілася на бераг і доўга глядзела на ваду. У ёй адлюстроўваліся і зялёная трава, і кусты вербалозу, і неба, блакітнае і бяздоннае. Здавалася, што вада стаіць на месцы. Але Рыма ведала, гэта не так. Яна не раз кідала на сярэдзіну ракі трэскі, яны хутка плылі да моста, потым за мост і знікалі далёка ў лесе.

Вось вярба схіліла да самай вады сваё голле і любуецца ім, як у люстэрка. І здаецца Рыме, што няма ніякай вайны, няма немцаў.

Усё часцей і часцей Рыма ўспамінала мінулае. Мінулае — гэта ўсё, што было да вайны. Якім далёкім цяпер здавалася яно Рыме: школа, школьныя сябры, паходы ў лес...

Усё яе жыццё было звязана са школай, з вёскай, з лесам. Прыехала сям'я сюды — Рыма была зусім маленькая. Але яна помніць, як бацька прынёс з лесу бярозку, кволую, тонкую, пасадзіў яе ля дома і сказаў:

— Расці вялікая.

Рыма тупала вакол босымі ножкамі, утоптвала зямлю і таксама прыгаворвала:

— Расці вялікая, расці вялікая...

Бярозка прыжылася, набралася сілы, вясною зазелянела, пацягнулася да сонца трапяткімі галінкамі.

Бярозка вырасла, узнялася вышэй за дом. Кожную раніцу, калі Рыма выходзіць з доміка, лісты на бярозцы трапечуць ад радасці. А на свеце вайна...

Рыма пачынае думаць пра тое, як яна першы раз прыйшла ў школу.

Скончылася шумнае лета. Восень пазалаціла лісце на дрэвах, жоўтым дываном пакрыла палі. Валодзя і Марк пачалі збірацца ў школу. Рыма з зайздрасцю глядзела на іх. Сумна ёй будзе дома адной. А Рыма не хацела сумаваць і папрасіла маці купіць і ёй партфель і кніжкі. Першага верасня разам са старэйшымі яна пайшла ў школу. Настаўніца Ганна Балеславаўна здзівілася, убачыўшы Рыму.

— Колькі табе гадоў? — спытала настаўніца.

— Пяць,— адказала Рыма.

— Табе яшчэ гуляць трэба.

— А я хачу вучыцца.

— А не надакучыць?

— Не, я ўжо чытаць умею, мяне брацікі навучылі.

Так Рыма стала вучаніцай.

У класе яна была самая маленькая і сядзела за першай партай. Грышка Усачоў, што сядзеў ззаду, неяк раз паспрабаваў тузануць Рыму за тугія цёмныя коскі. Яна войкнула ад болю і, не доўга думаючы, стукнула кнігай Грышку па галаве. Ганна Балеславаўна запісвала на дошцы заданне на дом. Яна азірнулася на шум.

— Рыма, ты забываеш, што знаходзішся ў класе,— голас настаўніцы гучаў строга.

Рыма маўчала.

— Біцца няможна,— паўтарыла настаўніца.

— Грышка яе першы за касу тузануў,— уступілася Валя, што сядзела побач з Рымай.

— Трэба было мне сказаць.

— Я не даносчыца,— пакрыўджана буркнула Рыма.

А цяпер гэты Грышка — сын паліцая. Яго бацька Павел Усачоў рабуе насельніцтва і кожны дзень п'яны брыдка лаецца на вуліцы.

Рыма адганяе ад сябе думкі пра Усачова. Яна хоча думаць толькі пра тое, што было, а не пра тое, што робіцца цяпер.

Яна ўспамінае, як першы раз вудзіла рыбу. Браты ёй далі самую горшую вуду з вялікім іржавым кручком, прывязаным да ніткі. З якой гордасцю яна несла гэтую вуду на сваім плячы! А потым нечакана не столькі для сябе, колькі для братоў, заўзятых рыбаловаў, выцягнула з рэчкі вялізнага ляшча. Вуда паламалася, лешч скакаў на беразе, а Рыма са страхам глядзела на яго. Дома яна расказвала маці:

— Я яго цягну, а ён упіраецца, я яго цягну, а ён упіраецца, а потым падумаў — дзяўчынка маленькая, першы раз вудзіць, хай сабе...



Рыміным ляшчом частавалі ўсіх суседзяў. Адна толькі мама ведала, колькі да гэтага ляшча прыдалося рыбы, прынесенай старым рыбаловам дзядзькам Цітам.

З Цітам Паркалавым, калгасным конюхам, рыбаловам і паляўнічым, у хлапчукоў была даўняя дружба. Яны часта бегалі ў канюшню: чысцілі стойлы, паілі коней, толькі б дзядзька Ціт узяў іх з сабой на начлег. І ён браў: дваіх Кунькоў і іх старэйшага сябрука Валодзю Сакольчыка.

Аднойчы, пасля доўгіх уговораў, пасля горкіх слёз дзед узяў на начлег і Рыму.

Дзед сядзеў ля вогнішча, і водбліскі полымя асвятлялі яго вастраносы твар. Побач на аўчыне мосцілася Рыма. Яна глядзела на агонь, што палаў у вогнішчы, і моўчкі слухала.

— Мяне жыццё навучыла,— гаварыў Ціт спакойным, крыху хрыплаватым ад прастуды, а можа і ад пякучага тытуню голасам.— Думаеш, такім лайдаком рос, як ты?

— А я не лайдак,— крыўдзіцца Марк.

— Ну, не лайдак, — згаджаецца стары. — Гэта я так... У тваё гады я ўжо ў князя Радзівіла пастухом быў.

— Дзеду, а які ён, князь, вусаты?

— Можа і вусаты. Я не бачыў.

— А кажаш, што служыў у яго.

— Служыў, а не бачыў. У яго, ведаеш, колькі такіх вёсак было, як наша — пальцаў на руках не хопіць, каб пералічыць. Жыў ён у Варшаве, а адсюль яму толькі грошы высылалі, нашым потам палітыя. А нас яшчэ халуямі звалі.

— Чаму халуямі?

— А кім жа мы былі? Уся вёска на пана рабіла. Вось яе, вёску, значыць, і празвалі — Халуі. Толькі пасля рэвалюцыі нас людзьмі зрабілі, а вёску Ліпень зваць сталі. Панскія пакоі былі на тым месцы, дзе цяпер школа стаіць. Высока над ракой. Калі паноў прагналі, сталі думаць, што пабудаваць тут, у такім прыгожым месцы. І надумалі — школу. Вось як. А вы яшчэ вучыцца не хочаце...

— Хто не хоча? — Марк ледзь не падскочыў ад абразы.— Валодзя,— звярнуўся ён да брата,— ну, скажы, што ты ўсяго Тараса Бульбу на памяць ведаеш.

— Ён ведае, я не сумняваюся, а вось ты?

— І я ведаю... толькі першы раздзел яшчэ.

— А ну, паслухаем, што ты ведаеш.

— Калі ласка!..

Дома начлежнікаў чакала маці з гарачым снеданнем.

— Ну, як? — спытала яна ў Рымы, якая першая ўбегла ў хату.

— Дзядуля частаваў нас печанай бульбай. Смачная якая!

Даўно гэта было. Тады, паснедаўшы, яна пабегла да Валі, каб расказаць ёй пра начныя прыгоды. А цяпер і Валя да яе не прыходзіць. Рыма неяк схадзіла да Валі, але цёплай размовы не атрымалася, Валя была напалохана вайной і баялася выйсці з хаты.

А тут яшчэ браты нешта задумалі. Рыма адчувала гэта па тым, як яны раптам змаўкалі, калі яна заходзіла да іх у пакой.

Пачалося гэта пасля іх сустрэчы з групай капітана Бобрышава. Хлопцы ўдзельнічалі ў сапраўдным баі. Падцягнулі гарматы на ўскрай лесу і абстралялі калону нямецкіх машын.

Толькі ў пачатку верасня група пачала прабірацца на ўсход. Пра ўсё гэта Рыма ведала.

## 9

У адзін з вераснёўскіх дзён немцы сабралі на плошчы ўсіх жыхароў Ліпеня. Паліцэйскія з сабакамі хадзілі па хатах і выганялі тых, хто схаваўся і не хацеў ісці. На плошчы было цесна ад старых, жанчын, дзяцей. Немцы пастроілі ўсіх і скамандавалі:

— Яўрэі і камуністы — тры крокі ўперад!

Жанчына з дзіцем на руках зрабіла нясмелы крок і спынілася, азіраючыся. Астатнія не варухнуліся.

— Не хочаце? — крыкнуў афіцэр. —Пан Лютар!

— Слухаю,— выцягнуўся Лютар у струнку перад немцам.

Той махнуў рукой.

Лютар з двума паліцэйскімі стаў абыходзіць рады і моўчкі тыцкаць пальцам у аднаго, другога, трэцяга. Паліцэйскія штурхалі гэтых людзей на сярэдзіну плошчы. Вось паліцай пацягнуў за каўнер Соню, Рыміну аднакласніцу. Соня ўпіралася, каўнер парваўся, і паліцай ударыў дзяўчынку па галаве. Яна ўпала, моцна стукнуўшыся аб зямлю. Маці паднялa яе, і яны стаялі цяпер на сярэдзіне плошчы, прыціснуўшыся адна да адной і бездапаможна азіраючыся.

Вось ля іх ужо стаіць доктар, які лячыў Рыму і заўсёды, калі прыходзіў, казаў: «Пакажы язык». Тады Рыме было смешна. А цяпер страшна. Настаўнік гісторыі аглядаецца навокал, быццам развітваецца з усімі. Вывелі жанчыну з маленькім дзіцем, якога яна трымала на вышыванай падушачцы.

Нямала людзей апынулася на сярэдзіне плошчы. Іх абкружылі салдаты з аўтаматамі і паліцэйскія і павялі на мост. Астатніх таксама павялі, толькі ў другой калоне. Рыма не хацела ісці. Яна звярнула ўбок, але немец балюча ўдарыў яе ў плячо прыкладам аўтамата.

Першую калону выстраілі ля парэнчаў. Пачуліся стрэлы, нечалавечы крык і ўсплёскі вады. Рыма заплюшчыла вочы, у яе закружылася галава, і яна ледзьве не ўпала. Браты падхапілі яе пад рукі, яна моцна, да болю ў сківіцах сціснула зубы і застагнала.

— Глядзіце, усе глядзіце! — крычаў пранізлівы голас.— Трэба было самім гэта зрабіць раней, тады не было б вайны...

Потым стала ціха. Рыме здалося, што ўсе разышліся. Яна расплюшчыла вочы і ўбачыла белыя твары людзей.

Мост і парэнчы былі ў крыві, а рака па-ранейшаму несла і несла хвалі. Яны прыбівалі да пясчанага берага маленькую падушачку з вышытымі блакітнымі васількамі.

Увесь вечар Рыма праплакала. У яе вушах стаяў крык, а перад вачыма кружылася на вадзе вышытая падушачка.

«Што гэта робіцца? Як можна без прычыны, без віны забіць столькі людзей? За што?»

Яна плакала, бо была бяссільная што-небудзь зрабіць. «А ці так? Ці сапраўды я зусім бездапаможная? Трэба нешта рабіць! Трэба нешта рабіць. Толькі што?» Яна прыслухалася: браты спалі. Уночы яны доўга аб нечым шапталіся. Адно яна чула выразна — Марк сказаў: «Трэба хутчэй». А што хутчэй, яны Рыме не кажуць. І яна ім не скажа таго, што надумалася.

Яна ціхенька выйшла. Глухая ноч апусцілася на зямлю, ні зорак, ні месяца. Можа і ім страшна глядзець на тое, што робіцца, і яны пахава-





ліся, каб не бачыць. Рыма спынілася ля парога. Халодны вецер дыхнуў ёй у твар, нібы праганяючы назад, у пакой, дзе цёпла і ціха, дзе толькі цікае і цікае будзільнік, адлічваючы дзень і ноч, дзень і ноч. А цяпер нешта стукае ў яе скронях, быццам той жа будзільнік нагадвае ёй, што час ідзе, што міне ноч, а раніцай будзе позна...

І Рыма рашуча пайшла ў ноч, садамі, гародамі прабралася ў вёску, пастукала Валі ў акно. Тая выглянула, убачыла Рыму і цішком выйшла.

— Валя,— зашаптала Рыма.— Трэба нешта рабіць, я так не магу.

— А што рабіць?

— Пойдзем нарвём кветак і занясём на мост. Пойдзем, Валечка, прашу цябе.

— Але ж цяпер ноч, а пасля шасці вечара хадзіць забараняецца. Расстрэл! — спалохана адказала Валя, папраўляючы валасы.

— Валечка, яны павінны ўбачыць, што мы... ну, што мы людзі. Я адна не спраўлюся, не паспею да раніцы. Пойдзем!

Але Валя адмаўлялася:

— Баюся я, расстраляюць жа...

Рыма адступіла крок і прагаварыла пагардліва:

— Не хочаш, не трэба. Сама спраўлюся. Баязліўка.

Рыма зразумела: парвалася апошняя нітачка, якая звязвала яе з дзяцінствам. Парвалася назаўсёды.

Кветкі раслі ў садку каля іх дома і ў школьным двары. Вобмацкам яна рвала іх, абламвала карэнні, ранячы сабе пальцы. Але не заўважала гэтага. Яна насіла ахапкі на мост і вярталася зноў і зноў, і ўсё ёй здавалася мала...

А раніцай людзі ўбачылі на мосце кветкі. Гэта быў Рымін пратэст.

Той жа раніцай адбылася размова, якой ужо некалькі дзён са страхам чакала Рыма.

— Збірайся,— сказаў Валодзя, — пойдзем у Дукору.

— Я не пайду ў Дукору,— звонкім ад хвалявання голасам адказала Рыма.

— Ты будзеш жыць там, бо так трэба! Ты робіш такое, і нават не знаходзіш патрэбным раіцца з намі. Глядзі, якія ў цябе рукі... Думаеш, не ведаем, чаму?

Рыма схавала рукі за спіну.

— Вы таксама нічога мне не гаворыце,— сказала яна.

— Зразумей, мы з Маркам пойдзем у партызанскі атрад.

— І я з вамі.

— Глупства! — пачаў злавацца Валодзя.— Я старэйшы, і ты павінна слухацца мяне.

Рыма бездапаможна паглядзела на братоў.

— Валодзя, Марк, зразумейце... Без вас я не хачу заставацца,— сказала яна ціха.— Вазьміце мяне з сабой. Я не буду вам замінаць, і вам не будзе сорамна за мяне. Вось паглядзіце, чэснае піянерскае!..

Марк не вытрымаў, падышоў да Валодзі:

— Валодзя, а можа...

Валодзя нахмурыўся, паглядзеў на Рыму і ўбачыў, з якім страхам яна чакае адказу.

— Ну, вось што,— нарэшце сказаў ён.— Мне ўсё роўна трэба ў Дукору. Пойдзеш са мной, а там паглядзім.

Праз два тыдні Валодзя з Рымай вярнуліся ў Ліпень. Больш пра Дукору ў доме гаворкі не было. Калі Марк застаўся сам-насам з Валодзем, ён спытаў:

— Ну, як?



— Група ёсць, чалавек дваццаць. І Рыму прыйдзецца браць з сабою...

Так вырашыўся Рымін лёс. Ёй не прыбавілася гадоў. Яна заставалася дзяўчынкай-піянеркай, але з гэтага часу станавілася побач з дарослымі людзьмі, народнымі мсціўцамі.

## 10

У канцы верасня пачаліся абложныя дажджы. Шэрае неба нізка навісла над зямлёю.

Частку сабранай зброі хлопцы пераправілі ў партызанскі атрад, а тая, што заставалася ў дуплах, пачала ржавець. Трэба было перанесці яе ў сушэйшае месца і перачысціць. Вінтоўкі чысцілі ўночы, пры газоўцы, шчыльна зачыніўшы аканіцы і завесіўшы вокны коўдрамі. Кулямёт намерыліся пачысціць удзень. І ледзьве не папаліся. У хату зайшоў Грышка Усачоў. Ён, мабыць, нешта заўважыў, бо назаўтра Марка арыштавалі. Але, патрымаўшы хлопца ў паліцыі якіх дні тры, пусцілі.

...Партызаны рыхтаваліся да першай баявой аперацыі. Вырашылі ўзарваць палатно чыгункі Мінск—Бабруйск на ўчастку Талька—Верайцы і падарваць масты.

Валодзя, прыйшоўшы з лесу, доўга шаптаўся з хлопцамі ў спальні. У партызанскім атрадзе яму загадалі пераправіць ва ўмоўленае месца кулямёт і ўсе боепрыпасы, якія ў іх ёсць.

Думалі доўга, нарэшце паклікалі Рыму. Іншага выйсця не было.

— Рыма, трэба даставіць партызанам кулямёт,— сказаў Валодзя.— Мы, параіўшыся, рашылі даручыць гэта табе. Згодна?

— І ты яшчэ пытаешся? — толькі і сказала яна.

— Заданне вельмі адказнае. Мы верым, што ў цябе хопіць асцярожнасці і смеласці выканаць яго. Ад гэтага залежыць поспех баявой аперацыі атрада,— дадаў ён.

— Ты ідзеш на вялікую справу,— сказаў Рыме Сакольчык.— Жадаем удачы.— І моцна паціснуў руку.

Пакуль Марк насіў часці кулямёта да ракі, Валодзя растлумачыў Рыме, дзе яе будуць чакаць партызаны. На хвалях гойдалася лодка, у ёй ляжала накошаная трава. Кулямёт закідалі травой. Рыма села ў лодку і пачала павольна веславаць супраць плыні.

Немцы хадзілі па дарозе, бачылі дзяўчынку ў лодцы. Яна часам кідала вясло, брала ў рукі серп і паджынала траву, што звісала з берагоў.

Па дарозе ўздоўж ракі ішоў Блінкоў, намеснік начальніка паліцыі. Ён нядаўна прыехаў у іх вёску і ўсё нешта прыглядаўся, нешта вынюхваў. І цяпер ён спыніўся, убачыўшы Рыму, і доўга, уважліва назіраў за ёю. У Рымы пачалі млець рукі, ёй здавалася, што Блінкоў здагадваецца пра ўсё.

Блінкоў доўга стаяў на беразе і глядзеў на Рыму, на лодку, на траву ў ёй. Твар яго быў задумлівы. Адплыўшы на сярэдзіну Свіслачы, Рыма азірнулася і з палёгкай уздыхнула: Блінкова на беразе не было.

## 11

Усталявалася зіма, першая зіма на акупіраванай Беларусі. Раку сквавала лёдам, засыпала снегам палі. Над комінамі хат нясмела віўся тонкі шэры дымок. Нават сабакі не брахалі, іх пастралялі паліцаі.

Жыццё замерла. Толькі час ад часу п'яныя паліцаі гарлапанілі песні ды стралялі ўгору, каб застрашыць людзей.

А людзі больш прыслухоўваліся да глухіх далёкіх стрэлаў, партызанскіх. У вёсцы пачалі з'яўляцца лістоўкі, партызанскія адозвы да насельніцтва. У іх гаварылася: не трэба верыць балбатні, быццам Маскву ўжо занялі немцы. Масква наша, савецкая, і заўсёды будзе савецкай.

Валодзя Кунько перанёс свой маленькі радыёпрыёмнік на гару школы. Там слухалі зводкі, перапісвалі іх левай рукою, каб не пазналі почырк, і ноччу расклейвалі на сценах хат, на платах і слупах.

Пасля гэтага пачыналіся вобыскі і аблавы.

Школа пуставала. Ні немцы, ні паліцаі яе не займалі: школа была ў небяспечным месцы — на горцы, ля самага лесу. Паліцэйскі гарнізон і нямецкая камендатура месціліся ў цэнтры вёскі, у былых сельпо і сельмагу.

Жыхароў вёскі часта збіралі на плошчу, чыталі ім загады, падпісаныя нямецкім камендантам і Лютарам. Усе яны пачыналіся словам «забараняецца». Забараняецца збірацца групамі больш за два чалавекі, забараняецца сячы лес, забараняецца хадзіць па хмызняк, забараняецца паказвацца на вуліцы з надыходам цемнаты. Забараняецца, забараняецца...

Людзі слухалі гэтыя загады моўчкі, не гледзячы адзін аднаму ў вочы, і моўчкі ішлі туды, куды іх пасылалі,— расчышчаць ад снегу дарогі. Працавалі так, што толькі псавалі дарогу, і паліцэйскі, чырвоны ад натугі, крычаў:

— Гультаі! Хіба так працуюць? Абібокі няшчасныя!

Ён браў у рукі лапату, паказваў, як трэба расчышчаць, каб дарога была гладкая. А яны зноў ставілі лапату тырчком і моцна націскалі на яе нагой. Рабілася глыбокая ямка, яе крыху прыцярушвалі снегам.

Машыны на такіх дарогах буксавалі, немцы крычалі на паліцаяў, тыя на людзей.

Лютар быў нездаволены братамі Кунько, злаваўся, што да гэтага часу яны не пайшлі служыць у паліцыю. І калі з надыходам вясны немцы запатрабавалі рабочых на торфараспрацоўкі ў вёску Татарка, ён уключыў у спіс разам з Валодзем Сакольчыкам і Валодзю Кунько. Абодва Валодзі выбраліся з вёскі і замест Татаркі падаліся ў лес, у партызанскі атрад.

Рыма з Маркам асталіся сувязнымі.

Марк часта браў кошык, надзяваў гумавыя боты і ішоў у лес. Вяртаўся стомлены, прыносіў леташнія сасновыя шышкі.

Але Рыма ведала: не дзеля шышак хадзіць Марк у лес. Ён сустракаецца з партызанамі.

І Рыма не сядзела склаўшы рукі.

— Паглядзі, як там чыгунка жыве-дыхае,— сказаў ёй аднойчы Марк.

Ля чыгункі жыла Палагея Аляксандраўна Сакольчык. Яе дом — крайні. Муж Палагеі Аляксандраўны да вайны працаваў вартаўніком на чыгунцы.

І Рыма крочыла на край вёскі. Палагея Аляксандраўна частавала яе малаком і духмяным хлебам. Заводзілі размову пра чыгунку, пра тое, што немцы баяцца партызан і будуюць доты і бункеры. Палагея Аляксандраўна расказвала, што і дзе ў немцаў пабудавана, колькі іх у дэпо, як ахоўваецца вадакачка.

А Рыма пераказвала ўсё Марку, і ён ішоў у лес.

Аднойчы ён даў ёй паперку, у якой было напісана адно толькі слова:



«Гатова». Паперку трэ было пакласці пад пень, што тырчаў пад горкай за ручаём.

Рыма цяпер смялей глядзела на немцаў, чым у першыя дні вайны. Яна ведала: у лесе ёсць свае людзі, з кожным днём іх становіцца ўсё больш і больш, і яны памогуць Чырвонай Арміі прагнаць з нашай зямлі фашыстаў.

Неяк Марк спытаў у Рымы:

— Не ведаеш, дзе ляжаць касцюмы драматычнага гуртка?

— Здаецца, у школе на гарышчы. А навошта табе?

— Барада трэба, светлая.

— Табе светлая?

— Не мне, Валодзю. Ён прыйдзе заўтра на досвітку.

— Добра, я пашукаю.

Рыма пайшла ў школу.

Ціха. Рыма ніколі не думала, што крокі могуць быць такія гулкія. Паднялася на гарышча. Там было цёмна. Гэта Валодзя заклаў фанерай выбітыя шыбы, каб не было відаць святла ад маленькай газовачкі, пры якой ён, Марк і Рыма запісвалі на школьных сшытках апошнія паведамленні з Масквы.

У Рымы не было ні запалак, ні запальнічкі. Упоцемку яна дайшла да акна, адкінула фанеру. Светлы прамень прарэзаў цемру, асвятліў чорныя бэлькі, павуціннe на іх. У дальнім куце доўгія скрыні. Рыма адчыніла адну. Тут былі касцюмы. З другой скрыні яна выцягнула некалькі парыкоў і барод. Бароды ўсе былі чорныя. Тады яна ўзяла да барады такі ж чорны парык. Хацела ўжо вяртацца дадому, як пачула нейчыя галасы. Падышла да акенца і асцярожна глянула ўніз. Ля іх хаты стаяў старэйшы Усачоў і аб нечым гаварыў з Маркам. Да Рымы данёсся гучны братаў голас:

— Адкуль я ведаю, у яго і пытайцеся!

«Знарок гучна гаворыць, каб я пачула»,— падумала Рыма.

Паліцай яшчэ нешта сказаў Марку, потым павярнуўся і пайшоў. Марк вярнуўся ў дом, адчыніў акно і адтуль стаў глядзець на школу. Рыма паказалася ў акенцы, Марк кіўнуў ёй галавой, што ўсё ў парадку.

На досвітку прыйшоў Валодзя. Рыма не пазнала яго. Ён і раней не быў гаваркі, а цяпер стаў зусім маўклівы і яшчэ больш сур'ёзны. Валодзя прайшоў па пакоях, разглядаючы ўсё, быццам бачыў упершыню. А можа, развітваючыся?..

Марк адчыніў грубку і дастаў парык з барадой.

— Навошта дома трымаеце? Эх вы... гора-канспіратары,—сказаў Валодзя. Ён узяў парык, зняў са сцяны квадратнае люстэрка і пайшоў у школу грыміравацца.

Камандзіру атрада, былому старшыні Асіповіцкага райвыканкома Мікалаю Філіпавічу Каралёву Валодзя прапанаваў свой план забойства Лютара. У плане была ўлічана лютараўская пунктуальнасць. Кожны дзень у адзін і той жа час Лютар выходзіў з паліцэйскага ўчастка і ішоў дамоў абедаць. Дом яго быў на другім канцы плошчы, на рагу маленькага завулка.

Пераапрануты Валодзя сустрэнецца з ім на плошчы і застрэліць яго. А потым? Потым ён разлічваў на свае ногі спартсмена.

Прыблізна за гадзіну да таго, як Лютар пойдзе абедаць, Валодзя выйшаў са школы, адарваў дошку ў плоце і пакрочыў па дарозе павольнай хадою старога. Мінуўшы мосцік, збочыў управа, пайшоў садамі, дзе раслі густыя кусты маліны і агрэсту. Вось стары, разбураны хлеў, за ім дом, дзе ніхто не жыве, ля дома — шчыльны невысокі плот. Валодзя

прайшоў мясцінамі, якія даўно нагледзеў. Гэтак жа ён будзе бегчы назад. Прадуманы ўсе дробязі. А за плотам з выглядам чалавека, якому няма чаго рабіць, сядзеў Марк.

Роўна ў гадзіну выйшаў Лютар. Марк, праходзячы паўз плот, сказаў:

— Выйшаў, але з двума паліцаямі.

У кішэні Валодзевай світкі ляжала граната, і ён рашыў рызыкнуць. Не спяшаючыся, па-старэчы, пакрочыў ён па сцежцы на плошчу. Лютар ішоў хутка. Валодзя баяўся, што не сустрэнецца з ім, і пайшоў хутчэй, сціскаючы ў кішэні гранату. Яшчэ крок, і ён шпурне яе. І ў гэтую хвіліну з-за рога выехала машына з немцамі. Валодзя зразумеў, што ўсё прапала, і павярнуў назад. За яго спіной пачуўся пранізлівы голас Усачова.

— Бандыт! Трымай яго!

Валодзя пабег. З правай кішэні світкі ён выхапіў маўзер, з левай— пісталет ТТ. Усачоў пабег следам. Валодзя азірнуўся і стрэліў па ім. Усачоў упаў, потым падхапіўся і зноў пабег. Немцы выскачылі з машыны і пачалі страляць наўздагон. Валодзя адстрэльваўся з дзвюх рук, потым нырнуў у веснiцы і на момант схаваўся ад немцаў. Тыя стралялі цяпер наўздагад.

І раптам Марк убачыў, што на вуліцы, на якую толькі што выбег Валодзя, стаіць другі паліцай і старанна цэліцца ў Валодзю. Не раздумваючы, Марк падбег да яго:

— Прамажаш, дай я! — выхапіў ён у паліцая вінтоўку.

Марк быў выдатны стралок, гэта ўсе ведалі. І паліцай не стаў спрачацца.

Пачуліся стрэлы, адзін, другі...

Рыма чула страляніну з кватэры Аляксандра Міхайлавіча, куды завёў яе Марк, перш чым пайсці з Валодзем. Яна не знаходзіла сабе месца, то садзілася, то падхоплівалася.

Адчыніліся дзверы, і ў пакой убегла жанчына.

— Забілі бандыта! — закрычала яна. — Хацеў, напэўна, нешта зрабіць. Не ўдалося. На месце як далі ў спіну... А ён яшчэ з гарачкі прабег і — у лес.— Жанчына гэтак жа хутка выбегла.

— Хто гэта? — са страхам спытала Рыма.

— З Брыцалавіч, жонка паліцая.

Аляксандр Міхайлавіч пазваў свайго малодшага брата, падлетка.

— Збегай да Зіны і Мані, скажы, няхай сюды ідуць.

Той памчаўся праз дарогу, дзе жылі Зіна Коршыкава і Марыя Пілецкая. Хутка яны прыйшлі. Аляксандр Міхайлавіч даў ім два кошыкі.

— Ідзіце ў лес па шышкі.

Дзяўчаты выбеглі з хаты.

Хутка прыйшоў Марк. Рукі яго дрыжалі.

— Пашанцавала Лютару,— сказаў ён.— Яго выратаваў выпадак, недарэчны выпадак, які мог каштаваць Валодзю жыцця.

— А Валодзя дзе? — спытала Рыма.

— У лесе.

— Жывы?

— Жывы.

## 12

У другі раз паляваць на Лютара адправіўся Марк. Ён таксама разлічваў на лютараўскую пунктуальнасць. Кожны вечар, у адзінаццаць, ужо не адзін, а з паліцэйскім, Лютар выходзіў з паліцэйскага ўчастка і ішоў дамоў. Марк вырашыў яго падпільнаваць.



Узяў гранату, зарадзіў пісталет. Папярэдзіў Рыму:

— Будзь напагатове, іду ў госці да Лютара.

Вуліцы былі пустынныя. Марк дабіраўся гародамі. Схаваўся за нізенькі штакетнік, стаў чакаць. Пачуліся крокі, і двое паліцэйскіх пастукалі ў дзверы.

— Хто там? — спытаў Лютар.

— Прыехаў маёр, выклікае вас у камендатуру.

— Зараз.

Праз хвіліну выйшаў Лютар. Ноч была цёмная, але Марк добра бачыў яго. Прыцэліўся са свайго ТТ, націснуў спускавы кручок. Асечка. Марк яшчэ раз націснуў — зноў асечка.

— Бандыт! — крыкнулі паліцаі і пачалі разбягацца.

Марк кінуў ім услед гранату. Выбух грымнуў зусім побач. Нехта закрычаў. «Значыць, папаў»,— падумаў Марк.

Ён пераскочыў цераз плот і, нізка прыгінаючыся да зямлі, пабег да ракі. Прыслухаўся. За ім ніхто не бег. Крыху пачакаўшы, ён пакрочыў дадому.

Раніцай Рыма даведалася, што ўсіх трох паліцаяў параніла. Лютара — у нагу. Іх павезлі ў Бабруйск, у шпіталь.

Замест Лютара застаўся начальнікам паліцэйскага гарнізона яго намеснік Уладзімір Блінкоў.

Марк стаў прыглядацца да Блінкова. Тонкі, вёрткі, ён не насіў паліцэйскай формы, хадзіў у гумавых тапачках і футболцы.

Аднойчы Рыма бачыла праз акно камендатуры, як Блінкоў іграў на раялі. Яна расказала пра гэта Марку.

— Можа, ён музыкант? —заўважыла яна.

— Ліха яго ведае,— адказаў Марк.— Але мне здаецца, што гэта трэба выкарыстаць.

Марк схадзіў да партызан, параіўся з камандзірам разведкі атрада Сцяпанам Сяргеевічам Сумчанкам. Сумчанка згадзіўся з прапановай Марка.

— Толькі будзь асцярожны,— папярэдзіў ён.

І Марк пачаў дзейнічаць.

Назаўтра яны з Рымай цэлы дзень круціліся каля паліцыі. Пасядзелі на прыступках ганка з сынам Лютара, Шуркам. Марк паскардзіўся Шурку, што паліцаі на пляжы мыюць коней — купацца нельга.

— Нічога не зробіш. Бацька не любіць, калі ад коней за вярсту нясе потам. Ён у нас акуратыст.

— А як яго нага, зажывае? — спытала Рыма.

— Урачы стараюцца. Абяцаюць тыдні праз два выпусціць. Пашанцавала яму, што асечка ў таго гада выйшла.

— Сапраўды пашанцавала,— згадзіўся Марк.

— Не разумею я тых, што ў лесе сядзяць,— гаварыў Шурка.— На што яны спадзяюцца? У немца пад нагамі ўся Еўропа, Маскву захапілі, Ленінград не сёння-заўтра здасца. Сіла! А перад сілай кожны стане на калені.

Марку так і хацелася сказаць яму: «Брэшаш, Масква наша». Але нельга было гаварыць гэта. І Марк сказаў толькі:

— А можа тыя, што ў лесе, думаюць інакш і не хочуць жыць на каленях.

— Усё роўна ўсіх іх чакае смерць.

— Усялякая і смерць бывае. Ды што гэта мы? Пра жыццё трэба думаць, а не пра смерць.

Марк падняўся, баючыся, што не вытрывае і скажа што-небудзь лішняе.
— Ну, бывайце,— сказаў Шурка,— мне трэба ісці.
На ганак выйшаў Блінкоў.
— Вы чаго тут? — спытаў ён у Марка.— Месца другога няма?
— Ды вось, з Шуркам пра жыццё гаварылі.
Блінкоў закурыў, нервова камечачы цыгарэту. Вечарэла. Ля будынка паліцыі нікога не было, усе паехалі па вёсках — рабаваць. І тое, што паліцэйскія не бачылі, як Марк стаіць з Блінковым, было дарэчы. Рыма нахілілася і падняла з зямлі галінку клёну. Іх многа валялася тут пад нагамі, зялёных галінак з ліпкімі пупышкамі. Яны былі ссечаны нядаўна, светла-зялёнае лісце яшчэ не паспела завянуць. А побач тырчаў з зямлі голы тонкі пянёк — усё, што засталося ад маладога клёна: нехта шашкай ссек яго.
— Гэтыя клёны мы, школьнікі, садзілі,— сказала Рыма.— Кажуць, калі чалавек вакол сябе толькі прыгожае бачыць, ён і сам становіцца прыгажэйшы.
Блінкоў маўчаў. Ён глядзеў кудысьці ўбок, камячыў у пальцах патухшую цыгарэту і думаў.
— А мне здаецца,— загаварыў Марк,— што толькі мастацтва можа ўздзейнічаць на чалавека і перш за ўсё — музыка. Чуў я аднойчы, як вы іграеце. Здорава! Зайздрошчу... Толькі тут, у гарнізоне, раяль разбіты. І настроіць яго няма каму. А ў нас у школе новенькае піяніна стаіць, перад самай вайной купілі, настроілі да выпускнога вечара.
Блінкоў недаверліва паглядзеў на Марка.
— Там клас зачынены, а я ведаю, дзе ляжыць ключ. Сам дзіўлюся, чаму да гэтага часу немцы не забралі піяніна. Можа, не ведаюць, што яно там ёсць?.. Хадземце пакажу.
Блінкоў хвіліну думаў, потым рашуча кінуў цыгарэту і першы сышоў з ганка.
— Пайшлі.
...Марк узяў над дзвярамі ключ, адчыніў залу. Пахла сырасцю і пылам. Блінкоў адразу падышоў да піяніна, падняў з падлогі нейкі шматок, працёр дэку, потым адкрыў яе, крануў пальцамі клавішы і зайграў.
Іграў ён добра.
Марк не ведаў, чыя гэта музыка, але добра разумеў яе. Ён стаяў з ключом у руках і слухаў.
Скончыўшы іграць, Блінкоў сядзеў моўчкі. Марк уставіў ключ у дзверы і павярнуў яго. Блінкоў пачуў гэта, падняў галаву і глядзеў моўчкі на Марка.
— Я партызан,— сказаў Марк.
Блінкоў падхапіўся з крэсла, рука яго пацягнулася да кабуры.
— Спакойна, апусці руку, у мяне таксама ёсць пісталет.
Блінкоў не зводзіў з Марка вачэй.
— А чым ты дакажаш, што ты... гаворыш праўду? — нарэшце спытаў ён.
— Праз два дні ты сустрэнешся з камандзірам партызанскага атрада. Толькі ведай: калі што — нас многа, і ты ўсё роўна жыць не будзеш.
Праз нейкі час Рыма ўбачыла, як Марк з Блінковым выйшлі са школы і спусціліся ўніз на дарогу.
На другі дзень Марк сустрэў на вуліцы Блінкова з двума паліцаямі. «Выдасць ці не?» — мільганула думка. Блінкоў абыякава паглядзеў на Марка і прайшоў міма. Марк з палёгкай уздыхнуў.



Дзён праз пяць на чыгуначнай ветцы Асіповічы—Ліпень—Градзянка Блінкоў сустрэўся з Сумчанкам, камандзірам разведкі і намеснікам камандзіра партызанскага атрада.
Блінкоў расказаў пра сябе. Ён — музыкант, у першыя дні вайны, ранены, трапіў у палон. У лагеры яму сказалі: «Вылечым, калі пойдзеш у паліцыю». І Блінкоў згадзіўся.
— Я даўно прыглядаюся да Марка, і толькі адно мяне стрымлівала— арышт яго бацькі. А цяпер... вось я тут,— закончыў ён свой расказ.
Сумчанка выслухаў і сказаў:
— Што ж, паглядзім. Будзеце трымаць сувязь з Маркам Кунько. Ён ваш шэф.
«Шэфу» не цярпелася хутчэй, пакуль няма Лютара, разграміць паліцэйскі гарнізон. З Блінковым ён распрацаваў план разгрому. Блінкоў пакажа, дзе стаяць пасты, назаве паролі. Партызаны ўварвуцца ноччу ў вёску і разгромяць гарнізон.

## 13

Цяпер Марк начаваў у школе. Рыма была дома адна. Неяк апоўначы ў дзверы асцярожна пастукалі. Рыма падхапілася. «Напэўна, Марк»,— падумала яна. Падышла да дзвярэй, спытала:
— Хто тут?
— Мне Марк патрэбен.
Рыма пазнала Блінкова.
— Зараз.
Яна выйшла на двор.
— Пачакайце тут,— сказала Блінкову і ціхенька пайшла да школы. Падышла да акна, узяла ў рукі жменьку зямлі і сыпанула ў акно другога паверха. У акне паказаўся Марк. Рыма кіўнула галавой на дом і вярнулася да Блінкова.
Прыйшоў Марк.
— Заўтра раніцай уся паліцыя і немцы паедуць у Базок па цяляты,— сказаў Блінкоў.
— Ты таксама паедзеш?
— Павінен ехаць.
— Добра, едзь ззаду на веласіпедзе, надзень белую майку. Паміж Вязаўніцай і Базком адстанеш.
Ён паціснуў Блінкову руку на развітанне.
Марк многа разоў бываў у партызанскім лагеры, ведаў туды ўсе дарогі. Але на гэты раз ці то ад таго, што ноч была цёмная, ці то ад таго, што спяшаўся і бег нацянькі, заблудзіўся. Пасвятлела неба, пачало днець. «Няўжо не паспею»?
Выхад быў адзін. Ён падняў угару пісталет і стрэліў. І тут жа яго схапіў партызанскі пост.
— Хутчэй, хутчэй! — падганяў Марк.— Мне трэба да Караля,— так у атрадзе звалі Каралёва.
Кароль выклікаў да сябе Сумчанку, начальніка асобага аддзела атрада Стэльмаха і камісара Голанта. Па трывозе быў падняты атрад.
Стэльмах даў Марку свой паўаўтамат, і партызаны пайшлі на засаду. Паблізу вёскі Вязаўніца заляглі метраў за трыццаць ад дарогі. У сем гадзін раніцы ўжо ярка свяціла сонца, а падвод з паліцаямі не было. Не было іх і ў восем, і ў дзевяць. Марк ляжаў побач з Каралём і Валодзем.

«Чаму не едуць?— думаў Марк.— Яны павінны былі ўжо ехаць, сонца высока, а Блінкоў сказаў «раніцай». Можа Блінкоў падвёў яго, а ён атрад?» Ён адчуваў сябе вінаватым і не мог падняць вачэй на брата, на камандзіра атрада. Яны паверылі яму. А ён?.. Заслухаўся, што той прыгожа іграў і вось...

Раптам на дарозе паказалася падвода. На ёй ехаў паліцэйскі. Кароль ляжаў спакойна. Значыць страляць рана, трэба чакаць. Марк ужо бачыў твар паліцэйскага — гэта быў Павел Усачоў. Ён заўсёды і ўсюды лез першы. Падвода праехала, і зноў на дарозе — нікога. Але вось паказалася яшчэ адна, яшчэ. Марк налічыў усяго пяць. На кожнай падводзе па чатыры паліцэйскіх. Ім было весела, яны гарлапанілі песні. Дарога была гразкая, нядаўна прайшоў дождж. Падводы расцягнуліся. Першая прыпынілася і стала чакаць астатніх, пакуль падцягнуцца. Пачакалі і партызаны. Калі першая падвода кранулася — Кароль стрэліў. Гэта быў сігнал. Застрачылі кулямёты, аўтаматы, на паліцэйскіх абрушыўся град куль. Паліцаі закруціліся, пачалі саскокваць. Тыя, што ўцалелі ад першых куль, заляглі ў канаву і пачалі адстрэльвацца. Некаторыя спрабавалі ўцячы да лесу, але іх даганялі партызанскія кулі. Страляючы, Марк увесь час шукаў вачыма Блінкова. Але яго не было.

Бой цягнуўся хвілін пяць. Калі ўсё сціхла, партызаны ўбачылі, што ў канаве ляжыць нейкі чалавек і махае над галавой пугай. Паднялі яго. Гэта быў стары Ціт Паркалаў, з якім Валодзя і Марк ездзілі на начлег.

— Дзядзька Ціт, а ты чаго тут? — спытаў у яго Марк.

— Не хапіла ў іх падводы, дык яны мяне з канём узялі.

— А дзе Блінкоў?

— У апошнюю хвіліну не паехаў, сказаў: галава баліць. Тады і немцы таксама не паехалі.

— Збаяўся, эх... — Марк не знаходзіў слоў.

Партызаны выпраглі коней, забралі ў забітых паліцэйскіх зброю. Старога Ціта адпусцілі дадому.

— Дзядзька Ціт не выдасць нас,— сказаў Марк.— Я ручаюся за яго.

— Але ж ён бачыў цябе, брата. Калі што — разумееш?.. — гаварыў Кароль.

— Разумею, але ж ён не скажа, я яго добра ведаю.

— Ну, глядзі, ты рызыкуеш больш за другіх, і твая сястра...

Ціт вярнуўся ў вёску. Калі немцы ў яго пыталіся, ці бачыў ён знаёмых сярод партызан, стары адказваў:

— Не, не бачыў.

— А многа партызан?

— У-у! Сіла! — мнагазначна адказваў Ціт.

Ад паліцэйскага гарнізона астаўся адзін Блінкоў. Праз некалькі дзён яму паведамілі, што ў вёску Лапкавіца прыехалі свіслацкія паліцаі і рабуюць насельніцтва. Лапкавіца была Ліпеньскага гарнізона, і паліцэйскія другіх гарнізонаў не мелі права гаспадарыць тут. Для гэтага ў іх былі свае вёскі. Блінкоў паехаў у Лапкавіцы. Яшчэ здалёк ён пачуў крык, плач, лаянку. Ля адной хаты паліцэйскія забіралі карову. Жанчына плакала, галасіла:

— А што ж я буду рабіць? А чым жа накармлю дзяцей? — За спадніцу чаплялася пяцёра малых.

— Аддайце карову! — сказаў Блінкоў.

— А твая якая справа? Ты хто такі?

— Начальнік ліпеньскай паліцыі.

— А мы плявалі, што ты начальнік.





Блінкоў схапіўся за наган.

Але свіслацкі паліцай першы стрэліў яму ў жывот. Блінкоў упаў...

Калі праз два дні вярнуўся са шпіталю Лютар і яму паведамілі, што Блінкова забілі, ён сказаў:

— Шчасце яго. Каб застаў — павесіў бы.

## 14

Рыма стаяла ў хаце ля акна і чакала Марка. Ён пайшоў да партызан, каб дамовіцца з камандзірам. Больш заставацца ў вёсцы было небяспечна. Настаў час і ім падацца ў лагер.

Сцямнела. Над школай прарэзаўся серп маладзіка.

Рыма не запальвала лямпы, не зачыняла аканіц. Было самотна адной у цёмнай хаце. Але лягчэй чакаць, стоячы ля адчыненага акна. Ужо даўно меўся прыйсці Марк, і Рыма хвалявалася: чаму яго няма? Унізе, ля моста, хадзіў паставы немец. Хаця б Марк не напароўся на яго... Яна прыслухоўвалася да шолахаў за домам, але было ціха. Толькі плёскала ў берагі Свіслач.

Марк падышоў непрыкметна. Ценем прашмыгнуў міма акна, спыніўся ў сенцах, прыслухаўся.

— Марк! — ціха паклікала Рыма.

— Ты адна?

— Адна.

Ён увайшоў у сенцы, потым вярнуўся на двор, каб зачыніць аканіцы. Рыма запаліла газоўку. Марк унёс у пакой плецены кошык, у ім ляжаў ладны кавалак мяса.

— Вось, смажыць будзем.

Пад мясам ляжала нешта, падобнае на мыла.

— Нашто нам столькі мыла? — спыталася Рыма.

— Гэта тол.

Рыма з Маркам завесілі вокны пасцілкамі, ссунулі ўбок цяжкую

камоду, паднялі дзве дошкі ў падлозе і схавалі туды тол. Паставілі ўсё, як было.
— Ну вось,— сказаў Марк.— А цяпер спаць.
Рыма ўздыхнула, але распытваць не стала. Яна навучылася маўчаць, бо ведала: што можна, Валодзя і Марк самі ёй скажуць. А калі маўчаць — значыць, так трэба.
Разбіраючы пасцель, Марк ціха прагаварыў:
— Падсмажым камендатуру — і ў лес.
Рыма доўга не магла заснуць. Яна не сумнявалася, што Марк падарве камендатуру, хоць і ведала, што зрабіць гэта не так проста. Камендатура была ў самым цэнтры вёскі, яе абнеслі высокім, у чалавечы рост, шчыльным тынам. Там, за тынам, хадзілі патрулі.
Назаўтра Марк схадзіў у разведку, а вярнуўшыся, выцягнуў тол, паклаў яго ў кошык, зверху засыпаў бульбяным лушпіннем.
— За камендатурай ёсць пусты хлеў,— сказаў ён Рыме.— Якраз насупраць дома, дзе жыве Рая Башко. Ведаеш, тая, што ў сельрадзе працуе? Трэба занесці тол да Раі, а яна потым перанясе яго цераз дарогу ў хлеў. Астатняе я ўжо сам.
— Добра, Марк, я занясу.
— Толькі асцерагайся. Калі здалёк убачыш немца або паліцая, лепш бакавой вуліцай абыдзі.
— Я асцярожна.
Рыма ўзяла ў рукі кошык, ён быў цяжкі.
— Данясеш?
— Што ты!
Рыма ішла па вуліцы, і ніхто не звяртаў на яе асаблівай увагі. Рыма несла лушпіны — каго гэтым здзівіш?.. На плошчы яна ўбачыла немцаў. Глянула на бакавую вуліцу, але і там былі яны. Выбару не было, і Рыма пайшла па плошчы насустрач немцам. У Раіным двары паставіла кошык і зайшла ў дом.
— Я лушпіны прынесла,— высыпце,— сказала.
Рая ўзяла кошык і хутка вярнулася, ужо з пустым.
Увечары, калі добра сцямнела, Марк выйшаў з дому. Следам за ім Рыма. У руках быў невялікі клунак: дзве пасцілкі — ёй і Марку. Цёплыя рэчы былі раней перапраўлены ў атрад. Рыма спусцілася да ракі і схавалася ў зарасніку вярбы. Сюды пасля выбуху павінен быў прыйсці Марк.
Рыма прыслухоўвалася. Але выбуху не было. Не было яго ні на другую, ні на трэцюю ноч. Марк прыходзіў да ракі амаль пад раніцу, і яны вярталіся дадому. Ночы былі месячныя, светлыя.
— Проста белыя... — злаваўся Марк.
Толькі на чацвёртую ноч месяц схаваўся за воблакі.
У плоце ля камендатуры быў толькі адзін паўметравы праход. Перад ім была пасаджана бульба. Яна толькі яшчэ паднялася ад зямлі, і схавацца ў ёй было нельга. А каб дабрацца да бульбы, трэба было паўзці гародамі міма трох хат. Марк падпоўз да прахода, як падпаўзаў ужо тройчы. «Няўжо і сёння не выйдзе?» — думаў ен, прыслухоўваючыся да крокаў вартавых. Іх было двое. Хадзілі яны моўчкі. Гэта добра, што моўчкі. І што не сустракаюцца адзін з адным — таксама добра.
Вось вартавы павярнуўся да Марка спіной і пайшоў уздоўж дома.
Марк адлічвае секунды: адна... дзве... тры... чатыры... дзесяць секунд — і вартавы ідзе назад. Значыць, у распараджэнні Марка дзесяць секунд. Калі вартавы павярнуўся спіной, Марк нячутна шмыгнуў за паркан і лёг за піўныя бочкі.



Зноў размераныя крокі. Тол, звязаны шпагатам, ляжыць ля ног Марка, у кішэні — запалкі, прынесеныя з лесу, у руках пісталет. Крокі аднаго вартавога аддаляюцца ад яго, другога — набліжаюцца. Вось Марк бачыць твар немца, стомлены і нейкі абыякавы. Вартавы падышоў амаль да самых бочак. Яшчэ секунда, і ён павярнуўся да Марка спіной. Марк падхапіўся, адным рыўком апынуўся ля вартавога і рукаяткай пісталета моцна ўдарыў па галаве. Раз, другі. Зацягнуў вартавога за бочкі і прыслухаўся. Яму здалося, што калі ён забіваў вартавога — чуў увесь Ліпень. Але было ціха. Вось цяпер з'явіцца ля вугла другі вартавы. Калі ён павернецца да Марка спіной, трэба дзейнічаць.
Вартавы павярнуў за дом, Марк падбег да вугла, падлажыў тол, чыркнуў запалкай. Зламалася! Чыркнуў другой. Дрыжалі рукі. Ён лічыў секунды. Вартавы ўжо наблізіўся да канца дома, зараз паверне назад. Вядома, ён чуе, не можа не чуць, як чыркаюць запалкі. А можа думае, што сябар закурвае? Але ж у іх запальнічкі. Запалка ўспыхнула, і маленькі агеньчык пабег па шнуры. Марк падняўся, два крокі ступіў і адчуў, што далей ісці не можа. Падкасіліся ногі, і ён сеў на траву.
Пачуў крокі вартавога. Зараз ён убачыць Марка, і тады ўсё прапала — вартавы затопча маленькі агеньчык, яго, Марка, схопяць, схопяць і Рыму, будуць здзекавацца з іх. Ён сабраў усю сваю сілу і пабег бульбянішчам уніз да ракі. Ззаду грымнуў выбух.
Марк бег туды, дзе яго чакала Рыма.
— Немцы на Галёнах,— прашаптала яна.
— Хутчэй! Хутчэй!
Ён узяў у яе клунак, і яны паплылі на той бок ракі. Там быў лес, а ў ім — ратунак.
На досвітку Рыма дабралася да Брыцалавіч і пастукала ў знаёмую хату. Адчыніў Васіль Баразна.
— Што здарылася? Чаму ты мокрая?
— З Маркам плыла, ён падарваў камендатуру.
— А дзе ён сам?
— Застаўся ў лесе, чакае, мо пагоня будзе.
Марк прыйшоў, калі сцямнела. Васіль правёў яго і Рыму да першага партызанскага паста, што быў непадалёк ад вёскі, у Брыцалавіцкім лесе. Гэта ён, Васіль, праводзіў да гэтага ж паста абодвух Валодзяў—Кунько і Сакольчыка, а некалькі дзён назад — Палагею Аляксандраўну. Мужа яе немцы расстралялі.

## ЛЯСНЫЯ ЖЫХАРЫ

### 1

Рыма сядзела ў зямлянцы на нарах, засланых яловымі лапкамі, і моўчкі глядзела на падлогу — чорную, утрамбаваную зямлю. На нізкім самаробным століку гарэла маленькая газоўка. У другім канцы зямлянкі былі яшчэ адны нары.
Рыма спала на адных нарах з Палагеяй Аляксандраўнай. Спалі апранутыя: немцы маглі наляцець кожную хвіліну. За ноч цела настывала, і раніцай хацелася хутчэй выскачыць з цёмнай зямлянкі ў лес, дзе зялёная трава і многа святла нават у хмарны дзень.

Сёння ў Рымы нявесела на душы. Яна зноў хадзіла да камандзіра роты Паўла Грыгаровіча прасіць, каб паслаў яе ў баявую роту. Павел Антонавіч сказаў:

— Ты думаеш, накарміць партызан, якія прыйшлі галодныя пасля бою, гэта мала?

— Я нічога не кажу, але ж... я ішла сюды, каб ваяваць...

— Ды ты больш карысці прынясеш тут, памагаючы Палагеі Аляксандраўне.

— Гэта яшчэ невядома...

— Адным словам, загад ёсць загад.

Рыма пайшла да камісара атрада Голанта, які да вайны працаваў другім сакратаром райкома партыі, і зноў даказвала сваё:

— Я не за тым ішла ў лес, каб бульбу абіраць...

Але і камісар быў няўмольны. Ён глядзеў на яе добрымі, спагадлівымі вачыма. Здавалася, вось зараз скажа: «Правільна, нам патрэбны воіны». А ён гаварыў зусім другое:

— Трэба ж каму-небудзь і бульбу абіраць.

Камандзіра атрада Каралёва не было. Яго выклікалі ў Маскву. Па яго прылятаў з «Вялікай зямлі» самалёт.

Так ні з чым Рыма вярнулася ў зямлянку.

Палагея Аляксандраўна збіралася пячы хлеб. Пякла яго ў вялізнай жалезнай бочцы. Хлеб удаваўся пульхны, смачны, партызаны хвалілі Палагею Аляксандраўну і называлі яе партызанскай маці.

Цеста паставілі з вечара. Яно падышло, паднялося над дзежамі і нагадвала вялізныя грыбныя шапкі.

— Пойдзеш са мной? — спытала Палагея Аляксандраўна.

Рыма падняла на яе заплаканыя вочы:

— Палагея Аляксандраўна, пагаварыце вы з камісарам, скажыце, што я вам не патрэбна, зусім не патрэбна, можа, тады ён мяне адпусціць.

Палагея Аляксандраўна села да яе на нары, абняла за плечы.

— Дзіцятка маё, навошта табе тая баявая рота, там жа забіць могуць.

— Ну, гэта яшчэ як выйдзе, я таксама страляць умею і хоць аднаго фашыста на той свет адпраўлю.

— Не дзіцячы гэта занятак,—ківала галавою Палагея Аляксандраўна.

На паляне пад бочкай ужо гарэў агонь. Рыма ўсё ж пайшла памагаць Палагеі Аляксандраўне. Непадалёку ад кухні пачула рогат. Азірнулася. Рагаталі партызаны. Перад імі круцілася маладзіца ў шырокай спадніцы, кофце і хустцы, завязанай пад бараду. Маладзіца пацiскала плячыма, какетліва ківала галавой і спявала:

А мой милый — партизан,  
С Гитлером сражается.  
Мне, девчоночке, теперь  
Гулять не разрешается.

Рыма пазнала Маркаў голас. Гэта ён пераапрануўся, каб пайсці па «языка». Рыма падышла бліжэй.

— А, Рыма, будзь здарова, сястрычка! Не сумуй, я хутка вярнуся,— весела сказаў Марк і пайшоў сцежкай, махаючы на развітанне рукою.

... Вярнуўся ён з немцам, у якога быў заткнуты анучай рот і звязаны рукі. Марк правёў немца ў зямлянку камандзіра, а сам, апрануўшыся ў сваё, падышоў да Рымы. Ля яе сядзеў Валодзя і чысціў аўтамат.

— Што нос павесіла? Вышэй галаву! — сказаў Марк, прымошчваючыся побач.

Рыма жаласлівымі вачыма паглядзела на братоў.



— Вазьміце мяне з сабою на заданне! Ну вазьміце,— не вытрымала яна.

— Не можам, не маем права,— адказаў Валодзя.

— Пабачыш, я не буду замінаць і вінтоўку сама ў баі здабуду.

— І не думай. Малая ты яшчэ.

— Ну, якая я малая?

— Наша сястрычка вырасла, а мы і не прыкмецілі,— сказаў Марк, стараючыся перавесці гаворку на жартаўлівы лад.

Але Рыма не хацела жартаваць.

— І вырасла. А вам я ўсё тая, што каля школы ў класы гуляла,— сказала яна.— І потым, гэта апека мне надакучыла. Не хочаце памагчы — без вас абыдуся. Сама, цішком пайду! А сядзець і чакаць нямаведама чаго не буду.

Хлопцы пераглянуліся. Такога яны не чакалі.

— Была б тут мама, наша апека табе не спатрэбілася б,— сказаў сурова Валодзя. — Але май на ўвазе, яна не дазволіла б табе лезці не ў свае справы.

Напамінак пра маці балюча адазваўся ў Рыміным сэрцы: дзе яна цяпер? Што з ёю? Колькі разоў ноччу Рыма размаўляла з мамай, расказвала ёй свае крыўды. Навошта яны так гавораць пра маму? І Рыма адказала:

— Была б тут мама, яна б ганарылася, што я не хачу за вашы спіны хавацца.

Рыма дастала з кішэні і падала Валодзю тры складзеныя разам паперкі: заява ў партызанскую камсамольскую арганізацыю і дзве рэкамендацыі.

— Я ў камсамол уступаю,— дадала яна.

Валодзя прагледзеў паперкі.

— Як уступіш, тады і будзем гаварыць, а цяпер няма чаго.

— Сумлення ў вас няма,— пакрыўдзілася Рыма і панура адышла ад братоў. Ногі нячутна ступалі па прымятай траве. Некалькі лістоў, пакружыўшыся ў паветры, ляглі на сцежку. Рыма падняла галаву, паглядзела ўгору. Раней густыя галіны над лагерам закрывалі ад вачэй неба, а цяпер скрозь парадзелыя кроны дрэў яно прасвечвалася, нізкае і шэрае. Настала восень.

На свята 25-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Рыму прынялі ў камсамол.

Партызанскі атрад вырашыў адзначыць свята Кастрычніка разгромам нямецкага гарнізона. Кіраваў аперацыяй Валодзя Кунько. Ён сам хадзіў у разведку, а потым доўга сядзеў у зямлянцы Сумчанкі, удакладняючы план.

Выйшлі ноччу, каб знянацку напасці на сонных фашыстаў. Ісці было цяжка. Ліў дождж. Пад нагамі хлюпала вада. Яна была ўсюды, і, здавалася, канца-краю ёй няма, як няма канца-краю цёмнаму лесу.

Партызаны ішлі, хаваючы пад паліто зброю. Неслі прыкрытыя брызентам кулямёты.

Дзесьці выў галодны воўк, плакала сава.

За групай партызан, якая расцягнулася па лесе, крадзецца маленькая цёмная постаць. Гэта Рыма. Яна прыціскае да грудзей гранату, якую ўзяла цішком у Марка. Дзяўчына баіцца адстаць ад партызан, што ідуць уперадзе, баіцца, што яны яе заўважаць і адправяць назад у лагер. А яна хоча быць з імі. Яна ўглядаецца ў цемру і нікога не бачыць, толькі чуе, як хлюпае пад ботамі вада.

Нарэшце да яе даносяцца прыглушаныя галасы. Валодзя аддае

каманду. Значыць, прыйшлі. Рыма схавалася за дрэва, прыслухалася. Некалькі чалавек аддзялілася ад групы і пайшло ўперад. «Здымаць пасты»,— здагадалася Рыма. Атрад прыціх.

І вось ужо гучыць Валодзеў голас:

— Уперад!

Ён першы кідаецца да варот высокай сцяны, якой абгароджаны гарнізон.

Застрачылі кулямёты, за сцяну паляцелі гранаты. Прайшла хвіліна, другая, і адтуль, з-за сцяны, бліснулі дзесяткі вогненных маланак. Завылі мінамёты.

— За Радзіму! — зноў пачуўся Валодзеў голас.

Навокал выла, свістала, грымела. Рыма ляжала, прыціснуўшыся тварам да мокрай травы, і баялася падняць галаву. Ёй здавалася, што ўсе кулі ляцяць толькі да яе, і варта толькі паварушыцца, як яна назаўсёды астанецца ляжаць тут, і ніхто не будзе ведаць, дзе яна. Але падняцца трэба. Не будзе ж яна ляжаць тут, пакуль скончыцца бой. У яе ж ёсць граната.

Не падымаючы галавы, Рыма пачала прыслухоўвацца, каб разабрацца, дзе страляюць. Партызаны адышлі ўбок ад варот і адстрэльваліся. Але што гэта свішча і свішча над самай Рымінай галавой? Яна азірнулася і ўбачыла горку, з якой тырчаў ствол. «Дзот»,— здагадалася Рыма.

Асцярожна, баючыся паварушыцца, Рыма дастала гранату, пацягнула за кальцо і, адставіўшы правую руку ўбок, кінула гранату ў дзот. А сама зноў прыціснулася тварам да мокрай травы. Пачуўся выбух. Не, не дарэмна Рыму называлі «снайперам снежак»— яна пацэліла адразу ў амбразуру. Ёй хацелася закрычаць ад радасці, але яе ўсё роўна ніхто б не пачуў. Да яе даносіліся крыкі партызан. Яны былі ўжо за сцяной. Там ішоў рукапашны бой.

Рыма кінулася ў вароты.

Там распараджаўся Валодзя.

— Мёртвых і параненых падабраць. Гарнізон падпаліць. Жыва, хлопцы!

Раптам Валодзі здалося, што перад ім мільганула Рыма. «Няўжо ўпотай ішла за намі?»

Ен пабег да партызан, што неслі раненых і забітых.

— Рыму не бачылі? — і сутыкнуўся з ёю.

Сагнуўшыся, Рыма цягнула некалькі вінтовак. Хацелася сказаць ёй «малайчына», але нічога не сказаў: партызаны неслі параненага таварыша.

## 2

Цяпер у Рымы была свая вінтоўка.

«Ёсць зброя — значыць баец»,— думала Рыма. Марк вучыў яе акопвацца, хавацца ад праціўніка, поўзаць па-пластунску, прыціснуўшы да зямлі галаву і цела. Два разы цішком ад Валодзі Марк узяў яе з сабою ў засаду: адзін раз партызаны абстралялі машыну з немцамі, другі — перад калонай машын узарвалі мост.

У гэтых засадах Рыме было не так страшна, як тады, у кастрычніцкую ноч, калі яна засталася адна ля варожага дзота. Цяпер побач з ёю былі партызаны, ужо абстраляныя ў баях, быў Валодзя Сакольчык, быў Марк.



Пасля засад Марк гаварыў Сакольчыку, каб чула Рыма:

— Ведаеш, Валодзя, я і не думаў, што наша Рыма такая храбрая. Яна стане сапраўдным партызанам. А ты як думаеш?

Сакольчык згаджаўся з Маркам, а Рыме было няёмка чуць гэтыя словы, таму што цяжкая вінтоўка дрыжала ў яе руках і кулі ляцелі не туды, куды яна іх пасылала. І ёй здавалася, што ўсе гэта бачылі.

Рыма разумела, трэба больш трэніравацца, каб навучыцца добра страляць, але патроны былі на строгім уліку. У партызан не хапала боепрыпасаў. Усё, што яны мелі, здабывалася ў баях з немцамі і паліцаямі. Заставалася адзінае выйсце — вучыцца ў баі. І яна сачыла за Маркам. Ледзь толькі яна заўважала, што ён рыхтуецца да бою,— правярае вінтоўку, пісталет, запасаецца боепрыпасамі,— Рыма падсаджвалася да яго і пачынала прасіць:

— Марчанька, мяне возьмеш?

Марк хмурыўся.

— Ты ж разумееш, даведаецца ён — будзе крыку.— Марк меў на ўвазе Валодзю.

— Не даведаецца, я вас сустрэну ля паста,— паспешна дадавала Рыма, чмокала Марка ў шчаку і хуценька бегла ў сваю зямлянку.

...Прыйшла зіма. Ударылі марозы. Распальваць агонь уночы было небяспечна. Над лесам лёталі нямецкія самалёты, высочвалі, ці не курыцца дзе між дрэў светлы дымок. І тады на гэта месца ляцелі дзесяткі бомб.

Аднойчы на дарозе партызаны сустрэлі ліпечаьскіх паліцаяў. Гэта ўсё былі чужакі. Ніхто з навакольных вёсак у паліцыю не пайшоў, і Лютару давялося вербаваць іх аж у Бабруйску. Цяпер гарнізон размяшчаўся ў школе. Яе абнеслі высокай двайной сцяной, засыпанай у сярэдзіне пяском.

— Не школа, а сярэдневяковая крэпасць,— гаварыла Рыма, шкадуючы, што для гэтай крэпасці высеклі цэлую дзялянку лесу.

Паліцаі вярталіся з чарговага абходу вёсак. Завязаўся бой. Сярод трафеяў, прынесеных партызанамі ў лес, была цёплая лыжная куртка. Партызаны аддалі яе Рыме. Дзяўчына прынесла яе ў зямлянку. Палагея Аляксандраўна збіралася выйсці з зямлянкі і ніяк не магла адубелымі пальцамі завязаць хустку.

— Памажы, Рымачка! — папрасіла яна.

Але замест таго, каб завязаць, Рыма пачала разматваць хустку і расшпільваць гузікі на паліто Палагеі Аляксандраўны.

— Здыміце паліто, я вам куртку прынесла. Адразу сагрэецеся, яна цёплая.

— Ды што ты, Рыма, табе самой трэба, вунь сукенка, як лахман.

— Нічога, нічога, мне цёпла, я маладая. Мне сорамна мерзнуць.

І яна памагла Палагеі Аляксандраўне апрануцца.

— Ну, дзякуй, дзіцятка, уважыла старую, не дала сэрцу змерзнуць.

Аднойчы пасля бою партызаны прынеслі ў лагер параненага Валодзю. Мінай яму перабіла абедзве нагі. Яго прынеслі ў зямлянку на насілках: дзве доўгія палкі пераплялі галінкамі і пакрылі шынялём. Бледны, з запалымі вачыма, Валодзя ляжаў моўчкі, нават не стагнаў.

Пакуль Сакольчык запрагаў каня, каб везці Валодзю ў партызанскі шпіталь, медсястра зрабіла яму перавязку. Ён абвёў усіх памутнелым, стомленым позіркам, стаў углядацца ў Рыму, нешта сказаў. Рыма нахілілася над ім.

— Заўтра... дзень твайго... нараджэння...

— Валодзечка, не трэба гаварыць, не трэба,— папрасіла Рыма.

Але ён не слухаў.

— Вось ты... і вырасла. Вазьмі ў мяне... пісталет...

Рыма адшпіліла кабуру, што вісела ў Валодзі на поясе, дастала маленькі чорны пісталет і працягнула яго Валодзю.

Ён пакруціў галавой.

— Гэта табе... Думаў заўтра аддаць... а прыходзіцца сёння...— Твар яго скрывіўся ад болю, і ён гучна, працягла сказаў, нібы прастагнаў:— Жы-ыць хачу! — і моцна сціснуў зубы.

Выла мяцеліца. Снег сляпіў вочы, сыпаўся за каўнер і, растаўшы, сцякаў па спіне халоднымі кроплямі. Рыма нічога не заўважала. Яна сядзела на краі саней, нахіліўшыся над Валодзем, і прыкрывала яго ад снегу і ветру. Побач з санямі ішлі Марк і Валодзя Сакольчык.

Партызанскі шпіталь — кіламетраў за шэсць ад атрада. Валодзю прывезлі адразу ў «хірургічны кабінет»— прасторную зямлянку з вокнамі, сцены і столь якой былі абабіты прасцінамі.

Старэнькі хірург доўга мыў рукі ля бляшанага рукамыйніка і праз акулярыназіраў, як санітары клалі раненага на стол. Потым ён агледзеў Валодзевы ногі.

— Доктар, зрабіце ўсё, каб я застаўся... жывы,— папрасіў Валодзя.— Хай без ног, але я буду яшчэ карысны.

— Паспрабую, толькі давядзецца пацярпець, наркозу ў нас няма.

Доктар павярнуўся да медсястры, якая стаяла ля шафы з інструментамі, і сказаў толькі адно слова:

— Пілу.

Рыму, Марка і Сакольчыка ў зямлянку не пусцілі, яны чакалі ў маленькіх сенцах. Рыме здавалася, што аперацыя цягнецца бясконца і што яна чуе, як ідзе час: секунда за секундай, мінута за мінутай.

Раптам у цішы пачуўся Валодзеў голас.

— Вы скончылі, а я ўсё ж... паміраю.

Рыма рванула дзверы. Маленькі кручок адскочыў, і яна апынулася ў зямлянцы. Ніхто яе не затрымліваў. Яна падышла да Валодзі. Ён ляжаў на белай прасціне, пакрыты прасцінаю і сам белы, як прасціна. Рыма ўзяла яго руку, каб сагрэць у сваёй. Пальцы былі сінія, гэта ён так моцна сціскаў імі край стала, каб не крычаць ад болю.

Падышоў Марк. Сакольчык прычыніў дзверы зямлянкі і застаўся стаяць ля іх, як вартавы.

Валодзя паглядзеў на Рыму. З яе вачэй цяклі слёзы.

— Не трэба плакаць... сястрычка,— сказаў ён.— Калі сустрэнеш... маму... перадай ёй... што я яе... вельмі любіў...

Потым перавёў позірк на Марка.

— Ну што ж... нічога не зробіш... Бі за сябе... і за мяне... А можа яшчэ... і выжыву...

Памёр ён пад раніцу, калі на ўсходзе ледзь пачынаў займацца дзень.

Маленькая працэсія моўчкі ішла за санямі. Вярталіся ў лагер. У Рыміных вушах стаялі словы доктара:

— Я стары, я многа бачыў, а такой волі...

Ён не дагаварыў...

Пакуль збівалі труну, Марк сказаў Рыме:

— Ты ідзі адпачні, потым прыйдзеш.

Рыма паслухмяна пайшла ў сваю зямлянку. Забралася на нары, забілася ў куток. Нехта адчыніў дзверы, і ў зямлянку ўварваліся клубы халоднага паветра. Нізка прыгінаючыся, спусцілася Палагея Аляксандраўна.

— Ты тут, дзіцятка, а я цябе шукаю. Вось зараз я табе чаю дам, сагрэешся, сэрца і адыдзе.— Палагея Аляксандраўна распаліла пячурку, наліла ў кацялок вады, паставіла на агонь, а сама пачала даставаць





з мяшэчка, што вісеў над нарамі, сушаны ліпавы цвет. Заварыла і падала Рыме бляшаны кубак пахучага ліпавага чаю.

Рыма патрымала кубак і паставіла на нары.

— Цётачка,— прагаварыла яна ціха,— ён жа маленькі, зусім маленькі.

— А ты не думай пра яго, не думай. Нічым ужо не паможаш. Яна такая, смерць, па парадку не бярэ. А так, каго надумаецца, таго і забірае. Ты не думай. Яму ўжо ўсё роўна...

Потым усю ноч Рыма з Маркам сядзелі ля труны. У ганаровай варце стаялі партызаны. Рыма не плакала. Яна думала пра Валодзю, размаўляла з ім. Вось яго жыццё абарвалася, яркае і кароткае, як бляск маланкі. «Я ганаруся, што ты мой брат,— у думках гаварыла Рыма, гледзячы на спакойны Валодзеў твар.— Ты пражыў мала, але жыў так, як мог — адкрыта і сумленна. Ты не хаваўся ад ворага, біў яго. Ты ведаў, за тваімі плячыма Радзіма, гэта значыць і наш дом, і наша школа, і наша мама, і мільёны мам, якія адправілі сваіх сыноў і дачок на страшную бітву. Ты не дайшоў да мэты, цяпер пайду я. Клянуся, табе не будзе сорамна за мяне».

Валодзю хавалі на лясной паляне непадалёк ад лагера, на партызанскіх могілках. Скупа, усяго па некалькі слоў, простых і шчырых, сказалі аб ім партызаны. Рыме цяжка было гаварыць, слёзы душылі яе. Яна стала на калені перад валодзевай труной і ціха сказала:

— Твой аўтамат не будзе ржавець, абяцаю табе гэта...

Труну апусцілі ў магілу, засыпалі пяском. Прагрымеў развітальны салют, партызаны нізка схілілі галовы над магілай таварыша. Потым моўчкі разышліся, а ля свежага ўзгорачка засталіся самыя блізкія: Рыма з Маркам і Валодзя Сакольчык...

Марк цяпер кожны дзень хадзіў на дыверсіі, але Рымы з сабою не браў. Ён нічога не гаварыў ёй, проста не браў. Адыходзіў так, каб яна не ведала, калі і куды. Рыма разумела: ён яе беражэ. А хіба яна магла згадзіцца з гэтым? І калі ёй перадалі, што ў суседнім атрадзе знаходзіцца Ніна Баразна з братам Васілём, яна парашыла пайсці туды ўпрасіць камандзіра, каб яе таксама залічылі ў баявую роту.

На Рыміну просьбу адпусціць яе ў атрад імя Ракасоўскага, каб пабачыцца з аднакласніцай, камісар атрада Голант адказаў пытаннем:

— Назад вернешся?

— Не ведаю. Цяжка хадзіць па Валодзевых слядах.

## 3

З нямецкага палону ўцёк фельчар Рыгор Баразна. Ён прыйшоў у атрад Каралёва і хутка стаў камандзірам групы. Потым гэта група вырасла ў самастойны атрад, які размясціўся ў лесе, недалёка ад Асіповіч, на правым беразе Свіслачы. У гэты атрад і пайшла Рыма.

Яна прымала ўдзел у баявых аперацыях, стаяла на пасту, трапна страляла, і яе лічылі някепскім байцом.

Вечарамі ў зямлянцы было людна. Мужчыны курылі самасад, гаварылі пра вайну, пра немцаў.

— Фрыц хітры, гэта разумець трэба.

— Што мне яго хітрасць, я яго ўсё роўна не баюся.

— Ну і дурань. Трэба не толькі сілай, а і розумам яго браць...

З атрада Каралёва прыйшоў Марк. Ён схуднеў і стаў зусім падобны на хлапчука. Сядзеў моўчкі, чакаў, пакуль Рыма ўправіцца пачысціць аўтамат. Потым папрасіў:

— Правядзі мяне.

Рыма накінула хустку, паліто. Выйшлі з зямлянкі. Было ветрана. Высока над галавою вісела халоднае зорнае неба. Рыма паправіла на галаве хустку.

— Трэба табе шапку-вушанку насіць. У хустцы — не баец,— сказаў Марк.

— Чаму?

— Вушы павінны быць адкрыты, каб усё чуць.

Памаўчалі. Скрыпеў пад нагамі снег, ад марозу трашчалі дрэвы.

— Можа, вернешся? — парушыў маўчанне Марк.— Цяжка мне, нам трэба быць разам.

— Не магу. Цяпер я — баец. Нядобра бегаць з атрада ў атрад.

— Палагея Аляксандраўна сумуе без цябе. Яна цябе любіць, як маці.

Рыма ўздыхнула.

— Буду прыходзіць да цябе, да яе. А зусім пайсці не магу. Не крыўдуй на мяне за гэта.

Дайшлі да ўзлеска. Тут, у хмызняку, Рыма ведала, стаяў вартавы — апошні пост атрада.

— Буду прасіцца на «жалезку»,— сказала Рыма на развітанне.

Марк пакруціў галавой.

— Ведаю, скажаш, не дзіцячая справа,— дадала яна.— Нічога, паспрабую.



Думка ўзарваць эшалон апошні час не пакідала Рыму. «Што такое вінтоўка або нават аўтамат?» — думала яна.— «Адзін стрэл, адна чарга, і аднаго немца няма. Іншая справа — тол».

Рыма з зайздрасцю глядзела на падрыўнікоў. Вось каб навучыцца! Папрасілася, каб яе паслалі на «жалезку». Але на яе толькі рукамі замахалі. Дзе там! На чыгунцы стаіць узмоцненая ахова. На заданне хадзілі групы па пяць, дзесяць вопытных партызан і то часта варочаліся ні з чым.

«Ну што ж, не пускаюць — не трэба. Пайду адна і адна падарву эшалон»,— вырашыла Рыма.

Яна расказала пра гэта Ніне.

— Што ты? Адна?..

— Калі не бяруць у групу — пайду адна.

У падрыўніка Барыса Дзмітрыева яна распытала, як рыхтаваць і закладваць міну. Барыс не рабіў з гэтага сакрэту. Ён лічыў, што кожны партызан павінен умець абыходзіцца з толавай шашкай, і растлумачыў Рыме, як гэта робіцца. Рыма ўважліва слухала і добра запомніла ўсё. Цяпер трэба было раздабыць капсуль. Прасіць у Дзмітрыева яна не адважылася і звярнулася да другога падрыўніка, Алёшы Міцюрава. Міцюраў — арлоўскі хлопец — у першыя дні вайны трапіў у акружэнне, потым — у палон. З палону ён уцёк, прывёў з сабой яшчэ трыццаць палонных. Частка з іх асталася ў атрадзе Баразны, а частка перайшла ў атрад Лівенцава. Гэта было летам 1942 года.

Алёша быў стрыманы, маўклівы хлопец. Але партызан добры. Да яго і надумала звярнуцца Рыма. Ёй чамусьці здавалася, што ён не павінен ёй адмовіць. Але Міцюраў сказаў:

— Не магу я і не прасі. Ты загінеш, і я сабе ніколі гэтага не дарую...

— Алёша, ну, зразумей, трэба ж мне даказаць, што яны дарэмна не бяруць мяне з сабою.

— Я не ведаю, што робяць «яны», а ты робіш глупства,— стараўся ўгаварыць Рыму Алёша. Але яму гэта дрэнна ўдавалася. Голас яго гучаў мякка, і гэту мяккасць добра адчувала Рыма.— Пачакай трохі, потым я сам цябе навучу і разам пойдзем. Добра? Ну, добра, Рыма?

— Я не магу чакаць.

— Чаму?

— Не магу!

Аднаго разу Міцюраў моцна заснуў. У зямлянцы нікога не было. Рыма падкралася да яго, выцягнула з-пад падушкі карабок і ўзяла адзін капсуль. Тол і шнур ляжалі тут жа ў зямлянцы.

Цяпер яна цішком, каб ніхто не ведаў, пойдзе і зробіць тое, што задумала. На шматку паперы Рыма напісала камандзіру атрада: «Я пайшла на жалезку. У лагер не вярнуся, пакуль не ўзарву эшалон. За мяне не турбуйцеся».

Потым падумала крыху, напісала яшчэ запіску: «Я ўзяла капсуль. Задуманае выканаю. Усе твае страхі дарэмныя. Угаворваючы мяне, ты думаў, што робіш мне дабро. Калі мне ўдасца спусціць эшалон, то, вярнуўшыся ў лагер, магчыма, і буду размаўляць з табою, а калі не, то ніколі з табой больш не загавару». Гэту запіску яна паклала ў карабок, дзе былі капсулі, узяла прасціну і непрыкметна выйшла з зямлянкі.

Ноч была цёмная, на небе ні зоркі. Толькі бялеў пад нагамі пушысты снег. Рыма ледзьве пазнавала дарогу. Пайшла нацянькі, абыходзячы партызанскія пасты, каб яе не ўбачылі, не вярнулі ў лагер.

Колькі часу ішла — Рыма не ведала. Толькі нешта стаў моцна ціснуць на плячо мех з толавымі шашкамі. Яна пераклала яго на другое плячо, але не памагло. Ёй стала горача, не слухаліся ногі. Спынілася,

скінула ля густой елкі мех, прысела. Зняла шапку-вушанку, выцерла твар, агледзелася. Днела. Стары лес канчаўся, пайшоў яловы маладняк. Ялінкі стаялі белыя, нібы навагоднія. Сёння і сапраўды была навагодняя ноч, і сёння Рыма рыхтуе немцам падарунак. Ён тут, у мяшку. Цяжка, але нічога, яна яго данясе.

Рыма дастала з кішэні кавалак чэрствага хлеба, з'ела яго, узяла ў рот камячок снегу. Потым ускінула на плечы свой мех і пакрочыла далей. Ішла лесам, балотам, абыходзячы вёскі, што сустракаліся на шляху, прапаўзала ля нямецкіх пастоў, ляжала ў снезе, накрыўшыся прасцінай, калі праязджалі на машынах або праходзілі недалёка фашысты. Ішла і ішла, пакуль наперадзе не паказаўся насып чыгункі. Яна выбрала месца далей ад вартавой вышкі.

Па насыпу ў адзіночку і групамі з ліхтарамі ў руках снавалі патрулі. Рыма выбрала гусцейшы кусцік і лягла за ім, пільна ўглядаючыся перад сабою. Дастала катушку са шнурам, надзела на кіёк, укапала ў снег. Мароз шчыпаў за вушы, але яна не закрывала іх шапкай. Нельга. Вушы — гэта другія вочы, яны ўсё павінны чуць.

Вось на насыпе зарыпеў снег. Зноў патрулі. Рыма прытуліла галаву да зямлі, сціскаючы ў руцэ гранату. Два немцы падышлі блізка, спыніліся і пачалі закурваць. Раптам яна ўздрыгнула. Над самай яе галавою гучна каркнуў крумкач, паляцеў за чыгунку.

Немцы пастаялі і пайшлі далей, крокі пачалі аддаляцца і нарэшце зусім сціхлі.

Рыма папаўзла да палатна. Адной рукой яна цягнула мех з толам і капсулем, другой — канец шнура. Дапаўзла да насыпу, прыслухалася. Было ціха. Толькі вецер гнаў снег, і ён шамацеў, як сухое лісце ў лесе. Паднялася на насып, дакранулася рукой да рэйкі. Халодны метал абпаліў руку. Фінкай разграбла пад рэйкай снег, палажыла тол. Да кальца ўзрывальніка прывязала канец шнура, уставіла ў тол капсуль і асцярожна адпаўзла ўбок. Яна ведала: дакраніся выпадкова да шнура — шнур выб'е чаку, чака ўдарыць у капсуль, і тол узарвецца. Асцярожна паўзла ля шнура, пакуль не дабралася да кусціка, дзе пакінула кіёк з катушкай. Лягла за кусцік і пачала чакаць.

Чакала доўга. Зноў па насыпу прайшлі патрулі. Ліхтарыкамі свяцілі на рэйкі. Рыма падумала, што ўсё скончана. Вось зараз яны ўбачаць шнур, і тады, замест эшалона, яна ўзарве толькі двух немцаў-вартаўнікоў. Рыме захацелася плакаць ад крыўды, ужо рука яе пацягнулася да шнура, ужо яна гатова была пацягнуць за яго, але немцы, пра нешта ажыўлена размаўляючы, патушылі ліхтарыкі і пайшлі далей.

«Не,— парашыла Рыма,— пакладу міну толькі тады, калі пачую, што ідзе цягнік».

Рыма падпаўзла да насыпу, забрала міну і адпаўзла. Лянівa, быццам нехаця, падымалася сонца, бліснула промнямі і схавалася за хмару. Рыма забралася ў стог сена, што стаяў на балоце. Сядзела там, чакала цемнаты. Потым зноў папаўзла на свой пост.

У другую ноч ёй таксама не пашанцавала. Рэйкі гулі. Яна падкладвала тол, адпаўзала да шнура, але... эшалоны ішлі з фронту, ішлі амаль пустыя, у тыл, за папаўненнем. Не, на такі эшалон яна не будзе траціць зарад, яна ўзарве той, які ідзе на фронт з салдатамі, з афіцэрамі, са зброяй!

Рыма забірала міну і адпаўзала ў стог. Так было некалькі разоў. Стомленая чаканнем, схаладнелая, на досвітку яна закапалася ў сена, скруціўшыся ў камячок, але заснуць не магла. Хацелася есці. Апошні кавалак хлеба яна згрызла ўчора. Рыма разграбла снег на балотных



купінах, спадзеючыся знайсці там журавіны. Яна знайшла некалькі мерзлых ягад, з'ела іх. Цяпер, калі трохі абагрэлася, голад адчуваўся яшчэ больш. Трэба было нешта рабіць. А тут яшчэ аднекуль пахла гарэлым... Што б гэта магло быць?

Недалёка ад месца, дзе стаяў стог, кіламетры за тры ад лесу, была вёска. Рыма ведала: гэта Залессе. Яна пойдзе туды і папросіць есці. Толькі куды схаваць мех з толам? Пакінуць у стозе? А калі раптам хто прыедзе браць сена? Яна выцягнула мех, аднесла яго ў лес і закапала ў снезе.

Неўзабаве яна была ўжо ў вёсцы. Днём на дзяўчыну мала хто звяртаў увагу. Пастукала ў крайнюю хату. Адчыніла бабулька.

— А дзіцятка ж маё, ты ж змерзла зусім, заходзь, пагрэйся. Ці здалёку ідзеш?

— Здалёку, бабуля, з Брыцалавіч.

— З Брыцалавіч? Ох, ведаю я ваша гора, ведаю,— прыгаворвала старая, ляскаючы засланкай у вялікай, на паўхаты, печы.

«Пра якую бяду яна гаворыць?» — мільганула думка. На ўсякі выпадак Рыма ўздыхнула і паківала галавой. А старая працягвала:

— От праклятыя, і бога на іх няма! Гэта ж трэба, усю вёску разам з людзьмі спаліць.

«Дык вось адкуль пахла гарэлым! Брыцалавічы! Там жывуць родныя Ніны Баразны. Што з імі?»

— Як жа табе ўдалося ўцячы, гаротніца? — не супакойвалася старая.

— У нас на гародзе была хованка, я паспела ў яе ўлезці.

— І больш ніхто не ўратаваўся?

— Не ведаю. Я ўцякла ноччу.

— А цяпер куды?

— Іду ў Асіповічы, там мая цётка жыве.

Бабуля накарміла Рыму і дала з сабой лусту хлеба з салам.

Рыма вярнулася на свой пост. Цяпер, калі яна крыху падсілкавалася, і мароз не здаваўся такім моцным.

Калі сцямнела, яна лягла за куст і стала чакаць. Брыцалавічы... У вёсцы жыло больш за шэсцьсот чалавек... Няўжо ўсе загінулі?..

Загулі рэйкі. Рыма падпаўзла да палатна, падлажыла пад рэйку тол, адпаўзла за куст і стаілася са шнурам у руках. Цягнік ішоў на фронт. Яна ўжо бачыла яркі прамень святла, які бег перад паравозам. Паравоз цягнуў дзве пустыя платформы. Зноў няўдача! Няўжо яна не дачакаецца? Не, яна ішла сюды не для таго, каб падрываць пустыя платформы. Яна ішла, каб падарваць эшалон. І падарве!

Рыма зноў скруціла шнур. Баялася, што заўважаць яго. А рызыкаваць было нельга. У яе толу толькі на адзін выбух.

Дзьмуў моцны вецер, калючы снег сыпаў у твар. Не паспела Рыма легчы за куст, як зноў пачула песню рэек. Хутчэй на палатно! Мільгнуў агонь. Цягнік набліжаўся. «На фронт... на фронт...»— здавалася, застукалі рэйкі. Раздумваць не было калі. Рыма кінулася да палатна. Яна забылася на вартавую вышку, на патрулёў. Адзін страх гнаў яе на насып — толькі б паспець. Вось і рэйкі. Спрытна прывязвае шнур, устаўляе капсуль. Белы прамень святла набліжаецца. З галавы не выходзіць думка: «А што, калі не паспею скаціцца з насыпу?» І следам за ёю другая, зусім спакойная: «Узарвуся разам з цягніком, але не прапушчу яго».

Усё зроблена. Рыма скацілася з высокага насыпу. Застрачылі аўтаматы.

— Позна,— прашаптала Рыма і тузанула за вяроўку. З-пад паравоза вырваўся слуп агню. Пачуўся лязгат жалеза, грукат, крыкі. Страчылі

аўтаматы. Стаяў гул. З вартавой вышкі стралялі наўздагад. Навокал свісталі кулі. Рыма ляжала, прыціснуўшыся да зямлі, і не варушылася. Страляніна сціхла. Рыма дапаўзла да лесу, з палёгкай уздыхнула. Яна выканала заданне, якое сама сабе дала. Мех быў пусты, ісці было лёгка, і ногі самі неслі яе па знаёмай дарозе. Праз некалькі гадзін яна ўбачыць сваіх сяброў і раскажа ім, што дарэмна ёй не давяралі.

Вось паляна. Рыма збочыла ўлева, каб абысці пост у хмызняку. Ніхто яе не спыніў. «Прашмыгнула»,— узрадавалася Рыма. Яна асцярожна ступала, каб не рыпеў снег, каб ніхто не пачуў. Дайшла да дуба, дзе хавала свой мех, павярнула да зямлянкі. У лагеры стаяла незвычайная цішыня. Рыма адчыніла дзверы і спынілася на парозе. У зямлянцы нікога не было. Яна падбегла да другой зямлянкі — тая разбурана. Лагер быў пусты. Дзе партызаны? Чаму яны пакінулі абжыты лагер? Можа вораг разведаў? Хутчэй адсюль! Але куды?

Яна праверыла гранату, зняла з пляча аўтамат і пайшла ў гушчар, у балота.

## 4

Толькі на сёмыя суткі набрыла Рыма на партызанскія кастры. Стомленыя блакадай і баямі, партызаны грэліся ля агню. На козлах віселі вёдры, у іх булькаў суп.

— Рыма! — ускрыкнуў нехта. — Жывая! А мы ўжо думалі...

Падышоў Іван Раманенка, камандзір Рымінага ўзвода.



— Таварыш камандзір узвода, — адрапартавала Рыма, — заданне выканана, варожы эшалон, які ішоў на фронт, падарваны.

— Па-першае, табе ніякага задання ніхто не даваў...

— Я сама сабе загадала...

— А па-другое — кінь жартаваць. Не магла ты падарваць эшалон.

— Як не магла? На перагоне паміж Асіповічамі і Татаркай. Я тры ночы чакала...

— Добра, падарвала, дык падарвала, табе яшчэ за ўсё будзе ад камандзіра атрада,— паабяцаў Раманенка.

Партызаны спачувальна глядзелі на Рыму, і яна бачыла, што ніхто ёй не верыць.

— Чэснае камсамольскае, я падарвала. Можаце пайсці паглядзець.

Камандзір атрада Рыгор Нічыпаравіч Баразна таксама не паверыў. На «жалезку» хадзілі групамі ў пяць-шэсць чалавек і ў кожнай групе абавязкова быў «спец» — Дзмітрыеў або Міцюраў. А тут дзяўчына, ды яшчэ адна!

— Ну што ж, праверым,— сказаў ён. Рыма зразумела, што яму цяпер не да яе. Трэба думаць, як вывесці людзей з блакады.

Рыма пайшла шукаць Ніну. Тая сядзела ў баку ад усіх на нізкім пяньку, абхапіўшы калені рукамі.

— Ніна! Чаму ты адна? — Рыма абняла сяброўку.

— У Брыцалавічах... усіх... і бацьку... і маці... у свірне... — прагаварыла Ніна скрозь слёзы. — І Базок спалілі, і Асавок, і Макаўе, і Градзянку.

Рыма прытулілася да сяброўкі, суцяшала яе.

Гадзіны праз дзве, калі сцямнела, атрад рушыў у паход. Калона расцягнулася. Ішлі ціха. Лесам, балотам, выходзілі з блакады.

Нехта ціха сказаў.

— Віншую.

Рыма падняла галаву. Побач з ёю крочыў Міцюраў.

— Не сярдуй на мяне,— сказаў ён.— Я так рады, так рады, што ты вярнулася. Я баяўся, што ты не выканала таго, што задумала. А потым хлопцы сказалі, што ты падарвала эшалон. Камандзір мяне паслаў праверыць. Я толькі што адтуль. Бачыў паравоз і чатыры вагоны. Там лягло каля сотні гітлераўцаў. Малайчына! — гаварыў Міцюраў ціха, так, каб чула адна Рыма.

— Ты думаеш, я не рада, што мы разам? — сказала яна.— Я столькі шукала вас, такога наглядзелася, што страшна ўспомніць.

— А я прачытаў тваю запіску і падумаў: дурань, дурань, трэба было разам пайсці. Каб ведаў, куды ты пайшла, дагнаў бы...

— Я і сама добра не ведала, куды ісці.

— А тут яшчэ блакада... Мы зняліся з месца... а мне... ну хоць запіску пакідай табе. Я думаў, што ты абавязкова вернешся, павінна вярнуцца...

Міцюраў гаварыў, не адпускаючы Рымінай рукі. І ёй таксама не хацелася адымаць руку. Нейкі час прайшлі моўчкі. Потым загаварыла Рыма:

— Я бачыла нашы ўзарваныя зямлянкі.

— Гэта Барыс Дзмітрыеў замініраваў дзве. Нас некалькі чалавек засела за чыгункай у хмызняку, каб прыкрыць адыход атрада. І раптам выбухі. Мы і зразумелі, што немцы трапілі ў пастку.

На студзеньскую блакаду 1943 года немцы вельмі спадзяваліся. Партызаны не давалі ім спакою ні днём, ні ноччу, і нямецкае камандаванне вырашыла пакласці гэтаму канец. Буйныя вайсковыя злучэнні, якія ішлі на ўсходні фронт, былі затрыманы і кінуты на барацьбу з партызанамі. Ім памагалі паліцаі.

Трэба было зберагчы атрад. Такі загад быў ад Сцяпана Сумчанкі, які, пакуль не было Каралёва, выконваў абавязкі камандзіра брыгады.

Усе дні блакады атрад Баразны хадзіў следам за ворагам. Немцы шнырылі па лесе, шукалі партызан у вёсках, а знайсці не маглі. Баявыя партызанскія групы часта з засад абстрэльвалі немцаў, а самі зноў хаваліся ў лесе.

Амаль два тыдні ішло паляванне на партызан. Яно паказала, што знішчыць партызан немагчыма. І ў сярэдзіне студзеня блакада была знята. Нямецкія часці адышлі.

Партызаны пачалі разбіваць новыя лагеры, будаваць зямлянкі. Атрады выраслі, да партызан далучыліся жыхары навакольных вёсак.

Дзяўчаты цяпер жылі разам, у адной прасторнай зямлянцы. Рыма, Ніна, Поля Баразна і іх равесніца — Надзя Суравец. Аднойчы ўсіх партызан выстраілі на ўзлеску, і камандзір атрада прачытаў загад, падпісаны сакратаром Асіповіцкага РК КПБ Вайцянковым, камандзірам брыгады генерал-маёрам Каралёвым і начальнікам штаба капітанам Няхаем. У загадзе было сказана: «...Выдатную, смелую і рашучую дзяўчыну, сапраўдную патрыётку Радзімы Кунько Рыму Уладзіміраўну стаўлю ў прыклад партызанам і партызанкам нашага злучэння. Ад імя службы аб'яўляю падзяку і хадайнічаю перад вышэйстаячымі органамі аб прадстаўленні тав. Кунько да ўрадавай узнагароды.

Каманднa-палітычнаму саставу ўсіх атрадаў у штодзённай рабоце, жыцці і быце выхоўваць сваіх падначаленых у духу пераймання подзвігу тав. Кунько Рымы Уладзіміраўны.

Загад аб'явіць усяму асабоваму саставу атрадаў».

Рыма слухала і вушам сваім не верыла. Яна не думала, што зрабіла подзвіг. Яна проста выканала свой абавязак, і ёй было крыху няёмка ад таго, што яе хвалілі. Адно толькі радавала Рыму: яна даказала, што ёй можна давяраць.

## 5

На «жалезку» сталі прасіцца ўсе. Мужчын, якія раней гаварылі: «гэта справа спецаў», цяпер нельга было стрымаць. Але не хапала ўзрыўчаткі. Яе паспрабавалі здабываць з артылерыйскіх снарадаў. І хутка навучыліся. Снарад ставілі ў бак з вадой, а бак — на вогнішча. Вада закіпала, тол у шклянцы снарада расплаўляўся, і яго вылівалі ў форму, зробленую ў зямлі.

Рыхтавалася да новага паходу і Рыма. Наплавіла сабе толу, схадзіла да Міцюрава за капсулямі. Алёша даў.

— Вазьмі, колькі табе трэба, толькі дай слова, што больш адна не пойдзеш.



Рыма засмяялася:

— Даю слова.

— Можа, пойдзеш са мной?

— Не ведаю. З кім пашлюць.

— Я пагавару з камандзірам, каб паслалі са мной.

— Не трэба гаварыць за мяне, я сама.

— Ну вось, усё сама ды сама,— пакрыўдзіўся Міцюраў.

Рыма не хацела, каб Міцюраў на яе крыўдзіўся.

— Разумееш, Алёша,— сказала яна,— нашы дзяўчаты таксама просяцца на «жалезку», а іх ніхто браць не хоча, не вераць ім, як ты мне раней не верыў. Вось я і думаю пайсці з імі.

— Яны не ўмеюць нават з толам абыходзіцца.

— Я іх навучу.

— Дык ты што, хочаш групу дзяўчат-падрыўніц стварыць?

— Пра групу я не думала. Проста хацела пайсці з імі. А наогул, можна і групу, гэта нават цікава.

Так нарадзілася думка стварыць групу дзяўчат-падрыўніц.

Дзяўчаты ўзрадаваліся Рымінай прапанове. Камандзір роты таксама згадзіўся. І Рыма ўзялася вучыць будучых падрыўніц. А вучыць трэба было многаму: як падпаўзаць да палатна чыгункі, як хутка выкапаць ямку для толу, як устаўляць капсуль. І ўсё гэта яны павінны былі рабіць з заплюшчанымі вачыма, навобмацак, быццам дзейнічаюць цёмнай ноччу.

Праз два дні дзяўчаты нецярпліва загаварылі:

— Ну, мы ўжо ведаем, можна ісці на «жалезку».

Але Рыма зноў і зноў трэніравала дзяўчат. Нарэшце пайшла да камандзіра ўзвода, каб той даў заданне. Доўга выбіралі месца, дзе павінен паляцець пад адхон варожы эшалон. Камандзір выбіраў так, каб было бліжэй да атрада. А Рыма пярэчыла:

— Ды мы ж маладыя, куды хочаце дабяромся.

Нарэшце маршрут удакладнены. Рыма вярнулася ў зямлянку.

— Дзяўчаты! — крыкнула яна яшчэ з парога.— Збірайцеся ў дарогу.

З-пад сваіх нар Рыма дастала мех, з якім хадзіла першы раз на «жалезку», пачала складваць у яго тол, шнур, капсулі, харчы.

— Надзявайце ўсё, што ў вас ёсць цёплае,— гаварыла Рыма.— Каб там не мерзлі, можа, давядзецца не адну ноч праляжаць у снезе, а гэта не печка... Асабліва ў ногі холадна, калі ляжыш.

Усё гатова, нічога не забыта. І яны, чацвёра, выйшлі з зямлянкі.

З-за хмары нясмела выглянула сонца. Выглянула і зноў схавалася.

Дзяўчаты ішлі на лыжах, спачатку дарогай, потым звярнулі на сцежку, потым пайшлі нацянькі. Уперадзе Рыма. Яна камандзір, яна ведае дарогу і адказвае не толькі за аперацыю, на якую яны ідуць, але і за жыццё сваіх сябровак.

Густы лес пачаў радзець. Неўзабаве выйшлі на ўзлесак, адкуль відаць была чыгунка. Удалечыні, як шпакоўня, тырчала вартавая вышка. Рыма выбрала месца, дзе, як і ў першы раз, непадалёк стаяў стажок сена. Пачакалі, пакуль сцямнее. Праляжалі ноч непадалёку ад палатна — цягніка не чуваць. На досвітку пайшоў мокры снег. Падышлі да стажка, забраліся ў сярэдзіну, сагрэліся і паснулі. У поўдзень выглянулі са сховішча — снег перастаў, але было сыра і холадна. Хацелася вылезці, але вартавыя з вышкі маглі іх заўважыць. Трэба было чакаць ночы.

Калі сцямнела, дзяўчаты зноў дабраліся да палатна.

Неўзабаве пачуўся далёкі грукат цягніка. Рыма і Ніна хуценька залажылі тол у ямку пад рэйкай, уставілі капсуль са шнурам. А гул

цягніка ўсё бліжэй і бліжэй. Дзяўчаты папаўзлі назад, потым падняліся і пабеглі. Калі цягнік быў блізка, упалі на зямлю. Поля і Надзя пацягнулі за шнур.

Разам з выбухам застрачылі кулямёты. Гэта стралялі з вартавой чыгуначнай вышкі.

— Ціха, не варушыцца! — шэптам скамандавала Рыма.

Калі страляніна сціхла, дзяўчаты папаўзлі да лесу. Потым падняліся на ўвесь рост.

Баявое заданне было выканана.

Камандаванне брыгады аб'явіла дзяўчатам падзяку. А яны, акрыленыя ўдачай, ірваліся зноў на «жалезку».

Адзін раз ім не пашанцавала. Рыма з Поляй хацелі падарваць эшалон на станцыі Татарка. Заклалі тол, сталі чакаць. Па палатне прайшлі два вартавыя. Падышоў дзяжурны немец з ліхтарыкам, заўважыў шнур, засвістаў.

— Трэба рваць,— прашаптала Рыма і тузанула за шнур.

Дзяўчат, якія ляжалі блізка ад чыгуначнага палатна, аглушыла выбуховай хваляй, і яны некалькі хвілін не маглі падняцца. Памагаючы адна адной, ледзь дабраліся да атрада.

## 6

Рыма часта думала пра Валодзю, пра маці, успамінала даўнія размовы:

— У нас бацькі няма,— казаў Валодзя,— але ўсё роўна мы павінны атрымаць адукацыю. Ты, Рыма, будзеш інжынерам.

Мама пярэчыла:

— Не, не. Толькі настаўніцай.

— Настаўніцай, і абавязкова літаратуры, — дадаваў Марк.

А Рыма не хацела нікога крыўдзіць.

— Я яшчэ не ведаю, кім буду,— гаварыла яна.— Я толькі адно цвёрда ведаю: буду вучыцца.

I цяпер у атрадзе кожную вольную хвіліну яна бярэ ў рукі кнігу. Перачытала ўсё, што знайшлося ў партызан, і не адзін раз. А потым пачала завучваць на памяць спачатку старонкі, потым цэлыя раздзелы з «Капітанскай дачкі» Пушкіна. Так раіў ёй Валодзя. «Лепшы сродак для трэніроўкі памяці»,— гаварыў ён. Рыме цяжка паверыць, што яна больш ніколі яго не ўбачыць. А мама? Ці сустрэнецца яна з ёю? Дзе яна цяпер, што робіць у гэтую хвіліну, калі Рыма думае пра яе? Ёй хацелася плакаць, на вочы набягалі слёзы. Але не! Рыма не заплача. Яна ўжо не маленькая. Яна не павінна плакаць! Яна — баец, народны мсціўца!

Рыма ішла да камандзіра ўзвода:

— Пашліце на заданне.

— Ты ж учора хадзіла, адпачні.

— Пашліце!

I яе пасылалі.

Каля вёскі Вялікая Гарожа немцы секлі лес. Яны баяліся лесу, што блізка падыходзіў да дарогі. Гарасім Патапейка, камандзір роты, папрасіўся ў разведку.

— Пагляджу, як яны з Асіпович у лес ідуць. Можа, зробім засаду,— сказаў ён.

Узяў двух партызан і пайшоў. Заляглі каля дарогі, замаскіраваліся. Развіднела. Па дарозе праехаў на кані паліцэйскі. Нікога не ўбачыўшы,



стрэліў уверх. Следам рушыў трактар праверыць, ці няма мін. За трактарам пацiху сунуліся восем грузавікоў з рабочымі, за імі дзесяць машын з салдатамі і ў адзінаццатай — адны афіцэры.

Цэлы дзень праляжалі разведчыкі ў канаве. Увечары, у прыцемках калона рушыла назад з лесу. Першым ішоў трактар, за ім немцы, потым рабочыя.

I вось на наступную ноч прыйшла сюды рота. Акапаліся каля дарогі. У Гарасіма Карпавіча быў кулямёт. Ён загадаў:

— Пакуль мой кулямёт не загаворыць — ніхто не страляе.

Сталі чакаць. На досвітку, як і той раз, паказаўся паліцэйскі. Нічога падазронага не заўважыўшы, стрэліў. Праехаў трактар — партызаны маўчалі. Праехалі машыны з рабочымі — зноў цішыня. Калі ж першая машына з немцамі наблізілася да партызан, застрачыў кулямёт камандзіра...

Рыма першая паднялася і крыкнула: «Уперад!». За ёй падняліся партызаны. На дарозе гарэлі машыны, у прыдарожных канавах ляжалі забітыя. Сем немцаў і пяць паліцаяў здаліся ў палон.

Дазор далажыў, што з Асіпович ідзе падмацаванне — немцы з мінамётамі. Пачулі бой і спяшаюцца на дапамогу. Камандзір загадаў адыходзіць. Абвешаныя трафеямі, партызаны падаліся ў лес.

У другі раз Рыма ўдзельнічала ў засадзе каля вёскі Вяззе. Калона нямецкіх машын ішла ад Ліпеня. Завязаўся бой. Партызаны падпалілі восем машын. Фашысты павыскоквалі і заляглі ў хмызняку ля самай дарогі. Паўтары гадзіны жменька партызан адважна стрымлівала калону. Ужо канчаліся патроны. I тут заціх кулямёт. Рыма падпаўзла да кулямётчыка. Ён быў паранены. Рыма лягла за кулямёт. Страляла кароткімі чэргамі, берагла патроны. З боем партызаны адышлі, забраўшы чатырох забітых таварышаў. За кожнага з іх заплацілі жыццём дзесяць фашыстаў.

У вёсцы Чучча Асіповіцкага раёна быў вялікі, добра ўзброены паліцэйскі гарнізон. Такі ж гарнізон быў і ў вёсцы Кассё. Астатнія гарнізоны ў бліжэйшых вёсках былі знішчаны.

Камандаванне партызанскай брыгады намерылася знішчыць і гэтыя гарнізоны. Яны знаходзіліся за кіламетраў дваццаць ад месца, дзе размяшчаўся атрад Баразны. Яму разам з атрадам былога разведчыка Дзмітрыя Падгайнага і было даручана разграміць гарнізон у вёсцы Чучча. Аперацыю назначылі на вялікдзень.

Першая рота, у якой была Рыма, мела дзве гарматы. Рота павінна была абстраляць гарнізон і знішчыць адзін дзот. Гарнізон абстралялі, а вось дзот снарады не бралі: пацэліць з гарматы ў амбразуру было не так проста. Рыма вырашыла знішчыць дзот. Узяла звязак толу, кавалак бікфордавага шнура і папаўзла да амбразуры збоку. Партызаны перасталі страляць, сачылі за ёй, чакалі.

Убачыў Рыму і Міцюраў. Рыма не ведала, што ў кожным баі, у якім яна ўдзельнічала, Алёша стараўся быць непадалёку, каб у выпадку чаго памагчы. Цяпер такі выпадак настаў.

— Страляць! — закрычаў ён.— Адцягнуць увагу! — і застрачыў са свайго аўтамата.

Пачалася страляніна.

Алёша надзеў на кіёк сваю шапку і выставіў яе над узгоркам, за якім ляжаў. Шапка ўпала, уся прастрэленая, кіёк быццам зрэзала нажом. А Рыма ўсё паўзла і паўзла да амбразуры. Вось ужо зусім блізка, ужо можна кідаць. А яна ўсё паўзе. Нарэшце спынілася, запаліла шнур. Тол разам з капсулем і запаленым шнурам паляцеў у амбразуру. Рыма кінулася назад. Пачуўся выбух.

Партызаны іншых узводаў і рот знішчылі астатнія дзоты, фарсіравалі равы, закідалі гранатамі памяшканне гарнізона.

7

Партызаны вырашылі адсвяткаваць Першае мая.

Замест святочных пірагоў напяклі абаранкаў. Гралі гармонікі. Танцавалі аж да самай раніцы. А раніцай на партызанскія пасты напалі паліцэйскія. На адным з пастоў стаяў Васіль Баразна. Заўважыўшы паліцэйскіх, ён пачаў страляць. Перастрэлку пачулі ў атрадзе, забілі трывогу. Апаратыўная група аўтаматчыкаў кінулася на дапамогу.

На світанні атрад зняўся з месца. Прыкрываць яго адыход пакінулі ўзвод — 25 чалавек. У гэтым узводзе была і Рыма. Гадзіны праз трычатыры ўзвод павінен быў дагнаць атрад, які рушыў у Бярэзінскія лясы.

Узвод адбіваў атаку за атакай. Бесперапынна сакаталі два ручныя партызанскія кулямёты, страчылі аўтаматы. Узвод адцяснілі на ўзлессе. Становішча было цяжкое.

Калі сцямнела, змоўклі стрэлы. Немцы баяліся ваяваць ноччу.

Рыма з аўтаматам ляжала недалёка ад камандзіра ўзвода Івана Раманенкі. Падпаўзла да яго.

— Трэба прабівацца з боем,— сказала яна.

— Акапаемся і будзем адбівацца да апошняга патрона,— адказаў камандзір.

— Нас абкружаць. Трэба пайсці ў атаку цяпер, ноччу, і прабіцца.

— Людзі за дзень станіліся, а там рэгулярныя часці.

— Але ж хіба можна чакаць... вернай гібелі? Загад мы выканалі,— гаварыла Рыма,— атрад адышоў, немцам яго не дагнаць. Можа, усё ж рызыкнём?

— Трэба параіцца.

Камандзір папоўз да партызан. Пагаварыў з кожным. Палова была за начны бой, за атаку.

— Ну што ж, я згодзен,— сказаў камандзір Рыме.— Ты павядзеш групу на прарыў, а я астануся з хлопцамі тут. Дай бог, каб вам пашанцавала. Калі што, прыкрыем вас.

— Не, я так не магу. Калі ісці, дык усім разам.

— А я табе загадваю! Я ведаю, што раблю.

І група пайшла ў начную цемру...

... Атрад Рыгора Баразны, прабраўшыся ў бяспечнае месца, спыніўся на адпачынак. Расставілі вартавых, чакалі, можа, падыдуць пакінутыя ў засадзе таварышы. Але іх не было. Звечарэла, настала ноч. Атрад рушыў далей.

У Бярэзінскіх лясах партызаны сустрэліся з брыгадай Ліўенцава.

Там ужо ведалі пра блакаду.

— Многа народу страціў?—спытаў у Рыгора Нічыпаравіча Ліўенцаў.

Баразна махнуў рукой.

— Узвод,— сказаў ён.— І Рыму.

Рыму ўжо ведалі не толькі ва ўсіх атрадах брыгады Каралёва, але і ў другіх брыгадах. Пра яе смеласць пісалі ў раённай падпольнай газеце, пісалі ў рукапісных партызанскіх газетах, лістоўках, расказвалі на прывалах. І вестка пра яе гібель хутка абляцела партызан.

... Праз два дні прыйшла Рыма, а з ёю восем чалавек. Гэта ўсё, што засталося ад узвода.

Партызаны Ліўенцава абкружылі іх, з цікаўнасцю разглядаючы



Рыму. У мужчынскіх штанах і гімнасцёрцы, з аўтаматам, яна была падобна больш на хлопчыка-падлетка, чым на дзяўчыну. Толькі дзве цёмныя касы, што ляжалі на спіне, выдавалі яе. Убачыўшы, што яе разглядаюць, Рыма нахмурыла бровы і сказала:

— Накарміце людзей.

А сама пайшла ў зямлянку да Баразны, расказаць аб тым, што здарылася.

8

Марк прыходзіў рэдка, затое амаль кожны дзень Рыме расказвалі пра яго якую-небудзь новую выдумку. То ён з групай партызан, пераапрануўшыся ў жаночае адзенне, удзень прабраўся ў Лізень, дзе стаяў батальён гітлераўцаў, і многіх пастраляў, а многім задаў такога страху, што яны доўга не маглі апамятацца; то падарваў лесапільны завод; то, стаіўшыся дзе-небудзь, трапным стрэлам забіў нямецкага афіцэра.

Але Рыме пра свае прыгоды Марк нічога не гаварыў, лічыў іх звычайнымі. Пры сустрэчы ён быў маўклівы, задуменны і, адыходзячы, пакідаў Рыме то гранату, то кучку трафейных патронаў. Аднойчы сказаў Рыме, што з задання не вярнуўся Валодзя Сакольчык. Дзе ён, што з ім— невядома.

У той дзень, калі прыходзіў Марк, гаспадарчую роту паслалі рваць шчаўе. Рыма з Нінай таксама пайшлі.

На залітым сонцам поплаве было ціха, толькі ледзь чутна бруілася вада ў рачулцы ды стракаталі конікі ў высокай траве. Жанчыны разбрыліся па лузе. Быццам і вайны няма. Рыма з Нінай падышлі да ракі. На тым баку, за жытнёвым полем, відна была вёска.

— Можа сходзім, паглядзім, што там робіцца? — сказала Ніна.

Рыма падумала: «Ці не туды пайшоў у разведку Валодзя Сакольчык? Партызанам туды паказвацца нельга, а яны ж дзяўчаты, без зброі, на іх увагі не звернуць».

— Пойдзем! —сказала Рыма.

— Я плаваць не ўмею,— прызналася Ніна.

На тым баку рэчкі да берага быў прывязаны маленькі плыток.

— Я зараз,— сказала Рыма і ўвайшла ў ваду.

Яна пераплыла рэчку, адвязала плыток і прыгнала да Ніны. На плыце яны перабраліся цераз рэчку.

— Цётачка, ці многа ў вас у вёсцы немцаў? — спытала Рыма ў крайняй хаце.

— Няма, дзеткі, але ж могуць наехаць. Кожную хвіліну могуць прыехаць. Уцякайце, а то будзе бяда. Баюся я.

Рыма забегла ў другую хату. Там яна дазналася пра ўсё.

Пераплываючы рэчку, Валодзя Сакольчык замачыў аўтамат. Схаваўшыся ў жыце, разабраў яго, каб працерці. Тут на яго і наваліліся паліцаі.

— Ой і здаровы хлопец быў, але што ж, калі без зброі... Уцякайце, дзяўчаты, а то і вас зловяць.

Вярнуўшыся ў атрад, Рыма і Ніна расказалі пра тое, што пачулі ў вёсцы. Выслухаўшы кароткі расказ дзяўчат, камандзір загадаў пасадзіць іх на гаўптвахту за самавольную адлучку.

— Але ж мы дазналіся пра лёс таварыша! — даводзіла Рыма.

— Не разважаць! На гаўптвахту!

Дзяўчат замкнулі ў лазні. Яны сабралі ў адно месца раскіданыя ве-

нікі, падмялі падлогу. Лазня была падобна на ўкраінскую мазанку, толькі не пабеленую.

Выпусцілі дзяўчат назаўтра. У камандзіра ўзвода Рыма папрасіла дазволу схадзіць у свой былы атрад, каб пабачыць Марка і Палагею Аляксандраўну. Яна і раней некалькі разоў хадзіла туды, заходзіла ў зямлянку, садзілася на свае нары. У зямлянцы ўсё, як раней. Толькі стол не быў накрыты газетай: яе скурылі. Паперы, як і махоркі, не хапала. Аднойчы ў час блакады немцы скінулі ў лес лістоўкі, прапанавалі партызанам здацца. Нейкі час курылі гэтыя лістоўкі, загортваючы ў іх сухое дубовае лісце. А потым і іх не стала. Адзін раз Рыме ў рукі трапіў загад, падпісаны Лютарам, дзе за галовы Рымы і Марка абяцалася вялікая ўзнагарода. Гэты загад Рыма доўга хавала, а потым і яго аддала курцам.

Пасля гібелі сына Палагея Аляксандраўна рэдка бывала ў зямлянцы, увесь час на кухні. Тут і застала яе Рыма. Палагея Аляксандраўна чысціла грыбы, збіралася варыць суп. Рыма ўзяла ножык, каб памагчы.

— Не трэба, я сама,— голас у Палагеі Аляксандраўны стаў ціхі, слабы.

— Чаму? Удваіх хутчэй.

— Спяшацца няма куды. Паспею.

— Цётачка,— нарэшце сказала Рыма,— я прыйшла сказаць вам, што скончыцца вайна, і вы будзеце жыць з намі.

Палагея Аляксандраўна доўга маўчала.

— Дзякую,— сказала яна нарэшце,— дзякую, дзіцятка, што не забыла пра мяне. Я ўжо як-небудзь сама...

— А мне, памятаеце, казалі, што чалавек не можа быць адзін.

— Нашто я вам, старая?..

— Што вы! Хіба так можна? У нас будзе адна сям'я. Мы з Маркам будзем вучыцца, а вы ў нас гаспадарыць... А калі мама жывая, яна прыедзе, і мы будзем жыць усе разам, дружна, як жылі да вайны.

У зямлянку заглянуў Марк. Цяпер ён заходзіў да Палагеі Аляксандраўны кожны дзень, у яго заўсёды знаходзілася якая-небудзь пільная справа.

— Палагея Аляксандраўна, глядзіце, які я вам зэдлік зрабіў,— сказаў ён, уваходзячы ў кухню.

— Дзякуй, за ўсё дзякуй.

Марк падсеў да Рымы.

— Што ты там натварыла?

— Нічога, проста так.

— За «нічога» — гаўптвахта?

— Бывае...

У зямлянку ўвайшлі дзве дзяўчынкі, памочніцы Палагеі Аляксандраўны. Яны прынеслі два вядры бульбы. Дзяўчынкі з цікаўнасцю сталі глядзець на Рыму. Рыма не любіла, калі яе разглядалі.

— Ну, я пайду, а то мне нельга пазніцца.

Яна падышла да Палагеі Аляксандраўны, пацалавала яе ў шчаку, сказала ўсім:

— Да пабачэння,— і выйшла з зямлянкі.

Марк пайшоў следам, праводзіць яе.

Праз некалькі дзён Рыма з Васілём Патапейкам пайшла на «жалезку». Ноччу падпаўзлі да палатна. Ужо чуваць было цяжкае дыханне цягніка, як раптам грымнуў выбух. Яны нарваліся на нямецкую міну.

Рыма ўзваліла на плечы Васіля і папаўзла па мокрай траве між высокіх свежых пнёў. Восем кіламетраў цягнула Рыма таварыша, пакуль не павалілася ў знямозе. Падабралі іх партызаны суседняга атрада.



Абодвух адправілі ў шпіталь. Васіль Патапейка быў ранены ў нагу, у Рымы — перабіта сківаца. У шпіталі яе часта наведвала Палагея Аляксандраўна.

— Цяпер навваявалася, хопіць, вярніся ў наш атрад,— гаварыла яна, з жалем пазіраючы на Рымін перабінтаваны твар.

— Не, цётачка, я яшчэ зраблю што-небудзь вялікае, добрае. Вось пабачыце, зраблю.

Марк прынёс Рыме падпольную газету «За Савецкую Радзіму».

— Пачытай.

А сам прысеў побач на край ложка.

Рыма ўзяла ў рукі газету. На першай старонцы зверху вялікімі літарамі было напісана: «Сёння XXV год ВЛКСМ», ніжэй быў артыкул «Біць ворага да поўнага знішчэння».

Рыма пачала чытаць артыкул.

...«Усім вядомы імёны камсамольцаў-дыверсантаў Барыса Д., які падарваў 13 эшалонаў, Рымы К.— простай дзяўчыны, школьніцы да вайны, якая ўзарвала 6 эшалонаў, Андрэя Б., які мае на сваім рахунку 7 узарваных эшалонаў, і многіх іншых...

Маладыя партызаны ўсімі сіламі памагаюць наступаючай Чырвонай Арміі, знішчаюць ненавісных гітлераўцаў. Наш лозунг: «Біць ворага да поўнага знішчэння!»

Юнакі і дзяўчаты раёна! Паможам наступаючай Чырвонай Арміі наблізіць час нашага вызвалення!

Слава бясстрашным камсамольцам — барацьбітам з фашызмам!

Сакратар Асіповіцкага падпольнага РК ЛКСМБ П-ць».

Рыма не стала чакаць, пакуль яе выпішуць са шпіталю, і з забінтаванай галавой прыйшла ў атрад.

Немцы адступалі на ўсіх франтах. Была вызвалена частка Беларусі. Пад Гомелем стаялі часці Чырвонай Арміі.

23 лютага 1944 года са штаба брыгады прыбыў ганец, перадаў камандзіру атрада загад: адкамандзіраваць у распараджэнне камбрыга ўзвод самых баявых партызан. Пайшлі Барыс Дзмітрыеў, палітрук Трубіцын, Алёша Міцюраў і яшчэ пятнаццаць адважных, вынослівых, вопытных. Ноччу фарсіравалі раку каля вёскі Каменічы і наткнуліся на засаду немцаў. З атрада спяшаліся ім на выручку. Немцаў адбілі. Але не далічыліся васьмі партызан. Загінулі Трубіцын, Герой Савецкага Саюза Барыс Дзмітрыеў. Цяжка паранілі Алёшу Міцюрава.

Ён ляжаў у шпіталі. Кожны дзень Рыма хадзіла па мёрзлым балоце, а вечарам прыносіла Алёшу журавінавы сок.

Алёша ўвесь быў на ранах, з якіх не павыходзілі асколкі. Жартаваў:

— Цяпер я браніраваны.

Неўзабаве яго забралі ў брыгадны шпіталь, каб дастаць з ран асколкі. Алёша памёр у час аперацыі. Яго сябар Сцяпан Нядзелька, разбіраючы рэчы Міцюрава, знайшоў схаваны тоўсты сшытак у скураным пераплёце. Сшытак быў увесь спісаны Алёшавым почыркам. Сцяпан здолеў разабраць толькі адно слова: «Рыма... Рыма... Рыма...» Алёша пісаў пра незвычайную дзяўчыну, якую кахаў. Пісаў, хаваючыся ад сяброў, паанглійску, каб хто выпадкова не прачытаў.

## 9

У канцы чэрвеня пачалося наступленне Савецкай Арміі на Бабруйскім напрамку. Гітлераўскія ваякі апынуліся ў «катле». Салдаты сотнямі здаваліся ў палон.

Лес цяпер гудзеў. Тут праходзіў фронт. І як ні спяшаліся гітлераўцы будаваць лініі абароны, яны не маглі стрымаць націск Савецкай Арміі.

У Асіповічах ужо былі нашы рэгулярныя часці. У атрад прыйшоў загад: не кратацца з месца, пакуль не будзе цалкам ліквідаваны бабруйскі «кацёл».

Рыма ноччу пайшла да Марка. Хацелася пабыць з братам, пагаварыць. Па дарозе яны сустрэліся: Марк ішоў да яе. Яны селі ў ельніку і прасядзелі аж да раніцы. Гаварылі аб тым, што будзе, калі скончыцца вайна, а скончыцца яна хутка. Яны абодва будуць вучыцца. А цяпер, калі вернецца мама, Марк пойдзе на фронт. Рыма астанецца з мамай і Палагеяй Аляксандраўнай. Калі мама не вернецца — абодва пойдуць на фронт дабіваць ворага.

Рассталіся на досвітку. А днём Марк на кані зноў прыехаў да Рымы. Пайшлі на паляну недалёка ад лагера.

— Хутка дачакаемся перамогі, — гаварыла Рыма. — Толькі мала я зрабіла для гэтага.

— Што ты... — запярэчыў Марк. — Ты зрабіла многа. Я падлічыў: падарвала восем эшалонаў, сем мастоў, удзельнічала ў пятнаццаці засадах. А кажаш — мала!

Рыма дастала з кішэні жакеціка фотаздымкі і пачала разглядаць. Фота былі даваенныя, да іх прыбавілася некалькі здымкаў, зробленых у атрадзе.

— Давай падзелім,— папрасіў Марк.

Рыма аддала палавіну фатаграфій Марку, астатнія схавала.

— Бывай, Рыма,— сказаў Марк,— мне час ехаць.

Ён ускочыў на каня. Рыма доўга ішла моўчкі побач. Потым спынілася. Марк памахаў ёй рукой. Даехаў да прасекі, азірнуўся, Рыма стаяла і глядзела яму ўслед.

Праз гадзіну камандзір атрада Рыгор Нічыпаравіч Баразна аддаў загад ісці на Асіповічы, на злучэнне з рэгулярнымі войскамі.

Усё даўно было сабрана, і атрад, выстраіўшыся ў калону, рушыў. Ішлі полем. Часам Рыма заўважала, што жыта неяк падазрона хістаецца. Яна кідалася туды з аўтаматам і выводзіла немца з паднятымі ўгору рукамі. Пакуль дайшлі да Ліпеня, яна сабрала вялікую групу, і Гарасім Карпавіч адкамандзіраваў яе ў вёску здаць палонных. Рыма завяла іх у школу, дзе стаяў ужо наш армейскі гарнізон, забегла дамоў.

Маленькі домік быў цэлы: дах, сцены, вокны з выбітымі шыбамі. Паміж дошак на ганку расла трава, дзверы скрыпелі на адной завесе.

Рыма праціснулася ў дзверы і спынілася. Дом быў пусты. Са сцен звісалі абарваныя шпалеры. На падлозе валяліся шматкі паперы, бітая цэгла і кавалкі тынку.

У Рымы балюча сціснулася сэрца. У гэтым доме прайшло яе дзяцінства, тут яна марыла аб вялікім жыцці і адсюль яна пайшла ў жыццё па дарозе, якую сама выбрала.

Рыма павярнулася і выйшла. Бярозка ля дома была павалена, мусіць, зрэзала асколкам.

Рыма пагладзіла гладкі ствол бярозкі, прыціснулася да яго шчакой і пайшла даганяць калону.

Калона падыходзіла да шашы. Ярка свяціла сонца, разліваючы навокал святло і радасць. Хацелася хутчэй ісці, хутчэй убачыць родныя твары.

З-за павароту паказалася калона машын. Партызаны падышлі да абочыны дарогі і толькі тут убачылі, што на машынах немцы. Пачалася перастрэлка. Партызаны павярнулі да лесу: уступаць у няроўны бой не было сэнсу.

— Першы ўзвод, прыкрыць адступленне атрада!

Рыма і шэсць партызан залеглі ля абочыны.

Бой быў нядоўгі. Дзве машыны гітлераўцаў прастрачыла Рыма са свайго аўтамата. Калі скончыліся патроны, яна выстраліла з пісталета ў афіцэра. Другі афіцэр перакаціўся цераз канаву і кінуўся ў хмызняк.

— Уперад! — закрычала Рыма, кідаючыся за ім і раптам упала на дарогу.

Атрад адступіў. Група, што прыкрывала адступленне, таксама падалася ў лес.

А Рыма асталася на дарозе. Міма яе праносіліся нямецкія машыны. На захад, на захад... Вецер варушыў на яе ілбе пасму валасоў, быццам хацеў прыкрыць імі маленькую, зусім маленькую, але смяротную ранку...

## ЭПІЛОГ

Я сустракалася з многімі героямі гэтай аповесці.

Вера Маркаўна Кунько па-ранейшаму жыве ў Ліпені. Заслужаная настаўніца рэспублікі, яна цяпер персанальная пенсіянерка. Яе мужа Уладзіміра Данілавіча рэабілітавалі. Марк пасля вайны скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, стаў выкладчыкам гісторыі. Пасля працаваў старшынёй суседняга з Ліпенем калгаса «Чырвоны Кастрычнік». Да ваенных узнагарод у яго прыбавілася і мірная — ордэн Леніна.

Жывуць яны ў доме, пабудаваным пасля вайны, па суседству з Палагеяй Аляксандраўнай Сакольчык. Па-ранейшаму яна самы блізкі для іх чалавек.

Вучні шануюць памяць Рымы. Пасля вайны яны пасадзілі алею дрэў і назвалі яе алеяй Рымы.

Не зарасла сцежка і да Рымінай магілы. Тут, ля помніка, на якім напісаны Рыміны словы: «Каб выйсці на справу вялікую, трэба гэтага толькі жадаць», праводзяцца ўрачыстыя зборы атрада. Лепшых вучняў прымаюць у піянеры, і тут, ля магілы, яны клянуцца быць такімі, як Рыма.

У Асіповічах жыве Ніна Баразна. Яна замужам, у яе двое дзяцей: хлопчык і дзяўчынка, маленькая Рымачка.

Пайшоў на заслужаны адпачынак і былы камісар атрада Голант. Ён жыве ў Асіповічах на вуліцы, якая носіць імя Сумчанкі, былога намесніка камандзіра злучэння асіповіцкіх партызан. У Бабруйску жыве і працуе былы камандзір Рымінай роты Г. К. Патапейка.

Усе, з кім мне давялося сустрэцца, з вялікай цеплынёй успаміналі і гаварылі пра Рыму, называлі яе героем, патрыёткай, шчырай душы чалавекам...





**Мікола КУПРЭЕЎ**

# КАЛІ ХОЧАШ НАВЕДАЦЬ МОЙ КРАЙ



часце тут не міне
Ні цябе, ні мяне.
Прыязджай.
Прыязджай!
З-за бярэзніку выйдзе насустрач табе
курган-каравай,
а потым,
адразу,
як мора,
пойдзе к табе
гэты дзіўны ўвесь край,
з белым цветам бульбяным,
з мядоваю грэчкаю,
з сонечнымі палянамі,
з чыстымі рэчкамі.
А світальныя росы і неба над імі —
як чэшскі крышталь.
Снамі плыве залатымі, зямнымі
зачараваная даль.
У кожнай хаце
будзе покут табе багаты.
Накормяць, напояць і наспяваюць
прыветлівыя дзяўчаты.
Прыязджай!
Толькі хачу папярэдзіць:
ад бруду,
калі ён ёсць,
шчэ здаля
ногі свае выцірай,
рукі свае выцірай,
сэрца сваё выцірай —
калі хочаш наведаць
мой родны
зялёна-блакітны край.

★



едзе далёка —
атамныя выпрабаванні...
А тут, на Палессі,
над раздоллем духмяных траў
выспявалі такія прыгожыя ранні,
такія блакітныя ціхія ранні, —
і дуб,
як юнак прад вачыма любові,
маўчаў,
зачараваны сінім спакоем,
свежай зямлі медастоем,
зялёным лясным прыбоем,
бярозавай чысцінёю,
русакосаю, юнай табою,
у сукенцы-званочку табою —
нявестай маёю.
І я прад вачыма
вечнай зямное любові
цвёрда на роднай зямлі стаяў,
шукаў у сэрцы пяшчотныя ціхія словы,
ды словы закляцця
сказаў:
— Каб атамныя выпрабаванні
не дыхалі смерцю
на ціхія ранні!

★



ады ж палюбіў я і вуліцы тыя,
па якіх ты праходзіла ў маі,
і бэз на світанні ў расе,
што ламаў я табе за горадам,
і ліпеньскі той надвячорак —
ты глядзела, як ён дагарае
недзе за Бугам,
і тую ноч, калі косы твае
былі раптам асыпаны зорным золатам.

Праклінаў і любіў цягнікі,
што імчалі цябе да Начанкі, дадому.

І захацелася кратаць бярозы твае,
у лугах твае кветкі і травы,
пачуць твае лёгкія крокі.
І, як звар'яцелы, ляцеў я к небу твайму,
як хлопчык з бацькоўскага дому
ў рамантыку мораў сіне-далёкіх.

А ля Начанкі так пахла рутай.
І стала зямля тая сватам і сваццяй.
Хацеў свет абняць, калі людзі казалі:
«Маладая і малады...»
Не даравaў бы жыццю ніколі,
каб яно не дало мне з табою спаткацца,
каб на свет гэты цёплы
не нарадзілася ты!





Леанід ГАЎРЫЛКІН

# У ДАРОЗЕ

## Апавяданне

Мал. У. Долгава.

Да цягніка застаецца больш за гадзіну. І я не спяшаюся. Павольна іду па вуліцы і дыхаю асеннім свежым паветрам. Здаецца, адчуваю яго смак. Ён, як студзёная крынічная вада ў летні спякотны дзень. Ці можа гэта так здаецца пасля гарачыні заводскага цэха.

Пад нагамі шамаціць пажоўклае лісце. Яго многа наштампавала восень, накідала на зямлю, развесіла на дрэвах, і яно вісіць — залатое, яснае, чыстае.

Сёння, як ніколі, мне чамусьці падабаецца горад — нібы бачу яго ўпершыню. Хаця і добра ведаю, што не ўпершыню, бо сем гадоў працую тут і паспеў прывыкнуць, як да роднае хаты.

Але сёння...

Я раптам заўважаю, што дом насупраць нашага завода — чыстага блакітнага колеру. На балконах падвешаны драўляныя скрынкі. У іх красуюць чырвоныя кветкі.

І ўся вуліца, шырокая і прамая, як напятая струна, здаецца мне нейкай абноўленай і святочнай. А колькі колераў! Увесь горад сатканы з колераў — і ўсе яны, светлыя і чыстыя, нібы вымытыя вераснёўскімі росамі, лашчаць вока сваёй пяшчотай, радуюць сэрца.

У скверы паўз дарожку стаяць блакітныя доўгія лаўкі. На іх добра пасядзець спякотным днём пад раскідзістымі, густалістымі канадскімі клёнамі.

Ля ўваходу ў сквер цэлае лета прадавалі газіраваную ваду. Яе разлівала ў шклянкі маладзенькая чорненькая дзяўчынка. Яна ўсім усміхалася, бо была маладая і прыгожая, і на яе заглядваліся хлопцы. Кожны думаў, што яна ўсміхаецца яму. І я думаў так, і заўсёды піў у яе ваду.

Вада шумлівая, халодная, салодкая...

А вось глядзяць на мяне і клічуць да сябе шырачэзныя, як неба, вокны ўнівермага. Заходзь, купляй што трэба. Грошай няма? Калі ласка, у растэрміноўку. Толькі трэба гарадская прапіска.

Усё так, як і раней, як заўсёды. Але я толькі сёння думаю пра ўсё гэта.

Думаю і сумую...

У гастраноме я купляю селядцы, кілаграм манкі, хлеб,— усё, што прасіла жонка,— і пачастунак дачцы. Хаця, калі я прыеду, яна будзе спаць. Я пакладу гасцінец пад падушку. А раніцай, калі мяне зноў не будзе дома, яна знойдзе пачастунак, і маці ёй скажа, што яго прывёз я, але яна не паверыць і будзе думаць, што прысніла яго ноччу...

Я ўяўляю яе радасць і яе звонкі смех. Смех, пра які я больш толькі здагадваюся, бо чую яго раз на тыдзень.

Ля вакзала мяне сустракаюць аднавяскоўцы — Васька Таран і Пятро Абуховіч. Абуховіча яшчэ завуць і Макухай. Да Васіля ж ні адна мянушка не прыстала, і яго ўсе завуць проста Васькам.

Васіль працуе ліцейшчыкам. Ён ходзіць у кірзавых ботах, ссохлых, паношаных да бляску, і ў грубых штанах нейкага няпэўнага колеру. І картовы яго пінжачок — пакамечаны, палінялы, аж белы на плячах, са скручанымі ў трубку лацканамі. Сарочка ў Васіля стракатая, у чырвоную і жоўтую клетку.

Васілёў твар, поўны і круглы, як футбольны мяч, чырвоны. На ім заўсёды гуллівая, нейкая бесклапотная ўсмешка. Але сам Васіль, я ведаю, сур'ёзны і разважлівы чалавек. І тое, што ён любіць «замачыць» аванс і палучку, яшчэ нічога не даказвае. Тым больш, што п'е ён нямнога. Я і то іншы раз больш вазьму, асабліва, калі бачу, што ёсць чым закусіць.

Пятро Абуховіч, ці Макуха, таксама нядрэнны хлопец. Толькі скнарысты вельмі ўжо. Можа гэта і ад прафесіі: працуе ён у магазіне «Мяса — Малако» прадаўцом. Разважыўшы, дык ён павінен быць адкормлены і тлусты, як тыя рулеты, што прадае. А ён тонкі, нягеглы, бледны, як ліверная каўбаса. Можа яго і празвалі Макухай, што ён такі худы.

У Макухі толькі вочы прыгожыя — любая дзяўчына пазайздросціць. Вялікія, цёмныя, яны і робяць прывабным яго схуднелы твар.

Калі я падыходжу да хлопцаў, Васька падміргвае мне з-пад навіслых пшанічных броваў і гаворыць... Тое, што ён гаворыць, не навіна. Гэта яго любімы канёк.

— Эх, і скупярдзяй наш Макуха... Дваццаць дзве капейкі шкадуе, не хоча пачаставаць півам. Няхай бы ўжо два рублі дваццаць, як раней было. А то... дробязны чалавек...

Мы п'ём піва — кожны за свае грошы. Толькі Макуха просіць не бакал, а шклянку, як школьніца якая. Пасля колькі часу мы ля кніжнага кіёска разглядаем часопісы, купляем па газеце і ідзём на пасадку. Каторы ўжо год запар мы ездзім у адным і тым жа вагоне — у трэцім






ад паравоза. І не таму, што гэты вагон нейкі асаблівы. Не. Ён бывае ўсялякі, які прычэпяць. Для нас абы трэці. Гэта адрас кожнага з нас у дарозе. А адрас павінен быць пастаянны.

У вагоне пуста, цяжка пахне нявыветранай фарбай. На лаўках спіць некалькі чалавек, загарадзіўшы нагамі праход. Мы сігаем цераз іх ногі — хай рабацягі хоць трошкі паспяць — і ідзём на незанятую лаўку. На ёй сядзіць малады хлопец з вялікай чупрынай, у белай сарочцы, пад гальштукам — прыбраны, як жаніх.

Мы яшчэ здалёк пазнаём яго. Гэта таксама наш аднавясковец Міхась Самасей. Але з ім мы так не сябруем, як паміж сабой, бо ён маладзейшы за нас. Нядаўна яшчэ толькі прыйшоў з арміі, а пайшоў на службу, калі мы ўжо вярнуліся з яе і паспелі абрасці сем'ямі. Так што нам не было калі і сябраваць з ім. Але мы ўсё ведаем пра Міхася, як ведаюць у вёсцы пра кожнага чалавека.

Пасля арміі Міхась прыстроіўся на работу ў горадзе, пасяліўся ў сваёй цёткі ці дзядзькі — і да маці ў вёску прыязджаў на адпачынак ды тады, калі старая загнятала парсючка.

Шчыра прызнацца, я крыху недалюбліваў Міхася. Ён быў не тое каб вельмі ўпэўнены ў сабе, а нейкі ганарлівы. І каб было яшчэ чым ганарыцца, а то такі ж чалавек, як і я. Праўда, яго партрэт на гарадской дошцы перадавікоў спаборніцтва, але ж гэта яшчэ не падстава задзіраць нос.

— Ну што, салагі, у ачко...— Васіль дастае замусоленыя карты, падміргвае мне. Я ведаю, што ён ніколі не гуляе ў ачко, не любіць гэтую гульню, а калі так і гаворыць, дык толькі каб зачапіць Макуху.

— На грошы? Не, не, я не буду,— адмаўляецца Макуха.

Мы, задаволеныя, смяёмся.

Гуляем у дурня.

Міхась спачатку не згаджаўся гуляць. І толькі тады, калі Васіль разззлаваўся і сказаў яму, каб не выломваўся, як тая паненка, ён узяў карты — за кампанію, маўляў, і цыган павесіўся. Але гуляў вельмі неахвотна і пасля першага ж разу зусім адмовіўся.

— Што ты, мыла наеўся? — не сцярпеў Васіль.
— Жонка збегла. — Міхась сказаў гэта з такой шчырай роспаччу, так нечакана, што ўсе мы аж зайшліся ад рогату. Але Міхась толькі сумна ўсміхнуўся, потым уздыхнуў — не стрываў. Я думаў, што ён возьме ды і раскажа, што ў яго там дома нарабілася, але хлопец маўчаў, толькі глядзеў нечага ў акно.
— Пашанцавала чалавеку, — хмыкнуў Макуха. — Каб і мне хоць месяц халасцяком пабыць...
— Не патаўсцеў бы ўсё адно,— сказаў Васіль. Ён ніколі і нікому, асабліва Макусе, не дараваў легкадумнасці.
Неўпрыкмет у вагон найшло многа пасажыраў — ужо не было дзе і сесці, стаялі на праходзе.
Якраз ля Васіля стаяла мажная жанчына з залатымі завушніцамі, у габардзінавым паліто. Яна даволі красамоўна паглядзела на Васіля, а потым, пераканаўшыся, што позіркамі яго не праймеш, з'едліва так запыталася:
— Вы што-небудзь чулі пра ветлівасць, малады чалавек?
Васіль адводзіць позірк ад газеты і, прыжмурыўшыся, доўга разглядае жанчыну.
— У вас элементарная ветлівасць ёсць? — жанчына ледзь стрымлівае сябе.
— А з чым яе ядуць? — з самым сур'ёзным выглядам пытаецца Васіль.
— І калі ўжо людзі навучацца культуры? — сцінае вусны жанчына і адыходзіць далей.
— Бач, пра ветлівасць пытаецца!..— ужо да нас кажа Васіль.— Я трынаццаць год езджу і мне ніхто месца не саступіў. Калі сам не зоймеш...
Цягнік крануўся з месца.
Колы ўсё часцей і часцей пагрукваюць на стыках, за акном калышуцца тэлеграфныя слупы, плывуць правады.
Галасы пасажыраў амаль не чуваць. Стаіць аднастайны гул.
Звычайна ў такія хвіліны я прыхінаюся плячмі да лаўкі і драмаў, а то і спаў да самага прыпынку. А сёння не магу.
За спіной у мяне гучыць тоненькі, як той камарыны піск, голас. Ён расказвае пра новае паліто, пра фасоны, пра нейкія чэхаславацкія чаравікі на каўчуку. Азіраюся — дзяўчына гадоў з дваццаць, а можа і маладзейшая. Прыгожанькая, як намаляваная. Побач з ёй лётчык-маёр. Ён адзіны яе слухач. Твар у лётчыка задумёны і, здаецца, сумны.
А вось дзве дзяўчынкі ў ватоўках і цёплых хустачках ядуць батоны з кавуном. І цяжка сказаць, што чырваней: ці кавун, ці шчокі ў дзяўчат.
Яшчэ далей ад мяне сядзяць двое дзецюкоў. Адзін непаголены, з худым тварам і маленькімі калючымі вочкамі. Другі — маладзенькі, акуратны, расказвае:
— Налівае шклянку, я п'ю... Налівае другую — п'ю. А трэцюю баіцца. А я кажу — налівай...
Непаголены дзяцюк задаволена ўсміхаецца.
А вунь там маладзенькая студэнтка ў сінім просценькім плашчыку, у белым бярэціку. Яна заўсёды тут з кніжкай. Неяк я да яе падсеў і хацеў завесці гаворку, дык ані-блізка — такая ўжо сур'ёзная. Ці лёгка ёй будзе ў жыцці?
Каго толькі не сустрэнеш у вагоне! І гэта за якія сорак кіламетраў...



— Паўзе цягнік, як чарапаха,— кажа раптам Міхась Самасей. Ён паглядае на гадзіннік і ўздыхае.
— Слухай, у цябе, праўда, жыццё не клеіцца? — цікаўлюся я. Мне не верыцца, каб у Міхася з жонкай былі нелады. Бачыў іх неяк у вагоне: сядзелі і нікога не заўважалі, усё не маглі нацешыцца адно адным. Здавалася, і тысячы гадоў ім будзе мала для кахання.
— Сам не разумею, што здарылася, — паціснуў плячыма Міхась. — Ліля, жонка мая, і дзяўчына ж разумная. Праўда, расла ў лепшых умовах, чым мы,— нястач не ведала. Але разважае правільна, цвяроза. Бацька яе таксама чалавек нішто сабе. Толькі маці хацелася, каб дачка за якога-небудзь начальніка замуж выйшла. Яна і на вяселлі сказала: «Не думала, што ў маёй дачкі будзе такі муж».
— Ды я кісялём бы запусціў ёй у вочы, каб прамыла,— сказаў Васіль.
— Не, я гэта стрываў спакойна. Толькі тост падняў за самую разумную на свеце цешчу. Ну, жыць я ў іх пасля гэтага не захацеў, хоць і месца там колькі хочаш... Асабняк, восем пакояў... Мы з Ліляй знайшлі сабе пакойчык, купілі ложак, тумбачку. І Лілі, яна сама казала, падабалася такое жыццё. Бачыце, як захапляла рамантыка. Сталі ў чаргу на кватэру. Усё, як і ў людзей. Я вучуся завочна ў тэхнікуме, Ліля пачала рыхтавацца ў інстытут. І я нічога такога не заўважаў, каб Ліля была жыццём незадаволена, ці што. Ці можа я аслеп ад ка-



хання і нічога не заўважаў... Вядома, у яе нешта было на душы, бо не здарылася б таго, што цяпер. А здарылася. Прыходжу сёння дамоў, а ў дзвярах запіска. Піша, што ў такім катуху далей жыць не збіраецца, ідзе да маці, а я каб ездзіў да іх ці дабіваўся кватэры. Потым я ад суседзяў даведаўся, што жончына маці прыехала на «Волзе» і забрала Лілю... Вось і еду разбірацца...

— Пасля ўсяго гэтага едзеш? — шчыра здзівіўся Васіль.— Хай сама папросіцца. А ты тады яшчэ падумай, прыняць ці не. Мужчынскі гонар, браце, трэба мець.

— Не, хлопцы, думайце як сабе хочаце... А я лічу, калі чалавека кахаеш, дык за яго трэба змагацца...

— За жанчыну,— з усмешкай удакладніў Васіль.— А жанчыне трэба ўтульнасць, асабліва тваёй. Рай... Хаця б з двух пакояў, з ваннай. А ты што ёй прапануеш? Тумбачку?

— Вядома, ёй няма ніякай выгады ехаць,— уставіў слова Макуха.

— Паедзе,— сказаў Міхась. Ён злаваўся, бо і сам, відаць, не вельмі быў упэўнены, што Ліля вернецца да яго.— А калі што, дык я ім напомню, што такое рабочы клас...

— А што ты зробіш? Кулакі ў ход пусціш? А твой цесць і вокам не міргне, спакойненька падыме тэлефонную трубку і...— засмяяўся Васіль.— А я на тваім месцы, хлопча, выпіў бы з белай галоўкай і — у парк... Знайшоў бы, з кім душу адвесці.

— Змірыцца? — насцярожыўся Міхась.— Ударылі па левай, падстаўляй правую? Не, хлопцы. Мне напляваць на мужчынскі гонар, калі я не здолею ўратаваць душу чалавека...

— Ідэалогія, — махнуў рукой Васіль. — Але вечна зелянее дрэва жыцця. Чуў такое?

— А чаму б табе трохі і не паездзіць? — спытаў я і тут жа зразумеў, што спытаў па-дурному. І каб неяк апраўдацца, дадаў: — Мы ж ездзім... Што зробіш?

— Часу шкада. А галоўнае — прынцып,— коратка адказаў Міхась і падняўся, каб выходзіць.

Цягнік спыніўся на станцыі, што ля раённага гарадка.

— Эх, каб грошы, купіў бы ў горадзе дом і не ездзіў бы. А то ніколі і не выспішся, — пазяхнуў Макуха.

— Купіш, калі на піве будзеш эканоміць, — кпіць з яго Васіль, а потым гаворыць: — Яно, сказаць шчыра, ездзіць кожны дзень — не рай... Вясной мне кватэру абяцаюць. Тады раскідаю сваю халупу, напалю лазню, усёй сваёю сям'ёю памыюся і — у горад. А карову калгасу аддам. Пра гэта яшчэ і ў газетах напішуць. Га?

За акном плывуць зыркія агні, іх усё меней і меней, і хутка цягнік знікае ў цемрыве ночы.

На наступным прыпынку нам злазіць, а потым яшчэ кіламетры тры ісці праз бульбяное поле да вёскі. Вёска пасля горада мне заўсёды здаецца вельмі ўжо глухой і закінутай, асабліва ноччу.

Хоць я нарадзіўся і вырас у вёсцы, мне больш падабаецца горад. Ці можа проста прывык да яго? Я не магу ўявіць сябе без цэха, без сваіх хлопцаў.

Я працаваў бы ў горадзе заўсёды.

Але жонка...

Яна не можа без вёскі. Яна гаворыць, што памрэ, калі хоць дзень не пабачыць поля, лесу, бяроз ля хаты, якія цяпер, восенню, жоўтыя. А тут яшчэ і старшыня калгаса... Бачыце, ім токар, я, значыць, у майстэрні патрэбен.



Сёння старшыня абяцаў зайсці пагаварыць пра ўсё канчаткова.

Я гляджу ў акно і думаю сабе пра жонку, якая кожны вечар не кладзецца спаць, хоць і натоміцца за дзень, пакуль не дачакаецца мяне. Думаю і пра сваю дачку, якая таксама кожны вечар чакае мяне, але, так і не дачакаўшыся, засынае. І мая дачка думае, што я прыязджаю дамоў толькі раз на тыдзень, у нядзелю. І нават пра мае штодзённыя пачастункі думае, што прысніла іх.

У акне — чарната ночы. На небе, калі ўгледзецца, міргаюць зоркі. І мне нясцерпна хочацца, каб хутчэй ішоў наш цягнік. Хочацца дамоў, дзе мяне чакаюць жонка, дачка, дзе, можа, чакае ўжо, зайшоўшы для рашучай гаворкі са мной, старшыня калгаса.





Ніл ГІЛЕВІЧ

# РАЗМОВА З КАЛЕГАМ АБ РЫФМАХ І ХЛЕБЕ НАДЗЁННЫМ



азышоўся ты, братачка,—
Проста бяда!
Аўтарытэты ўчарашнія
Скора будуць усе ў пляўках.
І песні ўчарашнія бэсціш —
Нават тых не шкада,
Што складзены ў мінскім астрозе,
Што спеты ў Ляўках.
На ўсіх пасівелых
І ўсіх з залысінамі,
На дзядоў жывых
І дзядоў — нябожчыкаў,
Разам з творамі іх,
На скрыжалях запісанымі, —
Плюеш,



Ажно коцяцца пошчакі...
Патрасаючы пафасна
уласнымі вершамі
(Хаця вершы замешаны рэдзенька),
Выхваляешся рыфмаю —
самай навейшаю,
Якой не было ў папярэднікаў.
Браце мой!
Калі справа ўся ў рыфмах —
магу пацягацца:
Будзь упэўнен,
што я цябе выматаю!
Я такую, брат, рыфму выдумаю —
Непрычэсаную і нявымытую,
За якую дадуць тваіх дваццаць!
Толькі... знаеш:
Каму гэта рыфма трэба?
Ёю ў сэрцах людскіх
Не заменіш надзённага хлеба.
Тым, хто поле плугамі ворочае,
Хто пры домне сочыць за плаўкай, —
Толькі праўда патрэбна —
святая, прарочая,
І ідуць яны
толькі за праўдай.
Праўда ж, браце мой, простая.
Вельмі простая!
Як зямля,
На якой мы сваё адтэпаем,
Як з крынічнай вадою
карэц бяроставы,
Як пшанічныя хвалі
ў бязмежжы стэпавым.
Яна і прыходзіць проста,
як поры года,
Як лізень улетку,
як раніца пасля ночы.
Праўда мудрая,
як сама прырода.
Праўда чыстая,
як дзіцячыя вочы.
Хай жа гэткай прыходзіць
яна й да цябе!
І не трэба,
Прыбраўшыся моднай адзежынай,
Глядзець на сяброў па вялікай сяўбе
Толькі з плёвага пункту гледжання.

# АНАНІМШЧЫКІ І БЕЗЫМЕННЫЯ ПІСЬМЫ



нанімшчыкам стала цяжэй.
Ананімшчыкі проста пакутуюць.
Што за час наступіў?
Што за людзі такія пайшлі?
Ананімцы не вераць!

Нават сотнямі чутак падкутую,
Не прымаюць да ўвагі,
Куды ты яе ні пашлі!

А нядаўна ж было...
Крамзанеш на каго без прынукі —
Ды ў канверт!
І гатова!
І спёкся!
Тут быў — і няма!
Сам глядзі ды любуйся адно,
Паціраючы рукі,
Ды пасаду займай,
Каб не выйшла,
Што з'еў задарма.

Спачуваю вам, бедныя!
Разумею, што гэта нялёгка —
Пашчу воўчую мець
І нікога жыўцом не глынуць!
Праўда, жужалу можна ў той самы
канверт
Напялёхкаць
Ды знячэўку на голаў
Суседу ці другу лінуць...
Толькі ёсць,
Толькі ёсць безыменныя пісьмы
Другія.
Гэткіх пісем ніколі ў жыцці
Не пісаць слімакам.
І яны, тыя пісьмы,
Бясконца для нас дарагія,
Не начальству пасланы —
Радзіме,
Народу,
Вякам.

З іх скупымі радкамі
Свет цэлы сягоння знаёмяць
Мураваныя сцены
Старых пагранічных фартоў:
«Нас пяцёра было.
Паміраем, але не здаёмся»;
«Мы стаялі насмерць, да канца.
Вораг тут не прайшоў!»
Не ад страху, о не! —
Засталіся яны безыменнымі.
Ад бясстрашша святога.
Ад беззапаветнай любві.
Вы таксама чытайце іх, вы,
У каго яшчэ ў венах
Учарашнія страхі пульсуюць,
Дрыжаць у крыві.

Невядомых герояў радкі
Будуць ззяць над эпохамі
І тады,
Як пасля незлічоных
Гвардзейскіх атак
Згіне подласць
І з ёй
Прападзе ананімка апошняя —
Беззваротна,
Бясследна,
Як кінуты ў мора
Пятак.



★



хацеў бы слова даць любові,—
Хай яна гаворыць — у любові
Болей права і заслуг высокіх
Перад светлым імем чалавецтва.

Я хацеў бы слова даць любові —
Хай бы зноў і зноў свае абдымкі
Прасцірала радасна-нястрымна,
Як дзіця, што сустракае маці...

Я хацеў бы слова даць любові,
Бо мілей за ўсё на цэлым свеце
Слухаць мне яе праўдзівы голас,
Неспадманны, першароднa-чысты...

А павінен я, а мушу слова
Даць другой неўтаймаванай сіле:
— Саступі, любоў, чаргу і месца,
Хай нянавісць выкажацца сёння!

Не шкадуй аддаць на час трыбуну —
Ты раней прыйшла ў людскія сэрцы
І ў цябе яшчэ ў запасе вечнасць.
А нянавісць вечна жыць не будзе...

Ты маёй нянавісці не бойся.
Бойся той, што вырасла з няпраўды,
Што народжана у сэрцы звера —
Крывабжэрная дачка насілля...

А мая нянавісць толькі хоча,
Каб ярчэй палала сонца праўды,
Каб адзіная на цэлым свеце
Ты, любоў, заўсёды панавала.

★



к ты грымела, як бабахала,
Мая рабінавая ноч!
Стакрылы вецер дол аблахаваў
І вобзем кідаўся наўзбоч.

Як быццам тоўшч нябёс валілася —
Трашчала так над галавой.
І толькі сэрца весялілася,
Здранцвення скінуўшы павой.

Маланкі бліскалі, мігцеліся,
Як стрэлы, жыхалі здалёк.
І не згадаць, куды ён цэліўся,
Сляпы, разгневаны стралок.

То залатымі дратаванкамі
Крамсалі неба ўшыр і ўдоўж,

І, як прышпораны маланкамі,
Ляцеў шалёным шквалам дождж.

Нібы дзяцюк, якога здалечы
Да мілай сцежкі прывялі,
Ён упіваўся, прыпадаючы,
У вусны смяглыя зямлі.

То экзекутарам раз'ятраным
Адразу ў тысячу бічоў
Па целе пруткім, моцным, ядраным
Хвастаў, як грэшнае дзяўчо.

Калі б ты, ночка, толькі ведала,
Якое свята на душы,
Ты разбудзіла, запаветная,
Пашкуматаўшы твань цішы.

Прыйдзі ж расстайнаю гадзінаю,
Як дазіхцяць маланкі воч,
І грымні песняй лебядзінаю,
Мая рабінавая ноч!

★


тым сяле, дзе я не быў ніколі,
І нават дзе яго шукаць — не знаю,
Ёсць хата ў яблынях, парог якое
Я толькі ў сне парой пераступаю.

І зноў, і зноў там, ледзь сцямнее ў полі,
Хаджу, як здань, блукаючы да ранку:
Ці не адчыніць хто нарэшце брамку —
У тым сяле, дзе я не быў ніколі.

## ФЕЯ


анатонна, жаласна і сумна
Птушка свішча ў гушчары альховым.
З гарадскога вырваўшыся тлуму,
Я ляжу ў траве пад ціхім сховам.

Ад таго, што сумна й мне чамусьці,
Да спадобы так і так дарэчы



Гэты свіст самотнай птушкі ў кусце,
Што ляжаў бы тут і слухаў вечна!..

Раптам бачу: між кустоў дзяўчынка.
З ярка-сінім факелам шалфея,
Крочыць ціха вохкаю сцяжынкай,
Як маленькая лясная фея.

Я знячэўку падхапіўся нават:
Можа, гэта проста прыдалося?
— Ты не фея? — запытаў ласкава.
— Не, — крутнула галавой, — я — Зося!

І пайшла... А песню перабіла.
Сціхла птушка. Зноў ляжу ў траве я.
Ах ты, фея! Што ж ты нарабіла!
Ты спалохала мне казку, фея!..

Я гляджу на сіні купал неба,
Дзесьці побач — конікавы стракат...
Як жа часам чалавеку трэба
Апынуцца ў казцы ненарокам!..



Васіль ХОМЧАНКА

# ПЕРШАЯ ВЫШЫНЯ

Апавяданне

Мал Э. Гусейнава.

З вёскі я атрымаў пісьмо. Жонка просіць прыехаць па Толіка, бо той не дае нікому спакою: то стараецца залезці на вільчык хаты, то на высокі паркан, а надоечы вечарам забраўся на самую вяршаліну вяза. Хацеў дастаць зорку з неба.

Я чытаў гэтае пісьмо і ўсміхаўся сам сабе — сын ідзе па маіх слядах: калісьці і я выбраў такі шлях да зорак, залез на той самы вяз. Гэта была першая мая вышыня. Помню і цяпер, як упершыню адчуў трывожную асалоду вышыні. Я падумаў тады: а якія ж шчаслівыя бываюць лётчыкі ў палёце! І такая вера паявілася ў свае сілы, што, здавалася, скокні я ўніз, і мяне ўтрымала б паветра.

Было мне тады шэсць год, якраз як і цяпер Толіку. Я любіў вечарамі глядзець у зорнае неба, і чамусьці сузор'і нагадвалі мне то асілка ў шлеме, то яблыню з срэбнымі лісцямі... Я марыў падняцца да тых зорак.

Аднойчы быў вельмі зорны і цёплы вечар. Вяз шамацеў ад хрушчоў, кажаны пікіравалі на ўсё белае: абрус, які маці не паспела зняць з плота, на маю белую галаву і белую кашульку. За рэчкай у цёплай сажалцы аж вар'яцелі жабы. Адна крычала: «Дур-рніца, дур-р-рніца!» Другая ёй адказвала: «Сама дур-ніца». Каля суседскай хаты дзяўчаты спявалі песню:

Вазьму зорачку ў белу ручаньку
І міленькаму падару.

Ах, як і мне хацелася ўзяць тую зорачку, адну з тых, што так ярка і прывабна мігцяць і трапечуць сваімі сіняватымі праменьчыкамі. Каб я мог іх дастаць, то ўсе раздарыў бы людзям.

Я стаяў і глядзеў у неба, аж пакуль не забалела шыя. Маці падаіла ўжо карову і даробляла нейкія свае справы. На фоне неба вяз быў чорны і, здавалася, сваёй вяршалінай упіраўся ў зоркі. А што, калі залезці на вяз?

І я палез. Лезці было не так ужо і цяжка — ствол у вяза шурпаты і сукаваты. Чым вышэй паднімаўся, тым далей адкрывалася маім вачам наваколле. Я бачыў дрыготкае вогнішча начлежнікаў на беразе Бесядзі, агеньчыкі ў хатах Гарбачоўкі і Бялынкавіч. І ўсё лез. Я быў ужо вышэй за ўсіх. Пішчалі ў голлях патрывожаныя вераб'і, сыпаліся на галаву хрушчы. Вось і самая вяршаліна. Галінкі на ёй пругкія і тонкія.

Унізе — наша хата, шэрая і маленькая. Уверсе — зоры. Яны сапраўды сталі блізкія, мне здавалася нават, што я адчуваў іх цеплыню.

І вось там, на вяршыні вяза, я адчуў такую вялікую свабоду, шчасце, такую асалоду вышыні і веру ў сябе, што закрычаў на цэлы свет:

— Э-гэ-гэй!

Пачула мяне адна маці. Яна якраз выйшла з хаты. Аб тым, што ў яе ад страху самлелі ногі, я даведаўся пазней. У тую ж хвіліну яна спакойным голасам папрасіла:

— Сынок, злазь...

Я злез, і калі скокнуў на зямлю, маці ад узрушэння аж села на траву.

— Мамачка, я буду лётчыкам,— гаварыў я.— Паднімуся высока-высока. І дастану табе зорку. Вось такую вялікую.

І я сапраўды стаў лётчыкам. Лётаў высока і далёка. Двойчы мяне збівалі зенíткі, адзін раз гарэў. Але самай памятнай падзеяй у маёй лётнай біяграфіі было тое першае адчуванне вышыні, тое першае шчасце, якое прыйшло да мяне на вяршаліне вяза.

Ёсць у мяне цяпер два сыны. Старэйшы вучыцца ў лётным вучылішчы. Толіку толькі шэсць год.

«Толік кажа, што будзе лётчыкам,— піша жонка.— Яшчэ чаго не ставала... Досыць і двух лётчыкаў у сям'і».

А я радуюся. Ён жа выбраў бацькаву дарогу.



Пятро СУШКО

## ГОДЗЕ КАЗКІ КАЗАЦЬ

Як маленькім свой голас пробаваў,
Мне казалі:
— Маўчы, бо шэры
Забярэ і зацягне ў логава!
Я, дыханне стаіўшы, верыў.

Стукне той-сёй парадай-молатам
І цяпер, каб не соваў носа:
— Слова — срэбра, маўчанне — золата,
На цябе пазіраюць коса.

Не ўгаворвайце быць умераным
І пачуцці хаваць пад маскай...
Годзе казкі казаць пра шэрага,
Я сягоння не веру казкам.

Веру ў сілу людзей бязмежную
Справядлівых, адважных, гордых,
Іхняй праўдзе звяры-драпежнікі
Перагрызці не змогуць горла.

★

Мне цябе так шкада: не бачыў
Нашу рэчку з вясновымі крыгамі,
Ты не чуў жураўлёвых плачаў
І мычання кароў на выгане.

У духмяную канюшыну
Не валіўся, ад працы стомлены,
І паважнай хадой мужчыны
Не вяртаўся з касой дадому ты.

Быць заўсёды шчаслівым можна
І не ведаць настрою кіслага,
Варта толькі напевы пожняў
І жытнёвых палеткаў выслухаць.



*Валянцін Мыслівец нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Хазянінкі Пухавіцкага раёна. Пасля дзесяцігодкі служыў на флоце.*
*Цяпер Валянцін Мыслівец працуе мадэльшчыкам на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній, вучыцца на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.*
*Першыя апавяданні малады аўтар друкаваў у газеце «Чырвоная змена».*



Валянцін МЫСЛІВЕЦ

# СМОЛЬНЫ КОРЧ

### Апавяданне

Мал. У. Філіпенкі.

Гэта было на трэцім годзе вайны. Мы з дзедам ледзь дачакаліся, калі прыстыне балота, каб нарыхтаваць смалякоў на падпалку. Вельмі ж надакучлівая работа кожнай раніцы дзьмухаць на сырыя дровы.

Прачнуўся я ад дзедавага голасу на світанні.

— Крышаны гатовы,— будзіў мяне дзед, тармосячы за плячук.— Мыйся...

Пасля снедання дзед вастрыў сякеру. Вельмі доўга шмуляваў яе асялком, спрабаваў на ногаць, зноў вастрыў.

— У лес паедзем,— сказаў дзед.— Павінна падшэрхнуць балота... Ды і немцаў не чуваць пакуль што...

Нарэшце, выбраліся. Я падахвоціўся цягнуць санкі.

Дзед ішоў уперадзе. Пакідаў сваімі лапцямі-чунямі ўзоры на снезе. Да самага лесу любаваўся я «елачкай», якую штампаваў дзед. Санкі лёгка шорхалі па свежаму крупяністаму сняжку, і я не адчуваў іх за сабою.

Дзед паказаў мне «шнурок», які толькі што пралажыў ліс. А по-

тым зайцаў прыцярушаны снегам, астылы след. Дзед у лесе ўсё добра ведаў. Па яго выходзіла, што кожнае дрэва прыдатнае на што-небудзь адно: вось з гэтае сасны вокны б сухія былі, тая — у сцяну добра лягла б, а трэцяя — толькі на дровы. Мне ж усе дрэвы былі аднолькавыя, і здавалася, што дзед пра іх гаворыць, абы не маўчаць.

Спыніліся, патупалі па грудку, дзе, казаў дзед, калісьці раслі сосны ў пяць абхватаў. Абышоўшы гэты лабяк, трапілі ў лагчыну.

Тут дзед паказаў мне пень, шырокі, што тая стажарня.

— Ведаеш, што гэта за смаліна? — спытаў ён і, збіўшы рукавіцаю з пня снег, сеў.— Ай-яй, такія вяршаліны ў неба ўпіраліся... Перад вайною чуць-чуць аблажылі з бацькам. Пілу быццам хто здорам мазаў — так блішчала ад свежай смалы. Разы тры прасіў я перадышкі...

Ад усёй даваеннай гаспадаркі на нашым двары толькі і асталіся вілы ад калодзежнага жураўля. На месцы хат вось ужо другі год пятрэлі на ветры сівыя папялішчы. А на агародзе, як капец, выгарбілася наша жытло — зямлянка з адзіным акенцам на вуліцу. І гэта было яшчэ нішто, большасць жа сядзіб у вёсцы наогул пуставала.

Дзед знайшоў здаровы стрыжань сасновага абгнілага пня. Ад удару абушка корч здрыгануўся. Дзед ткнуў у яго лязом. Сякера адскочыла, як ад гумы. Яшчэ некалькі разоў дзед ча́каў пень. У бакі толькі дробныя аскабалкі пырскалі. Адну трэсачку дзед падняў, панюхаў, а потым даў і мне.

— Ах, смольны корч! — сказаў ён, ківаючы галавою. — Свечкай гарэць будзе...

Трэска густа пахла духмянай смалою. Дзед зняў бравэрку. Потым і зацыраваны кажушок, што пад ёю, кінуў на санкі. А праз нейкі час і кашуля на грудзях была ўжо расхрыстана, як у якога забіякі.

— Дзед, і тут корч,— крычаў я паз-пораз з-за кустоў.— І тут... і тут...

— Сціхні галёкаць,— бурчаў дзед.— А то вось адгаблюю паскам.

Гэта ён так. Ён ніколі нават не замахнуўся, не тое каб выцяў мяне. Але я ўсюды адчуваў над сабою яго пруткую, спрацаваную за доўгія гады руку.

Не ведаю колькі мы былі ў лесе, але мне захацелася есці. Я сказаў дзеду.

— Што, булёнчыку з фасоляй захацеў? — пытаўся ён, выцершы пот з твару.

— Ну, хоць бы чаго! — злосна крыкнуў я, спадзеючыся расчуліць дзеда, каб хутчэй вырабіцца з лесу.

— Мы і забыліся,— раптам усміхнуўся дзед.— Зайцаў жа хлеб у кішэні...

Мне ішоў дзесяты год, і я добра ведаў, што няма ні зайцавага, ні яшчэ чыйго хлеба. А калі ёсць у кішэні, дык з падгарэлага жыта — цьмяны, дзедавай выпечкі глямяш. У дзеда амаль кожны раз удаваўся глеўкаваты хлеб. І заўсёды ён наракаў на сырыя дровы, на недастачу смалякоў.

Дзед зноў абсякаў карэнні. Корч варочаўся ўжо ва ўсе бакі. Мы ўдваіх спрабавалі яго выдраць, але рады не далі. Потым і жардзінаю падважвалі, ды патугі былі марныя.

Раптам данеслася залпавая, частая страляніна. Мне стала страшна. Я заплакаў.

— Падбірай корчыкі, плакса,— сказаў дзед, зняўшы з галавы шапку.— А я ачахну трохі... Здаецца, нічога і не рабіў, а ўскіпеў як... Можа там і бацька каго калашмаціць...— прыслухоўваўся дзед да стрэлаў.— Ну, чаго ты калоцішся? Эх ты!



Дарогаю мы маўчалі. Спачатку я памагаў дзеду цягнуць санкі, потым ішоў за імі. Я бачыў, што дзед змарыўся. Яго аж вадзіла ўбакі, ён спатыкаўся. Але з паўдарогі я ўсё ж папрасіўся на санкі, на карчы.

— Такога маклака везці? — сказаў дзед, але памог мне ўсесціся, накрыў бравэркай.

Дома я скінуў верхнія лахманы і палез адаграваццa на печ. Спаць не хацелася, і я пaглядаў праз акно на бязлюдную заснежаную вуліцу. Дзед жа нешта марудзіў з абедам. Булён выкіпеў, і ён даліў туды вады. Прынёс смалякоў і ўзяўся грэць булён на трыножках. Дзед жаліўся на жывот, а таму ўсякую страву браў у рот, толькі перакіпяціўшы.

— Немцы ідуць,— як убачыў, так і сказаў я.

— Унадзіліся нырхаць,— мармытнуў дзед.— Эх, панкі, прыйдзе час і загуляеце вы на вяроўках. Глядзі, які таран спераду клыпае. Гаргара цэлая... А другі — шэпшаль нейкі крываногі. Мазгаўня, бачыш, у другога, як цэбар з-пад памыяў...

— Яны на двор заварочваюць,— сказаў я.— На мост гатовы пагнаць...

— На ўсё яны гатовы... — пакрывіўся дзед.— Па чатырнаццатаму ведаю: вантробы адбілі. І цяпер спустошылі сяло, а падмогі хочуць. Хай спяшаюцца, ухвацяць работнічкаў... Накрывайся пасцілкай. Скажам, што хворыя ў хаце...

У дзверы загрукацелі.

— Мужчыны, выходзь! — пачуўся крык з двара.

Дзверы ў зямлянку былі нізкія. Спуск круты і раскоўзаны. Таму, мусіць, і не спяшаліся немцы ў наш «пакой».

Дзед надзеў кажушок, паправіў шапку на галаве.

— Грэйся пакуль што,— сказаў ён на адыходзе.— Я там хутка ўпраўлюся. Палуднаваць будзем разам. Глядзі, не спі. Знясілееш заўтра. Паедзем жа яшчэ па корч...

На двары «крываногі шэпшаль» падштурхоўваў дзеда ствалом вінтоўкі. А ён ішоў павольна, схаваў-



шы рукі ў рукавы кажуха. Толькі ад удараў у спіну крокі станавіліся шырэйшыя, чым звычайна. Я не верыў, што дзед так здарожыўся. А ён бы сваю зухаватасць здолеў паказаць... Але перад кім?! Перад тымі сабакамі? Не ў дзедавым то было характары.

Я скокнуў з печы і падбег да акенца. Убачыў, што дзеда пагналі на сяло. Мяне непакоіла, каб не забавіўся дзед, не запазніўся з абедам. Булён ужо кіпеў.

З вёскі данесліся стрэлы. Мяне праняпі дрыжыкі, мурашкі прабеглі па спіне.

На нейкую хвіліну ўзрадаваўся я, убачыўшы на вуліцы свайго аднагодка Міколку.

Мне захацелася выбегчы на вуліцу. Я палез на печ шукаць сушэйшыя анучы. А ў лапцях, як на ліха, аборы заблыталіся. Тузаў я, тузаў іх — ледзь абуўся.

І тут у хаце пачуў з вуліцы глыбокі чалавечы стогн, нейчы дзікаваты голас. Выбег на двор. Убачыў Міколкаву маці: яна галасіла, схіліўшыся, цалавала Міколку ў твар. Той ляжаў на снезе нерухома.

Вопрамеццю выскачыў я на вуліцу і памчаўся на сяло. Праз хвіліну наткнуўся на дзеда. Ён ляжаў пасярод вуліцы, тварам у снег. Снег ля яго настояўся крывёю, збоку валялася выліняпая, з аўчынкі шапка. Сухі снег сек дзедаву аблыселую галаву.

Я ўпаў на халоднае дзедава цела.

— Уставай, дзед, уставай! — крычаў я.— Пайшлі палуднаваць. Булён прастыне! Знясілееш заўтра... Паедзем па корч...

Тыдзень я пражыў у суседняй вёсцы, у сваякоў, а потым падаўся за чыгунку.

Больш месяца блытаўся я па лясах і вёсках, пакуль знайшоў партызанскі атрад.





**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

# ЗДРАТАВАНЫЯ МАГІЛЫ

**Петрасу АНТЭАСУ**


Там, дзе Лесбас у пенных карунках прыбою,
Я адчула цябе і на свет нарадзіла.
Вёсны скрыпкай спявалі, а зімы — трубою.
Дзе ж цяпер ты, мой сыне, мой светлы, мой мілы?
Ты не вер дактарам, мне не цяжка прыйшлося:
Проста ўзяў мяне вечар празрысты і сіні...
За труною — людзей, што на полі калосся.
Лесбас мора вянкоў надаслаў у Афіны.
Мне не цяжка. Мне іншае горка, мой родны,
Што цябе ўладары ліхалецця і ночы,
Баючыся за «Грэцыі роднай свабоду»,
Не пусцілі сюды, каб закрыў ты мне вочы.
Хто ж з іх горшы, мой сыне? Язычнікі злыя
Ці рупліўцы аб славе хрыстовай і сіле?
На Галгофу калісьці пусцілі Марыю,
А цябе — на магілу маю не пусцілі.
Праз абшары палёў, праз світанні і ночы
Я кажу са сваёй здратаванай магілы:
«Ты не плач, маё сонца, мой любы сыночак,
Мой далёкі, мой блізкі, мой родны, мой мілы.
Я прывыкла да вечных з табой развітанняў:
Войны, турмы, падполле і Грамаса скалы,
Немцы, здраднікі-каты і англічане, —
Усё жыццё я чакала, бясконца чакала.
Што было мне да вашых сутычак і зброі?
Проста я не хацела знішчэння і смерці,
І грымоты над Грамасам білі не ў хвоі,
Не ў цябе, а ў маё набалелае сэрца.
Нехта чорную здраду між вамі пасеяў,
І пайшлі вы з радзімы ў выгнанне, у выгнанне...

З новай, дальняй і цяжкай тваёй Адысеі
Я чакала цябе, як чакаюць світання.
І канец... І людскія маўклівыя гурмы...
Толькі ў сэрцы маім не згасае трывога...
Хай праклён на вас, межы,
Хай праклён на вас, турмы,
Хай праклён на вас, ворагі людства і бога!
Без сыноў, без надзеі, без праўды, без мая,
Не схіліўшы да скону жаночыя плечы,
Маці-Грэцыя ў муках маіх памірае,
Маці-Грэцыя, маці сыноў чалавечых.
Па зямлі прапаўзаюць гадзюкамі межы,
І дапытваюць кожную былку і камень,
На зямлі руднікі і турэмныя вежы,
І капцы мацярок, што спавіты дратамі...
Іскра ў цемры згасала...
І тут мне здалося:
Ты ішоў да мяне з дабрынёй і адзагай,
На чале тваім — церні, у далонях — калоссе,
За спіною — бясконцыя гордыя сцягі.
Я люблю, я хачу цябе бачыць, я маці,
І таму, пакуль гора зямлі не ў магіле, —
Ты не смей, ты са мною не смей сустракацца,
Мой сыночак, мой цёплы, мой добры, мой мілы».

## ЖАЎРАНАК—ЗВОНКАЯ НІЦЬ

Хмары веснія, цяжкія. як кентаўры.
Песня шчасця пад імі ўзахліп звініць.
Ах, гэта жаўранак!
Жаўранак!
Жаўранак!
Срэбная!
Срэбная!
Срэбная ніць!
За раллёю, тваім зайздросцячы лаўрам,
Вадзяны бугай трубіць, як грубіць,
Не звяртай увагі,
Жаўранак,
Жаўранак,
Не парві сваю срэбную,
Срэбную ніць.
Зноў цяплеюць разоры, і сытая пара
На курганы былога майго бяжыць...
Працягні з майго сэрца,
Жаўранак,
Жаўранак,
Аж да самага сонца
Звонкую ніць.



# На арбіту камунізма



# БЕЛАРУСЬ ІНДУСТРЫЯЛЬНАЯ

За гады савецкай улады на беларускай зямлі створана магутная сацыялістычная індустрыя. Беларусь выпускае трактары, грузавыя аўтамабілі, сіласаўборачныя камбайны, металарэжучыя станкі, дарожныя і будаўнічыя машыны, падшыпнікі, веласіпеды, матацыклы, радыёпрыёмнікі, тэлевізары.

Сельская гаспадарка пасылае для прамысловай перапрацоўкі прадукты жывёлагадоўлі, зерне, бульбу, лён, каноплі, цукровыя буракі, гародніну, садавіну.

Велізарную колькасць каштоўнай сыравіны даюць лясы.

Дзякуючы братэрскай дружбе і ўзаемадапамозе, што існуе паміж народамі СССР, Беларусь атрымлівае з іншых рэспублік неабходную колькасць той сыравіны і паліва, якіх у нас няма.

Прамысловасць нашай рэспублікі развіваецца надзвычай хутка. У 1962 годзе выпуск валавой прадукцыі павялічыўся ў параўнанні з 1940 годам у пяць з паловай разоў, а ўзровень 1913 года пераў-

зыйдзен аж у сорак два разы. У Беларусі на адну тысячу жыхароў выпускаецца столькі металарэжучых станкоў, колькі іх выпускаюць ЗША і Англія; трактараў — больш, чым ЗША і Францыя; матацыклаў — больш, чым Англія і Федэратыўная Рэспубліка Германіі.

Вырабы беларускіх заводаў карыстаюцца вялікім попытам на сусветным рынку. Яны вывозяцца больш чым у сорак краін свету. Напрыклад, мінскія самазвалы, акрамя краін сацыялістычнага лагера, купляюць такія дзяржавы, як Індыя, Інданезія.

Працаўнікі прамысловасці нашай рэспублікі дасягнулі значных поспехаў у выкананні сямігадовага плана. За першыя чатыры гады сямігодкі выпуск валавой прадукцыі вырас не на 37 працэнтаў, як гэта намячалася кантрольнымі лічбамі, а на 58 працэнтаў. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці БССР вырасла за чатыры гады сямігодкі больш чым на 30 працэнтаў.

Сямігодку за пяць год! Такі дэвіз працаўнікоў сацыялістычнай індустрыі Беларусі. Ён пасляхова ажыццяўляецца намаганнямі рабочых і інжынераў, штодзённай працай камсамольцаў і моладзі.

Добрае геаграфічна-транспартнае размяшчэнне значных прыродных рэсурсаў і запасаў сыравіны і паспяховае выкананне сямігадовага плана даюць магчымасць намеціць больш высокія, чым у цэлым па СССР, тэмпы далейшага развіцця прамысловасці нашай рэспублікі. Гэта поўнасцю адпавядае патрабаванням выраўноўвання ўзроўняў эканамічнага развіцця асобных раёнаў нашай краіны.

У адпаведнасці з Праграмай КПСС адбудуцца карэнныя змены ва ўзроўні тэхнічнага аснашчэння і ў структуры прамысловай вытворчасці Беларусі. Перш за ўсё ўзрасце ўдзельная вага хімічнай, машынабудаўнічай і паліўна-энергетычнай галін прамысловасці.

Адной з самых важных праблем далейшага развіцця народнай гаспадаркі з'яўляецца завяршэнне электрыфікацыі рэспублікі. У мінулым годзе ў Беларусі было выпрацавана 4,6 мільярда кілават-гадзін электраэнергіі, або ў паўтары тысячы разоў больш, чым у 1913 годзе. Аднак па ўзроўню электрыфікацыі рэспубліка пакуль што яшчэ значна адстае ад сярэдніх паказчыкаў па Савецкаму Саюзу.

Каб ліквідаваць гэтае адставанне, да канца сямігодкі ў БССР выпрацоўка электраэнергіі ўзрасце ў 3,3 раза. За два дзесяцігоддзі вытворчасць электраэнергіі ў СССР узрасце ў дзевяць-дзесяць разоў, а ў Беларусі — значна больш. Каб выйграць час і зменшыць выдаткі, намечана нарошчваць энергетычныя магутнасці галоўным чынам за кошт пашырэння існуючых і будаўніцтва новых гігантскіх цеплавых электрастанцый. Велізарную колькасць электраэнергіі дасць народнай гаспадарцы запраектаваная да будаўніцтва на поўначы рэспублікі звышмагутная Лукомльская ДРЭС.

Пэўную ролю ў электрыфікацыі Беларусі адыграюць гідраэлектрастанцыі, будаўніцтва якіх звязана са стварэннем Чарнаморска-Балтыйскага воднага шляху. Гэты шлях на тэрыторыі рэспублікі працягнецца, прыкладна, на 800 кіламетраў. Пры стварэнні яго будуць вырашаны важныя праблемы транспарту, энергетыкі і воднай гаспадаркі. У бліжэйшыя два гады Беларуская энергасістэма будзе аб'яднана з адзінай высакавольтнай сеткай Еўрапейскай часткі СССР.

**Гудуць турбіны Васілевіцкай ДРЭС.**
Фота **В. Лупейкі** (Белта).

Вельмі важнае значэнне для забеспячэння эканамічнай работы электрастанцый будуць мець прыродны газ і нафта. У паліўным балансе рэспублікі ўжо сёлета яны зоймуць 35,7 працэнта. Пакуль што ў заходнія раёны СССР нафтапрадукты завозяцца з Волга-Уральскай нафтаноснай вобласці, а таксама з Азербайджана. Попыт Беларусі, Літвы, Латвіі і некаторых суседніх абласцей на гэтае паліва ўвесь час расце. Вялікая колькасць дызельнага паліва спатрэбіцца для чыгуначнага транспарту ў сувязі з пераводам яго на цеплавую цягу.

Жыццё настойліва патрабуе спыніць нерацыянальныя перавозкі нафты і гаруча-змазачных матэрыялаў на адлегласці ў тысячы кіламетраў і стварыць на поўначы краіны магутную нафтаперапрацоўчую прамысловасць.

У адпаведнасці з рашэннямі XXI з'езда КПСС у Беларусі поўным ходам ідзе будаўніцтва буйнейшага ў Еўропе нафтаперапрацоўчага камбіната. Ён будуецца недалёка ад Полацка, а побач, на беразе Заходняй Дзвіны, расце цудоўны горад беларускіх нафтахімікаў. Нядаўна гэтае гіганцкае прадпрыемства дало першую прадукцыю. Скора велізарная колькасць волга-ўральскай нафты будзе ператварацца тут у бензін, ліграін, газойль, газу, змазачныя маслы. Мазут пойдзе на цеплавыя электрастанцыі і перш за ўсё ў топкі Полацкай ЦЭЦ.

На чарзе будаўніцтва другога такога ж волата — Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. Гэта дапаможа ператварыць Беларусь у буйнейшы раён нафтахіміі на захадзе нашай краіны. Нафта для перапрацоўкі прыйдзе ў Беларусь па буйнейшаму ў свеце транскантынентальнаму нафтаправоду «Дружба». Гэта дасць вялікую эканомію, бо дастаўка нафты па трубах у тры разы таннейшая, чым па чыгунцы.

У краіне ўсё шырэй прымяняецца самае таннае паліва — прыродны газ. Яго здабыча за дваццаць год узрасце ў пятнаццаць разоў. Бурны рост газавай прамысловасці мае першаступеннае значэнне як для ўсёй нашай краіны, так і для рэспублікі, дзе галоўным відам паліва пакуль з'яўляюцца торф і прывазны данецкі вугаль, якія каштуюць дорага.

Будаўніцтва буйных газаправодаў на тэрыторыі Беларусі ідзе поўным ходам. На два месяцы раней тэрміну пачаў дзейнічаць сямісоткіламетравы газапровод Да-



**Нафта атрымала прапіску ў Беларусі. Гэта першая тэхналагічная ўстаноўка на Полацкім нафтаперапрацоўчым камбінаце прапусціла ўжо тысячы тон сыравіны. Першы эшалон мазуту адпраўлен у паравозныя дэпо рэспублікі.**
Фота **В. Янкова** (Белта).



**Шахты Салігорска.**
Фота **П. Наватарава** (Белта).

шава — Мінск. У пачатку 1961 гогода ад трасы Дашава — Кіеў — Бранск — Масква газ пайшоў у Гомель.

У 1965 годзе рэспубліка атрымае два з паловай мільярда кубічных метраў газу, які зможа замяніць прыкладна сем мільёнаў тон торфу або пятнаццаць мільёнаў кубаметраў дроў. Да 1980 года наша рэспубліка будзе спажываць газу яшчэ ў некалькі разоў больш. Дзякуючы масаваму выкарыстанню нафтавага паліва і прыроднага газу рэзка зменшыцца спальванне торфу і вугалю. Эканамічная эфектыўнасць масавага выкарыстання нафты і газу на паліва становіцца



**На газаправодзе Дашава — Мінск. Размеркавальная станцыя.**
Фота **І. Змітровіча** (Белта).

асабліва зразумелай, калі ўлічыць, што сабекошт здабычы нафты ў тры разы, а газу ў восем разоў ніжэй за сабекошт здабычы раўназначнай колькасці вугалю і торфу. Усё гэта, у сваю чаргу, дазволіць не толькі забяспечыць намечаны рост выпрацоўкі электраэнергіі, але і знізіць яе сабекошт.

Для вырашэння галоўнай эканамічнай задачы партыі і савецкага народа — стварэння на працягу двух дзесяцігоддзяў матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма — вялікае значэнне мае высакаразвітая хімічная прамысловасць. У рашэннях XXII з'езда КПСС гэтай галіне цяжкай індустрыі адведзена важная роля.

Да нядаўняга часу лічылася, што ў Беларусі няма карысных выкапняў. Аднак у апошнія гады выявілася, што ў паўднёвых раёнах рэспублікі знаходзіцца буйнейшы саленосны басейн Савецкага Саюза — Старобінскае месцанараджэнне сільвініту. Запасу солі тут больш, чым у такіх краінах, як у ЗША, Францыі і Іспаніі, узятых разам.

На базе гэтых месцанараджэнняў разгорнута будаўніцтва двух буйнейшых у Еўропе калійных камбінатаў. Недалёка той час, калі Савецкая Беларусь стане адным з самых важных цэнтраў калійнай прамысловасці ў нашай краіне.

Адначасова з камбінатамі на Старобіншчыне вырас новы горад Салігорск. Насельніцтва яго ў перспектыве дасягне ста тысяч чалавек. Недалёка той час, калі першую прадукцыю дасць Гродзенскі азотнатукавы камбінат. Другое такое прадпрыемства вялікай хіміі будзе пабудавана ў горадзе Жлобіне. Сёлета пачнецца будаўніцтва суперфасфатнага завода ў Гомелі.

Такім чынам, у Беларусі ствараецца новая прамысловасць — вытворчасць мінеральных угнаенняў, якая забяспечыць магутны ўздым сельскай гаспадаркі. Аб вялікай эканамічнай эфектыўнасці прымянення мінеральных угнаенняў сведчыць тая акалічнасць, што адна гадзіна, затрачаная на іх выраб, эканоміць 25 гадзін у сельскай гаспадарцы. Савецкія вучоныя ўстанавілі, што ўжо ў бліжэйшыя гады хімія дазволіць атрымліваць кожны трэці кілаграм хлеба і кожны другі або трэці кілаграм бульбы і гародніны.

На аснове выкарыстання прадуктаў Полацкага і Мазырскага



нафтаперапрацоўчых заводаў, а таксама прыроднага газу ў рэспубліцы будзе створана магутная прамысловасць па вытворчасці прадуктаў арганічнага сінтэзу.

Хімічная прамысловасць рэспублікі хутка набірае тэмпы. Толькі сёлета капіталаўкладанні ў гэтую галіну падвойваюцца.

Камуністычная партыя заўсёды надавала шмат увагі развіццю машынабудавання. Яно з'яўляецца сэрцавінай цяжкай індустрыі, яму належыць галоўная роля ў справе тэхнічнага пераўзбраення ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Машынабудаванне разам з электрыфікацыяй стварае неабходныя ўмовы для хутчэйшага росту прадукцыйнасці грамадскай працы, што мае рашаючае значэнне ў справе будаўніцтва камунізма. У. І. Ленін гаварыў: «Камунізм ёсць вышэйшая, супраць капіталістычнай, прадукцыйнасць працы добраахвотных, свядомых, аб'яднаных рабочых, якія выкарыстоўваюць перадавую тэхніку».

Дастойны ўклад у агульнае развіццё машынабудавання ў нашай краіне ўносіць Беларусь. Створаная яшчэ ў даваенныя гады машынабудаўнічая прамысловасць рэспублікі, дзякуючы высокім тэмпам развіцця, у пасляваенны перыяд стала вядучай галіной усёй народнай гаспадаркі.

Як вядома, галоўнае ў машынабудаванні — гэта станкабудаванне. У Беларусі працуюць заводы, якія выпускаюць дзесяткі тыпаў станкоў. У 1962 годзе ў рэспубліцы было выпушчана каля 20 тысяч металарэжучых станкоў. Карацей кажучы, на кожным дзевятым станку, выпушчаным у СССР, стаіць марка беларускіх заводаў. Асаблівае значэнне для краіны набыў Мінскі завод аўтаматычных ліній і агрэгатных станкоў, які ўяўляе сабой унікальнае прадпрыемства станкабудаўнічай прамысловасці СССР.

У перыяд стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма рэзка павысіцца тэхнічны ўзровень машынабудавання. За дваццацігоддзе ў СССР будзе абсталявана 60 тысяч аўтаматычных ліній. Да



**Мінскі мотавелазавод. На канвееры зборкі.**
Фота **Г. Бегуна** (Белта).

1980 года каля палавіны прадукцыі будуць выпускаць комплексна-аўтаматычныя прадпрыемствы. У гэтай вялікай справе значнае месца зойме машынабудаўнічая прамысловасць БССР.

Сярод буйнейшых машынабудаўнічых заводаў краіны славяцца мінскія — аўтамабільны і трактарны. У 1962 годзе аўтамабілебудаўнікі Беларусі выпускалі ў сярэднім за кожны рабочы дзень па 75 машын. У горадзе Жодзіна працуе другі ў рэспубліцы аўтазавод — Беларускі, які спецыялізуецца на вытворчасці 27-тонных самазвалаў, што маюць вялікае значэнне на работах пры адкрытай здабычы руд і вугалю, а таксама на будоўлях гідраэлектрастанцый.

Машынабудаўнічым гігантам з'яўляецца Мінскі трактарны завод, прадукцыю якога ведаюць у многіх краінах свету. Трактар «Беларусь» шырока выкарыстоўваецца ва ўсіх раёнах нашай радзімы ад берагоў Балтыкі да Ціхага

акіяна. У 1962 годзе кожны шосты трактар працаўнікам сельскай гаспадаркі Савецкага Саюза далі мінскія трактарабудаўнікі.

Вялікую ролю ў тэхнічным аснашчэнні сельскай гаспадаркі адыгрывае Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання — «Гомсельмаш», які за трыццаць з лішнім год свайго існавання выпусціў каля мільёна розных машын. У сучасны момант гэты завод — галоўны пастаўшчык сіласаўборачных камбайнаў у нашай краіне. Дастаткова сказаць, што з усёй колькасці такіх камбайнаў, выпушчаных у СССР у 1962 годзе, каля трох чвэртак даў «Гомсельмаш».

У пасляваенныя гады ў Беларусі з'явіліся спецыялізаваныя прадпрыемствы па выпуску падшыпнікаў і запасных трактарных частак.

Наша рэспубліка займае вядучае месца ў СССР па вырабу некаторых машын і прыбораў. Іх выпускаюць мінскія мотавеласіпедны, радыё- і гадзіннікавы заводы, аршанскі завод швейных машын і іншыя.

Небывалыя дагэтуль перспектывы адкрываюцца перад машынабудаваннем. У сувязі з тым, што ў Беларусі высокая шчыльнасць насельніцтва, а значыць і вялікія працоўныя рэсурсы, яе прамысловасць наогул, і машынабудаўніцтва ў прыватнасці, павінны мець перш за ўсё высокую працаёмкасць. Улічваючы адсутнасць мясцовай металургічнай базы і адносна высокі сабекошт электраэнергіі, у параўнанні, напрыклад, з усходнімі раёнамі краіны, прадукцыя машынабудавання павінна разам з тым вызначацца малой метала- і энергаёмкасцю. Да такіх галін машынабудавання адносяцца радыёэлектронная, электратэхнічная і прыборабудаўнічая прамысловасць. За чатыры гады сямігодкі колькасць прадпрыемстваў гэтых галін прамысловасці падвоілася, а выпуск прадукцыі больш чым патроіўся.

Першае месца па выпуску валавой прадукцыі займае цяпер трактарнае і сельскагаспадарчае машынабудаванне, другое — аўтамабільнае, трэцяе — станкабудаванне. У перспектыве радыёэлектронная прамысловасць з чацвёртага месца, якое яна займае, выйдзе на першае. Электратэхнічная і прыборабудаўнічая прамысловасць з сёмага месца выйдзе на другое. Такім чынам, характар беларускага машынабудавання будуць перш за ўсё вызначаць гэтыя самыя сучасныя галіны прамысловасці, без бурнага развіцця якіх немагчыма існаванне аўтаматызаванай вытворчасці, а значыць і няўхільнае павышэнне прадукцыйнасці працы.

Дзесяткі і сотні новых заводаў і фабрык, шахт, электрастанцый зменяць воблік беларускай зямлі, памножаць багацці яе народа-працаўніка, які ўносіць вялікі ўклад у агульную справу пабудовы светлай будучыні ўсяго чалавецтва — камунізма.

**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**кандыдат геаграфічных навук.**

# СУСТРЭЧЫ

## «БОГ ВЫШЫНІ»

Над Бярозай дзьмуць вятры. Гуляюць па бязлеснай прасторы, калышуць тоненькія дрэўцы ў новым парку, сустракаюць і праводзяць будаўнікоў, што ідуць на работу, грукочуць у вокны навасёлаў, разгойдваюць стралу вежавага крана...

Пад'язджаючы да Белазёрска, гарадка энергетыкаў, яшчэ здалёк бачыш сілуэт гэтага велізарнага крана. Ён расце, выцягваецца ўвышкі, раздаецца ўшырыню. Ты



стаіш побач з гэтым гігантам і адчуваеш сябе маленькім-маленькім. І не заўважаеш, што шапка даўно ляжыць на зямлі — звалілася.

Мне карцела зірнуць на хлопца, твар якога мільгаў за шклом кабіны. Але каб дабрацца да яго, трэба караскацца па металічных лесвіцах, адпачываючы на прамежкавых пляцоўках, зноў лезці ўгару і ўжо там, у кабіне велічынёю з добрую трохпакаёвую кватэру, шукаць таго, хто ля пульта кіравання. Тут цёпла, чыста. Стаіць звычайнае пакаёвае крэсла. На століку бялее разгорнутай старонкай журнал вахты. Гудуць электраматоры. Стрэлкі прыбораў то шалёна мільгаюць па кругу, то паслухмяна і ціха паўзуць за рукою кранаўшчыка.

Рукі Змітрака Сцяшэнкі непрыкметна і ўвішна перабягаюць ад рычага да рычага, ад махавіка да махавіка, нібы мімаходзь кратаюць рады кнопак на пульце, і кожны рух адразу ж аддаецца ў маторах. Маторы то напружана гудуць, то падвываюць нягучна, то зусім супакойваюцца і заміраюць. І тады бачна, як калона, падцягнутая амаль да самай стралы крана, таксама спыняецца, пагойдваецца на пругкіх тросах...

Калі я заходзіў у кабіну, Змітрок не азірнуўся на стук металічных дзвярэй. На маё прывітанне кінуў непрыязна:

— Ішлі б вы ўніз...

І я прыгадаў, як Іван Фёдаравіч Варэнік, начальнік мантажнага ўчастка, папярэджваў мяне: «Вы, браткі, не прыставайце да яго. Вельмі гэтага хлопец не любіць, ды і работа ў яго такая — няма хвіліны вольнай...»

Я сеў на незаняты зэдлік і пачаў глядзець уніз, на будоўлю. Усё было, нібы на далоні, — велізарная пляцоўка, уся ў агеньках электразваркі. Ужо апрануты ў бетон будынак галоўнага корпуса нагадваў гіганцкі касцёр, які вось-вось успыхне і загарыцца з усіх бакоў. Гэтае ўражанне ўзмацнялася яшчэ тым, што ад возера, прарэзаўшы заслону хмар, выплывала вячэрняе, незвычайна яркае сонца, і яго промні білі проста ў вочы.

— У Васілевічах вось так жа... — загаварыў Змітрок і змоўк.

Здавалася, гэтыя словы вымавіліся самі сабою, не закранаючы яго свядомасці.

Сталі на месца другая і трэцяя калоны, а ад кранаўшчыка я не пачуў больш нічога. Варухнулася недзе думка: «Вось жа нервы ў чалавека!»

Але Змітрок, напэўна, помніў тое, пра што загаварыў, таму спытаў:

— Былі ў Васілевічах?

І зноў маўчанне.

Паставілі яшчэ адну калону. І толькі пасля гэтага Змітрок сказаў:

— На такім я і там працаваў, калі ДРЭС будавалі. Не паспееш



Дзмітры Сцяшэнка заўсёды на вышыні. Ён — кранаўшчык.
Фота Л. Крэскіна.

прынаравіцца да адной будоўлі — на другую давай... Весела!..

Змітрок гаварыў хутка, і нельга было ўцяміць — задаволены ён ці не сваім вандроўным жыццём.

— Неяк атрымалася ў нас з Іванам Фёдаравічам крутая размова, — Змітрок усміхнуўся і стаў простым, свойскім хлопцам. — Тут такая справа. Я яму не падначалены, бо ад іншага ўчастка працую. А настрой быў неважнецкі: чатырнаццаць гадзін без перапынку ў кабіне калыхаўся. Ды яшчэ і ноч. Ды яшчэ і асенні вецер... А Варэнік са сваім пытаннем: «Ну як, Дзіма, справы?» Няўжо сам

не бачыў, што паўсутак у кабіне калышуся! Я яму і выпаліў: «Пасылайце хоць у землякопы! Там будзе лепей!..» А Іван Фёдаравіч паглядзеў на мяне, пакруціў галавою. «Дурань ты, Дзімка, дурань!»

Я паглядзеў на Змітрака, і мне здалося, што гісторыю непрыемнай размовы з Варэнікам ён прыдумаў.

Змітрок разам з мантажнікамі ў марозны снежань збіраў гэты кран. Сам праглядаў кожны болт, абмацваў кожны трос. Прыдзірліва ставіўся да кожнай дробязі, хоць не лічыўся брыгадзірам. Мантажнікі ў злосці яго лаялі і — слухаліся. Дзімка — аўтарытэт для іх. Лайся колькі хочаш, а калі слова скажа, як адрэжа: дакапаецца, горш за самага прыдзірлівага прараба.

Не, не мог Дзіма сказаць гэтак пра сваю працу. Хоць ён і на сямідзесяціметравай вышыні працуе і зусім справядліва называецца «богам будоўлі», а не скажа такое.

Задумаўшыся, я скалануўся ад нечаканага штуршка. Кран гайдануўся і затросся, як у ліхаманцы.

— Ледзь мантажніка не збіў, — прабурчаў Змітрок, злосна глянуўшы на мяне. — Кранаўшчык, як мінёр, памыляецца адзін раз. У нас хаця і не касмічная, а ўсё ж вышыня!..

Змітрок сядзеў нейкі час нерухома, потым асцярожна павёў калону да месца ўстаноўкі, так асцярожна і ціха, што набрынялыя вены на яго руках задрыжалі. Высокі, сухарлявы, Змітрок выдаваў цяпер пахмурым. Але гэта працягвалася нядоўга.

Калі мантажнікі паставілі і замацавалі чарговую калону, ён засмяяўся шчаслівым смехам, радуючыся, напэўна, што так спрытна і хутка ўдалося ўправіцца з калонай, выцер спацелы лоб і сказаў:

— Ужо колькі год на кране, а баюся. Яны ж, чэрці, — ён паказаў на мантажнікаў, што завіхаліся на вышыні, — бегаюць па калонах, бы па зямлі. А ты сядзіш у кабіне і дрыжыш: раптам калыхне стралу, раптам каго штурхнеш...

...Развітаўшыся з «богам вышыні», я спусціўся на зямлю, паглядзеў угару. Твар Змітрака здаваўся малюсенькім. Ледзь прыкметныя, мільгалі за шклом кабіны яго рукі: кранаўшчык падаваў мантажнікам нейкія сігналы.

Брыгадзір крочыў наперадзе калоны і чырвоным сцяжком паказваў, куды весці, і час ад часу пакрыкваў:

— Лева! Яшчэ лева! Так. Права! Лева! Дзімка, глухі ты ці што?

Стала неяк смешна: Змітрок жа з кабіны зусім не чуе брыгадзіравага голасу і падпарадкоўваецца толькі сігналам.

Мантажнікі хадзілі па бэльках, у асабліва небяспечных месцах паўзлі на жыватах, віселі на самым версе ўніз галовамі, бегалі па гнуткіх сталёвых лесвіцах, свісталі, падаючы адзін аднаму сігналы, стукалі кувалдамі, звесіўшыся ў паветры на мантажных паясах, падцягвалі звенні калон, якія матляліся ў паветры, клікалі таварышаў на дапамогу, самі кідаліся некаму памагаць, — і ўсё гэта выглядала прыгожа, спрытна і сапраўды рамантычна.

Але над імі быў «бог» у вобліку Змітрака Сцяшэнкі, і таму з імі не магло нічога здарыцца.

## ВАТОЎКА

Зусім нечакана выдаліся пагодныя дні, ды такія ясныя, што не падобна было на восень. Але вось перад вачамі то жоўты ліст таполі блісне, то раптам арабіна загарыцца на пагорку, то хлапчукі прыбягуць на пляцоўку з поўнымі кошыкамі наліўных антонавак. Восень...

І жураўліны ключ павіс у небе. І тлустыя качкі непадалёк плёхаюцца ў балотцы. І павуцінне, тонкае, бы нейлонавая нітка, зачапілася за бетонныя бэлькі...

Восень...

Людзі адчулі яе раней, чым птушкі. Не здымаюць цёплыя ватоўкі.

І вось я стаю і весела вывучаю пакатую Толеву спіну. Я злічыў усе радочкі на ватоўцы, іх аказалася роўна дзесяць. Гляну ў на боты — кірзачы як кірзачы, некалі, напэўна, былі новыя, але цяпер вельмі ўжо нагадваюць аўтамабільныя скаты.



Да Толі раз за разам ідуць рабочыя, шэпчуць нешта на вуха або крычаць так, што аж перапонкі ў вушах ірвуцца. Але доўга каля Толі ніхто не затрымліваецца. Ды і сам ён часта ідзе ў катлаван, дзе робяць бетонныя падмуркі пад калоны. Увішна прабяжыць міма рабочых, там схіліцца, тут памацае рукою бетон, на некага накрычыць мімаходзь, рулеткай нешта прыкіне на жоўтым пяску і зноў на гару. Напэўна, яму адсюль лепш усё відаць. І зараз жа да яго з усіх бакоў — людзі. Так увесь час і чутно ў паветры:

— Лунёў!

— Котаў!

— Толя!

І ўсё гэта разам — Анатоль Котаў-Лунёў. Але гэтак рэдка хто называе. Для аднаго ён — Котаў, для другога — Лунёў, а для мяне — проста Толя.

Неяк завітаў я ў Бярозе ў рэстаран паабедаць, а там ён. І яна. Прыбраныя — нібы на вяселле сабраліся. Аж завідкі ўзялі... Збянтэжыліся абое.

«Ды мы так... сышліся выпадкова пасля работы... газіровачкі вось...» Падаў я ім па кілішку і прапанаваў «за сямейнае шчасце». Збянтэжыліся яшчэ больш, пераглянуліся — але выпілі.

Напэўна, кілішак той быў нейкі чароўны, бо сёння пад прозвішчам Котавых-Лунёвых ужо ў Белазёрску прапісаны трое.

Тым часам Толя выгаворваў нейкаму хлопцу:

— Шпацыруеце тут... у белых тапках. Тут не бегавая дарожка. Боты трэба. Лепш гумовікі, можна і кірзавыя. Потым, хто ж так падымае? За бэльку берацеся пальчыкамі — вось яна і цюкнула. Добра яшчэ, што не па галаве. Бярыся!

Толя падставіў плячо пад пярэдні канец бэлькі і пайшоў, не азіраючыся. Хлапец, напэўна навічок, здзіўлена пачыкільгаў ззаду ў сваіх заляпаных тапачках.

Нельга было стрымацца ад смеху.

Толя, убачыўшы мяне, спытаўся:

— Чуў?

— Угу.

— Бачыш, прарабу трэба і педагогікай займацца. Кожны тыдзень — папаўненне. Навенькія ўсяго баяцца. Што ж з імі рабіць?



Пільны позірк у гаспадара будоўлі прараба Анатоля Котава-Лунёва.

У яго ўважлівых вачах заскакалі задорныя іскрынкі. Не, ён, здаецца, ведаў, што трэба рабіць і з гэтым і з іншымі хлопцамі, якія трапляюць да яго

Толя пайшоў, а я застаўся ля халоднай калоны. Прыгадалася першая сустрэча з ім...

Глухая асенняя ноч. Стомлены, я пераступіў парог гасцініцы ў гарадку і апынуўся ў пакоі, скрозь застаўленым ложкамі. Я адшукаў незаняты ложак і нырнуў пад цёплую коўдру.

Прачнуўшыся, доўга не мог уцяміць, што робіцца. У пакоі гарэла святло. Вакол стала скакалі, трымаючы адзін другога за каўняры, два здаравякі. Падлога ўгіналася пад іх цяжкімі ботамі. Твары ў здаравякоў былі гарачыя, але зусім чамусьці не злосныя.

Я павярнуў галаву і ўбачыў знаёмага мантажніка, ужо немаладога, які шмат павандраваў па будоўлях. Ён курыў, паклаўшы ногі на спінку ложка, і чытаў кніжку,

зусім не звяртаючы ўвагі на свавольнікаў. Побач хлапчук у новым гарнітурчыку разгублена пытаўся:

— Што гэта? Яны ж б'юцца!

— Б'юцца, — згадзіўся мантажнік, не адрываючыся ад кніжкі.

— Не горад, а чорт ведае што!..

— Горад, між іншым, яшчэ будуецца, — азваўся мантажнік і запытаў у хлопца ў модным гарнітурчыку і ў чаравіках, з-пад якіх выглядалі блакітныя шкарпэткі. — А вы як сюды трапілі, можа, на экскурсію?..

— Па накіраванню. Пасля інстытута. З Адэсы...

І тут мантажнік узняў галаву:

— А ну, насарогі, марш на вуліцу. Там — аб сценку лбамі... Здорава памагае ў такіх выпадках.

Сказаў гэта ён ціха. Але абодва адразу выбеглі на вуліцу — у чорнае месіва ночы.

— Добрыя хлопцы! — працягваў мантажнік, узняўшыся. — А бачыш, што вырабляюць... А ўсё таму, што нечым заняцца. Сумна. Вось гэтак, Толя!..

— Калі я ехаў сюды, — азваўся хлопец, — здавалася, што мяне тут чакаюць, як бога. А тут — б'юцца...

— М-да, — пакруціў галавою мантажнік і адклаў кніжку. — І куды ж цябе накіравалі, Толя, можа, да мяне начальнікам?

А вочы яго гаварылі іншае: не быць табе ў мяне за начальніка, а калі і паставяць, то нічога добрага з гэтага не будзе. І я таксама, засынаючы пад іх нягучную гаворку, чамусьці падумаў: «Не прыжывецца ён тут, на гэтай будоўлі».

Але ён прыжыўся. Праз некалькі ж месяцаў збег з вытворчага аддзела, куды яго спачатку накіравалі, і вось завіхаецца на пляцоўцы галоўнага корпуса.

І цяпер, калі я трапляю ў Белазёрск, неяк няёмка бывае перад Толем. Няўжо я тады пад модным Толікавым гарнітурам не разглядзеў, што яму да спадобы прыйдзецца звычайная прарабская ватоўка.

**Аркадзь САВЕЛІЧАЎ.**

# ПАСЫЛКА З ПАЛЕССЯ

**Нарыс**

У Калінкавічах ёсць грыбакансервавы завод. Яго прадукцыю — марынаваныя грыбы, варэнні, кампоты, джэмы — сустрэнеш на сталах у масквічоў і ленінградцаў, мінчан і валгаградцаў, жыхароў Поўначы і нават шостага кантынента Антарктыды...

Хочацца расказаць пра будні тых, хто вырабляе гэтыя прысмакі, пра маладых дзяўчат, якія сталі майстрамі сваёй справы.

...На заводзе рыхтаваліся да новага сезону. Мелася на ўвазе, што ўвосень будзе пушчаны новы кансервавы цэх. І пакуль устанаўлівалі новае абсталяванне, трэба было падрыхтаваць спецыялістаў вакуумапаратчыкаў, аўтаклаўшчыкаў, варшчыкаў, закатчыкаў.

Тады з Мінска і прыйшла тэлеграма, каб прыслалі на курсы людзей. З завода паехалі Надзя Сарокіна, Ніна Кулікава, Марыя Чаранок, Марыя Курчонак і іншыя дзяўчаты — надаўнія выпускнікі сярэдняй школы.

Вярнуліся дзяўчаты з Мінска, заглянулі ў галоўны корпус завода і здзівіліся: прыгажун! Чатыры тэхналагічныя лініі напагатове. Усё будуць рабіць машыны.

* * *

Дзяўчаты апранулі беласнежныя халаты, на галовы хусцінкі. Ля вакуумапарата стала Марыя Чаранок, ля варачнага катла — Надзя Сарокіна, ля закатачнай машыны — Марыя Курчонак... Яны, калі трэба, могуць замяніць адна адну, бо авалодалі некалькімі спецыяльнасцямі.

Брыгаду «навічкоў» узначаліла Ніна Кулікова. Ёй было цяжэй, не тое, што Надзі. У яе брыгадзе ўсе тыя, хто навучаўся на курсах, а ў Ніны — дзяўчаты, якія толькі што развіталіся са школай.

У душы Ніна зайздросціла Надзі. Яе брыгада з першых дзён працуе, як добры гадзіннік, рытмічна. А ў Ніны? І зрывы бываюць, і нават брак.

Ля аўтаклаваў, дзе стэрылізуецца гатовая прадукцыя, дзяжурыць Аляксей Юшкевіч — шыракаплечы, каржакаваты хлопец. Вочы ў яго чорныя, як у цыгана. І заўсёды іскрынкамі гараць. Паважаюць яго дзяўчаты. За шчырасць, за сумленнасць. Прыслухоўваюцца да яго думкі: «Алёша глупства не скажа». Ён камуніст, малады, нядаўна з камсамола.

Аляксей адзін з тых, хто будаваў завод, а потым застаўся ў яго цэхах. Праз аўтаклавы, ля якіх працуе ён, праходзіць уся прадукцыя, і яму бачна праца кожнай брыгады.

Неяк прыбыло столькі сыравіны, што ўзнікла неабходнасць перайсці на трохзменку. Замест ранейшых трох мільёнаў кансервавых банак гутарка пайшла ўжо аб пяці мільёнах. А яшчэ ж марынаваныя і сухія грыбы... Сотні тон. Штодзень на завод прыбывалі заказы ад спажыўцоў: «Хутчэй адгружайце!» Дзяўчаты стараліся. Але не ва ўсіх ладзілася, асабліва ў навічкоў. Ніна нервавалася.

— Не падай духам, — падбадзёрваў Аляксей дзяўчыну. — Не багі гаршкі лепяць. Навучацца і твае дзяўчаткі!..

— Цяжка мне, Алёша, — прызналася яму Ніна. — Гляджу, як у іншых выходзіць, аж зайздрасць бярэ...



**Брыгадзір Надзя Сарокіна.**
Фота **І. Ламановіча.**

— Добра, нешта прыдумаем...

«Які цудоўны хлопец гэты Алёша, — думала Ніна Кулікова. — А вось Надзя, лепшая сяброўка, не падышла, як Алёша, не сказала добрага слова...»

А Надзя і не здагадвалася, што Ніна пакрыўдзілася. Хоць і не было прычыны. А можа была? Яны сустрэліся ў гардэробнай. Толькі што скончылася змена. Здымаючы халат, Надзя праз плячо кінула:

— Ніна, калі едзем у Мазыр, у інстытут? Не ладзіцца ў мяне з геаметрыяй.

Ніна прамаўчала.

— Ты што, не чуеш?

— Адчапіся. Табе добра, — прагаварыла Ніна са злосцю. — Табе можна вучыцца, а мне не да гэтага...

— Кінь ты, раніцай паедзем на кансультацыю.

— Нікуды я не паеду, — крыкнула Ніна. — Так сяброўкі не робяць!

Упершыню за колькі часу дзяўчаты пасварыліся. Абедзве яны з атэстатам сталасці прыйшлі на завод. Разам асвойвалі новую

спецыяльнасць. Потым паехалі на курсы. Цяпер разам рыхтуюцца ў інстытут без адрыву ад вытворчасці. І паступілі на курсы пры Мазырскім педагагічным інстытуце. Заўсёды разам ездзілі на лекцыі і кансультацыі. На гэты раз Надзя паехала адна.

«Я не вінаватая,— заспакойвала сябе Надзя.— Гэта ўсё Ніна. Не ладзяцца справы ў брыгадзе, дык мяне вінаваціць. Ніхто ж не прасіў яе,— сама згадзілася ўзяць брыгаду навічкоў. Цяпер злуецца. А можа нядобра гэтак думаць пра сяброўку?»

У цэху прыкмецілі, што паміж дзяўчатамі прабегла, як кажуць, чорная кошка. А як сябравалі! Нікому Надзя не гаварыла, нават сваім бацькам, а Ніне першай прызналася, што кахае Алеся Ісачанку, што рашылі пажаніцца.

— Камсамольскае вяселле будзе ў нас. Так мы парашылі.

— Ой, Надзечка, віншую цябе,— і яны моцна пацалаваліся.— Саша — добры хлопец!..



Ударніца камуністычнай працы камсамолка Марыя Курчонак.

Фота С. Чырэшкіна.

Успомніла гэта Надзя і ледзь не заплакала.

Чаму ж Ніна проста, шчыра, як заўсёды, не падышла і не сказала: «Памажы мне». Вядома, Надзя памагла б... Цяжка ў Надзі на душы...

У перазменку Аляксей Юшкевіч сабраў дзяўчат. Ніхто яго на гэта не ўпаўнаважыў, але абавязак камуніста падказаў: не саромся, проста ў вочы кажы праўду. Людзі зразумеюць. Трэба, каб не адназдве брыгады хадзілі ў перадавіках, а ўсе. І яшчэ: трэба памірыць Надзю з Нінай. Яны абедзве ганарлівыя. Вельмі шкадуюць, што пасварыліся, і не знойдуць, як памірыцца.

Алёша пачаў адразу, без дыпламатычных выкрунтасаў.

— У мяне прапанова, дзяўчаты,— сказаў ён,— памагчы адстаючым брыгадам...

— А як гэта зрабіць?

— Ты пачакай, Валя,— перапыніў Аляксей Валянціну Шыла.— Няхай на гэта пытанне адкажа твой брыгадзір, Надзя Сарокіна.

Надзя зірнула на Аляксея і ледзь прыкметна кіўнула галавой: разумею.

— Я іду ў брыгаду Куліковай,— узнялася Надзя.— Удваіх лягчэй будзе справіцца...

Валя Тарасевіч, работніца з брыгады Ніны Куліковай, падбегла да Надзі і пры ўсіх пацалавала яе. А Ніна падышла, моцна паціснула сяброўцы руку і ўсхвалявана зашаптала:

— Даруй мне, Надзечка...

І ў іншыя брыгады на дапамогу пайшлі больш вопытныя майстры. Надзя падала добры прыклад. Праўда, знайшліся і такія, што не зусім ухвалялі яе крок. Але такіх былі адзінкі.

* * *

У тыя дні я і трапіў у цэх. Прыйшоў невыпадкова. У рэдакцыю газеты амаль адначасова прыбылі два пісьмы аб якасці прадукцыі маладога прадпрыемства. У пісьме з Саратава спажыўцы дзякавалі за смачныя марынаваныя грыбы, у другім, атрыманым ад мясцовых жыхароў, была скарга. Паказаў пісьмы старым сваім знаёмым — важакам камсамольскіх брыгад Надзі Сарокінай і Ніне Куліковай. Падышлі сяброўкі. Надзя чытае пісьмо з Саратава: «Выносім вам сардэчную падзяку... Жадаем рабочаму калектыву добрых працоўных поспехаў... Просім перадаць наша пажаданне аб прысваенні яму звання калектыву камуністычнай працы... Вашы падбярозавікі, маслякі вельмі смачныя...» У канцы пісьма — прозвішчы і адрасы. Дзяўчаты ўзрадаваліся.

— Во, здорава!— усклікнула Валянціна Тарасевіч, першая Надзіна памочніца.

Надзя не ведала, ці чытаць другое пісьмо.

— Ведаеш, Надзя, не трэба цяпер чытаць,— папярэдзіў я яе, бо хацеў спачатку пачуць, што скажуць кіраўнікі завода.

...На дырэктара пісьмо саратаўцаў не зрабіла ўражання. Ён выняў з папкі, што ляжала на стале, нейкія паперкі і падаў іх мне.

Я прачытаў: «Падрыхтуйце для рэстарана «Масква» дзесяць тон марынаваных грыбоў». Другая тэлеграма: «Дзякуй за выдатную прадукцыю. Калектыў кітабойнай флатыліі «Слава» жадае рабочаму калектыву вашага завода далейшых поспехаў».

— Магу назваць дзесяткі краін, дзе прадукцыя з нашай маркай карыстаецца вялікім попытам,— не без гонару гаварыў дырэктар.

— Мусіць, у Антарктыду пасылаеце грыбы?

— Жыхары пасёлка «Мірнага» — нашы старыя знаёмыя.

Сапраўды, дзе яшчэ ёсць такія грыбы, як палескія? Але як жа магло здарыцца, што мясцовыя спажыўцы скардзяцца на якасць прадукцыі? Цікава, што скажа дырэктар? І калі я пазнаёміў яго са зместам другога пісьма, ён толькі мнагазначна сказаў: «Та-а-к».

А ў гэты час у цэху моладзь загаманіла. Дзяўчаты ўсё ж прачыталі скаргу. Ніна ўсю віну ўзяла на сваю брыгаду — у мяне ж навічкі і брак выпусцілі яны. Вырашылі абмеркаваць пісьмо на камсамольскім сходзе. Параіў ім гэтак Аляксей.

«ЧП» — так назвалі тое пісьмо. Як гэта так, камсамольскія брыгады змагаюцца за званне камуністычных, і раптам... На сход сабраліся ўсе. Прыйшлі і кіраўнікі завода.

Што і казаць, няёмка адчувалі яны сябе. Ніна Кулікова ўзяла



Закатчыца камсамолка Марыя Працко сістэматычна перавыконвае заданні.



Майстар закаткі слоікаў камсамолка Валя Тарасевіч з брыгады камуністычнай працы, якой кіруе Надзя Сарокіна.

віну на сябе і сваю брыгаду, але кіраўнікі завода ведалі, што не адна яе брыгада тут вінавата.

Чаму дагэтуль не механізавана падача шкляной пасуды ў мыечнае аддзяленне? Чаму дырэкцыя не падумала пра аўтаматызацыю расфасоўкі гатовай прадукцыі? Колькі ўжо гаварылі пра гэта! Чаму не наладжана тэхнічная вучоба з навічкамі? Колькі набралася гэтых «чаму»!..

— Нам вельмі сорамна за гэтую рэкламацыю. — Так і сказала Надзя. — Яна ж магла прыйсці і ад нашых сяброў з Венгрыі або з Антарктыды. Цікава, як бы тады рэагавалі вы, таварыш дырэктар?..

— А чаму нічога не гаворыш пра пісьмо з Саратава? — пачуўся голас з прэзідыума.

— Любіце, калі вас толькі хваляць, — не разгубілася Надзя Сарокіна.

— Правільна, Надзя, правільна!

Аляксей падтрымаў Надзю. Заканчваючы сваё выступленне, ён сказаў:

— Тое, што Кулікова ўзяла ўсю віну на сябе, на сваю брыгаду, я лічу, зрабіла няправільна. Не яе адна брыгада вінаватая, а ўвесь калектыў.

* * *

У хуткім часе наладзілася тэхнічная вучоба. У брыгаду Ніны Куліковай прыйшлі лепшыя майстры-грыбавары, падзяліліся вопытам. І майстар кансервавай лініі ўсё часцей пачала хваліць дзяўчат.

— Гэта заслуга Надзі Сарокінай, — звычайна адказвала Ніна.

Аднойчы майстар сказала, што ўжо Надзя можа вярнуцца ў сваю брыгаду.

— Ці не рана? — запыталася Ніна.

— Ужо і твае дзяўчаты могуць памагаць суседзям.

Прайшоў месяц, другі. Брыгада Ніны Куліковай першая на заводзе адмовілася ад кантролю майстра, які вызначаў рэфрактометрам гатоўнасць і якасць прадукцыі. Дзяўчаты сталі рабіць гэта самі. Потым на самакантроль перайшлі і дзяўчаты з Надзінай брыгады.

— Ну, Ніначка, мне нечага рабіць у вас, — сказала Надзя.

— Дзякую за дапамогу, — шчыра адказала Ніна.

Сезон па выпуску прадукцыі калектыў завода завяршыў паспяхова. Выпушчаны дзесяткі тон разнастайных кансерваў звыш плана.

Надзя і Ніна закончылі курсы па падрыхтоўцы ў інстытут. Іх прынялі ў рады камуністычнай партыі. Брыгадам, што ўзначальваюць Надзя Сарокіна і Ніна Кулікова, прысвоена званне калектываў камуністычнай працы.

Амаль усе рабочыя цэха гулялі на вяселлі ў Надзі Сарокінай.

Яшчэ адна падзея запомнілася ў калектыве. На заводзе быў госць з далёкай Антарктыды, з пасёлка Мірны — Міхаіл Сямёнавіч Куляшоў, сын былога кулямётчыка чапаеўскай дывізіі. Міхаіл у Антарктыдзе працуе механікам-вадзіцелем усюдыхода.

Міхаіл расказаў пра жыццё і працу савецкіх вучоных на шостым кантыненце, пабываў ва ўсіх цэхах, пазнаёміўся з тымі, хто працуе на заводзе. Сапраўды, і завод малады, і ва ўсіх цэхах — амаль адны дзяўчаты.

На развітанне да госця падышла Надзя Сарокіна:

— Міхаіл Сямёнавіч, мы, камсамольскія брыгады, рашылі...

І дзяўчына засаромелася. На выручку падаспела Ніна:

— Нам хочацца паслаць палярнікам сціплы падарунак...

— Навошта? — здзівіўся Міхаіл Куляшоў. — Не трэба нічога. Мы ўдосталь усім забяспечаны. І вашы кансервы атрымліваем.

— Не, не адгаворвайцеся, — не адступала Ніна. — Такое рашэнне калектыву...

Праз колькі дзён на шосты кантынент пайшла пасылка з палескімі грыбамі. І са шчырым прывітаннем ад моладзі.

**Юры ПОЛЯК.**

# Пра наш маральны кодэкс

**Уладзімір ЮРЭВІЧ**

# ПРАЦА — ТВОРЧАСЦЬ!

**«Праца заўсёды была і будзе крыніцай існавання і развіцця людзей».**

**М. С. ХРУШЧОЎ.**

Наша краіна ў кіпенні працоўнай дзейнасці народа, ахопленага адной мэтай — стварыць сапраўднае багацце матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, наблізіць запаветную пару камунізма, найсправядлівейшага ладу жыцця на зямлі. Здзяйсняюцца выказаныя ў рэвалюцыйнай песні спадзяванні народных аб тым, што «владыкой мира станет труд».

Праца ўжо сёння ўладарыць над светам. Свет сацыялізму асталяваўся на гіганцкай прасторы ад Мурманска да Ханоя, ад Берліна да Пекіна. Кожную чацвёртую тону сталі, якая выплаўляецца на зямным шары, можна пазначыць: «Зроблена ў сацыялістычных краінах». Кожны другі хлебны колас, вырашчаны на планеце, — плён працы земляробаў новага свету. Сёння краіны сацыялістычнай садружнасці даюць больш за трэцюю частку сусветнай прамысловай прадукцыі. Гэтыя лічбы гучаць урачыстым гімнам Працы, гімнам Кастрычніку, які запаліў над светам незгасальную зару камунізма.

Мы сведкі і ўдзельнікі таго глыбокага працэсу, калі не асобныя слаі, а народная маса ўсё больш актыўна прымае ўдзел ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, калі чалавек вырываецца з абмежаванага кола замкнёнага існавання, калі ён пакідае цесную шкарлупіну выключна асабістых, часам дробных і эгаістычных страсцей і помыслаў, калі інтарэсы, кругагляд, імкненні і справы чалавека незвычайна пашыраюцца, калі радавыя працаўнікі лічаць сваёй кроўнай справай карэнныя праблемы камуністычнага будаўніцтва.

Праца ў нашым грамадстве, асабліва ў наш час, не толькі сродак памнажэння яго багаццяў, але і тое гарніла, у якім гартуецца новы чалавек, фарміруецца яго духоўнае аблічча, псіхалогія.

Зайшоўшы неяк у вестыбюль аднаго будаўнічага трэста, я звярнуў увагу на дзяўчыну ў шэрым халаціку з чырвоным касячком на галаве. Яна стаяла на самым версе раскладной лесвіцы, прыстаўленай да высокага, на



**Заводскія зарніцы.** З Рэспубліканскай выстаўкі мастацкай фатаграфіі. Фота **М. Жалудовіча** (Магілёў).

ўвесь паверх, акна, занавешанага аксамітнымі цёмна-зялёнымі шторамі.

— Калі ласка, патрымайце за тасьму, — звярнулася дзяўчына да мяне.

Дзяўчына неўзабаве «прызямлілася» і падышла да століка. Побач стаяў пыласос ды вядро з вадой, у якім ляжала пухіром ануча.

— Дзякуй, што памаглі, — апамятаўшыся, сказала яна мне, нібы просячы прабачэння за няўважлівасць.

Памераўшы маленькай канторскай лінейкай тую тасьму, яна пачала нешта падлічваць на аркушыку паперы.

— Што вы тут па гаспадарчай частцы працуеце? — спытаўся я.

— Па гаспадарчай.

— Кім, калі не сакрэт?

— За парадкам сачу, каб чыста было, светла, утульна.

— Дык вы прыбіральшчыца?

— Так.

— Навошта тады вам мерацъ, лічыць і ўсё такое?

— Я ж вам сказала, хачу, каб светла і ўтульна было. Вось падлічу, колькі святла адбіраюць гэтыя «пудовыя» шторы, гэтыя «акумулятары пылу», даведаюся колькі яны каштавалі і пастаўлю пытанне, каб пазнімалі іх ці памянялі на лёгкія, празрыстыя, сапраўды прыгожыя.

Мне чамусьці прыгадаліся тыя прыбіральшчыцы, якія скардзяцца на свой нізкі заробак і мала цікавяцца тым, што яны і для чаго прыбіраюць. Гэта дзяўчына мяне проста заінтрыгавала. Я пацікавіўся, чаму яна выбрала сабе такую незайздросную спецыяльнасць, якая мала аплачваецца і, як кажуць, без перспектывы. Люся (так звалі дзяўчыну) адказала, што яна пасля дзесяцігодкі пайшла працаваць на будоўлю, а потым паступіла ў інстытут, і каб мець больш часу для вучобы, папрасілася ў прыбіральшчыцы.

— І вы ўзяліся навесці парадак у гэтай установе?

— А чаму ж не? — здзіўлена глянула Люся на мяне.

Калі праз паўгода мне давялося зноў пабываць у тым будаўнічым трэсце, я звярнуў увагу на перамены, што адбыліся ў вестыбюлі, калідорах, прыёмных. Скрозь было шмат святла. Лёгкія, з дэкаратыўнай тканіны шторы, рознакаляровыя зручныя крэслы, падвешаныя на шнурках перад вокнамі вазонікі прыйшлі на змену цяжкому аксаміту, скураным канапам і лапушыстым фікусам.

Такая гэта неспакойная дзяўчына Люся. Узялася і зрабіла, не адступілася ад свайго. Выходзіць, і ў працы прыбіральшчыцы можна знайсці творчую радасць, нават асалоду для душы.

Неўзабаве пасля гэтага я чытаў прынятую XXII з'ездам КПСС Праграму камунізма, дзе запісаны маральныя прынцыпы будаўнікоў новага ладу, і мая ўвага спынілася на адным з іх: «Добрасумленная праца на карысць грамадства: хто не працуе, той не есць». Сапраўды, як важна выхаваць у кожным чалавеку добрасумленнае стаўленне да ўсяго, што ён робіць, як важна, каб чалавек працаваў не па абавязку закону, а па загаду душы.

Люся магла б засесці і ў канцылярыю, бо мела за плячыма сярэднюю адукацыю. Але калі яна пачала працаваць на будоўлі і прыходзіла часам у трэст, душа гэтай прывучанай змалку да парадку і чысціні дзяўчыны не магла быць спакойнай, бо ў новым прасторным будынку яна бачыла запусценне, бруд, прыцемкі. І яна папрасілася залічыць яе прыбіральшчыцай, выбраўшы гэты занятак сваёй першай працоўнай прафесіяй.

Праз два гады Люся закончыць інстытут, вернецца на будоўлю інжынерам па цеплафікацыі. І можна быць упэўненым, што на яе ўчастку будзе заўсёды поўны парадак. Глядзіш на такіх людзей, і душа радуецца — не за рублём (які там у прыбіральшчыцы рубель!) ходзяць яны на работу, а каб мець уцеху ад яе. Хіба гэта не прыкмета новага часу, калі чалавек не тоіць сваю радасць ад народа, а спяшаецца з юных год раздзяляць з ім яе. Жыццёвай патрэбай такіх людзей становіцца жаданне не толькі радавацца самому, але і прынесці радасць другім, калектыву.

Так, чалавек знаходзіць шчасце ў працы. Але ці заўсёды так было, ці скрозь і цяпер шчасце жыве побач з працай?

Мусіць толькі свабодная праца, праца на сябе і на грамадства, у якім ты жывеш, можа прыносіць асалоду, задавальненне. Значыць, сацыяльныя ўмовы, у якіх знаходзіцца працаўнік, вызначаюць характар працы і ступень маральнага задавальнення чалавека ёю. Калі чалавек усведамляе, што яго праца прыносіць карысць не толькі яму самому, але і тым, хто працуе з ім побач, калі ён бачыць, што памнажаецца дабрабыт усяго грамадства, а не толькі багацце выбранай кучкі спрытных дзялкоў, якія навучыліся рабіць адно — прысвойваць сабе плён працы другіх, тады ў ім нараджаецца нездольнае імкненне прыўнесці ў сваю працоўную дзейнасць творчы элемент, узнікае жаданне шукаць, дзярзаць, здзяйсняць нешта вялікае, высакароднае.



**Радавы сямігодкі свідравальшчык Уладзімір Селіванаў.** З рэспубліканскай выстаўкі мастацкай фатаграфіі. Фота **А. Дзітлава.**

Прайшлі тысячагоддзі, пакуль чалавек атрымаў магчымасць свабодна працаваць у імя самога сябе, у імя свайго шчасця, матэрыяльнага дабрабыту, прыгожага, разумнага жыцця свайго і сваіх таварышаў, што аб'ядналіся высокай мэтай пабудовы самага справядлівага ў свеце грамадства — камуністычнага.

Не стагоддзі, а толькі якіх чатыры дзесяткі год мінула з таго часу, як будаўнік новага свету па вечарах пры святле газнічкі садзіўся за буквар, каб засвоіць асновы граматы, а сёння ён ужо імкнецца да інжынерных ведаў, бо адчуў, што з адным тэхмінімумам не рушыш надта наперад. Час вымагае новых пошукаў, новых знаходак, новага напружання стваральнай энергіі.

* * *

Яркім электрычным святлом заліты вокны ў маладым горадзе Жодзіна. У адным з вокнаў відаць, як схіліўся над чарцёжнай дошкай круглатвары чалавек. Дык гэта ж Сцяпан Копцік — машыніст Смалявіцкай дзяржаўнай раённай электрастанцыі.



**Брыгадзір.** З Рэспубліканскай выстаўкі мастацкай фатаграфіі.
Фота **У. Дагаева.**

Сцяпан — з вёскі Паддуб'е, што недалёка ад Жодзіна. Успамінае, як хлапчуком прыбягаў на чыгуначную станцыю, каб падзівіцца на паравозы і на тых, хто там ездзіць. Асабліва запомніўся яму качагар, нейкі таямнічы ў зыркім чырвоным водсвеце паравознай топкі волат з магутнымі мускуламі. Так хацелася тады Сцяпану стаць хоць на хвілінку дарослым і з шуфлем у руках папрацаваць ля паравознай топкі.

Стаў Сцяпан дарослы і стаў качагарам, але не на паравозе, а на буйнай электрастанцыі. Падлеткам яшчэ, адразу пасля вайны, прыйшоў ён на будаўніцтва ДРЭС. Працаваў вучнем матарыста, а потым стаў матарыстам будаўнічага крана. Пабудавалі галоўны корпус, загаманіла першая турбіна, і Сцяпан застаўся слясарыць у аддзеле галоўнага механіка. А цягнула бліжэй да агню, да той першаасновы, з якой нараджаецца электрычная энергія.

Сцяпан Копцік стаў катлачыстам. Рамантуючы катлы, хлопец дасканала вывучыў кожную трубку гэтага складанага агрэгата. Кемлівасць, стараннасць, высокая дысцыплінаванасць хлопца былі заўважаны. Яго прызначаюць памочнікам машыніста катла, а праз які год ён паспяхова здае экзамен на машыніста.

Магутны, вышынёй у тры паверхі кацёл. Яго пашча, якая няспынна дыхае агнём, схавана ад людзей. Унізе, ля асновы катла — шчыт кіравання. Больш дзесятка *розных прыбораў на шчыце: стрэлкі — адны спакойна* застылі, другія трымцяць ля якой-небудзь лічбы, свецяцца сігнальныя лямпачкі... Ля пульта пахаджвае Сцяпан Копцік. З першага позірку выдае, што ён нібы нічым і не заняты. Але прыгледзішся і ўбачыш, як пільна сочыць машыніст за паказаннямі прыбораў, часам спыняецца, нешта, відаць, прыкідвае, падыходзіць да пульта, дакранаецца да адной ручкі, другой, націскае рычажок, здымае тэлефонную трубку, аддае распараджэнне... Вось ён які, сённяшні качагар. Не пот на твары, а глыбокая задуменнасць, засяроджанасць, напружаная работа розуму... Ад машыніста шмат у чым залежыць дзейнасць усёй электрастанцыі, і Сцяпан Копцік усведамляе гэтую адказнасць, таму і вучыцца завочна ў політэхнікуме. Вучыцца, каб не адстаць ад часу.

Вось ужо трэці год, як Сцяпан Копцік носіць гордае рабочае званне — ударніка камуністычнай працы. На чарцёжнай дошцы ў Сцяпана Копціка пакуль што вучэбны курсавы праект. У стройных лініях схемы электраразмеркавальнага шчыта толькі ледзь-ледзь праступае сваё, Копцікава. Але яно будзе, неўзабаве будзе...

— Вы пытаецеся, чаму я, маючы добрую прафесію, гну спіну над падручнікамі і чарцяжамі? А як жа інакш, без вучобы цяпер нельга і дня пражыць. Скончу тэхнікум, а там і ў інстытут падамся. А пасля інстытута таксама трэба будзе вучыцца. Жыццё не стаіць на месцы. Ну, добра. Я вось ведаю кацёл, ля якога нясу вахту. Але ж, каб працаваць па-сучаснаму, трэба ведаць усё нутро цеплавой электрастанцыі, да апошняга правадочка ў дыспетчарскай сувязі, трэба адчуваць нейкім унутраным дотыкам увесь



арганізм — тады толькі твая праца будзе прыносіць карысць, тады толькі яна будзе прыкметная ў агульным працоўным патоку ўсяго калектыву...

Гэта быў шчыры маналог Сцяпана Копціка. Слухаў я, не перапыняючы, і яскрава бачыў самыя драбніцы характару героя нашай эпохі — інтэлектуальна развітага савецкага рабочага.

— З дапамогай пульта кіравання катлом, — гаварыў далей Сцяпан, — я кірую пэўным вытворчым працэсам, утварэннем пары, якая павінна прывесці ў рух генератар. А для гэтага трэба выдатна ведаць і глыбока разумець прыроду пэўнага тэхналагічнага працэсу.

Ці даўно яшчэ адукацыя лічылася капіталам для чалавека. Атрымаць адукацыю азначала атрымаць пэўны капітал, каб потым эксплуатаваць яго дзеля сваёй асабістай карысці. Не будзем таіцца, што такі погляд на адукацыю яшчэ, бывае, сустрэнеш і сёння. Але ж не варта забывацца і на тое, што цяпер адукацыю ў нас атрымлівае кожны чалавек і атрымлівае перш за ўсё для таго, каб лепш працаваць на карысць грамадства.

* * *

Сацыялізм не толькі вызваліў працу, ён вызваліў і розум, збіў з навукі аковы карыслівасці, зайздрасці, сквапнасці. Сацыялізм даў навуцы высакародную мэту служыць не чыстагану, а самому чалавеку. Капіталізм першы адзеў атам у ваенны мундзір, а людзі сацыялістычнага свету навучылі атам працаваць дзеля міру і шчасця чалавека.

Мара чалавецтва стала ўжо явай сацыялізма. Сёння чалавек ужо ловіць і даследуе таямнічыя прамені сонца і зорак, вывучае патокі касмічных часцінак. Заўтра ён убачыць бліжэйшыя да нас планеты і ступіць на іх. Гэта ўжо не фантастычная мара, бо новыя, сапраўды бязмежныя прасторы атрымаў чалавек для сваіх думак і асветленых імі дзеянняў.

Савецкі інжынер, канструктар, вучоны — гэта не які-небудзь звышчалавек, што цураецца фізічнай працы, грэбуе парадай рабочага, пагарджае крытычнымі заўвагамі грамадскасці. Рабочы стаіць поплеч з інжынерам і вучоным, сумеснымі намаганнямі яны ствараюць новы свет. Праца і навука — нібы два крылы, пры дапамозе якіх чалавецтва ўзнімаецца ўсё вышэй.

Якой самаахвярнасцю адзначана жыццё лепшых людзей савецкай навукі, што ўзнімае над светам сцяг чалавечага прагрэсу! Акадэмік І. Кікоін у сваіх успамінах пра аднаго з заснавальнікаў айчыннай ядзернай фізікі І. Курчатава характарызуе яго як чалавека выключнай працаздольнасці. У гады работы ў Ленінградскім фізіка-тэхнічным інстытуце яго можна было бачыць у лабараторыі з самага рання да позняй ночы. У інстытут прыбыла новая імпартная высакавольтная ўстаноўка. На працягу некалькіх вечароў супрацоўнікі маглі бачыць Ігара Васільевіча, які з закасанымі рукавамі разам са сваімі калегамі манціраваў трансфарматар, кенатроны, ізалятары і іншыя дэталі. У той час фізікі не карысталіся дапамогай лабарантаў... Адпачынкам была ўборка лабараторыі, і ўлюбёным заняткам стомленага Ігара Васільевіча было фарбаваць сталы.

При ўсёй велізарнай занятасці эксперыментальнай работай ён выкройваў час, каб пісаць манаграфіі

**У свеце нязведанага.** З Рэспубліканскай выстаўкі мастацкай фатаграфіі.
Фота **У. Кітаса.**



і падручнікі, хоць рабілася гэта звычайна ўночы або ў часе адпачынку.

Жыццё І. Курчатава застанецца на стагоддзі неўміручым подзвігам, бяспрыкладным у гісторыі сусветнай навукі. У вобразе І. Курчатава сканцэнтраваны былі рысы вучонага нашай эпохі — эпохі будаўніцтва камунізма: бескарыслівае служэнне свайму народу, фанатычная працавітасць, таварыскасць у дачыненні з людзьмі, любоў да працы — разумовай ці фізічнай — і ўмелае спалучэнне іх, як залог гарманічнага развіцця чалавечай асобы. Для такіх, як І. Курчатаў, праца ператваралася ў песню чалавечага сэрца.

У працы закладзены вялікія гуманістычныя асновы нашага жыцця, сацыялістычнага ладу, разгорнутага паходу за камунізм. «Усё для чалавека, усё ў імя чалавека» — напісала партыя камуністаў на сцягу гэтага паходу. І калі мы глянем вакол, дык лёгка пераканаемся, што ўсё, што робіць савецкі чалавек — гэта для яго самога, для яго суседа па рабоце, па дому, для мільёнаў грамадзян нашай айчыны. Адным жаданнем прасякнут савецкі працаўнік — каб з кожным днём прыгажэў чалавек, станавілася дабрэйшым яго сэрца, чысцейшым яго душа, дужэйшымі яго мускулы.

Праца не толькі стамляе чалавека, але і прыносіць яму найлепшы адпачынак. І таму няма нічога дзіўнага, калі пасля напружанай фізічнай працы садзіцца чалавек за кнігу, слухае музыку, глядзіць кіно, а другі пасля разумовага напружання звяртаецца за дапамогай да сваіх мускулаў. Іншы лічыць, што найлепшы адпачынак — праседзець цэлы вечар у накураным пакоі за прэферансам ці ля блакітнага экрана тэлевізара. Аднастайнасць занятку ніколі не прыносіць адпачынку.

Вось сталяр завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Мінску Іван Пратасевіч любіць, вярнуўшыся пасля работы дамоў, пакапацца ў складаных радыёсхемах, пасядзець гадзіну-другую з паяльнікам, а потым з асалодай слухае чароўныя акорды музыкі з радыёкамбайна, які сам сканструяваў. Два гады працаваў чалавек, каб сабраць у адно магнітафон, радыёпрыёмнік, праігрывальнік. Цяпер захапіўся новай марай — зрабіць відэамагнітафон, апошні цуд радыётэхнікі, каб не толькі слухаць музыку, але і бачыць выканаўцаў.

Чалавек, з малых год прывучаны да працы, ніколі не апынецца ў асяроддзі дармаедаў, марнатраўцаў, тых «расчараваных» жыццём дзецюкоў ці дзяўчат, якія заняты адным — пошукамі «лёгкага хлеба». Сваё месца ў вялікім жыцці знаходзіць без асаблівых цяжкасцей толькі той, хто дбае пра гарманічнае развіццё сваёй асобы — не цураецца фізічнай працы, але і не абмінае магчымасці ўдасканалення сваіх духоўных якасцей.

Для цяперашняга пакалення характэрна сапраўдная ўлюбёнасць у працу, высакародная працавітасць, імкненне перамагаць цяжкасці на сваім жыццёвым шляху. Было б нават крыўдна, кажуць некаторыя, каб цяжкасці раптам зніклі... без іх было б нават сумна. Вышэйшая радасць для савецкага чалавека — адчуваць сябе пераможцам, у барацьбе з перашкодамі ўдасканальваць сваю волю, вытрымку, гартаваць характар.

Савецкі чалавек багаты не тым, што ў яго ёсць, а тым, што ён дае другім. У гэтым адна з важнейшых норм камуністычнай маралі. І калі мы азірнемся вакол, дык убачым, што ленінскае патрабаванне аб тым, каб камунізм стаў даступны рабочым масам, як уласная справа, сёння ўсё больш і больш пранікае ў жыццё нашага народа.

Пытанні жыцця калектыву, дзе мы працуем, горада або вёскі, дзе мы жывём, інтарэсы і праблемы ўсёй краіны хвалююць нас не менш, а нават больш, чым асабістыя ці сямейныя праблемы. У гэтым нельга не бачыць крыніцы духоўнага харaства і абаяльнасці савецкага чалавека. Усё яго ўнутранае жыццё нібы асветлена высокімі грамадскімі ідэаламі. А гэтым і вытлумачваецца імкненне савецкага чалавека быць у калектыве, яго няўтольная прага ведаў, творчыя адносіны да працы, высокая дысцыплінаванасць і арганізаванасць, патрыятызм і інтэрнацыяналізм, смелая ўпэўненасць у заўтрашнім дні і г. д.

Мільёны людзей, розных па прафесіі, узросту, характару, падобны ў адным, самым галоўным — у гатоўнасці і ўменні служыць справе камуністычнага будаўніцтва з поўнай аддачай сваіх сіл. Гэтая гатоўнасць, гэтае ўменне служыць агульнанароднай справе выліваецца ў цудоўную рысу савецкага характару — турбавацца, непакоіцца за стан кожнага ўчастка нашага будаўніцтва, усведамляць асабістую адказнасць за лёс народнагаспадарчых планаў. Камуністычны, высакародны неспакой абуджае ў чалавеку імкненне энергічна і настойліва працаваць, удасканальваць вытворчасць, не супакойвацца на дасягнутым.



Савецкі чалавек робіць так не па прымусу, як тое спрабуюць сцвярджаць ідэолагі капіталізму, а па свайму ўнутранаму перакананню, па загаду сэрца, сумлення, па законах таварыскасці і калектывізму. Такім выхавалі яго камуністычная партыя, савецкі лад, сама наша сацыялістычная рэчаіснасць.

Сацыялістычны лад зрабіў працу неадменнай часцінай асабістага жыцця чалавека, надаў ёй вялікі стваральны змест. Катэгорыямі новай маралі ў наш час, у нас і ў іншых краінах садружнасці сацыялістычных нацый, сталі працоўная доблесць, працоўная слава, працоўнае сумленне. Украінская калгасніца Надзея Заглада, як і ленінградскі токар Іван Ляонаў, як і беларуская ткачыха Алена Лазарэнка, сваімі зваротамі да сумлення працаўніка яшчэ раз пасведчылі, што ў нашай краіне праца — гэта тая ніва, дзе чалавек фарміруе характар, дзе ён знаходзіць самыя трывалыя сувязі з грамадствам.



**Слава працы! Маладыя мастакі Гаўрыла Вашчанка і Уладзімір Стальмашонак за работай.** З Рэспубліканскай выстаўкі мастацкай фатаграфіі.

Фота **У. Крука.**

Людзі буржуазнага Захаду часта пытаюцца ў савецкага чалавека — як гэта можна дзяліцца сваім вопытам з калегам па працы або з цэлай брыгадай? Гэта ж не вытрымлівае ніякай канкурэнцыі, выбівае апошні стымул у рабочага ці інжынера? Але аб якой і з кім канкурэнцыі можа ісці гутарка ў сацыялістычным грамадстве, дзе кожны працуе не толькі на сябе, але і на калектыў, на ўвесь народ.

У нас нікога не здзіўляе, што інжынер да позняй ночы мудруе над чарцяжамі, памагае рабочаму-вынаходніку, не разлічваючы на прэмію, на сааўтарства. Усё меншай праблемай у нас з'яўляецца адмова чалавека ад звычнага гарадскога жыцця. І, калі гэтага вымагае агульная справа, ён едзе на будоўлі Сібіры, у суровую Антарктыду, у самы дальні саўгас ці калгас. Неспакойнаму савецкаму чалавеку не так ужо цяжка памяняць наладжаную справу і ўпарадкаваны асабісты быт на нягоды і складанасці, якія спадарожнічаюць таму, хто першы бярэцца за невядомае, закладвае першы камень новага. І гэта робіцца па добрай волі, як вынік высокай свядомасці.

Выхаваны на рэвалюцыйных і працоўных традыцыях, савецкі чалавек повен любві да сваёй справы, свайго прадпрыемства, калгаса, саўгаса ці ўстановы, у ім жыве савецкі гонар, гонар працаўніка. З гэтай шчырай любві, з гэтага ўсемагутнага гонару і нарадзіўся ў нашай краіне магутны рух ударнікаў камуністычнай працы, які вядзе ў будучыню. Гэты рух стаў вялікай эканамічнай і маральнай сілай, адным з фактараў нашага грамадскага развіцця. У гэтым руху спалучана вырашэнне двух надзённых задач: рэзкае павышэнне прадукцыйнасці працы, каб хутчэй стварыць матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма, і выхаванне ў працы новага чалавека.

Змагацца за тэхнічны прагрэс на кожным участку, у кожнай брыгадзе, змагацца за кожнага чалавека — становіцца звычайнай нормай паводзін савецкага працаўніка. Памагчы суседу не дзеля прыгожага жэсту, а шчыра, з усведамленнем аднаго — твае абавязацельствы перад калектывам выкананы толькі тады, калі такіх жа вынікаў дамогся суседні ўчастак, брыгада, з якой спаборнічаеш.

Калі мы гаворым, што адной з маральных норм будаўніка камунізма з'яўляецца правіла — адзін памагае аднаму, калектыў — калектыву, дык гэта зусім не азначае нейкага «паказушнага» паходу з шумам і трэскам. Хутчэй за ўсё гэта — звычайная, будністная норма паводзін савецкага чалавека. Возьмем хоць бы такі прыклад. На Мінскім аўтазаводзе ёсць цэлы ўчастак, укамплектаваны станкамі-аўтаматамі, якія створаны залатымі рукамі і светлым розумам слесара Віктара Корбута, створаны ў звычайнай, будністнай абстаноўцы, дзеля звычайнага, будністнага — дапамогі ўсяму калектыву. Або яшчэ. Механізатары Капыльскага аддзялення «Сельгастэхнікі» ўзялі на сябе рамонт, тэхнічнае абслугоўванне і клопат аб захоўванні тэхнікі ў 22 калгасах вытворчага ўпраўлення. Ніхто іх ніякімі дырэктывамі не штурхаў на гэта, але ў людзей загаварыла сумленне гаспадароў агульнанароднага багацця, і яны пайшлі на тое, каб лічыць сябе разам з калгаснікамі адказнымі за лепшае выкарыстанне машынна-трактарнага парку.

У гэтых фактах відзён няўрымслівы характар савецкага працаўніка, яго імкненне да ініцыятывы, творчасці, пошукаў. І сапраўды, калі вы любіце сваю працу, свой родны завод, свой калгас — не будзе ведаць спакою ваша цікаўная, дапытлівая душа.

«Цяпер чалавекам цяжка быць. Вельмі шмат ад яго, акрамя пасады і спецыяльнасці, патрабуюць па лініі духоўных, няпісаных абавязкаў», — гаворыць галоўны герой аповесці В. Кажэўнікава «Знаёмцеся, Балуеў». І наш савецкі працаўнік не ўхіляецца ад абавязку быць чалавекам, бо ў гэтым ён бачыць сваю перавагу над працаўніком у капіталістычным свеце, дзе рабочы, паводле выразу Маркса, панура ідзе на вытворчасць, не бачачы ніякай перспектывы, акрамя адной, што яго шкуру будуць там дубіць.

Вытворчасць — важнейшая галіна, дзе прыкметна відаць адносіны чалавека да грамадскіх праблем, як да сваёй уласнай справы. Не менш важнай галіной з'яўляецца і ўдзел народных мас у грамадскім самакіраванні: праз камуністычную партыю, камсамол, прафсаюзы, органы савецкай улады, вытворчыя саветы, кааперацыю, народныя дружыны аховы грамадскага парадку, таварыскія суды, спартыўныя таварыствы, навукова-тэхнічныя і творчыя таварыствы і аб'яднанні і г. д. І ўсё гэта як грамадскі абавязак. У працэсе будаўніцтва камунізма дзяржаўнасць усё больш перарастае ў грамадскае самакіраванне. А гэта і ёсць здзяйсненне задачы камуністычнага выхавання, калі чалавек бачыць у сваёй працоўнай і грамадскай дзейнасці служэнне людзям, грамадству, калі ён чэрпае ў гэтым маральнае задавальненне.

«Камунізм будуецца працай і толькі працай мільёнаў, — гаворыць М. С. Хрушчоў. — Вось чаму партыя прыкладае ўсе намаганні, каб у будаўніцтве камунізма актыўна ўдзельнічаў у адзіным працоўным адналітным калектыве ўвесь савецкі народ — рабочыя, калгаснікі, інжынеры, канструктары, тэхнікі, настаўнікі, урачы, аграномы, вучоныя, дзеячы ўсіх галін культуры, літаратуры і мастацтва».

Пры камунізме чалавек, грамадства дасягне найвышэйшай улады над прыродай. У руках грамадства будуць такія магутныя сродкі вытворчасці, якіх яшчэ не ведала гісторыя. Характар працы зменіцца. Яна будзе насіць творчы характар і даваць чалавеку найвышэйшае задавальненне. Праўда, захаваецца і фізічная праца, але змест яе будзе іншы, бо праца перастане быць толькі сродкам да жыцця. Яна стане найпершай жыццёвай патрэбай. Эстэтычнае захапленне працай выступіць на першы план, і чалавек стане шчаслівы ад усведамлення неперадольнасці сілы рук сваіх і розуму. Бясплатная работа на агульную карысць стане ўсеагульнай з'явай.

Шлях да багацця матэрыяльных і духоўных здабыткаў народа ляжыць праз стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, чым і заняты цяпер людзі краіны Саветаў. І шлях гэты будзе тым карацейшы і тым лягчэйшы, чым большая колькасць працаўнікоў прасякнецца клопатам пра свой духоўны рост, павышэнне свайго прафесіянальнага ўзроўню, пра рост сваёй грамадзянскай актыўнасці, пра сваю маральную чысціню і фізічную дасканаласць. Чалавек будучыні — гэта ўсебакова і гарманічна развітая асоба, і клопат пра такое развіццё павінен ужо сёння стаць нашым надзённым клопатам.

«Аснову камуністычнага выхавання, усебаковага развіцця асобы складае творчая праца, — гаварыў на XXII з'ездзе партыі М. С. Хрушчоў. — Праца заўсёды была і будзе крыніцай існавання і развіцця людзей... Камуністы славяць і ўзвялічваюць свабодную працу, як крыніцу жыцця і шчасця ўсіх людзей, заруку прагрэсу і працвітання грамадства!»

Як з нябачных людскому воку дажджавых кропель узнікаюць маленькія ручаінкі, а з ручаінак — магутныя рэкі, што нясуць свае воды ў бяскрайнія прасторы мораў і акіянаў, так і з мірыядаў працоўных імпульсаў, злітых у адно, нараджаецца волатная сіла, здольная рухаць гіганцкія турбіны, рушыць скалы, абвадняць пустыні, узорваць цаліну, расшчапляць атам, штурмаваць космас. Савецкі чалавек — земляроб і земляпраходзец, вучоны і астранаўт, інжынер і мастак — стварае адну з самых цудоўных сімфоній у свеце — музыку камуністычнай працы.

Як ніколі самааддана, натхнёна, творча працуе савецкі народ, бо ён бачыць ужо свой заўтрашні дзень, калі, як запісана ў прынятай XXII з'ездам партыі Праграме КПСС, камунізм выканае «гістарычную місію збавення ўсіх людзей ад сацыяльнай няроўнасці, ад усіх форм прыгнечання і эксплуатацыі, ад жахаў вайны» і ўсталюе на зямлі **«Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць, Братэрства і Шчасце ўсіх народаў».**

Гары, камсамольскі аганёк!

# НАС — 250!

А было шаснаццаць... Гэта ў 1959 годзе, калі на заводзе ўзнік штаб садзеяння вытворчасці. Выбралі ў яго лепшых хлопцаў: тэхнолагаў, канструктараў, рабочых. Члены штаба адразу ж узяліся за справу. Не лічыліся ні з часам, ні з адпачынкам. Формы кантролю шукалі, як кажуць, на хаду.

Памятаецца, на вечары ў Доме культуры Яўген Куляшоў прапанаваў арганізаваць з членаў штаба рэйдавую брыгаду для праверкі працоўнай і вытворчай дысцыпліны ў другой і трэцяй зменах. Яго падтрымалі Марк Верабей, Іван Шамаль, Уладзіслаў Барай.

Рэйд пачаўся ў канцы другой змены. Выявілася, што не ўсе змены ў цэхах працуюць нармальна. З участка задняга моста і з участка рэдуктара, не дачакаўшыся канца змены, пайшло дамоў шэсць рабочых. А наогул, да канца змены праз прахадную завода выйшла ў той дзень каля ста чалавек. Назаўтра мы падвялі вынікі праверкі. Выявілася, што завод не далічыўся ў выніку недысцыплінаванасці асобных рабочых ні больш ні менш як трыццаць змен. Пра вынікі рэйда мы паведамілі дырэкцыі. Праз некалькі дзён быў выданы загад аб рэжыме работы цэхаў і прахадной.

Такія рэйды штаб арганізоўваў часта. Каб недахопы сваімі вачыма бачылі не толькі члены штаба, але і ўсе рабочыя, мы бралі з сабой фотаапарат. Парушальнікам стала цяжка выкручвацца: фатаграфія — аб'ектыўны сведка. Пасля кожнага рэйда нам прыемна было адчуваць, што справы палепшыліся і што завод выйграў шмат каштоўнага часу.

Не паспелі яшчэ заціхнуць спрэчкі па матэрыялах рэйда праверкі працоўнай дысцыпліны, як штаб вырашыў заняцца безгаспадарчымі адносінамі да абсталявання. Нам ніхто не падказваў, што гэта трэба зрабіць. Проста самі члены штаба часта назіралі, як праставаюць станкі, не выкарыстоўваецца на поўную нагрузку абсталяванне.

— Гэтага не павінна быць! — рашуча заявіў Віктар Фядотаў. Ён жа і ўзначаліў рэйд.

Разышоўшыся па цэхах, пачалі праверку. Нявесела, зусім нявесела было некаторым начальнікам даваць тлумачэнні. Начальнік тэхнічнай часткі механазборачнага цэха амаль увесь час маўчаў. Ды і што яму было казаць, калі дзесяць станкоў у цэху без усякіх прычын прастойвалі больш за тры месяцы. У гэтым жа цэху прастойваў шматразцовы паўаўтамат. Да нас падышоў рабочы. Ён расказаў, што дэталь, якую патрэбна апрацоўваць на паўаўтамаце, ён робіць на звычайным такарным станку. Зразумела, што члены штаба выступілі з самай рэзкай крытыкай безгаспадарчых адносін да абсталявання ў механазборачным цэху. Крытыка памагла — станкі пачалі працаваць.

Члены штаба прыклалі нямала намаганняў, каб памагчы цэхам-спажыўцам своечасова атрымліваць нарыхтоўкі і дэталі. Тут у нас былі вялікія цяжкасці. Папершае, штаб невялікі, па-другое, яго члены самі працуюць і не заўсёды могуць ўдзяляць у рэйдзе. І ўсё ж нашы рэйды праверкі, нашы «маланкі» і «кракадзілы» рабілі сваю карысную справу, а члены штаба набывалі вопыт у вырашэнні важных пытанняў вытворчасці. Усё больш добрых спраў станавілася ў членаў штаба, і ўсе больш рос яго аўтарытэт сярод рабочых і інжынераў. Да нас пачалі звяртацца за дапамогай і парадамі начальнікі цэхаў, майстры.



Кладаўшчыцы дзесяці цэхаў, нібы згаварыўшыся, падалі скаргі, што ў аддзеле тэхнічнага забеспячэння яны трацяць шмат часу на афармленне дакументацыі. Член штаба Уладзімір Зайкоўскі праверыў гэтыя заявы з начальнікам аддзела т. Караневічам. Той паведаміў, што сапраўды некаторыя супрацоўнікі аддзела парушалі правілы афармлення дакументаў. Вінаватыя атрымалі спагнанні, затрымкі больш не было.

І ўсё ж мы ведалі, што не ўсе нашы сігналы аб недахопах былі пачуты тымі, каго яны датычылі. Нам трэба было перабудоўваць сваю работу. Семінараў, дзе б члены штабаў атрымлівалі парады і інструкцыі, амаль не праводзілася, рэдка адбываліся сустрэчы штабаў розных прадпрыемстваў. І вось якраз тады нам вельмі памагла цікавая сустрэча з сябрамі з Рыгі — пачынальнікамі руху за поўнае выкарыстанне ўнутраных рэзерваў вытворчасці. Асабліва ж карыснай для нас была гутарка з удзельнікамі камсамольскага штаба тэхнічнага прагрэсу, што працуе пры гаркоме камсамола. Мы многае зразумелі па-новаму і, ужо едучы ў Мінск, вырашылі перайначыць сваю работу.

Штаб раздзялілі на шэсць груп: зваркі, ліцейную, механічную, новай тэхнікі, якасці і культуры вытворчасці. Калі раней членаў штаба было шаснаццаць, то цяпер стала дваццаць восем. Стала лягчэй працаваць.

У незабыўны 1961 год краіна рыхтавалася да адкрыцця XXII з'езда партыі. Камсамольскі штаб узяў пад кантроль новы пралёт гарызантальна-ковачных машын, які трэба было пусціць да з'езда, а таксама выпуск першай партыі новых аўтамабіляў МАЗ-500. І вось у пачатку верасня мы адчулі, што выкананне графікаў можа сарвацца.

Марк Верабей, Іосіф Фрыдман і Уладзімір Зайкоўскі распрацавалі новыя тэрміны выканання будаўнічых і мантажных работ. Пры інтэнсіўнай рабоце новы пралёт можна было ўвесці ў эксплуатацыю своечасова. Цяпер мы не толькі крытыкавалі недахопы, але і падказвалі, як іх ліквідаваць. Самым каштоўным было тое, што па нашай прапанове работы па ўводу ў дзеянне пралёту вяліся адначасова: працавалі і будаўнікі і мантажнікі. Мы не выпускалі з-пад увагі работы на пралёце ні на адзін дзень, там заўсёды знаходзіліся члены штаба, і мы падрабязна ведалі, як ідуць справы на аб'екце. Варта было будаўнікам спыніць работу, як адразу ж упраўляючы трэста № 5 атрымліваў трывожны сігнал...

Калектыў завода з гонарам выканаў сваю задачу: 17 кастрычніка рабочыя рапартавалі, што да адкрыцця з'езда пушчаны ў эксплуатацыю пралёт гарызантальна-ковачных машын у кавальскім цэху.



**Участак зборкі новых аўтамашын. Тут узнікае найбольш пытанняў. Каб вырашыць іх, часам трэба дапамога і грамадскасці.**

**Член штаба «камсамольскага пражэктара» інжынер Вадзім Мараўскі** (у цэнтры) **уважліва слухае слесараў Івана Чулкова і Вадзіма Панаду, каб разабрацца да дробязей у іх скаргах на канструктараў і тэхнолагаў.**




**Сабраўся штаб «камсамольскага пражэктара»: старшыня Захар Фейгін, члены штаба — інжынер Віктар Фядотаў, фрэзероўшчык Георгі Шалкоўскі, тэхнолаг Георгі Сямірскі.**

Я расказваю пра ўсё гэта вельмі коратка. Не падумайце, што ўсё было так проста... Але калі вам давядзецца пабыць у Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі, не забудзьце агледзець выстаўлены там наш пралёт. У ім ёсць крупінка працы членаў камсамольскага штаба.

А новыя машыны? Хіба забудуць Віктар Фядотаў, Уладзіслаў Барай і Вадзім Мараўскі выпуск першай прамысловай партыі МАЗ-500? Не! Бо яны прымалі самы актыўны ўдзел у выпуску. Дзень і ноч хлопцы праводзілі ў цэхах, правяраючы дэталі і вузлы новага аўтамабіля. Сумесна з дыспетчарам зборкі Георгіем Пашывалавым, намеснікам начальніка вытворчасці Мікалаем Рыгоравічам Берфіным і начальнікамі цэхаў члены штаба ўдакладнілі тэрміны вырабу дэталей, правяралі якасць.

Начальнік кабіна-кузаўнога цэха Віктар Пятровіч Воранаў пазваніў у штаб:

— Цэх спецыяльнага ліцця не падаў нам адліўкі ступіц пярэдніх колаў. Мы не можам у тэрмін падаць ступіцы на зборку.

Роўна праз дзесяць мінут Віктар Фядотаў быў ужо ў цэху спецыяльнага ліцця. Аказалася, выпуск ступіц затрымлівалі не фармоўшчыкі, а разметчыкі. Віктар доўга гутарыў з разметчыкамі, і тыя не палічыліся з часам, а зрабілі ўсё, што трэба было, каб ступіцы пайшлі на фармоўку. Віктар пайшоў з цэха толькі тады, калі пераканаўся, што ступіцы будуць. Ліцейшчыкі трэцяй змены з гонарам стрымалі сваё слова: да раніцы ступіцы былі пададзены на далейшую апрацоўку.

Па ініцыятыве штаба на зборцы МАЗ-500 камсамольцы працавалі ў нерабочы час. Кожны хацеў, каб у новай машыне была хоць адна дэталь, хоць адзін вінцік, прыладжаны яго рукамі. Усе рабочыя завода ведалі, як ідзе зборка. Пра гэта расказваў маляўнічы шчыт на плошчы, афармлены мастакамі камсамольскага штаба Іосіфам Гурэвічам і Іванам Рымарам. Дагэтуль яшчэ ўспамінаюць начальнік прэсавага цэха І. Равіч і начальнік аддзела знешняй кааперацыі В. Брагін, як за зрыў графікаў яны трапілі ў камсамольскі «кракадзіл». Успамінаюць, але не крыўдуюць, бо ўсё ж у дзень адкрыцця з'езда, як падарунак усяго калектыву, на заводскім двары стаялі першыя дзесяць МАЗ-500. Новенькія, бліскучыя, з пахам свежай фарбы... Гэта была яшчэ адна перамога. Яна радавала і клікала да новых спраў.

Праводзячы работу ў маштабах завода, мы ў той час забылі пра камсамольскія пасты цэхаў і аддзелаў. Трэба было тэрмінова наладзіць іх работу. Склікалі семінар, аб'явілі конкурс на лепшую пастаноўку работы па выяўленню ўнутраных рэзерваў вытворчасці. Гэта ажывіла ініцыятыву сярод камсамольскіх пастоў.

У сталеліцейным цэху была мадэрнізавана фармовачная машына, у цэху шасі пачалася эканомія інструментаў. Пераможцамі конкурсу сталі камсамольцы паста эксперыментальнага цэха — старшыня Слава Гур'янаў, аўтапрычэпнага цэха — старшыня Георгі Клімец і кавальскага — старшыня Ілья Яравы.



У дні работы XIV з'езда ВЛКСМ мы правялі адзін з самых дзейсных рэйдаў — праверылі выкарыстанне транспарту на заводзе. Тады ж мы даведаліся, што маскоўскія, ленінградскія і кіеўскія камсамольцы ствараюць атрады «камсамольскага пражэктара». Адразу ж склікалі бюро камітэта камсамола сумесна з членамі штаба. Усе горача падтрымалі новую ініцыятыву. У нас на заводзе быў створаны адзін з першых у рэспубліцы «камсамольскіх пражэктараў». Гэта паскорыла ажыццяўленне нашай задумы — аб'яднаць штаб і ўсе пасты ў адно цэлае.

Так з шаснаццаці нас стала 250!

«Камсамольскі пражэктар» завода мае сектары тэхнічнага прагрэсу і садзеяння вытворчасці. Першы з іх падзелены на асобныя групы, у склад другога ўваходзяць «пражэктары» цэхаў і аддзелаў. Членамі штаба атрадаў «камсамольскага пражэктара» сталі канструктары Фрэд Срэбнік, Вадзім Мараўскі і Віктар Анісімаў, інжынеры Віктар Фядотаў, Георгі Семірскі, Уладзімір Яфімаў, старшы майстар Міхаіл Шарандак, тэхнолаг Рыгор Драбкін, рэдактар радыёгазеты Люба Бельская і супрацоўнік газеты «Аўтазаводзец» Слава Дутаў. Я называю іх прозвішчы не для прыгожага слоўца, не для справаздачы. У любы час, у кожную мінуту ўсе яны, як і астатнія дзвесце сорак камсамольцаў-пражэктарыстаў, гатовы да рэйдаў, гатовы да змагання за працоўны гонар роднага завода.

Пражэктарысты ліцейнага цэха шэрага чыгуну пільна сочаць за якасцю прадукцыі. Яны зрабілі спецыяльную дошку. Побач з «экспанатамі» тут красуюцца прозвішчы іх аўтараў-бракаробаў. Кіруе «пражэктарам» майстар Барыс Гаруновіч.

Пражэктарысты цэха механізацыі і аўтаматызацыі пад кіраўніцтвам свайго важака слесара Анатоля Андруховіча дамагліся таго, што цэх рэгулярна атрымлівае неабходную колькасць кіслароду і металу. Цяпер у многіх выпадках пытанні дастаўкі дэталей сумесна вырашаюць «камсамольскія пражэктары» цэхапастаўшчыка і цэха-спажыўца. Так робіць старшыня «пражэктара» цэха шасі Анатоль Крывашэеў, які часта сустракаецца з пражэктарыстамі цэхаў-пастаўшчыкоў.

Права вырашаць апаратыўныя пытанні мы перадалі сектару садзеяння вытворчасці. Гэта дало магчымасць сектару тэхнічнага прагрэсу глыбей выкарыстоўваць унутраныя рэзервы. Памніцца рэйд па транспарту, арганізацыя спецыяльнага бюро пасля праверкі, кантроль над будаўніцтвам абрубнага цэха шэрага чыгуну, прапанова замяніць канструкцыю механізма для адбору гарэлай зямлі, літнікаў і скрапаў, прапанова больш рацыянальна выкарыстоўваць падвясны канвеер шротаструменевай ачышчальнай камеры...



**Дасціпная маляўнічая карыкатура. І гэтыя сродак скарыстоўваюць пражэктарысты ў сваім змаганні з недахопамі на вытворчасці. Мастак Іван Рымар і інжынер-канструктар Георгі Кірыльчык выпускаюць чарговы сатырычны бюлетэнь.**

Гэта толькі невялікая частка таго, што зроблена «пражэктарам».

Мы заўсёды працуем у садружнасці з вытворчай камісіяй заводскага камітэта прафсаюза. Вынікі рэйдаў і праверак часта абмяркоўваем на сумесных пасяджэннях.

Вялікую дапамогу аказваюць нам дырэкцыя і партыйны камітэт завода. Яны заўсёды прымаюць дзейсныя меры па нашых сігналах, ставяць перад намі канкрэтныя задачы. У недалёкім будучым наш завод павінен перайсці на канвеерны выпуск новых аўтамабіляў. Гэта абавязвае кожнага камсамольца-пражэктарыста яшчэ глыбей пранікаць ва ўсе ўчасткі вытворчасці і, як пісаў паэт, «свяціць заўсёды, свяціць усюды...»

**Захар ФЕЙГІН,**
**старшыня штаба «камсамольскага пражэктара» на Мінскім аўтамабільным заводзе.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

**Працягваем абмеркаванне пісьма Уладзіміра Вяткіна**

# СТУДЭНЦКІЯ ВЁСНЫ

Дожджык. Яго першыя цёплыя кроплі ціха лашчаць зямлю. Неяк адразу ўспамінаецца босае, бесклапотнае маленства, і мне так хочацца кінуць усё і выбегчы з непакрытай галавой пад цёплыя дажджавыя кроплі!..

Але гэтага не зробіш, бо маленства ўжо даўно мінула, і я з важным выглядам сяджу ў пакоі інстытута і праглядаю лісты. Дакладней, гэта нават не лісты, а водгукі нашых першых пацыентаў на працу студэнтаў-практыкантаў.

А дождж, ціхі і цёплы, змывае пачарнелыя гурбачкі зляжалага снегу — апошнія сляды зімы.

Я адкладваю ўбок ліст і, як зачараваны, гляджу праз адчыненае акно. У памяці міжвольна ўсплываюць словы: «Гады, як дождж: ідуць і пройдуць»...

Так. Хутка і незаўважна ляцяць гады. Вось праляцеў яшчэ адзін год незабыўнага студэнцкага жыцця.

У пакой бесперапынна заходзяць студэнты. Яны ўзбуджаныя, шчаслівыя, вясёлыя. Ды і як не весяліцца, калі ўсе цяжкасці і нягоды засталіся ззаду, а ўперадзе — дзяржаўныя экзамены, а потым прасторы самастойнай працы!

Яшчэ адна вясна, і я таксама, як і многія мае калегі, паеду на работу. Думаю я пра гэта, і мне робіцца і прыемна, і неяк сумна — давядзецца развітацца з любімым горадам, з якім здружыўся за пяць год студэнцкага жыцця. Але гэта толькі так здаецца, на самай справе я зайздрошчу сваім сябрам, якія бяруць накіраванне на работу.

Я бяру ліст і пачынаю чытаць:

«У Брагінскай раённай бальніцы праходзіў вытворчую практыку студэнт 6-га курса Я. Барысенка. Калі захварэла наша дачка, ён амаль суткамі не адыходзіў ад яе ложка, з усіх сіл стараўся памагчы дзяўчынцы. Наша дачка хутка папраўлілася. Мы, бацькі, дзякуем дырэкцыі, парткому, выкладчыкам за тое, што яны рыхтуюць такіх сумленных, чулых, сціплых спецыялістаў...»

Шмат такіх лістоў ляжыць на стале. Прыемна іх чытаць. Яны такія ж цёплыя і ласкавыя, як гэты вясновы дождж! Я адрываю позірк ад ліста і хачу пазнаць сярод гэтых жыццярадасных, мужных хлопцаў тых, пра якіх напісаны гэтыя сардэчныя словы. Я хачу ўявіць таго, хто ўвесь свой час аддае любімай рабоце, хто ўжо знайшоў дарогу да сэрца чалавека, для якога шэсць год вучобы не прапалі дарэмна. Але чым больш я прыглядаюся да іх, тым больш пераконваюся, што такія лісты можна было б напісаць пра кожнага з іх.

У гэтым годзе калектыў Мінскага медыцынскага інстытута стварыў на грамадскіх асновах медыцынскае абслугоўванне інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны і працы. Абслугоўванне вядуць студэнты трэціх, чацвёртых, пятых курсаў і студэнты першага і другога курсаў, якія маюць сярэднюю медыцынскую адукацыю.

Студэнты многіх вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі часта скардзяцца на тое, што вельмі перагружаны вучэбныя праграмы. Дарэчы, аб гэтым пісаў і Уладзімір Вяткін. Я з гэтым поўнасцю не згодзен. Аб тым, што студэнтам медыцынскага інстытута прыходзіцца вучыць больш, чым студэнтам тэхнічных ВНУ, ніхто, я думаю, спрачацца не будзе. Медык павінен ведаць літаральна ўсё тое, што накапілася ў медыцынскай навуцы з часоў Гіпакрата і да нашых дзён. А накапілася многа. Многа цікавага і карыснага для чалавека. Гэта ўсё трэба не толькі ведаць, але і ўмець ведамі карыстацца на практыцы. Нялёгкая гэта задача. Даводзіцца многа працаваць.

Аднак калі студэнтам прапанавалі абслугоўваць цяжка хворых на даму, ніхто не сказаў, што мы не можам, ці ў нас не хапае часу. Гэтую прапанову падтрымалі ўсе студэнты медыцынскага інстытута. Зараз яны абслугоўваюць інвалідаў і цяжка хворых, што пражываюць на ўчастках паліклінік №№ 2, 4, 13, 16. Пасля заняткаў студэнты ідуць да хворых, выконваюць назначэнні ўрачоў, памагаюць даглядаць іх. Бывае так, што студэнт ідзе ў магазін, каб купіць сёе-тое адзінокаму чалавеку, які хварэе. Кожны студэнт наведвае свайго хворага на працягу дзесяці дзён. Пасля замяняе яго калега. Такім чынам, кожны дзень на ўчастках чатырох паліклінік студэнты абслугоўваюць сорак пяць чалавек. Усе пытанні, якія ўзнікаюць пры доглядзе хворага, студэнт мае магчымасць высвеліць разам з участковым урачом. Гэта добрая практычная школа для нас, будучых урачоў. Карысны пачын студэнтаў медыцынскага інстытута падтрымалі ў трох мінскіх медыцынскіх вучылішчах.

Многія нашы студэнты малодшых курсаў трымаюць шэфства над школамі. Значыць, калі патрэбен час, яго заўсёды можна знайсці. Магчыма, яго не ўсе навучыліся выкарыстоўваць так, як трэба, — беражліва і з найбольшай карысцю.

Хацелася б крыху пагаварыць і пра сумленне студэнта. Я, напрыклад, не згодзен з тымі людзьмі, якія разглядаюць студэнцкія гады, як толькі вясёлыя, радасныя і бесклапотныя. Што яны вясёлыя і радасныя — гэта, безумоўна, так, а вось што датычыць бесклапотнасці, то гэта, мне здаецца, не зусім так, як уяўляюць сабе некаторыя маладыя людзі.

Студэнцкія гады — пачатак самастойнага жыцця. Гэта час, за які студэнт павінен як мае быць падумаць пра тое, як ён арганізуе сваё будучае жыццё. Амаль усе студэнты ў час вучобы ў інстытуце знаходзяць свайго вернага сябра і пачынаюць дбаць пра сваю сям'ю. Аднак мяне, напрыклад, здзіўляюць, а іншы раз і абураюць узаемаадносіны паміж мужам і жонкай. Справа ў тым, што студэнт адразу пасля скромнага, але прыгожага студэнцкага вяселля перакладвае на плечы жонкі амаль усе хатнія справы. Яна павінна гатаваць яму ежу, мыць бялізну, цыраваць шкарпэткі. Праўда, да заняткаў пакуль што рыхтуюцца самі мужы. (Я кажу пакуль, бо ўпэўнены, што хутка і падрыхтоўка да заняткаў стане справай жонкі-студэнткі. Вось зажывуць тады жанатыя студэнты!)

Самае непрыемнае тое, што такія бессаромныя ўзаемаадносіны ўзаконены сярод студэнтаў. Неяк нядаўна я сустрэў свайго сябра, які адразу спытаў у мяне:

— Дык што я чуў, Пятро! Кажуць, не яна табе рыхтуе вячэру, а ты ёй...

— Нічога благога няма, калі прыгатуем вячэру разам, — спакойна адказаў я.

— Ну, ну... — загадкава падміргнуў мой сябар.

Адышоўшы ад мяне, ён шаптаў другому студэнту пра мяне:

— Слюнцяй... Ідзе на повадзе ў жонкі!..

Атрымліваецца так, што самага блізкага друга жыцця мы ператвараем у пакорлівага слугу. Гэта страшна! Часам мне здаецца, што гэта невядома адкуль залезшыя да нас мяшчанскія перажыткі. Дзе ж тут сумленне?

Ці вось яшчэ прыклад. Мы ехалі ў аўтобусе. У той самы момант, калі аўтобус узбіраўся на ўзгорак ля Палаца культуры прафсаюзаў, да мяне

праціснуўся вёрткі вусаты хлопец. Гэта быў студэнт 4-га курса нашага інстытута.

— Здароў! Як справы на жаночым фронце? — адным дыхам выпаліў ён.

Я адказаў, усміхнуўшыся, што ў мяне такога фронту няма.

— Ведаеш, — працягваў вусаты. — Я пераканаўся, што ўсе жанчыны — народ непастаянны.

— Не ўсе, а толькі тыя, з якімі ты быў знаёмы, — паправіў я.

Такіх студэнтаў, канечне, у нас вельмі мала, але трэба весці барацьбу і за адзінкі, каб скіраваць іх на верную дарогу жыцця.

Нашы студэнты добра разумеюць спецыфіку сваёй прафесіі. Яны ведаюць, што здароўе людзей, якое ім даверылі, вышэй за ўсё. І калі аднойчы ў час аперацыі хірург сказаў: «Хвораму трэба пераліць кроў. Хто жадае быць донарам?» — сваю кроў аддаць хвораму быў гатоў кожны, бо ведаў — гэта выратуе жыццё чалавека.

... Дождждык жвавеў. Ціхі, цёплы, веснавы. Новая студэнцкая вясна брала сваё.

**Пятро ПІЛІПЧУК,**
**студэнт 5-га курса**
**Мінскага медыцынскага інстытута.**

# КАБ НЕ БЛУКАЦЬ УПОЦЕМКУ

Прайшло каля трох год, як я скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Колькі цудоўнага і светлага вынесена адтуль! Ніколі не забудуцца гарачыя студэнцкія дыскусіі, вечары адпачынку, урачыстая цішыня залаў «Ленінкі», сустрэчы з любімымі пісьменнікамі і артыстамі. Шкада было пакідаць універсітэт, шкада было развітвацца з сябрамі, але ў той жа час ужо вабіла і хвалявала найцікавейшая з усіх прафесій — прафесія педагога.

Добра памятаю першыя крокі сваёй самастойнай работы. Я адчуваў, што тэарэтычная падрыхтоўка ў мяне добрая. Гэта бадзёрыла і надавала сілы. Але калі ўшчыльную прыйшлося сутыкнуцца з практыкай, я адразу адчуў у многіх пытаннях методыкі сваю бездапаможнасць. Прыходзілася праводзіць бяссонныя ночы над кнігамі, каб хоць у некаторай ступені запоўніць прабелы ў сваёй метадычнай падрыхтоўцы. А многае можна было зрабіць яшчэ ва ўніверсітэце!

Была ў нас педагагічная практыка. Кожны з нас даў на чацвёртым курсе па 5 — 6 заліковых урокаў. Урокі былі чыста паказальныя, на іх прысутнічала па 8 — 10 чалавек студэнтаў, настаўнікаў школы і выкладчыкаў універсітэта. А чаму б не даць студэнту магчымасці аднаму, зусім самастойна папрацаваць з вучнямі тыдзень-другі, даць яму ў поўную меру адчуць сваю сілу, свае слабыя бакі, каб ён яшчэ ў сценах універсітэта навучыўся працаваць над сабой, самастойна рыхтавацца да кожнага ўрока? Ва ўніверсітэце нам не здолелі прывіць любоў да дзяцей, да школы. Ці не па гэтай прычыне некаторыя выпускнікі ўніверсітэта, адчуўшы сваю прафесіянальную бездапаможнасць, зусім кідаюць школу і пераходзяць на іншую работу.

Вельмі мала часу адводзіцца ва ўніверсітэце на лекцыі і практычныя



заняткі па прыватных методыках, не праводзіцца агляд навейшай метадычнай літаратуры. Вось і атрымліваецца, што ад маладога спецыяліста патрабуюць навейшых метадаў выкладання прадмета, а ён і аб старых мае даволі прыблізнае ўяўленне.

Пажадана, каб курс методыкі выкладання літаратуры (або хаця б асобныя тэмы) чыталі найбольш вопытныя настаўнікі-практыкі, выкладчыкі школ, якія ўвесь час шукаюць новых метадаў работы з вучнямі. Так званыя чыстыя тэарэтыкі не могуць навучыць студэнтаў методыцы.

Амаль ніякіх ведаў не дае ўніверсітэт і па выхаваўчай рабоце з вучнямі. Мне могуць запярэчыць, што гэта набываецца ў працэсе практычнай работы, галоўнае — атрымаць добрую агульна-педагагічную падрыхтоўку. Правільна, але ж з асновамі выхаваўчай работы будучыя педагогі павінны знаёміцца яшчэ ва ўніверсітэце, каб потым не блукаць упоцемку.

Кожны выкладчык літаратуры павінен мець хоць бы агульнае ўяўленне пра жывапіс, музыку, тэатр, кіно. Сярэдняя школа мае цяпер добрую матэрыяльную базу, каб праводзіць плённую работу па эстэтычнаму выхаванню вучняў. Усё ёсць: і магнітафоны, і кінаапараты, і свае маленькія «трацьякоўкі», і фанатэкі. Не хапае аднаго: адпаведных ведаў у настаўнікаў. Некваліфікаваныя гутаркі па мастацтву ніякай карысці вучням не даюць, а, наадварот, часам псуюць іх густ. А ці нельга, акрамя эстэтыкі, увесці ва ўніверсітэце хоць бы невялікія аглядныя курсы для будучых педагогаў па музыцы, гісторыі выяўленчага мастацтва, тэатра і кіно.

У свой час мы, студэнты, часта сустракаліся з пісьменнікамі, гутарылі аб літаратуры, аб пісьменніцкім майстэрстве, аб новых кнігах. Колькі радасці і карысці прыносілі такія незабыўныя сустрэчы! Але ні з кампазітарамі, ні з мастакамі мы ні разу не вялі такой жывой гаворкі.

Мы хадзілі на экскурсію на кандытарскую фабрыку, але ні разу не пабывалі ў майстэрні мастака; уважліва разглядалі звычайную елку ў Батанічным садзе, але не пабывалі на рэпетыцыі сімфанічнага аркестра.

Вялікую справу робяць тыя навучальныя ўстановы, якія адкрываюць факультэты грамадскіх прафесій. Да маладых настаўнікаў часта звяртаецца сельская моладзь, каб памагчы ёй наладзіць мастацкую самадзейнасць, вечары адпачынку. І як добра, калі малады спецыяліст можа арганізаваць з моладдзю вясёлую гульню, развучыць цікавы танец, песню.

У адной з палескіх школ працуе настаўнікам мой сябар. Не паспеў ён прыехаць у вёску, як адразу стаў сапраўдным важаком моладзі. Доўгія зімовыя вечары праводзіў у калгасным клубе на рэпетыцыях, чытаў цікавыя лекцыі, праводзіў гутаркі. Дамоў прыходзіў стомлены, але задаволены. Праз год калгасныя камсамольцы выбралі яго сакратаром камітэта камсамола. І цяпер яго заўсёды можна сустрэць у цесным коле вясковых дзяўчат і хлопцаў. «Гэта наш настаўнік і таварыш», — гавораць пра яго з павагай і любоўю калгаснікі, калегі па рабоце.

Многа думак узнікае, калі чытаеш артыкулы Уладзіміра Вяткіна, Анатоля Нічыпарука і іншых. Высокі гонар савецкага студэнта! Яго трэба шанаваць.

І шанаваць перш за ўсё сваімі стараннымі адносінамі да вучобы. Калі ўспомніш, колькі марна было патрачана часу ў студэнцкія гады, дык здаецца, што яго хапіла б і на аглядныя лекцыі, і на экскурсіі, і на пашырэнне практыкі... Цяпер, калі сапраўды бывае не хапае часу падрыхтавацца да кожнага ўрока, прачытаць тое, што не было прачытана калісьці, адчуваеш, як не шануем мы часам свой студэнцкі гонар, як мала самастойна працуем над сабой у гады студэнцтва.

Ад вас, студэнтаў, і ад нас, маладых спецыялістаў, народ чакае вялікіх спраў, якія ўпрыгожаць наша жыццё. Настаўнік павінен быць не толькі майстрам педагагічнай справы, але і палітычным байцом, змагаром за новага чалавека.

**Канстанцін ЦЫБУЛЬКА,**
**дырэктар Соснаўскай сярэдняй школы Любанскага раёна.**

# НА СЦЭНЕ — МОЛАДЗЬ

**Рэпартаж А. Дзітлава**

Новы спектакль тэатра імя Янкі Купалы называецца «Першая старонка», або «Малады чалавек». Гаворка ў спектаклі ідзе пра звычайную дзяўчыну Машу Архіпаву, выбраную сакратаром райкома камсамола. Мы нібы чытаем першую старонку яе дзённіка. Характар і светапогляд дзяўчыны раскрываюцца ў яе ўзаемаадносінах з моладдзю.

Вельмі розныя людзі, якія прыходзяць да Машы ў райком са сваімі клопатамі і справамі. Гаманлівая Клава, непрымірымы да ўсякага фальшу мастак Віктар Меднікаў, вясковы хлопец Мікалай Сярогін, які трапіў у вялікую бяду, дзесяцікласнік Малыхін, што падумвае пра папоўскую кар'еру... Чым пільней угледаешся ў іх, чым уважлівей сочыш за іх лёсам, тым усё больш пераконваешся: яны сустракаліся нам у жыцці.

Расказ аб савецкіх маладых людзях, аб іх барацьбе за чалавека будучыні —



**Гэта — гераіня спектакля Маша Архіпава ў выкананні Л. Давідовіч.**

вось галоўная тэма п'есы, раскрытая маладымі акцёрамі тэатра.

Барацьба за сумленнасць, супраць крывадушнасці пачынаецца з першай карціны, як толькі адчыняецца заслона. Поснікаў — былы сакратар райкома камсамола, што стаў інструктарам абкома, хітра і тонка дзейнічае, дабіваючыся «славы» свайму раёну, а значыць, і сабе, кіраўніку.

За Поснікавым глядач сочыць з вялікай увагай і ўсё больш і больш ненавідзіць гэтага самалюба і хвалько, абыякавага да лёсу чалавека. Глядач у насцярожанасці, каб Поснікаў раптам не пераступіў праз рампу і не паспрабаваў знікнуць у публіцы.

Спектакль не толькі паказвае праўду жыцця, але і вучыць змагацца за яе. Ён сцвярджае перамогу ў свядомасці чалавека, у адносінах між людзьмі новага, што народжана часам.

**Сцэна — у прыёмнай райкома. «Прынялі!» — радасна ўсклікае адна з тых, каго бюро палічыла дастойным высокага звання камсамольца.**

Выканаўца галоўнай ролі артыстка Лілія Давідовіч так расказвае аб спектаклі:

— Мне вельмі хацелася стварыць вобраз сваёй сучасніцы... І вось з'явілася п'еса Н. Івантар. У нашым калектыве яе прынялі з захапленнем. Прызнацца, я не разлічвала на ролю галоўнай гераіні. Але настаў дзень, калі я была вельмі ўзрадавана, убачыўшы ў аб'яве сваё прозвішча супраць ролі Машы Архіпавай.

Пачаліся рэпетыцыі. Часта ўзнікалі спрэчкі. Але ў самым галоўным я не сумнявалася з першага дня. Мая Маша — гэта вышэйшая праўда, вышэйшая сумленнасць і самая чалавечная чалавечнасць. Няхай яна знешне не яркая, ціхая і на дзіва звычайная. Але яна з «першай старонкі» свайго жыцця — чыстая і высакародная. І калі яна сутыкаецца ў жыцці з такімі, як Поснікаў, дык знаходзіць у сабе сілы разабрацца, дзе дабро, а дзе зло. Вось такім у маім уяўленні павінен быць наш сучаснік, савецкі малады чалавек. Барацьба за чалавека камуністычнай будучыні — яго жыццёвае крэда!

Каб перадаць усю разнастайнасць пачуццяў сваёй гераіні, мне не ставала жыццёвага вопыту, і я бясконца ўдзячна сябрам і асабліва пастаноўшчыку спектакля Юрыю Барысавічу Шчарбакову, якія памагалі мне па кропельцы напоўніць вобраз Машы Архіпавай. Я не лічу, што работа над гэтым вобразам ужо закончана, і імкнуся ўдасканальваць яго ад спектакля да спектакля.

З той жа ўсхваляванасцю гавораць пра сваю работу над стварэннем спектакля і астатнія ўдзельнікі яго. І тыя,

**Клава Васільева (засл. арт. БССР З. Браварская) гаворыць гарачы маналог аб праўдзе і гонары, аб самаахвяраванні ў імя агульнай справы.**





**Віктар Меднікаў** (злева) **вельмі спагадліва аднёсся да лёсу Мікалая Сярогіна. (Артысты В. Тарасаў і Г. Аўчынікаў).**

**Поснікаў яшчэ не зразумеў нікчэмнасці сваіх учынкаў. І Маша даверліва слухае старэйшага таварыша. (Артысты Б. Уладамірскі і Л. Давідовіч).**



чые званні і прозвішчы названы ў афішы, і тыя, чыіх прозвішчаў мы не ведаем, але бачым іх шчырае хваляванне на сцэне. Мы маем на ўвазе групу студэнтаў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, якія выступаюць у масавай сцэне — прыём у камсамол.

Пасля Л. Давідовіч, на якую ўскладзен асноўны цяжар спектакля, вылучаюцца яшчэ артысты В. Тарасаў (мастак Меднікаў) і Г. Аўсянікаў (Мікалай Сярогін).

Сельскі хлопец Мікалай, на дзіва ўлюбёны ў прыгажосць роднай прыроды, які стаў на некаторы час крымінальнікам, выклікае самую шчырую спагаду. Г. Аўсянікаў дабіваецца гэтага без націску, без трукацтва, дакладным і тонкім раскрыццём характару свайго героя. Многа памагае яму ў гэтым В. Тарасаў, які галоўны акцэнт робіць на тое, каб не аддаць сумленнага юнака назад цёмнаму мінуламу, калі ён быў аступіўся, не знайшоўшы падтрымкі ў абыякавых, чэрствых людзей.



Другі сакратар райкома Маслаў (артыст У. Кудрэвіч) лавіруе, спрабуючы абараніць Поснікава. Маша пераканана, што трэба катэгарычна адхіліць усялякую магчымасць кампрамісу з чалавекам, у якога нячыстае сумленне.



У Машы Архіпавай ёсць і асабістае жыццё. Гэта вельмі складаная задача — так паводзіць сябе, каб не закрануць чалавечай годнасці таго юнака, які цябе кахае. (У ролі Міхаіла артыст В. Белахвосцік).



Маша гнеўна адхіляе незаслужаную ўзнагароду — Чырвоны сцяг, прысуджаны камсамольскай арганізацыі раёна ў выніку прыпісак і іншых махінацый Поснікава.

Вобраз дзяўчыны з характарам, якой не ўсё лёгка ўдаецца ў жыцці, але якая не вешае носа, стварае заслужаная артыстка БССР З. Браварская. Добрая, шчырая, вясёлая — здаецца, Н. Івантар бачыла Клаву іменна такою, якою іграе яе З. Браварская.

Артыст Б. Уладамірскі, які выконвае ролю Поснікава, скіроўвае свае творчыя намаганні на тое, каб абнадзеіць гледача, што і яго герой — не страчаны чалавек, што пад уплывам грамадскасці Поснікаў нарэшце зразумее свае памылкі і выслабаніцца ад цяжкага грузу мінулага, каб стаць у агульны строй тых, хто не ідзе на кампраміс з сумленнем, а вядзе змаганне да перамогі.

Тэатр звярнуўся да твора, у якім адлюстравана сённяшняе жыццё нашай моладзі, і стварыў цікавы спектакль. Поспеху яго садзейнічала тая шчырая зацікаўленасць і ўсхваляванасць, з якой паставіліся да свайго ўдзелу ў спектаклі ўсе яго выканаўцы. А яны — маладое і наймаладзейшае пакаленне творчага калектыву. Глядзіш «Першую старонку» і адчуваеш, як раптам памаладзеў, не трацячы сваёй прафесіянальнай сталасці, старэйшы ў рэспубліцы славуты сваімі традыцыямі нацыянальны тэатр.

# ХІМІЯ — УРАДЖАЮ

## СЯБРЫ САДАВОДАЎ

У старажытнай кітайскай легендзе гаворыцца пра цудоўнага прыдворнага садоўніка. Ён прымушаў даспяваць няспелую садавіну. Кажуць, што ён быццам бы акурваў яе ладанам. Садоўнік той памёр, а таямніцу сваіх цудаў нікому не перадаў. Толькі праз некалькі стагоддзяў людзі задумалі праверыць гэтую легенду. Выявілася, што духмяны ладан сапраўды ўздзейнічае на садавіну — яна даспявае, наліваецца сокам, жаўцее. Але тлумачэння гэтай з'явы ніхто не мог даць да нядаўняга часу.

Даследуючы ладанавую пару, хімікі знайшлі ў ёй бясколерны лёгкі газ — этылен, які і спрыяе даспяванню пладоў.

Пасля апрацоўкі этыленам зялёныя памідоры даспяваюць за пяцьшэсць сутак. Няспелыя дыні, лімоны, апельсіны ў атмасферы этылену выспяваюць значна хутчэй, чым у прыродных умовах.

Этылен — лепшы, але не адзіны стымулятар даспявання садавіны. У арсенале аграхімікаў ёсць і іншыя сродкі.

Доследы, праведзеныя прафесарам Ю. Ракіціным, паказалі, што буйныя мясістыя памідоры вырастаюць толькі тады, калі атрымліваюць ад семязавязі і насення патрэбную колькасць ауксінаў — гармонаў росту.

А ці нельга памагчы расліне — штучна ўвесці ауксіны ў яе тканкі. Выявілася, што гэта магчыма зрабіць з дапамогай хімічных сродкаў.

Уздзеянне стымулятараў заўважаецца праз тыдзень пасля апырсквання. Кветкі робяцца больш буйныя, пялёсткі і тычынкі застаюцца жывыя. З апрацаваных стымулятарамі кветак вырастаюць значна буйнейшыя плады, яны смачныя і спажыўныя.

З яблынь, груш і іншых дрэў часта ападаюць недаспелыя плады. І тут на дапамогу садоўнікам прыходзяць хімічныя стымулятары.

Плод адрываецца ад галінкі дрэва таму, што на пладаножцы ўтвараецца так званы аддзяляльны слой, які, як нажом, разразае ўпоперак жывую тканку пладаножкі. Калі штучным шляхам увесці ў пладаножку ауксіны ці апрацаваць яе якім-небудзь іншым стымулятарам, які павялічвае натуральнае накапленне ауксінаў, адпадзенне пладаножкі можна затрымаць. Найбольш эфектыўнымі для гэтай мэты з'яўляюцца крышталікі аль-

фа-нафцілвоцатнай і трыхлорфенаксіпрапіёнавай кіслот. Дастаткова растварыць некалькі крышталікаў гэтых стымулятараў у літры вады і апырскаць растворам дрэва, каб адразу адчулася іхняя цудадзейная сіла. Часцей за ўсё дрэвы апырскваюць незадоўга да ўборкі ўраджаю.

Ужо некалькі год у садах Крыма, Закаўказзя і Сярэдняй Азіі робіцца апрацоўка дрэў стымулятарамі. Ападанне пладоў паменшылася ў два-тры разы.

## ПА СЛЯДАХ МІЧУРЫНА

Калі вам давядзецца быць у Мічурынску, перш за ўсё паглядзіце пладовы сад, створаны вялікім вучоным. У гэтым цудоўным садзе, які налічвае звыш ста тысяч дрэў, ёсць дзіўны міндаль. Ён у першы год стаў у тры з паловай разы вышэй ад звычайнага, а на другі год зацвіў і даў плады.

Зрабіла гэты цуд звычайная марганцоўка.

«Гэты каласальны прыток росту,— пісаў І. У. Мічурын,— зрабіў марганец сваім уплывам як хімічны стымулятар, што празмерна паскорыў працэс не толькі росту міндалю, але перанёс на другі год свой уплыў, які адчуўся ў будове костак даспелых пладоў, што раскрыліся яшчэ на галінах, і насенне прарасло».

Паслядоўнікі вялікага вучонага пры дапамозе марганцавых солей паскорылі рост лімоннага дрэва. На гэтым дрэве кветкі з'явіліся на шэсць месяцаў раней. І было іх у два разы больш.

У некаторых калгасах і саўгасах слабым растворам марганцоўкі апрацоўваюць насенне ярыны, цукровых буракоў, сланечніку. Усходы з такога насення прарастаюць раней і даюць большы ўраджай.

Стымулятары росту паскараюць яравізацыю пшаніцы і яе красаванне. Калі ў памяшканні, дзе яравізуецца насенне, будзе хоць нязначная колькасць газу хлорыстага этылену, насенне праходзіць яравізацыю на два тыдні раней. Гэта мае асаблівае значэнне для калгасаў і саўгасаў Беларусі, паўночных і паўночна-заходніх раёнаў нашай краіны.

Гароднікі даўно ўжо карыстаюцца «капчэннем», каб хутчэй зацвілі гуркі ў парніках. На гарачае вуголле ў печы кладуць бярозавыя або сасновыя паленні. Дзверцы печы і комін шчыльна закрываюць. Пры тленні дроў з недастатковым доступам паветра ўтвараецца чадны газ метан і невялікая колькасць этылену. Газы пранікаюць праз поры цэглы ў памяшканне цяпліцы і «акурваюць» гуркі. Пялёсткі робяцца бледнымі і адгінаюцца ўніз. Праз некалькі дзён расліны зноў набываюць нармальны выгляд. «Капчэнне» ўзмацняе фізіялагічныя працэсы ў агурках, стымулюе развіццё кветак.

Даследаванні савецкіх вучоных Е. Мінінай і другіх паказалі, што «капчэнне» можна паспяхова замяніць апрацоўкаю гуркоў сумессю чаднага газу і этылену, узятых у адпаведных канцэнтрацыях.

## ПАСКАРАЮЧЫ І ЗАМАРУДЖВАЮЧЫ

Кожны год на нашых палях збіраюць мільёны тон бульбы. І вось бульба сабрана, звезена з поля, засыпана ў скляпы. Як жа захаваць яе смачнай і непашкоджанай да новага ўраджаю? Зімою яна баіцца марозу. Але вось надышла вясна, і раслінныя сілы, захаваныя ў клубнях, пачынаюць дзейнічаць: адкрываюцца «вочкі», выкідваюцца тонкія ніткі парасткаў. На іх утварэнне ідуць каштоўныя спажыўныя рэчывы — крухмал, бялкі, вітаміны. Каб бульба не прарастала, яе трымаюць у цёмных скляпах, земляных буртах, у халаднаватых памяшканнях без вокан. Але замест усяго гэтага больш зручна карыстацца хімічнымі прэпаратамі. Клубні бульбы апыльваюць дустам М-1, і яны не прарастаюць. Бульбу, якая ідзе на тэхнічныя патрэбы, апыльваюць дустамі ІФК або ІХФК.

Шмат клопату садоўнікам з «вусамі» клубнікі. За лета шмат разоў трэба іх зразаць, а яны зноў растуць, памяншаючы колькасць ягад. Двухразовае апырскванне клубнічных кустоў растворам двухлорыстай мачавіны памяншае рост вусоў на 80 працэнтаў.

У час Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія акупанты, баючыся беларускіх партызан, знішчалі лясы вакол гарадоў, па баках дарог і вакол чыгуначных станцый. Сумеснымі намаганнямі беларускіх вучоных-лесаводаў, інжынераў і рабочых лясной прамысловасці на гэтых месцах паступова ўзнаўляюцца пасадкі. Вялікую ролю адыгралі пры азеляненні гарадоў стымулятары росту. Яны паспяхова ўжываюцца пры перасадках дрэў у сады і паркі.

Каб паскорыць прыжыванне дарослых дрэў, іхнія карэнні двойчы апрацоўваюць рознымі растворамі. Карэнні свежавыкапанага дрэва спачатку падразаюць, а потым вымазваюць густою кашыцай, прыгатаванай з сумесі гліны і дробнага торфу, замешанага на патрэбным растворы. Другая апрацоўка робіцца на месцы пасадкі дрэў. У невялікую канаву, пракапаную вакол ствала, выліваюць пяць вёдзер раствору гетэраауксіну.

У апрацаваных растворамі дрэў карэнні значна лепш і хутчэй прыжываюцца, чым у дрэў неапрацаваных. Заўважана, што апрацоўка карэнняў значна стымулюе рост парасткаў дрэў.

За апошнія гады некаторыя арганічныя і неарганічныя рэчывы ужываюцца як стымулятары для паскарэння прарастання клубняў бульбы. Яны дазваляюць збіраць і саджаць бульбу на працягу аднаго вегетацыйнага перыяду — гэта значыць, атрымліваць два ўраджаі ў год.

Добрыя вынікі дае апрацоўка воднымі растворамі стымулятараў расады капусты, клубнікі, тытуню. Расаду звязваюць у пучкі і апускаюць карэннямі ў раствор гетэраауксіну. Патрымаўшы яе там чатыры гадзіны, адразу ж высаджваюць у грунт.

Хімічныя стымулятары спатрэбіліся і пры размнажэнні раслін чаранкаваннем.

Асабліва моцнымі стымулятарамі росту з'яўляюцца гібераліны — арганічныя кіслоты, нядаўна атрыманыя вучонымі з некаторых грыбкоў. У многіх садоўніцкіх гаспадарках ужо карыстаюцца гібералінамі і другімі стымулятарамі для апрацоўкі чаранкоў агрэсту, парэчак, вішань. Не забываюць пра стымулятары і кветкаводы. Язмін, бэз, ружа квітнеюць пышней пры блізкім знаёмстве з хіміяй.

## ВОРАГІ ПУСТАЗЕЛЛЯ

На працягу многіх стагоддзяў адзіным сродкам барацьбы з пустазеллем была праполка. У наш час хімікі стварылі тысячы новых прэпаратаў — гербіцыдаў, якія знішчаюць пустазелле і не шкодзяць пры гэтым культурным раслінам.

Асабліва добрымі гербіцыдамі з'яўляюцца складаныя арганічныя рэчывы, якія маюць у сваіх малекулах атамы хлору. Растворамі натрыевых солей гэтых прэпаратаў апырскваюць пасевы. Праз адзінцы тыдні гінуць палявая гарчыца, дзікая рэдзька, васількі, лебяда, сурэпка. Добры эфект у барацьбе з пустазеллем на кукурузных палях даюць гербіцыды — сімазін і атразін.

На Гомельскай абласной сельскагаспадарчай станцыі, пачынаючы з 1960 года, даследуецца дзеянне розных колькасцей сімазіну і атразіну на бульбянае пустазелле.

Важную ролю ў сельскай гаспадарцы нашай рэспублікі адыгрываюць цукровыя буракі. Для барацьбы з пустазеллем у пасевах буракоў Мінская доследная станцыя ўсесаюзнага інстытута аховы раслін у 1961 годзе прымяніла новыя гербіцыды: эптан, веладэкс і рандокс. Найбольшы эфект даў эптан.

Пустазелле можна знішчаць і з дапамогаю іншых хімічных рэчываў: разбаўленых раствораў сернай кіслаты, жалезнага і меднага купаросу, сернакіслага амонію, цыянаміду кальцыю.

## ЗБЕРАЖОНЫЯ МІЛЬЁНЫ

Хімічныя сродкі абароны раслін і паскарэння іх росту зберагаюць мільёны рублёў. Адзін рубель, патрачаны на набыццё хімічных прэпаратаў, захоўвае ўраджай на 30—40 рублёў, а ў некаторых вы-

падках — нават на 100 рублёў. Адна тона пяціпрацэнтнага дусту ДДТ зберагае да 200 тон зерня. У многіх калгасах і саўгасах на адзін кілаграм гербіцыдаў, выдаткаваных на апрацоўку гектара пасеваў, атрымалі дадаткова да чатырох цэнтнераў збожжавых з гектара. У рэспубліцы нямала калгасаў і саўгасаў, на палях якіх расце лён-даўгунец. Хімічныя сродкі для яго праполкі ў 20—30 разоў скарачаюць затраты працы.

Савецкія хімікі стварылі дзесяткі розных стымулятараў, гербіцыдаў, дэфаліянтаў, што паспяхова ўжываюцца ў сельскай гаспадарцы. У гэтай сямігодцы з хімічных лабараторый выйдуць на палі яшчэ больш эфектыўныя прэпараты. Яны памогуць хлебаробам, гароднікам і садоўнікам вырошчваць яшчэ больш высокія ўраджаі з меншай затратай працы.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

# ДАЙЦЕ РУКУ ЗЯЛЁНАМУ СЯБРУ

На свеце няма краіны, якая магла б зраўняцца з Савецкім Саюзам па разнастайнасці і багаццю прыродных рэсурсаў: звыш мільярда гектараў лесу, або адна трэць усіх сусветных лясных багаццяў, трыста відаў млекакормячых, семсот відаў птушак, 162 віды поўзаючых і земнаводных, больш тысячы відаў рыб.

Багатая, разнастайная прырода і нашай рэспублікі. У нетрах беларускай зямлі ёсць калійная і спажыўная соль, нафта, руда, крэйда, каалін, кварцавы пясок. Асабліва месца займае торф, па запасах якога Беларусь уступае толькі Расійскай Федэрацыі.

Нацыянальным багаццем беларускага народа з'яўляецца лес. Амаль трэцяя частка тэрыторыі рэспублікі занята пушчамі, барамі, гаямі і дубровамі, стромкімі соснамі і елкамі, бярозамі і клёнамі. Даўжыня рэк, што працякаюць у Беларусі, дасягае пяцідзесяці тысяч кіламетраў. Да водных рэсурсаў трэба дадаць яшчэ і азёры — іх каля чатырох тысяч. Нездарма паўночную частку рэспублікі называюць краем блакітных прастораў.

Скарбам роднага краю называем мы Белавежскую пушчу. Першыя звесткі аб гэтым старадаўнім запаведніку сустракаюцца яшчэ ў летапісах 983 года. Тэрыторыя пушчы ў межах Беларускай ССР займае 75 тысяч квадратных кіламетраў.

Цудоўны комплекс жывёльнага і расліннага свету створаны ў натуральным кутку беларускай прыроды — Бярэзінскім дзяржаўным запаведніку. Гэта — адзінае месца ў рэспубліцы, дзе захаваўся буры мядзведзь.

Акрамя запаведнікаў, у БССР ёсць яшчэ пяць дзяржаўных заказнікаў: Ленінскі, Налібоцкі, Чэрыкаўскі, Чачэрскі і Казьянскі. Ёсць у нас некалькі дзесяткаў мясцовых заказнікаў, а таксама прыпісных паляўнічых гаспадарак. Узяты пад дзяржаўную ахову сотні помнікаў прыроды, якімі так багата рэспубліка.

Ленінскія прынцыпы аховы прыроды воляй партыі і народа ў нашай краіне ператвораны ў стройную сістэму прыродаахоўных мерапрыемстваў.

У Беларускай ССР за апошні час многае зроблена і па рацыянальнаму выкарыстанню прыродных багаццяў. Вакол гарадоў і буйных прамысловых цэнтраў ствараюцца зялёныя зоны, вадасховішчы.

У снежні 1961 года VI сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі прыняла «Закон аб ахове прыроды ў Беларускай ССР». Летась у красавіку адбыўся першы ўстаноўчы з'езд Беларускага таварыства аховы прыроды, якое налічвае ў сваіх радах каля трохсот тысяч членаў. З кожным днём расце лік гэтых энтузіястаў, якія робяць усё, каб наша родная зямля была яшчэ прыгажэйшай, яшчэ багацейшай.

Шчырым сябрам прыроды, нястомным барацьбітом за яе зберажэнне з'яўляецца загадчык гаспадаркі Беларускай ордэна працоўнага Чырвонага сцягу сельскагаспадарчай акадэміі Дзям'ян Раманавіч Новікаў. Сорак год жыцця прысвяціў ён любімай справе. На тэрыторыі акадэміі Дзям'ян Раманавіч стварыў дэндралагічны сад. У ім пасаджана больш шасцісот відаў раслін; штогод высаджваецца 360 тысяч кветак розных гатункаў. Дзям'ян Раманавіч часты госць піянераў і школьнікаў, дакладчык на калгасных сходах, лектар у студэнцкіх аўдыторыях, аўтар навуковых прац і актыўны прапагандыст літаратуры аб прыродзе.

— Сэнс свайго жыцця я бачу ў тым, што вырошчваю дрэвы і кветкі, што выхоўваю ў падрастаючага пакалення любоў да красы роднай зямлі, — гаворыць гэты паважаны чалавек.

На ўсю Гомельшчыну славіцца сваёй працай па ахове прыроды ляснік Кашэвіцкага лясніцтва Сцяпан Мікалаевіч Хацько. Яму ўжо больш як восемдзесят год, але ўзрост не перашкаджае энтузіясту прымаць непасрэдны ўдзел у самых разнастайных лесагаспадарчых работах. Сцяпан Мікалаевіч арганізаваў добраахвотныя пажарныя дружыны, «зялёныя патрулі» па ахове лесу. У яго абходзе лес заўсёды прыбраны, рэдка здараюцца самавольныя высечкі.

Часта можна сустрэць у лясах Барысаўскага раёна інжынера Беларускага аўтамабільнага завода Васіля Якаўлевіча Станкевіча. Добры паляўнічы і рыбалоў, ён любіць пахадзіць са стрэльбай па лясах і пералесках, паслухаць песні птушак, пасядзець з вудай на беразе рэчкі. Любоў да прыроды прывяла Васіля Якаўлевіча ў рады грамадскіх інспектараў аховы прыроды.

Пятнаццаць гадоў займаецца лесапасадкай звяно Лідзіі Канапелька з Чэрвеньскага лесгаса. За гэты час звеннявая разам са сваімі сяброўкамі Кацярынай Марозік і Тацянай Верабей пасадзіла і вырошчвае больш як дзвесце гектараў лесу. Гэта — выдатны вынік самаадданай працы.

Справядліва называюць знаўцам прыроды загадчыка заалагічнага музея Бярэзінскага дзяржаўнага запаведніка Антона Цярэнцьевіча Хацкевіча. З дзіцячых год


А. Федзін (Гомель). Вясна на Палессі.

любіць ён прыроду. Як жывую кнігу, чытае ён сляды звяроў, кожную птушку пазнае па спевах, па палёту. Антон Цярэнцьевіч не толькі цудоўны следапыт, але і выдатны прэпаратар. Ён па-майстэрску вырабляе чучалы звяроў і птушак. У музеі налічваецца больш як 250 экспанатаў, зробленых гэтым таленавітым умельцам.

Разнастайную масава-палітычную работу сярод насельніцтва па прапагандзе ведаў аб прыродзе роднага краю вядзе міжраённы інжынер-інспектар па Нясвіжскаму кусту Мікалай Міхайлавіч Яроцкі. Ён выступае перад працоўнымі з лекцыямі і дакладамі, арганізуе літаратурныя вечары, паказ кінафільмаў. Па ініцыятыве т. Яроцкага ў калгасах і саўгасах створаны пярвічныя арганізацыі таварыства аховы прыроды, падабраны грамадскія інспектары.

Але ў прыроды ёсць не толькі сябры, ёсць і ворагі, якія наносяць вялікую шкоду прыродным багаццям: забіваюць дзікіх звяроў і птушак, глушаць і атручваюць рыбу, знішчаюць лес і зялёныя насаджэнні, забруджваюць вадаёмы і паветра. Імя ім — браканьеры. У народзе іх яшчэ называюць ваяўнічымі піратамі, рабаўнікамі грамадскага дабра.

Мы шмат гаворым і пішам пра браканьераў. Часам іх выкрываюць і судзяць. Але, на жаль, часта яны застаюцца без пакарання і зноў парушаюць савецкія законы, робяць сваю агідную справу. «На наш век хопіць, а пасля нас — хоць трава не расці», — разважаюць гэтыя хапугі і дармаеды, гатовыя дзеля асабістай нажывы на розныя злачынствы.

Як сапраўдныя забойцы, паказалі сябе бацька і сын Варанцовы з вёскі Гірава Рэчыцкага раёна. Доўгі час яны карысталіся варварскімі спосабамі лоўлі рыбы на Дняпры, а калі іх аднойчы злавілі на месцы злачынства работнік міліцыі І. Сенькін і грамадскі інспектар Н. Чыжык, браканьеры зарадзілі стрэльбы і забілі тых, хто стаў на абарону народнага дабра. Абодва Варанцовы прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

Вольна адчуваюць сябе браканьеры на Заслаўскім вадасховішчы, на рэках Сож, Беразіна, Заходняя Дзвіна, Нёман, на Асвейскіх, Лепельскіх, Браслаўскіх азёрах і на Нарачы.

А колькі яшчэ ёсць у нашай рэспубліцы аматараў страляць зайцаў пад святлом фар аўтамашын, нацкоўваць сабак на дзікіх коз, забіваць ласёў, паляваць на глушцоў.

Велізарныя страты наносяць браканьеры лясной гаспадарцы — штогод знішчаюцца сотні тысяч кубаметраў каштоўнай драўніны. Асабліва дрэнна захоўваюцца калгасныя лясы. Так, напрыклад, у калгасе «Мары Ільіча» Лёзненскага раёна за адзін год высечана і прададзена восем тысяч кубаметраў лесу. Шмат лесу гіне ад пажараў. Настала пара аднавіць ленінскі дэкрэт аб лясах, у якім гаворыцца: «... усе лясы не складаюць уласнасці ні сёл, ні паветаў, ні губерняў, ні абласцей, з'яўляюцца агульнанародным фондам і ні ў якім выпадку не могуць належаць якому-небудзь падзелу і размеркаванню ні паміж грамадзянамі, ні паміж гаспадаркамі». Інтарэсы справы патрабуюць, каб у лесе было не два і не тры, а адзін гаспадар.

Вельмі мала ўвагі аддаем мы ахове зялёных насаджэнняў ў гарадах і населеных пунктах, прыгарадных зонах. Каштоўныя пароды дрэў знішчаны ў мінскім парку імя Чалюскінцаў. Напярэдадні Новага года ў прыгарадных лясах і парках высякаюць па 70—75 тысяч елак толькі для мінчан. А колькі ж елак губяць кожны год у другіх гарадах рэспублікі? Сотні, тысячы. Дрэнна ахоўваюцца зялёныя насаджэнні ў Віцебскай і Гродзенскай абласцях.

Многія вадаёмы рэспублікі ўсё яшчэ забруджваюцца сцёчнымі водамі прамысловых і камунальна-бытавых прадпрыемстваў. У раку Свіслач, напрыклад, у межах горада Мінска скідваецца за адны суткі больш двухсот тысяч кубаметраў вады, змешанай з нафтапрадуктамі, кіслотамі і атрутнымі рэчывамі. Гэта прывяло да гібелі ўсяго жывога ў рацэ. Яна, па сутнасці, ператворана ў сцёчны канал, у своеасаблівы калектар адкрытай каналізацыі, што зусім недапушчальна.

Кіраўнікі Беларускага саўнаргаса, некаторых міністэрстваў і ведамстваў, фабрык і заводаў не клапоцяцца як след пра тое, каб спыніць забруджванне паветра ў гарадах. Сродкі, якія адпускаюцца прадпрыемствам на ўстаноўку спецыяльнага абсталявання для ачысткі паветра ад дыму і газаў выкарыстоўваюцца на іншыя мэты.

Вялікай сілай у зберажэнні і памнажэнні прыродных рэсурсаў нашай рэспубліцы з'яўляецца камсамол, моладзь. Усялякай падтрымкі заслугоўвае ініцыятыва камсамольцаў Горацкага раёна, якія звярнуліся да ўсіх юнакоў і дзяўчат Беларусі з заклікам пачаць паход за ахову прыроды.

«Прырода — наша багацце, наш агульны здабытак, — пісалі горацкія юнакі і дзяўчаты, — і таму наша камсамольская справа — паставіць жалезную заслону браканьерам і драпежнікам, павесці з імі бязлітасную барацьбу. Кожная камсамольская арганізацыя можа і павінна стварыць кантрольны пост па ахове прыроды, па барацьбе з браканьерствам, з бязлітасным знішчэннем багаццяў нашай флоры і фауны».

Сіламі камсамольцаў і моладзі азеляняюцца дарогі Горкі — Леніна, Горкі — Княжыцы, Горкі — Расна.

Каштоўная ініцыятыва горацкіх камсамольцаў адобрана Цэнтральным Камітэтам ЛКСМБ. У прынятай пастанове падкрэсліваецца, што ахова прыроды з'яўляецца кроўнай справай кожнага камсамольца, кожнага юнака і кожнай дзяўчыны, якія маюць магчымасць і абавязаны зрабіць усё для аховы і памнажэння прыродных багаццяў роднага краю.

Актыўны ўдзел у ахове прыроды прымаюць камсамольцы Рэчыцкага, Лёзненскага, Быхаўскага, Барысаўскага і іншых раёнаў. У школах рэспублікі створаны і працуюць юнацкія секцыі Беларускага таварыства аховы прыроды, у якіх налічваецца каля 1 500 членаў.

За час месячніка саду, які праводзіўся ў кастрычніку 1962 года, многае зрабілі па азеляненню плошчаў, вуліц і двароў юнакі і дзяўчаты Мінска, Брэста, Лепеля, Светлагорска, Баранавіч. У многіх школах Навагрудскага раёна арганізаваны гурткі юннатаў, «зялёныя патрулі». Пры Кожаўскай школе створан плодагадавальнік, а пры Цырынскай — вучнёўскае лясніцтва. Па ініцыятыве камсамольца Юрыя Ліхадзіеўскага студэнты Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута ўзялі шэфства над зялёнымі насаджэннямі горада, над школьнымі садамі.

Але не ўсюды ў нашай рэспубліцы клапоцяцца аб ахове і рацыянальным выкарыстанні прыродных багаццяў. Юнакі і дзяўчаты Віцебска і Магілёва, Маладзечна і Бабруйска слаба ўдзельнічаюць у ахове зялёных насаджэнняў, рыбнай і паляўнічай гаспадаркі. Як след не ўключыліся ў гэтую барацьбу камсамольцы беларускай сталіцы.

Многае могуць зрабіць па ахове прыроды работнікі культурна-асветных устаноў. У клубах і дамах культуры можна абсталяваць вітрыны, стэнды, фотамантажы аб прыродных багаццях роднага краю, а ў бібліятэках — арганізаваць выстаўкі літаратуры аб прыродзе, праводзіць канферэнцыі чытачоў. Па-новаму трэба перабудаваць работу аддзелаў прыроды ў абласных гісторыка-краязнаўчых музеях. У кінатэатрах павінны рэгулярна дэманстравацца мастацкія, навукова-папулярныя і дакументальныя фільмы аб прыродзе.

Было б вельмі карысна, каб у прапаганду аховы прыроды дзейсна ўключыліся і народныя тэатры, калектывы мастацкай самадзейнасці. У выхаванні любві да прыроды вялікую ролю заклікаты адыграць пісьменнікі і журналісты, мастакі і кампазітары, выкладчыкі вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў і настаўнікі.

Прырода — усенародны здабытак, крыніца жыцця, хараства і натхнення. Прырода — наш добры сябар. Давайце ж працягнем яму нашы рукі, давайце зберажом і захаваем яго для будучых пакаленняў!

**Барыс ПЯРКОЎСКІ.**

# АДЗЕННЕ ДЛЯ РАБОТЫ

Форма адзення заўсёды абумоўлена патрабаваннямі жыцця. Прастата, мэтазгоднасць, арыгінальнасць крою — вось тыя прынцыпы, якімі кіруюцца савецкія мастакі пры стварэнні мадэлей адзення. Ну і вядома, рэчы павінны быць зручныя, прыгожыя і танныя.

Мастакі-мадэльеры ставяць перад сабой задачу ярчэй падкрэсліць у адзенні найбольш характэрныя рысы нашага сучасніка: жыццярадаснасць, дзелавітасць, сціпласць.

Прыгажосць пранікае ўсё глыбей і ў сферу вытворчасці. Дасканаласць форм машын, апаратуры, рабочага адзення, вытворчых памяшканняў — усё гэта павінна радаваць вока працаўніка.

Нішто не мае такога непасрэднага ўплыву на наш настрой штогадзінна і штодзённа, як адзенне. Яно здольна выклікаць упэўненасць або пачуццё скаванасці, радасць або непрыемнасць. Асабліва важна, як адчувае сябе чалавек ва ўмовах вытворчасці. Добры настрой — гэта ж больш высокая прадукцыйнасць працы.

Мадэльерамі Рэспубліканскага дома мадэлей створана калекцыя рабочага і спецыяльнага адзення. Гэта — курткі і штаны, камбінезоны і паўкамбінезоны для розных прафесій. Тут знайшлі прымяненне новыя тканіны — кіслотаўстойлівыя, пыла-воданепранікальныя і г. д., новыя штучныя, сінтэтычныя матэрыялы, плёнкі і пакрыцці.

Распрацоўваючы мадэлі ахоўнага адзення, мастакі і канструктары зыходзілі перш за ўсё з умоў працы рабочых. Яны наведвалі прамысловыя прадпрыемствы, знаёміліся з умовамі працы рабочых самых розных спецыяльнасцей. Мы хадзілі ў цэхі да ліцейшчыкаў, гутарылі з рабочымі кандытарскай фабрыкі, пасябравалі з ткачыхамі тэкстыльных камбінатаў, пабывалі на лесанарыхтоўках, спускаліся ў шахту, раілісця з рабочымі завода шкловалакна...

Нас цікавіла ўсё, нават дробязі. Напрыклад, у адзенні для кандытараў не павінна быць ніводнага гузіка, каб ён не апынуўся калі-небудзь у пірагу. Назіраючы спрытныя рухі рабочага, канструктар заўважаў, якія састаўныя часткі касцюма павінны быць найбольш рухомыя, каб адзенне не скоўвала рухаў.

Сабраўшы дастатковы матэрыял і асэнсаваўшы яго, мастакі-мадэльеры П. Ігнацьеў, Э. Веранчык, Н. Паліўцава, Т. Няфёдава і іншыя старанна прадумвалі кожную дэталь будучага касцюма. Выкананы дзесяткі эскізаў, прапануюцца некалькі варыянтаў. На чым жа спыніцца?

Ідзе калектыўнае абмеркаванне. Улічана, здаецца, усё. Але трэба ўлічыць і расход матэрыялаў, прадугледзець кошт гатовай рэчы, забяспечыць магчымасць вырабу яе ў масавай вытворчасці. Нарэшце, зацвярджаюцца найбольш, як нам здаецца, дасканалыя і эканамічныя: касцюм будзе не толькі зручны і трывалы пры нашэнні, не толькі будзе добра ахоўваць рабочага (у гэтым пераканаяы ўсе), — ён разам з тым і гарманічны па сваіх прапорцыях, форме, колеру, кампазіцыі і адпавядае сучасным патрабаванням тэхнічнай эстэтыкі.

Вызначаны дзень прагляду. Запрошаны для ўдзелу ў абмеркаванні інжынеры, тэхнолагі, рабочыя станкабудаўнічай і машынабудаўнічай прамысловасці, тэкстыльшчыкі, работнікі харчовай прамысловасці, лесарубы, будаўнікі і іншыя.

Узніклі гарачыя спрэчкі, і ўсё ж большасць мадэлей атрымлівае адабрэнне. Дырэктару Мінскага тонкасуконнага камбіната т. Рагачову спадабалася зручнае і сучаснае адзенне для ткачых, матальшчыц і іншых. Ён просіць хутчэй пусціць у вытворчасць гэтыя мадэлі.

На гэтым, вядома, яшчэ не закончыўся шлях мадэлі ад яе стваральнікаў да спажыўца. Работнікі Дома мадэлей рыхтуюць цяпер тэхнічную дакументацыю. Швейныя фабрыкі рэспублікі, атрымаўшы тэхнічныя чарцяжы, неўзабаве змогуць пашыць адзенне, якое здольна задаволіць утылітарныя і эстэтычныя патрэбы нашых працоўных. Так мастацтва прыходзіць у жыццё фабрык і заводаў. Вельмі добра сказаў нейкі гэтага вядомы савецкі авіяканструктар Антонаў: «У нашу эпоху будаўніцтва камунізма мастацтва павінна пранізваць усё наша жыццё, усю нашу дзейнасць. Мастацтва, эстэтыка павінны складаць арганічны бок грамадскай вытворчасці».

Мастакі-мадэльеры Рэспубліканскага дома мадэлей — гэта толькі невялікая частка арміі спецыялістаў, якія працуюць над праблемай стварэння эстэтыкі быту, якая садзейнічае развіццю новых адносін чалавека да сваёй працы.

**Роберт СЦЕПУЧОЎ,**
**мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага дома мадэлей.**



Іван РАЛЬКО

# ВЕРША ЖЫВОЕ ЖЫЦЦЁ

У адным з вершаў са зборніка «Мой хлеб надзённы» (1962) Максім Танк, азіраючы свой 30-гадовы паэтычны шлях, прызнаецца:

Перш непакоіўся:
Як сваю думку ўпрыгожыць.
І, як дзікун той,
Стараўся абвешаць яе
Цацкамі,
Рознакалёрнымі стужкамі,
Пацеркамі —
Старым і аджыўшым
Свой час рэквізітам.
Быццам зары ці траве
Патрэбны хімічныя фарбы,
Грому — літаўры і трубы...

Сапраўды, на пачатку творчай работы паэт часам захапляўся фармальнымі пошукамі, стараўся ўпрыгожыць думку незвычайнай метафарай ці мудрагелістым слоўным завітком. Гэта адбывалася не без пэўных уплываў. З'яўленне ў вершах М. Танка маляўнічай імажынісцкай метафары, думаецца, ішло больш ад С. Ясеніна, чым ад прыхільнасці да паэзіі «Маладняка» ці кракаўскай «Авангарды». Што ж, «музы, як Сірэны, заманьваюць у выбітыя берагі» (В. Шклоўскі). Але сапраўдны талент заўсёды перамагае спакусу плыць за іх прызыўнымі галасамі. Самамэтна-прыгожая, надума-

ная імажынісцкая метафара, накшталт ясенінскай «Мак зари черпаками ветров не выхлестать», зрэдку ўсё ж захоплівала паэта сваёй уяўнай маляўнічасцю, і тады ў яго творах з'яўляліся такія, прыкладна, вобразы:

У ступу хаты ціха, ціха месяц
апусціў барання крывы рог
і з прасеяных на сіце зораў месіць
серабрыстай раніцы пірог...

Аднак творы Ясеніна выклікалі ў М. Танка не толькі захапленне, але і жаданне паспрачацца з ім, перш за ўсё — з ясенінскай эстэтычнай раздвоенасцю, і, што не менш важна, паспаборнічаць з ім. Прыгадаем радкі з ясенінскага «Преображения»:

Эй, Россияне!
Ловцы вселенной,
Неводом зари зачерпнувшие небо, —
Трубите в трубы!

Нечаканасць параўнання «Россияне — ловцы вселенной» і адцягненасць характарыстыкі «неводом зари зачерпнувшие небо» — надаюць гэтаму вобразу ні больш ні менш як толькі вонкавую прыгажосць. Эмацыянальнасць і глыбіня перажывання саступілі месца рытарычнаму закліку: «Трубите в трубы!»

І тут мімаволі прыгадваюцца танкаўскія радкі ажно з пасляваеннага верша «На Мядзельшчыне» (1946):

А на хвалях азёр
Вецер невад зары цягнуў і нас клікаў,
Каб яму памаглі.
Невад быў на ўсю Нарач, вялікі,
Поўны сіняга шуму
І песень начлежных,
І зор.

«Невад зары»?! Прачытаўшы такое, людзі, якія прывыклі выказваць свае меркаванні з такой безапеляцыйнасцю, з якой турэцкі муфцій гаворыць сваю «фетву», катэгарычна заявяць: уплыў Ясеніна. Яны не сумняваюцца! Ім не прыходзіць, напэўна, думка, што падобны вобраз можа нарадзіцца з пазнання жывой рэальнасці багатым жыццёвым вопытам мастака і асаблівасцямі яго светаўспрымання і таленту. Аднак дапусцім, што «невад зары» — гэта «юнацтва мінулага рэха», водгук юначага захаплення Танка адным са сваіх любімых паэтаў. Водгук — не больш. Бо ў гэтым танкаўскім вобразе няма нічога самамэтна-прыгожага, вонкава эфектнага.

Асацыяцыі, якія ўзнікаюць у паэта, калі ён глядзіць на ўспененыя ранішнім ветрам нарачанскія хвалі, нечакана свежыя і празрыстыя. Адцягненасць вобразаў не страчвае сваёй сувязі з рэальнасцю нашых уяўленняў. А майстэрскае выкарыстанне адначасова двух паэтычных фігур — анафары і раздзялення — робіць на нас глыбокае эмацыянальнае і зрокавае ўздзеянне. Анафара засяроджвае нашу ўвагу на «невадзе зары», раздзяленне ж спачатку паказвае прадмет у дзеянні («на хвалях азёр вецер невад зары цягнуў»), затым дае паэтычнае апісанне яго («невад быў на ўсю Нарач, вялікі, поўны сіняга шуму і песень начлежных, і зор»), дзе пералік прызнакаў стварае ўражанне шматлікасці зарніц ва ўспененых хвалях і выклікае ўяўленне аб шырыні азёрнай і прасторавай неабсяжнасці.

У творах Максіма Танка ўжо на першым этапе не цяжка заўважыць свае ўласныя ноты, якія, нягледзячы на некаторыя напластаванні мадэрнісцкай паэтыкі, наіўнага рамантызму і наяўнасць рэмінісцэнцый, спачатку нясмела, ледзь чутна гучалі на фоне «чужых» мелодый у вершах «Новы год», «Сфінкс» і іншых. Але іх гучанне з кожным годам станавілася ўсё больш і больш акрэсленым і выразным, каб выліцца ў першыя, здавалася б, нечаканыя і бурныя акорды ў такіх вершах 1935 года, як «Да дня», «Акт першы», «Эстрады», «Да штурму» і іншых.

Пошукі «сваёй ноты, сваёй песні» былі для М. Танка той асноўнай мэтай, якая жывіла яго прагу творчасці. У выніку — талент паэта набыў тую



выдатную якасць, без якой пісьменнік не можа стаць сапраўдным пісьменнікам: менавіта — уменне бачыць і адлюстроўваць жыццё народа.

Максім Танк пачаў сваю літаратурную дзейнасць, як паэт-грамадзянін, паэт рэвалюцыянер. Не дзіўна, што дэвізам яго творчасці сталі пошукі такіх форм мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, якія адпавядалі б рэвалюцыйнаму зместу яго вершаў. Але вядома, што новыя формы ўзнікаюць не адразу. «Новае мастацтва не пачынаецца з новых форм, новае мастацтва заўсёды нараджаецца разам з новым чалавекам» (І. Бехер). Новая рэвалюцыйная рэчаіснасць паступова нараджала новы мастацкі метад для свайго адлюстравання — сацыялістычны рэалізм, які ўвабраў у сябе ўсё лепшае, што дасягнута рускай і сусветнай літаратурай XIX — пачатку XX стагоддзяў.

У сувязі з гэтым успамінаецца адно выказванне Луі Арагона: «Я прытрымліваюся шырокага, недагматычнага погляду на сацыялістычны рэалізм — погляду, які дазваляе мастаку ўзбагачаць сябе, сваё мастацтва не на якімсьці замкнутым участку, а **ўсюды, дзе ён можа знайсці для сябе пажытак,** — зразумела, пры **зберажэнні сваіх прынцыповых пазіцый»** (падкрэслена мной. — **І. Р.**).

Выходзячы на шырокую паэтычную дарогу, М. Танк знаходзіў для сябе «пажытак» не толькі ў паэзіі М. Горкага, Я. Купалы, М. Багдановіча, У. Маякоўскага, С. Ясеніна, польскіх рэвалюцыйных рамантыкаў. Нават паэтыка мадэрнізму што-кольвечы дала паэту для ўзбагачэння яго паэзіі. Асобныя элементы мадэрнісцкай паэтыкі, у прыватнасці асацыятыўны вобраз, М. Танк па-свойму выкарыстоўваў для мастацкага адлюстравання таго рэвалюцыйнага зместу, тых ідэй, якія хвалявалі яго грамадзянскае сумленне і найбольш поўна выражалі спадзяванні народа-змагара. Аднак, выкарыстоўваючы элементы мадэрнісцкай паэтыкі, М. Танк ніколі не сыходзіў са сваіх прынцыповых пазіцый — рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці. Яскравы прыклад — верш «Павязлі цягнікі» (1937), кампазіцыя якога заснавана на развіцці аднаго скразнога асацыятыўнага вобраза. Шчодрасць і харавство асацыяцый, якія грунтуюцца на аснове фальклорнай вобразнасці, літаральна палоняць нас у гэтым вершы сваёй праўдзівасцю, эмацыянальнай глыбінёй і экспрэсіўнасцю і рухаюць імкліва ад страфы да страфы думку твора, як бы прыўзнімаючы яе на катурнах.

Схематычна гэта выглядае так. Адразу перад намі ўзнікае восень з яе дарамі: «з антонавак сонца і з стагоў памідораў дагарае на шыбах вітрын». Потым, у другой і трэцяй строфах, гэты вобраз становіцца драматычным: працоўны люд ніколі не можа «ўдоваль напіцца таго сонца», якое здабыта яго ж натруджанымі рукамі, ён толькі можа песню складаць пра восень, пра яе дары — сонца рук чалавечых. І нарэшце, заключны акорд у развіцці гэтага асацыятыўнага вобраза, які нечакана выбухае як бы з падвоенай сілай экспрэсіўнасці: «вітрыны раптам гаслі» — і гасла, знікала сонца з антонавак і стагоў памідораў; гаслі вітрыны — і хаваліся ў свае норы, і стойваліся ў трывожным спалоху перад грознай рэвалюцыйнай сілай «власть имущие».

Кожнае слова ў вершы «Павязлі цягнікі» дыхае рэвалюцыйным пафасам, нязломнай верай у перамогу пралетарыята. Падзеі пададзены з няўмольнай логікай у іх паступальным развіцці. Аптымізм верша дасягаецца выключна майстэрскай кампазіцыяй твора, дзе кожная мастацкая дэталь, кожны мастацкі вобраз строга дакладна працуюць на вырашэнне аўтарскай задумы. І думка паэта абрушваецца на нас цэлым каскадам асацыяцый, захапляе гнеўна-радаснай трывогай рэвалюцыйнай буры.

Як бачым, удалае выкарыстанне скразнога асацыятыўнага вобраза ў вершы «Павязлі цягнікі» гаворыць аб тым, што не ўсе элементы асацыятыўнай паэтыкі адмоўна адбіваюцца на форме і змесце паэтычных твораў. Сярод іх ёсць і такія, якія ва ўмелага майстра выдатна служаць рэвалюцыйнай справе, сацыялістычнаму мастацтву. І тут нельга не ўспомніць такіх прадстаўнікоў сацыялістычнага рэалізма ў замежнай літаратуры, як Луі Арагон, Пабла Неруда, Вітэзслаў Незвал, якія пачалі свой шлях у мадэрнісцкім асяроддзі. Важна адзначыць, што, парваўшы ідэйна з мадэрнізмам, гэтыя паэты не адмовіліся поўнасцю ад некаторых прыёмаў мадэрніс-

цкай паэтыкі. У гэтай сувязі вялікую цікавасць уяўляюць крытычныя адносіны М. Танка да мадэрнізму і погляды яго на творчы вопыт У. Маякоўскага. Вось што гаварыў паэт у маі 1961 года ў гутарцы з аўтарам гэтага артыкула: «Мы ведалі паэзію Маякоўскага, ведалі савецкую паэзію. І самі стараліся сказаць сваё слова. Маякоўскі пачынаў як футурыст. Але што ён зрабіў з футурызмам? Ён прымусіў яго працаваць на сябе, на рэвалюцыйную рэчаіснасць. Ён зрабіў яго зусім новым, маладым,— і яго паэзія пайшла на Захад ужо рэвалюцыйна-абноўленай і свежай... І ў нас «мадэрнізм» **не быў мадэрнізмам, а сістэмай вобразаў вельмі моцна звязаных з рэальным жыццём, з побытам народа.** Можа не заўсёды пошукі былі ўдалымі, але паэты заўсёды імкнуліся да праўдзівага, рэалістычнага вобраза...»

Што з гэтага вынікае?

Перш за ўсё тое, што менавіта ў Маякоўскага вучыўся М. Танк выключнай смеласці ў выкарыстанні не толькі асобных элементаў асацыятыўнай паэтыкі, але і няўрымслівасці заўсёднага пошуку найбольш выразнай мастацкай формы для рэвалюцыйнага зместу сваіх твораў. А па-другое: М. Танк у сваіх пошуках ніколі не схіляўся да сляпога пераймання старога фармальнага рэквізіту, ніколі не сыходзіў з рэвалюцыйна прынцыповых пазіцый рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці. Пошукі яго заўсёды ішлі ў тым адзіна правільным рэчышчы наватарства паэзіі сацыялістычнага рэалізма, аб якім вельмі добра сказаў сакратар ЦК КПСС Л. Ф. Ільічоў: «Мы не можам не вітаць дапытлівыя пошукі новых форм мастацкага адлюстравання рэчаіснасці. Мы — за смелыя пошукі і дзярзанні ў інтарэсах развіцця мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Памыляецца той, хто думае, што сацыялістычны рэалізм і творчыя пошукі выключаюць адно другое. Але самы пошук новага можа ўвянчацца і ўвянчаецца поспехам толькі ў тым выпадку, калі ён вядзецца ў правільным напрамку, а не пе-

## ПЯСНЯР НАДБУГСКІХ ПРАСТОРАЎ

Так, іменна яно — харство Радзімы з'явілася той прыцягальнай сілай, якая парадніла назаўсёды маладога мастака Пятра Данелія з Брэстам. Гісторыя гэтага горада поўная незабыўных падзей. Ён абмываецца рэкамі Буг і Мухавец. Тут, на скрыжаванні стратэгічных шляхоў, якія ідуць з Захаду на Усход, узвышаюцца муры старадаўняй крэпасці. У 1918 годзе ў Белым палацы крэпасці быў падпісаны Брэсцкі мір паміж маладой Савецкай дзяржавай і Германіяй. У грозныя дні 1941 года савецкія воіны — абаронцы Брэсцкай крэпасці паказалі свету бяспрыкладную мужнасць і гераізм.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны Пятро Данелія прыбыў на вайсковую службу ў Брэст. Ён, нядаўні навучэнец Маскоўскага мастацкага вучылішча, захапляўся ў вольны час паэтычнымі мясцінамі ваколіц, маляваў жывапісныя берагі Буга, упіваўся харством мірнай зямлі. Вайна перапыніла творчыя задумы маладога мастака. Але ж перажытае і бачанае на беларускай зямлі прымусілі яго звязаць свой лёс з нашай рэспублікай.

З 1945 года Данелія пачаў прымаць удзел на выстаўках беларускіх мастакоў. Яго першымі творамі былі партрэты, пейзажы, карціны, малюнкі на разнастайныя тэмы, не аднолькава ўдалыя па свайму майстэрству, недастаткова змястоўныя і глыбокія, аднак поўныя захапляючай непасрэднасці і шчырасці.

Мастака хвалявалі мясціны, што былі не так даўно сведкамі легендарных бітваў савецкіх воінаў з азвярэлымі фашысцкімі ордамі. Ён уславіў працоўныя будні людзей калгаснай вёскі і свайго горада. Спачатку ў творчасці мастака яшчэ цяжка было вызначыць любімую тэму. Ён нейк аднолькава захапляўся кожнай больш-менш прыкметнай з'явай навакольнага жыцця. Але з цягам часу нараджалася і ўсё больш і больш завалодвала ім адна вялікая і значная тэма — подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці.

Пятро Данелія наведваў руіны крэпасці, знаёміўся з матэрыяламі, знойдзенымі ў час раскопак на месцах жорсткіх баёў, сустракаўся з жывымі сведкамі і непасрэднымі ўдзельнікамі гераічнай бітвы. Паступова збіраўся матэрыял для задуманай карціны, прысвечанай абароне Брэсцкай крэпасці.

Разумеючы ўсю цяжкасць пастаўленай задачы, мастак працаваў над уласнай кампазіцый, спрабуючы знайсці сваё вырашэнне гістарычнай падзеі. Для карціны была на-



ратвараецца ў самамэту, у бяздумную фарматворчасць, у сляпое перайманне варожых сацыялістычнаму мастацтву «навацый».

М. Танк — паэт, які ніколі не ставіў сваёй мэтай пошук формы дзеля самога пошуку, але **заўсёды шукаў** такую форму, якая б найбольш поўна і глыбока выражала тую рэвалюцыйную рэчаіснасць, што станавілася прадметам мастацкага адлюстравання ў яго творах. У гэтых пошуках паэт абапіраўся на вечна жывую скарбніцу вуснай народнай творчасці, на лепшыя дасягненні сусветнай паэтычнай культуры. Вось чаму вобразнасць М. Танка, асабліва ў творах апошніх год, такая багатая і разнастайная. У адных вершах яна — па-народнаму чыстая, ясная, светлая, у другіх — надзвычай смелая, асацыятыўная. Але як у творах, блізкіх па вобразнасці да вуснай народнай паэзіі, так і ў тых, якія пабудаваны на смелых паэтычных асацыяцыях, заўсёды дыхае шырокая душа беларускага народа, б'ецца яго вялікае сэрца.

Заўважым, дарэчы, што ў многіх творах паэта знойдзен нейкі вельмі арганічны сплаў па-народнаму простай вобразнасці з асацыятыўнай. Пры гэтым так дасціпна захавана «чувство соразмерности и целесообразности» (Пушкін), што народнасць светаўспрымання і асацыятыўнасць мастацкага мыслення выступаюць у тым кантрастуючым адзінстве, пры якім яны не выключаюць, а дапаўняюць адно другое, узбагачаюць, прыбаўляюць новыя адценні, гукі, фарбы.

Пошукі ў М. Танка ідуць «ад прагі слоў новых», ад жадання па-новаму сказаць аб новым у жыцці чалавека і чалавецтва. Паэт вядзе бескампрамісную барацьбу супраць «фальшываманетчыкаў, розных ілюзіяністаў» ад мастацтва, ад паэзіі, якія хацелі б

...слова зрабіць
Толькі словам-закляццем,

ПЯСНЯР НАДБУГСКІХ ПРАСТОРАЎ

пісана вялікая колькасць эцюдаў, якія па мастацкай вартасці былі вышэй звычайных накідаў і мелі вартасці самастойных пейзажаў. Асобныя з іх: («Руіны Брэсцкай крэпасці», «Цераспальскія вароты», «Каземат») былі паказаны на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы ў Мінску, хоць над самой карцінай мастак яшчэ працаваў.

Пейзажы першых і наступных гадоў, якія Пятро Данелія паказваў у Брэсце і на рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках, пераконвалі ў тым, што лепш за ўсё яго здольнасці праяўляюцца ў пейзажным жывапісу. І сапраўды, калі параўноўваць раннія работы з такімі пейзажамі, як «Плывуць воблакі», «Балотная рэчка», «Гурзуф. Перад дажджом», бачны бясспрэчны творчы рост Пятра Данелія, яго моцнае імкненне пазбавіцца ў сваёй творчасці ад усяго выпадковага, нязначнага і дробнага і наблізіцца да стварэння такога пейзажа, у якім адчуваўся б подых часу, настрой прыроды, яе харство.

Пятро Данелія разумее, што сюжэтны і пейзажны твор аднолькава патрабуюць ад мастака вялікага гарэння сэрца, ведаў, вопыту, намаганняў, вучобы, таму ён вельмі многа працуе, з кожным разам ускладняючы сваю задачу, вучыцца на лепшых узорах мастацтва вялікіх майстроў, раіцца са старэйшымі таварышамі, вучыцца сам і вучыць моладзь, аддаючы свае веды удзельнікам дзіцячага мастацкага гуртка, якім кіруе ўжо некалькі год.

Пейзажы «Дарога» і «Праясняецца», паказаныя на нядаўняй рэспубліканскай выстаўцы, яшчэ адна творчая ўдача Пятра Данелія. У іх не цяжка заўважыць няспынныя пошукі мастака ў напрамку стварэння пейзажа-карціны, гэта значыць такога твора, у якім адчувалася б веліч роднай прыроды, яе паэзія і харство, якія б нараджалі ў гледача светлыя пачуцці і любоў да маці-радзімы. У пейзажы «Праясняецца» мы бачым цяжкае хмарнае неба, якое бывае ў час навальнічнага дажджу. Яно пачынае святлець. Хутка, відаць, выгляне сонца. Вузкая палоска зямлі, што ўзнікае недзе ўдалечыні, здаецца бясконцай. На ўзгорку ідуць калгаснікі. Іх фігуры выразна падкрэсліваюцца фонам светлага неба. Гэта неба Радзімы, гэта — калгасныя прасторы, і іх гаспадар — савецкі чалавек.

Стварыць абагульнены вобраз Радзімы — запаветная мара Пятра Данелія.

**Пятро ГЕРАСІМОВІЧ.**

Яго адарваўшы
Ад глебы і працы,
Ад грузу пачуццяў.

Для М. Танка слова — гэта зброя барацьбы за новага чалавека, за ідэалы чалавецтва, за вялікую праўду партыі і савецкага народа. Вершы паэта — радавыя гэтай несмяротнай барацьбы. І вось гэтыя «суровыя, як сумленне, народжаныя на скрыжаванні вятроў і дарог» вершы М. Танка ў часы культу абвінавачваліся (неверагодна, але факт!) і ў безыдэйнасці, і ў фармалізме. Не дзіўна, што паэт і цяпер так недаверліва, непрымірыма-саркастычна адносіцца як да тых крытыкаў, якія, прачытаўшы, напрыклад, нерыфмаваны верш, гатовы абвясціць «...гэта — грэх супраць традыцыі нацыянальнай», так і да тых, якія ў выкарыстанні паэтам «рытмаў старых» бачаць «грэх супраць наватарства яўны».

Не лішнім будзе тут успомніць, што ў гады культу знішчальнай крытыцы падвергліся такія глыбока ідэйныя мастацкія творы, як «Дарога», «Камяні», «Кропля дажджу», «Вырай». Пра іх крытык Б. Бур'ян гаварыў літаральна наступнае: «Аб гэтых вершах даводзіцца чуць, што хоць у іх не акрэслена ідэя (дарэчы, у сапраўды мастацкіх творах ідэя не ляжыць на паверхні, а вынікае з усёй вобразнай тканіны іх. — **І. Р.**), але затое — цудоўная форма, майстэрства, за якое можна дараваць ідэйную хібнасць». Дарэмна! Гэта закляйміў яшчэ В. Бялінскі ў надзвычай трапным афарызме: «У мастацтве няма цудоўных форм без цудоўнага зместу».

Вядома, уменне цытаваць В. Бялінскага — станоўчая якасць. Аднак эстэтычная глухата і прадузятасць — ніколі не былі якасцямі, якія выклікалі б захапленне!.. Менавіта крытыка такога роду ў пасляваенны перыяд (асабліва ў 1948 — 1954 гадах) скоўвала творчую ініцыятыву нават такіх паэтаў, як А. Куляшоў, М. Танк і іншых. Пад сцягам барацьбы з фармалізмам яна па сутнасці выступала супраць пошуку, арыентуючы паэтаў толькі на выкарыстанне народнай вобразнасці, народнай паэтыкі.

У выніку ў паэзіі пачаў назірацца прыкметны спад у адкрыцці новых форм выразнасці, магчымасці савецкай паэзіі збядняліся, паэты не маглі раскрыць сваіх талентаў усебакова, бо ўжо на пачатку дарогі яны былі пазбаўлены права эксперыментаваць. Як правільна адзначае У. Лугаўской, «... тэндэнцыі штампа, акасцянення паэтычнага мыслення станавіліся ўсё больш небяспечнымі». Праўда, лепшыя нашы паэты, такія, як А. Твардоўскі, М. Асееў, М. Рыльскі, М. Танк і іншыя, і тады стваралі высокамастацкія вершы і паэмы. Аднак іх уклад у скарбніцу савецкай паэзіі мог быць значна большы, калі б не тыя каноны схаластыкі і дагматызму, якія скоўвалі бязмежныя магчымасці ў развіцці сацыялістычнага рэалізму.

Партыя рэзка змяніла такое становішча. Рашэнні XX з'езда КПСС вызначылі генеральную лінію развіцця савецкай літаратуры ў новых умовах. Праўда жыцця, праўда абноўленай думкі, увага да самых патаемных рухаў душы савецкага чалавека, які пазнаў і радасць стваральнай працы і суровасць выпрабаванняў, сталі зноў для пісьменнікаў прадметам самага пільнага вывучэння і глыбокага асэнсавання. Пачалася пераацэнка пісьменнікамі сваіх поглядаў на свет, пераацэнка эстэтычных адносін да рэчаіснасці. І тут мастакі слова асабліва выразна ўбачылі, што новую праўду жыцця не заўсёды можна ўкласці ў даўно апрабіраваныя формы, апісаць «рыфмай, як стары цвік, збітай...» Менавіта ў гэты час пытанне наватарства, пошуку найбольш дасканалай паэтычнай формы стала адным з важнейшых пытанняў савецкай літаратуры і, у прыватнасці, паэзіі. Наступіў перыяд абнаўлення паэтычнага «рэквізіту».

Наступіў час спрэчак і дыскусій аб развіцці сучаснага верша. Сутнасць іх надта добра выказаў Назым Хікмет: «Паэты ва ўсім свеце падзяліліся на секты. Адны сцвярджаюць, што можна пісаць толькі белым, нерыфмаваным вершам. Другія — толькі рыфмаваным. Трэція перакананы, што можна пісаць толькі сілабічным вершам. Чацвёртыя — адно танічным. Пры гэтым усе спасылаюцца, па-першае, на патрабаванні часу, а па-другое — на спецыфічныя асаблівасці нацыянальнай мовы. Усе яны па-свойму маюць падставы. Але ўсе яны сябе абмяжоўваюць. Мы, дыялектычныя матэрыялісты, адмаўляем гэта працейшае адмаўленне. Чаму не выкарыстоўваць усе багацці паэзіі, створаныя чалавецтвам?»



Сапраўды, ці варта абмяжоўваць сябе пэўнымі канонамі ў выкарыстанні паэтычных форм? Ці не лепш абапірацца на багатыя здабыткі сусветнай паэзіі і выкарыстоўваць тое прагрэсіўнае, што ў яе ёсць, прыстасоўна да свайго вопыту, да сваёй мовы. Смеласць пошукаў тут павінна спалучацца з такой жа смеласцю ў выкарыстанні і абнаўленні лепшых нацыянальных традыцый.

Якую ж пазіцыю ў гэтым пытанні займае Максім Танк, паэзія якога з'яўляецца прадметам нашай размовы, зацікаўленасці і ўвагі. Свой погляд на развіццё сучаснага верша паэт выразна акрэсліў у выступленні на дыскусіі аб паэзіі ў Румынскай Народнай Рэспубліцы ў 1961 годзе: «У спрэчцы: якая форма лепшая — рыфмаваны верш ці белы? — абодва бакі валодаюць цяжкай артылерыяй самых пераканаўчых довадаў. Калі б пытанне гэта паставілі на галасаванне, то я асабіста галасаваў бы і за белыя вершы, і за рыфмаваныя, і за вольныя! Таму што я не бачу ва ўсіх гэтых пошуках і дыскусіях ніякага антаганізму. У аснове іх ляжыць імкненне знайсці найбольш дзейсную форму для адлюстравання велічы і шматграннасці жыцця, для пастаяннага ўдасканалення нашай баявой зброі і, у першую чаргу, паэзіі». (Часопіс «Румынская литература» № 4, 1961). Такі шырокі недагматычны погляд на паэтычную форму вельмі плённа выяўляецца і ў творчай практыцы паэта.

Сярод твораў М. Танка побач з рыфмаваным вершам вельмі часта можна сустрэць і свабодны верш і белы. Нерыфмаваны, белы, верш у М. Танка поўны энергіі, эмацыянальнай напружанасці, глыбіні чалавечага перажывання. Каб адчуць і зразумець усю прывабнасць танкаўскага белага верша, трэба абавязкова чуць яго гучанне:

Растуць шляхі,
і крылы,
і расстанні.
А кожнае расстанне непакоіць доўга,
Як рана ў непагоду.
Таму прасіў заўсёды:
Не выходзь на ганак.
Лягчэй мне, калі толькі несці буду
Я на сваіх плячах дарожны пыл,
Аблокі, што клубяцца,
Ці вінтоўку.

Белы верш у творчасці М. Танка не выпадковасць. Яшчэ ў 30-ыя гады паэт часам адмаўляўся ад рыфмаў («Серп сонца»). Можна падумаць, што там быў звычайны эксперымент маладога Танка, які смела вырашыў скарыстаць і гэтую форму верша. Вядома, магло быць і так.

Але ішлі гады. Багацеў жыццёвы вопыт паэта, сталеў яго талент. Прыходзіла мудрая развага над веліччу і трагізмам чалавечага лёсу, чалавечай гісторыі, а з ёй, напэўна, прыходзіла і думка аб пашырэнні магчымасцей беларускага верша ў мастацкім паказе глыбінь чалавечага духу і гераізму савецкіх людзей. Як бы там ні было, але менавіта ў 1946 годзе, першым пасляваенным годзе, белым вершам былі напісаны такія выдатныя творы, як «Трасцянец», «Люцыян Таполя», «Ян Райніс».

Варта адзначыць, што на пошукі ў галіне нерыфмаванага верша М. Танка штурхаў не толькі яго ўласны паэтычны вопыт. Немалую ролю адыграла тут і яго знаёмства з лепшымі ўзорамі белага верша ў рускай паэзіі ад Пушкіна да Лугаўскога, а таксама прыклад такіх рэвалюцыйных паэтаў сучаснасці, як Л. Арагон, П. Элюар, П. Неруда, Н. Хікмет. Пра тое, што паэзія здольна пашырыць свае выяўленчыя магчымасці за кошт белага верша, гаварыў яшчэ А. С. Пушкін: «Думаю, што з часам мы звернемся да белага верша. Рыфмаў у рускай мове надта мала. Адна выклікае другую. «Пламень» немінуча цягне за сабой «камень». З-за «чувства» выглядвае абавязкова «искусство». Каму не апрыкралі «любовь» і «кровь», «трудный» і «чудный», «верный» і «ліцемерный» і іншыя».

Вядома, гаворачы пра белы верш, ніхто не збіраецца заклікаць паэтаў

адмовіцца ад рыфмы. Культура рыфмаванага верша ў сучаснай паэзіі высокая, і ўзровень яе, вядома, будзе ўвесь час павышацца. Аднак не лішнім будзе звярнуць увагу нашых паэтаў на тыя магчымасці, якія адкрывае нерыфмаваны верш у мастацкім адлюстраванні рэчаіснасці. Руская паэзія ў гэтых адносінах мае вялікія дасягненні. Узоры белага верша беларускай паэзіі далі Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч.

Нерыфмаваныя вершы Я. Купалы і Я. Коласа — гэта песенна-лірычныя маналогі, для якіх характэрны дактылічныя клаузулы:

Колькі жудкага,
Колькі горкага
Зла ўсялякага
Ходзіць, поўзае!
. . . . . . . . . . . .
Вось канвой брыдзе,
Шаблі бліскаюць,
Людзі бедныя
Звоняць путамі...

(Я. Купала «З песень нядолі».)

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыйдзеш зноў,
Ты вернешся!
. . . . . . . . . . . .
Ды толькі мне
Не вернешся,
Не вернешся
Ты, моладасць...

(Я. Колас «Вясна».)

Белы верш у Янкі Купалы і Якуба Коласа — гэта наследаванне беларускай народнай песні і кальцоўскай традыцыі.

Максім Багдановіч, эксперыментуючы ў галіне белага верша, аддаваў перавагу ўжо не толькі народнай песні, але і вопыту сусветнай паэтычнай культуры. Большасць нерыфмаваных твораў Багдановіча — гэта наследаванне антычным паэтам (белы верш там досыць звычайная з'ява) і творчае выкарыстанне дасягненняў рускай паэзіі ад Пушкіна да Блока. Нерыфмаваныя вершы М. Багдановіча — пераважна так званая «медытатыўная лірыка» (ад слова медытацыя, што азначае: роздум, развага), напрыклад:

Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

Як бачым, і ў беларускай літаратуры нерыфмаваны верш меў пэўныя традыцыі. Аднак у творчай практыцы Максіма Танка ён пазбавіўся функцый эксперыменту і стаў адной з форм беларускай нацыянальнай паэзіі.

Белы верш патрабуе надзвычайнай глыбіні думкі, выключнага эмацыянальнага напружання, эканоміі ў выбары слоў-вобразаў, строгасці сінтаксічных канструкцый. Гэта накладае на паэта, які хоча пісаць нерыфмаваным вершам, асаблівую адказнасць. Тут не выедзеш на гучнай рыфме і танным эмацыянальным сурагаце. Нельга не пагадзіцца з Я. Смеляковым, калі ён гаворыць, што «пісаць белым вершам цяжэй, чым рыфмаваным».

М. Танк па-майстэрску валодае белым вершам. Красамоўны прыклад — верш «Шыбы старой камяніцы». Пачатак яго — першыя тры радкі, як тры ступені ўспрыняцця, як тры кадры ў кінематографе, пададзеныя буйным планам:

Асцярожна
Выцірайце шыбы
Старой камяніцы!

Наступныя два радкі — новая ступень у развіцці паэтычнй думкі:

Іх ва ўсім маім горадзе
Толькі некалькі ацалела.

З гэтых радкоў перад намі выразна паўстаюць абрысы спустошанага горада, і таму асаблівы водгук знаходзіць у сэрцы заклік асцярожна выціраць тыя некалькі ацалелых шыб. Але такая асцярожнасць абумоўлена, вядома, не звычайнай беражлівасцю, а тым, што гэтыя ацалелыя шыбы могуць расказаць нам пра мужнасць і гераізм паўшых тое, чаго не раскажа ніхто, бо

Яны бачылі болей,
Чым дрэвы і помнікі,
Яны бачылі болей,
Як вочы людзей,
Якія заўжды пасля стрэлаў
Згасалі.

Шыбы гэтыя для нас не проста шыбы, а вочы суровай памяці, што захавала для патомкаў нягоды і скруху ваенных дзён. Драматызм пачуцця дасягаецца ў гэтай страфе пры дапамозе сінтаксічнай анафары і мастацкага прыёму раздзялення. Анафара «яны бачылі болей...» завастрае нашу ўвагу толькі на самім дзеянні, раздзяленне ж дае паралік паступова, часткамі («болей, чым дрэвы і помнікі...», «болей, як вочы людзей»), што акцэнтуе ўвагу на тым, як многа бачылі шыбы вокан. Нарэшце, радковы перанос з асаблівай сілай падкрэслівае слова «згасалі», выяўляючы тым самым скрыты кантраст: вочы людзей заўжды пасля стрэлаў згасаюць — шыбы, вочы вокнаў, застаюцца свяціць.

Трэцяя, заключная частка верша, пачынаецца анафарай-заклікам першай страфы:

Асцярожна
Выцірайце шыбы,

і канчаецца нястрымным узлётам пачуцця і думкі:

Каб з ценямі дыму
Пажараў вайны
Не сцерці і ценяў
Вам блізкіх людзей,
Якія апошні раз
Некалі ў гэтыя шыбы глядзелі.

«Шыбы старой камяніцы» — высокі па ідэі і дасканалы па форме верш. Аднак адзін твор, якімі б ні былі яго мастацкія вартасці, не можа даць нам поўнага ўяўлення аб тых шырокіх выяўленчых магчымасцях, якія адкрыліся перад М. Танкам дзякуючы беламу вершу. І гэта заканамерна, бо кожны новы твор — гэта новая ідэя, новая часцінка пазнанага свету, якая выступае ў новым дыялектычным адзінстве формы і зместу. У гэтым можна пераканацца, чытаючы такія вершы, як «Сонечны гадзіннік», «Дзе яны?», «Селядцы з вершамі», «Я знаў людзей, якія ўсё ведалі», «Абед на небе», «І іншыя».

Звернемся яшчэ да такой цікавай з'явы ў творчай практыцы М. Танка, як наяўнасць у адным і тым жа творы рыфмаванага і нерыфмаванага верша. Гэта можна назіраць у «Трактаце аб паэзіі», дзе чатыры раздзелы напісаны белым вершам і адзін — рыфмаваным. Чым выклікана такая патрэба? Відавочна, жаданнем звярнуць асаблівую ўвагу чытача на тую вялікую ідэю, якая стала зместам мастацкага асэнсавання і сэнсам жыцця самога паэта:

Для мяне камунізм —
Не ікона,
А праўда жыцця, без якой
Я не даражыў бы сягоння
Зямлёй.

Заўважым, аднак, што на фоне ўсяго твора, напісанага белым вершам, адзін рыфмаваны раздзел мае ўсё ж пэўную самастойнасць і цэласнасць як з боку думкі, так і формы яе выражэння — гэта як бы лірычная мініятурка ў невялічкай паэмцы. І ўсё ж, пры ўсёй арыгінальнасці пошуку (наяўнасць рыфмаванага раздзелу ў нерыфмаваным творы) «Трактат аб паэзіі» не робіць уражання такой смеласці, як кароткі лірычны верш «Кнізе «Жыццё Вікрамы».

Словы эпіграфа «Не трэба верыць жывёлам з рагамі, людзям, узброеным мячом, царам і жанчынам», што ўзяты з стараіндыйскай кнігі «Жыццё Вікрамы», па сутнасці з'явіліся той асновай, на якой узнік гэты твор у абарону жанчыны, маці, у абарону жаночай вернасці і чысціні пачуццяў. Спакойная развага, глыбіня і важкасць паэтычнай думкі плывуць у пачатку на шырокім дыханні белага верша:

Кнізе «Жыццё Вікрамы»,
Пэўна, больш тысячы год;
Мудрасці, што ў ёй запісана,
Можа, яшчэ столькі год.
Кожнае слова праверана
Небам самім і зямлёй,
Тысячалікімі Будамі
І чалавечым жыццём.

Як бачым, пакуль аўтар вядзе размову аб кнізе «Жыццё Вікрамы», белы верш найбольш адпавядае засяроджанаму роздуму над яе мудрасцю. Аднак стрыманая плынь нерыфмаванага верша, дзякуючы радковаму пераносу і сінтаксічнаму паўтору, паступова напаўняецца пружыністай сілай:

Згодзен і я, што не трэба
Верыць ні плыні рачной,
Ні вастрарогай жывёліне,
Ні чалавеку з мячом,
Ні ўладару ненавіснаму...

Хто не згодзіцца з гэтым! Але ці ж можна згадзіцца з недаверам да жанчыны, калі ўся гісторыя чалавецтва асветлена шматлікімі прыкладамі жаночай вернасці, самаахвярнасці і мацярынскай любві! І тут нарастанне эмацыянальнага хвалявання дасягае свайго апагею. Белы верш выбухае рыфмай:

Толькі жанчыну **дарма**
Ты недаверам пакрыўдзіў,
Слаўны мудрэц — **Вікрама!**

Перакананні паэта поўны такога пафасу і страсці, што ён не можа не кінуць дакору хоць бы праз далеч вякоў, але не кнізе, а ўжо самому Вікраме-мудрацу.

Як жа не верыць мне голасу,
Што маёй песняй **звініць**,
Светлым вачам, што зацяплілі
У сэрцы нязгасны **агонь?**
Як жа не верыць мне вуснам,
Што боль змаглі ўталіць,
Альбо рукам, што калышуць
Сына малога **майго?**

Белы верш і рыфмаваны ў невялічкім лірычным творы — гэта нова, нечакана! Прызнацца, рыфма «дарма — Вікрама», узмоцненая гукавым паўторам «р», прагрымеўшы пачуццём папроку, магла б выглядаць і выпадковай... Але не стала выпадковай, а пералілася ў даверліва пяшчотную музыку, поўную бацькоўскага захаплення, павагі і любві да жанчыны-маці, жанчыны-друга. Рыфмаваны верш тут настолькі арганічны, настолькі псіхалагічна падрыхтаваны, што мы, падпарадкоўваючыся сіле экспрэсіі, не адразу і заўважаем яго.

Ці думаў Танк, беручыся за напісанне лірычнай мініятуры «Кнізе «Жыццё Вікрамы», аб тым, што пачне яе белым вершам, а кончыць рыфмаваным? Напэўна, не пра форму самую па сабе дбаў паэт, а клапаціўся аб найнатуральнейшым выражэнні думкі. Форма ж прыйшла ў працэсе творчасці. Адным словам, тое, **што** сказаў паэт і **як** сказаў, выступаюць тут у дыялектычным адзінстве. Верш гэты — яшчэ адно яскравае сведчанне таго, што сапраўдная «...паэзія менш за ўсё нараджаецца з правіл, але, наадварот, правілы паходзяць з паэзіі...» (Джардана Бруна).

Могуць запытацца, а што адбываецца тады, калі паэзія захоча нараджацца з правіл? Адкажам: тады яна будзе менш за ўсё падобна на паэзію. Сапраўды:

Альтанка, якую завуць Чжычуньцін —
Прадвесніцай вясніх і радасных дзён,—
Узняўшы падвойнай страхі парасон,
Стаіць там, дзе возера плешчацца сінь.

Верш «Альтанка Чжычуньцін» успрымаецца як рытмізаваная проза. Тут няма вобразнага асэнсавання ўбачанага паэтам. «Прадстаўнікамі» ад паэзіі тут выступаюць толькі рытм і рыфма. Чым вытлумачыць наяўнасць такіх вершаў у М. Танка? Зніжэннем патрабавальнасці? Не зусім так. Думаецца, уся справа ў тым, што паэты (гэта ўласціва паэтам усіх народаў і эпох) часам павярхоўнае пачуццё прымаюць за сапраўдную глыбіню. Твор, выкліканы да жыцця такім пачуццём, звычайна, не ўзнімаецца вышэй сярэдняга ўзроўню. У гэтым дыялектыка душы, якой таксама ўласціва памыляцца.

М. Танк — выдатная з'ява ў грамадскім і культурным жыцці беларускага народа. Яго палымяная паэзія, поўная роздуму і душэўнага хараства, змагаецца за праўду, заваёўвае праўду. Яна напоўнена думай аб чалавеку і вялікай павагай да чалавека. Яна служыць народу, а гэта значыць — выконвае вышэйшае сваё прызначэнне.

Паэзія М. Танка прыцягвае ўвагу з першага знаёмства. Шчодра адкрывае яна перад намі свае багацці, але і ад нас патрабуе ўдумлівасці і ўважлівай зацікаўленасці. Трэба паглыбіцца ў атмасферу думак і пачуццяў паэта, каб ва ўсёй паўнаце адчуць і зразумець глыбіню і арыгінальнасць яго паэзіі. Выключная свабода ў карыстанні рознымі метрамі, рытмамі і формамі верша, дзёрзкая смеласць метафар і асацыяцый, кантраснасць супастаўленняў, філасафічнасць і нацыянальная самабытнасць — усё гэта ставіць Танка ў рад лепшых сучасных савецкіх паэтаў.

М. Танк па-майстэрску валодае словам. Кожны верш мае ў яго сваю, толькі яму ўласцівую інтанацыю. Інтанацыя гэта багата адценнямі, тонамі і паўтонамі. Нават у вершах, якія напісаны адным і тым жа памерам (ямбам, напрыклад), мы ніколі не пачуем паўтарэння паэтычных інтанацый:

Не плач, наш дзень настане,
Хоць адступілі ўчора.
Зацісні моцна рану!
Хай не смяецца вораг!

Экспрэсіўнасць выключная! Энергія пачуцця ўздымае і дыхае такой верай у перамогу рэвалюцыйнай справы, што вы на момант уяўляеце сябе адным з удзельнікаў вялікай бітвы за правы народа, і, здаецца, кожны мускул вашага цела, як туга напятая струна: крані — і яна загрыміць.

А вось як гучыць ямб у вершы «Эцюд»:

Амаль над самаю зямлёй
Плыве ключ жураўліны.
Зіма, відаць, не за гарой —
Гарэць агнём рабіны.

Задушэўная, амаль размоўная інтанацыя, настройвае на элегічны лад. Пачуццё ростані, лёгкай скрухі па адлятаючых журавах, па адыходзячым лецце гучыць тут мудрым напамінкам пра адвечную зменлівасць у жыцці прыроды...

Наогул рытміка, інтанацыя вершаў М. Танка настолькі багатая, што прыведзеныя прыклады гучання танкаўскага ямба, вядома, не могуць паказаць усяго гэтага багацця. Рытміка паэзіі Танка — гэта цэлая школа верша.

Выдатны майстар верша, М. Танк умее, нават не мяняючы памеру, як, напрыклад, у вершы «Перад святам», пераходзіць ад апісання спакойнага перадсвяточнага настрою:

Пахне мятаю дзікай,
Свежым аерам,—

да перадачы радаснага неспакою:

Ладзяць струны музыкі,
Скрыпяць асверы, —

і, нарэшце, да вясёлай мітусні дзявочых збораў:

Прымяраюць дзяўчаты
Хусткі, блузкі,
Грабянец рагаты —
Месяц вузкі.

І тут раптам іранічна-спачувальнае, падкрэсленае амаль празаічнай інтанацыяй:

Адзін я толькі,
Камсорг вясковы,
Сяджу да золку,
Пішу прамову.

М. Танк глыбока адчувае стыхію роднай мовы, востра і тонка ўспрымае музыку народнага слова. Па харастве інструментоўкі, па шырокай плаўнасці інтанацый некаторыя яго вершы можна параўнаць хіба толькі з народнымі песнямі:

У вясеннім небе аблакі,
А між імі блудзіць крык птушыны,
Крык птушыны — голас жураўліны
Над палямі, над прасторамі ракі.

Характэрны для вуснай народнай паэтыкі прыём паўтору ў спалучэнні з сінанімічнай варыяцыяй (крык птушыны — крык птушыны — голас жураўліны) садзейнічае тут перадачы скандэнсаванага эмацыянальнага хвалявання, а гукавыя паўторы («л», «р», «у»), малыя і вялікія цэзуры ў сярэдзіне радкоў, багатыя рыфмы выклікаюць пачуццё паглыбленай развагі і аказваюць хутчэй музыкальна-лірычнае, чым канкрэтна сэнсавае ўздзеянне.

Плённы ўплыў народных прыказак і пагаворак на лаканізм і афарыстычнасць выражэння паэтычнай думкі можна бачыць у такіх, напрыклад, радках:

Не сячы сасны, бо пахіліцца,
Не муці ракі — вір уздымецца,
Не тапчы вясны — цвет асыпецца,
Не журы дачкі, бо пакрыўдзіцца.

Нельга не звярнуць увагі на зваблівую гожасць такога малюнка:

Тут столькі загадак рака
Загадала нам у хмызняках:
**Налева** чаўном паплывеш —
Аеру зялёны бязмеж,
**Направа** — крутыя віры,
А **проста** — затокі зары.

Прачытаеш — і адразу прыгадаецца дзіўны свет народнай казкі, дзе нялёгкі шлях героя вельмі часта раскрыжоўваецца на тры дарогі выпрабаванняў.

На сувязь паэтыкі Танка з фальклорам указвае і прыём сінтаксічнай кампазіцыі, які заключаецца ў простым злучэнні, як бы нанізванні, апавядальных адзінак ці сказаў. У лірычным вершы гэты прыём памагае перадаць нарастанне эмацыянальнага хвалявання. Ён як бы збірае ў адзін фокус усе ўражанні, усё кіпенне пачуццяў.

У апошняй частцы верша «Гаварылі мне калісьці...» гэты прыём набывае асаблівую выразнасць: тры ў пэўнай ступені самастойныя лагічныя групы, кантрастуючы паміж сабой, як бы з вала на вал, уздымаюць трыма парывамі пачуццё, што ўвесь час нарастае:

Пра дзяўчат блакітнавокіх,
Стройных і светлавалосых
Я адно скажу: напэўна,
Гарачэйшая ў іх жылах
Кроў цячэ, як у Венеры.
Бо на скверы Эспланада



Колькі год стаіць Русалка

Пад струменнямі фантана,
Пад палярным ззяннем неба,
Пад сцюдзёнымі вятрамі,—

І не мерзнуць яе ногі,
І не ледзянеюць грудзі,
І не стынуць яе вусны,

Толькі ўсмешкаю чаруе,
Толькі сон з вачэй зганяе
Ды змушае сэрца біцца...

Тут дарэчы будзе ўспомніць выказванне М. Ісакоўскага аб тым, што беларуская паэзія «па сваёй накіраванасці і гучанню вельмі блізкая да паэзіі народнай, але гэта не імітацыя народнасці, а глыбокая, натуральная творчая блізкасць...» Калі гаварыць пра Максіма Танка, то не выкарыстанне ім асобных прыёмаў фальклорнай паэтыкі робіць яго творчасць блізкай вуснай народнай паэзіі, а менавіта тое, што сам характар мыслення паэта глыбока нацыянальны, народны. Не дзіўна, што ў лірыцы Танка так многа паэтычнасці светаўспрымання, эпічнай стрыманасці пачуццяў, разважлівасці і дабраты, першароднай прыроднай сілы і моцы чалавечай натуры, якія найбольш поўна выяўляюць асаблівасці нацыянальнага характару беларускага народа, складу яго мыслення.

Ні ў адным відзе мастацтва не праяўляецца так выразна своеасаблівасць нацыянальнага характару, як у літаратуры. І гэта зразумела: матэрыялам літаратуры з'яўляецца жыццё народа, інструментам пісьменніка — мова народа. М. Танк дасканала валодае матчынай мовай, надзвычай чуйна ўмее слухаць гучанне роднага слова, ведае яго прыроду і вытокі.

Словы для М. Танка не застылыя залатыя злепкі, — яны народжаны жыццём і жыццё нараджаюць, як у гэтых, напрыклад, радках:

І ўсё ж акіян — гэта шчодрасць без краю,
Дзе ў кожнай краплінцы то сонца палае,

То перлы яснеюць, то хмары цямнеюць,
То громы грымяць, ды шумяць адысеі...

Нястрымныя па сваёй імклівасці рытмы, рамантычна прыўзнятыя інтанацыі, якія пераклікаюцца з урачыстай і мужнай сілай гамераўскага гекзаметра, цудоўны гукапіс, ясная строгасць малюнку — усё тут поўна прывабнасці і харaства. Радкі гэтыя, шырокія і звонкія, як подых свежага ранішняга ветру, бадзёраць і ўзвышаюць душу чалавека.

Максім Танк заўсёды жыве пошукамі вобразаў «весомых, грубых, зримых», жаданнем няспынна адкрываць у слове новую грань, адценне, колер ці водар.

Паглыбленая ўвага паэта да слова — не самамэта, а жаданне найбольш поўна выказаць сваю думку, знайсці для яе адзіныя па сваёй выразнасці словы, вобразы. Таму зусім не дзіўна, што ён вельмі часта дасягае выключнай дакладнасці ў перадачы малюнку і дзеяння. Возьмем хаця б такія радкі пра восень:

Стагі на лузе, як сталы,
Імглой заслала восень.
І пераможваюць валы
Скупую неба просінь.

Варта звярнуць увагу на дакладнасць і багацце эпітэта «скупую» ў чацвёртым радку страфы, які як бы нясе двайную сэнсавую нагрузку: гэта — і скупая неба просінь, бо рэдка бывае ясным асенняе неба і цёплым — асенняе сонца; гэта — і скупая асенняя паша, на якой для жывёлы больш імглы і паветра, чым травы. Не менш уражвае тут і сакавітая свежасць метафар, іх буйнапланавасць. Яны хоць і затрымліваюць нашу ўвагу, але не запавольваюць дынамікі дзеяння. Функцыя метафар у гэтым выпадку больш маляўнічая, чым псіхалагічная. Гэта поўнасцю адпавядае той мастацкай задачы, якую паэт ставіў перад сабой. Задача ж гэтая — у самой назве твора: «Эцюд», можна дадаць, позняй восені. Аднак нельга забы-

ваць, што кожны раз са зменай задачы, якую ставіць перад сабой паэт, адпаведна змяняецца і мэта вобразнасці. Вельмі часта бывае так, што вобразнасць у М. Танка выконвае функцыі больш псіхалагічныя, чым маляўнічыя. І тут у якасці прыкладу міжволі прыходзяць на памяць танкаўскія радкі пра выдатнага народнага мастака Люцыяна Таполю, якому біскуп Сямашка ў пакаранне за вальнадумства забараніў маляваць на працягу дзесяці гадоў:

Дзесяць год!
За гэты тэрмін дрэва
Дзесяць раз убор зялёны зменіць,
Дзесяць пакаленняў салаўіных
Выкалыша на сваіх галінах,
Дзесяць залатых кругоў адложыць,
Як пярсцёнкаў, каля сэрцавіны.
Што тады казаць пра чалавека!..

Вобразнасць, пададзеная тут пры дапамозе пераліку, які ўвесь час узрастае, паўтарэння аднатыпна пабудаваных, але кожны раз сэнсава новых сінтаксічных канструкцый, на першы погляд сапраўды як бы стрымлівае, замаруджвае наша ўспрыманне, аднак у гэтай стрыманасці дыхае незвычайная энергія пачуцця, ідзе няўхільнае нарошчванне сэнсу адчуванняў, каб выбухнуць, нарэшце, не толькі вялікім чалавечым болем і спачуваннем, але і захапленнем смеласцю палёту чалавечай думкі, якую ніколі не змогуць пагасіць «чорныя сілы пекла».

Малыя паэтычныя формы (лірычны ці сюжэтны верш, паэтычная мініяцюра), якімі часцей за ўсё карыстаецца цяпер М. Танк, не абмяжоўваюць маштабу яго мыслення, бо паэзія яго вырасла не толькі з асабістага вопыту, але, як і ў кожнага выдатнага паэта, — з вопыту ўсяго чалавецтва. Таму, гаворачы пра сябе ў сваіх творах, М. Танк гаворыць і пра чалавецтва. Характэрны ў гэтых адносінах верш «Конаўка»:

З гільзы пустой, у якой некалі смерць начавала,
Зроблена добрая конаўка.
Служыць каторы ўжо год!
Толькі заўжды, калі п'ю з яе, у залацістым метале
Бачу сваіх незабыўных сяброў,
у агні небазвод...
І гаркаватым, як слёзы, нават становіцца мёд.

Якое ж ты чалавечнае, сэрца чалавечае, калі ты ўмееш так глыбока шанаваць памяць аб загінуўшых сябрах, знаёмых і незнаёмых харошых людзях, якое ж ты мужнае і моцнае, калі, умясціўшы ў сябе «груз жыцця і смерці». б'ешся несціхана і пераможна! Усяго пяць радкоў у гэтай мініяцюры, а перад намі не толькі цяжкі ўспамін самога паэта, але і ўвесь свет, усё чалавецтва, якое не можа забыць той час, калі быў «у агні небазвод», і пратэстуе супраць вайны трыма мільярдамі ўгору паднятых рук.

У вершах-мініяцюрах М. Танк умее захапіць чытача лірычным хваляваннем, абудзіць яго фантазію. Часта двума-трыма штрыхамі ён стварае надзвычай паэтычную карціну, драматычную сітуацыю. Вось для прыкладу сцэнка-мініяцюра:

Ты зноў прыйшоў?..
— Прыйшоў прасіць,
Бо затрымаць цябе не смею:
Ці не змагла б ты замяніць
Прысуд смяротны на надзею?

Па лаканізму думкі, па афарыстычнасці, па дынамічнасці дзеяння, па шырыні светаадчування танкаўскія вершы-мініяцюры блізкія да такіх паэтычных жанраў, як «танка», «хоку» ці «рубаі».

Як бачым, малыя паэтычныя формы зусім не скоўваюць маштабнасці мастацкага мыслення Максіма Танка. У яго вершах заўсёды жыве глыбокая думка і б'юцца людскія сэрцы, прысутнічае востры і светлы погляд на жыццё, на свет. Паэт адкрывае нам новыя далягляды і новыя краіны. «Амаль усе мерыдыяны звінелі ў мяне пад нагамі», — гаворыць ён. І гэта сапраўды так. Калі мы чытаем вершы паэта аб радзіме і аб заморскіх краінах, аб людзях і птушках, аб сонцы і зорах, аб любві і нянавісці, аб харастве жыцця і ўрачыстай музыцы сэрцаў разняволеных народаў, перад намі паўстае «свет велічны, вялізны», свет, дзе жыццё «грыміць і ззяе».

І тут міжволі прыгадваюцца словы Гогаля: «...раптам стала відаць далёка ва ўсе канцы свету...» Менавіта такое адчуванне прыходзіць, калі мы адкрываем для сябе светлую краіну паэзіі, імя якой — Максім Танк.

# СПОВЕДЗЬ ПАКАЛЕННЯ




Кожная кніга, як і чалавек, мае сваю, не падобную на іншыя, гісторыю. Гісторыя кнігі «Споведзь пакалення» * таксама своеасаблівая.

У студзені 1961 года Інстытут грамадскай думкі «Комсомольской правды» звярнуўся да ўсіх юнакоў і дзяўчат Савецкага Саюза з анкетай «Што вы думаеце пра сваё пакаленне?» На анкету адгукнуліся тысячы маладых рабочых, калгаснікаў, служачых, студэнтаў. Да размовы маладых далучыліся людзі старэйшага пакалення і сярод іх такія вядомыя ўсёй краіне людзі, як Герой Савецкага Саюза А. Марэсьеў, паэт М. Ісакоўскі, кінарэжысёр М. Ром, член КПСС з 1896 года Ф. Пятроў.

Журналісты Б. Грушын і В. Чыкін сумесна з другімі супрацоўнікамі «Комсомольской правды», работнікамі Цэнтральнай машынна-лічыльнай станцыі ЦСУ СССР, Інстытута філасофіі АН СССР, студэнтамі Маскоўскага ўніверсітэта і Маскоўскага эканоміка-статыстычнага інстытута прааналізавалі і сістэматызавалі больш як 20 тысяч анкет, а таксама сотні і тысячы вусных адказаў і склалі праўдзівы расказ аб сваім пакаленні, аб тым, чым яно жыве, якія яго інтарэсы і ідэалы.

Так нарадзілася гэтая кніга.

Якім паўстае перад намі са старонак кнігі савецкі малады чалавек? Перш за ўсё — маральна-здаровым, чыстым у сваіх думках і імкненнях, таленавітым, разумным і энергічным. Ён глыбока адчувае сваю адказнасць за агульную справу пабудовы камунізма, ён — актыўны будаўнік, пераўтваральнік жыцця.

«Усё, што называецца цяжкім, гіганцкім, усё гэта ствараецца рукамі майго пакалення», — гаворыць сталяр А. Паўленка, які працуе на пярэднім краі, на Брацкай ГЭС.

І на самай справе — гарады ў тайзе, хлеб цаліны, заваяваны космас, флагі Радзімы на пакораных вяршынях навукі, культуры, мастацтва і спорту — вось тыя вялікія справы, на якіх выхоўвалася і мужнела наша маладое пакаленне.

Да такога вываду прыходзіць пераважная большасць — 83,4 працэнта ўсіх апытаных людзей. Ні адно з масавых апытанняў, што праходзілі ў апошні час на Захадзе, не можа пахваліцца такім вынікам — 83 чалавекі з кожных ста глыбока ўсведамляюць сэнс жыцця, сваё месца ў ім, адчуваюць паўнату і радасць жыцця.

«Рэвалюцыя прадаўжаецца, — гаворыць як бы ад імя ўсёй моладзі малады будаўнік — бетоншчык Мікалай Артамонаў. — У працы, у быце — усюды ідзе вялікая ломка характараў, калі ў людзях — у мільённых масах — адмятаецца (ужо назаўсёды!) усё ілжывае, старое, і ўсталёўваецца цудоўнае. Кожнаму часу адпавядаюць свае людзі. Нашаму часу адпавядаюць героі. Яны ёсць. Яны побач. Наша праца будзённая. Яна можа здацца нават нязначнай — бо тое, што мы робім, такое простае, такое зразумелае. Але ад гэтага яна не становіцца менш велічнай і некаштоўнай. І нам усім трэба разумець гэта ўжо цяпер. Бо нельга зрабіць вялікага, не ўсведамляючы яго велічы. Як часта мне хочацца крыкнуць: «Людзі! Домна, пабудаваная вамі, — подзвіг! Зямля,

* Б. Грушын, В. Чыкін. «Исповедь поколения». Выдавецтва «Молодая гвардия», 1962.

узараная вамі,— подзвіг! Дом, узведзены вамі,— подзвіг! Любіце ж створанае вамі! Гэта паможа вам у хвіліны сумнення, навучыць быць больш мэтанакіраванымі!»

Нельга без хвалявання чытаць і пісьмо Н. Артамонава, простага рабочага хлопца, які знаходзіць сваё вышэйшае шчасце ў беззапаветнай працы на карысць радзімы: «Іншы раз думаю,— гаворыцца ў пісьме Н. Артамонава,— чаму я, не менш за іншых жадаючы карыстацца выгодамі жыцця, іду простым рабочым? І адказваю сабе: таму, што я вымяраю сваё жыццё не дробнымі ўцехамі, а радасцю ад прынесенай мною карысці. Радзіме патрэбны бетоншчыкі — іду бетоншчыкам, патрэбны землякопы — іду землякопам. І я гэта раблю не для рэкламы, не для таго, каб гаварылі: глядзіце, які добры! Не! Проста я не магу інакш. Толькі так жыву, спадзяюся, радуюся. Толькі так умею знаходзіць сваё шчасце. Скажуць, мне не хопіць жыцця. Скажуць, гады абломяць мяне. Не! Жадання майго быць такім не знішчаць ні гады, ні няўдачы, ні крык абывацеля. Парукай таму — святасць камуністычных ідэй, грамадзянская прынцыповасць, сумленне рабочага».

Вельмі цёпла гаворыць аб сучаснай моладзі людзі старэйшага пакалення, тыя, хто, не шкадуючы сябе, змагаўся за яе шчаслівае жыццё. «Я высока ацэньваю нашу моладзь у ідэйных і працоўных адносінах,— піша Ф. Пятроў, член КПСС з 1896 года.— Яна любіць Радзіму, заўсёды гатова самааддана абараняць яе, актыўна змагацца за камунізм».

«...Мая думка аб савецкай моладзі самая радасная, самая добрая; я асабіста вельмі задаволены нашай здаровай, культурнай, пісьменнай, жыццярадаснай савецкай моладдзю, нашай зменай»,— гаворыць К. Арлоўскі, старшыня калгаса «Рассвет» з Магілёўшчыны.

«...Я ад душы задаволены нашай савецкай моладдзю. Маладыя будаўнікі камуністычнага грамадства паспяхова прадаўжаюць справу сваіх бацькоў і старэйшых братоў...» — заўважае П. Гаўрылаў, Герой Савецкага Саюза, удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці.

«Моладзь у нас яркая, ініцыятыўная, незвычайна таленавітая...» — піша Б. Палявой.

«Яму (пакаленню моладзі.— **Л. С.**) належыць будучыня, і яно зможа правільна пабудаваць яе»,— упэўнена заяўляе акадэмік С. Собалеў.

Мы гаварылі пра тыя 83,4 працэнта юнакоў і дзяўчат, якія, уласна, і складаюць воблік свайго пакалення. Але хто ж тыя 16,6 працэнта, хто пярэчыць ім? Аўтары кнігі падзяляюць гэтых юнакоў і дзяўчат па прафесіі, па ўзросту і адукацыі, па складу мыслення, настрою, па адносінах да жыцця. Гэта вельмі цікавы аналіз. Ён заслугоўвае асобнай размовы. Нам хацелася б спыніцца толькі на двух катэгорыях гэтай групы — непрымірымых і скептыках.

«Не падабаецца мне маё заспакоенае пакаленне,— папракае сваіх аднагодкаў малады тэхнік з Сцепанавана І. Кушнір.— А змагацца ёсць з чым. Чаму, напрыклад, многія з нас п'юць? Прывычка? Гора? Радасць? Няўжо жаданне быць падобным да старэйшых? Ці не пара сур'ёзна задумацца пра тое, што ўжо стараюцца быць падобнымі да старэйшых і чатырнаццацігадовыя? Дык ці маем мы права не спыніць руку, якая яшчэ нясмела цягнецца да чаркі? Заўтра ж яна ўжо не будзе так дрыжаць, а яе гаспадар скажа: «Ну што? Тройчы адзін?» Не, мы павінны цэліцца нароўні з эпохай, у якую жывём! Нароўні са спадарожнікамі!»

Такія строгія адносіны, як сцвярджаюць аўтары кнігі, у кожнага дзесятага маладога чалавека. Яны, безумоўна, прадыктаваны высокімі маральнымі патрабаваннямі нашай моладзі. Салдат Мікалай Пеуза, напрыклад, таксама лічыць, што «наша моладзь можа зрабіць больш, улічваючы наш сацыяльны лад і выхаванне».

Сярод тых, каму не падабаецца цяперашняе маладое пакаленне, ёсць і іншыя, галоўным чынам, мяшчане, якія мараць без працы пражыць спакойна і сыта. Вось дваццацітрохгадовая Т. Праскурына з Прыморскага краю зусім сур'ёзна заяўляе, што яна «народжана для афіцэраў». Мэту свайго жыцця яна бачыць у наступным: «Выйсці замуж за ваеннага, жыць у дастатку, не працаваць — ад работы ж коні дохнуць». Т. Праскурынай падпяваюць інжынер з Ашхабада, які сцвярджае сваё крэда: «будаваць кар'еру, жыць для сваёй асалоды. Праз тры-чатыры месяцы аформіць шлюб з дачкой адказнага работніка, што дасць яму «Волгу» і далейшае павышэнне на службе». Ці не з такіх карысталюбцаў вырастаюць шпіёны і чалавеканенавіснікі тыпу Пянькоўскага або Ясеніна-Вольпіна?

Сярод маладых скептыкаў ёсць юнакі і дзяўчаты, якія сталі такімі з-за слабай грамадска-арганізатарскай работы камсамольскіх арганізацый. Вось некалькі радкоў з анкеты дзевятнаццацігадовай работніцы, маскоўскай студэнткі: «На першае пытанне («Ці задаволены вы сваім пакаленнем?» — **Л. С.**) адказваю: не. У камсамоле я з 1955 года. Калі яшчэ ў школе вучылася, была чалавекам энергічным і неяк цікавілася грамадскім жыццём, але з паступленнем на работу і ў інстытут усё прапала, прыйшла абыякавасць да ўсяго. Чаму? Ды таму, што за ўвесь гэты час я не бачыла ў нас ні адной сапраўднай камсамольскай справы, людзей, якія па-сапраўднаму перажывалі б за камсамольскую работу. Адны толькі сходы, узносы, паперкі...»

Думаецца, гэтыя словы дзяўчыны з Масквы прымусяць многіх камсамольскіх работнікаў і актывістаў задумацца над тым, наколькі важная і патрэбная іх работа.

Адной з вартасцей кнігі «Споведзь пакалення» з'яўляецца тое, што ў ёй знайшла сваё адлюстраванне грамадзянская сталасць нашага маладога пакалення.

«Кожны чалавек павінен мець свой унутраны рухавік. Кожны павінен сумленна ўявіць сабе тую высокую адказнасць, якая ўскладзена на наша пакаленне: захаваць агонь Кастрычніцкай рэвалюцыі, не здаць ніводнага рубяжа, узняцца яшчэ на адну ступеньку ў чалавечым узыходжанні да сонца, да шчасця, да святла... І мы павінны паклясціся самім сабе, што, пакуль б'ецца наша сэрца, мы будзем думаць і змагацца за чалавечую прыгажосць, супраць нізкасці, супраць абыякавасці. Мы павінны быць лепшымі за нашых бацькоў, гэтак жа, як нашы бацькі былі лепшымі за нашых дзядоў, а нашы дзеці будуць лепшымі за нас. Чалавецтва ідзе да сваёй вясны, наш абавязак за яе змагацца». Такімі словамі перадаў агульны настрой удзельнікаў дыскусіі выхаванец Ленінградскага інстытута імя Рэпіна Уладзімір Салаўёў. Яго словы не патрабуюць каментарыяў.

У той час, як савецкая моладзь марыць пра будучыню, стварае яе сваімі рукамі, у кабаках Кёльна і Мюнхена зноў грымяць піўныя бакалы і вульгарныя прамовы фашысцкіх малойчыкаў, у Фінляндыі шаноўныя бацькі сямействаў не могуць справіцца з маладымі людзьмі без мэт і ідэалаў, якія называюць сябе «раггарамі» — марнатраўцамі жыцця. У Злучаных Штатах дэманструе свае адмоўныя адносіны да жыцця разлагаванае племя «бітнікаў».

Буржуазныя ідэолагі спрабуюць даказаць, што скепсіс моладзі народжаны 20-м стагоддзем незалежна ад сацыяльнага ладу і сведчаць аб маналітнасці моладзі.

Гэтую хлусню да канца выкрывае кніга «Споведзь пакалення». «Не, наша пакаленне не «страчанае», як у гэтым нас хоча той-сёй пераканаць,— гаварыў на Маскоўскім фестывалі Джэкаб-Стывенс, дэлегат з Ганы. — Нам, маладым гаспадарам зямлі, дадзена высокае права адстойваць лепшыя ідэалы чалавецтва, змагацца за высакародную справу... Нам будаваць новае жыццё, вырашаць разам са сваімі народамі важнейшыя праблемы грамадства, нам трэба ўз'яднаць свет, які дастаўся нам разрозненым, зрабіць яго такім, каб кожны чалавек знайшоў у ім шчасце».

Так, сапраўды маналітная моладзь усяго свету, але гэтая маналітнасць не ў скепсісе, а ў нястрымным імкненні перарабіць свет на новых, справядлівых, сацыялістычных пачатках.

Кніга «Споведзь пакалення» не належыць да жанра мастацкай літаратуры. Хутчэй — гэта публіцыстычныя заметкі журналістаў. Але чытаецца яна, як цікавы мастацкі твор, і абуджае шмат добрых, светлых думак.

**Леў СМІЛАВІЦКІ.**

# АПАЛЁНЫЯ ПЯЛЁСТКІ

Вясной, калі адцвітаюць і ападаюць пялёсткі, белым пухам пакрываючы зямлю, на сэрцы становіцца радасна і цёпла. Ты жывеш прадчуваннем буйнага росквіту лета, адчуваеш яго гарачае дыханне. Вясна заўсёды прыносіць радасць. Але вясна 1945 года прынесла і шмат смутку, хоць яна была радаснай вясной Перамогі.

Успамінаюцца тыя незабыўныя дні. У разбураны Мінск вярталіся абпаленыя вайной воіны, тыя, хто апошняю аўтаматнай чаргой уславіў нашу перамогу. Вярталіся на папялішчы, шукалі родных, знаёмых і часам не знаходзілі...




Збіралася і пісьменніцкая сям'я. З блізкіх і далёкіх дарог вайны прыходзілі ўзмужнелыя людзі і прыносілі багатыя ўспаміны, вершы, апавяданні, безліч думак і вобразаў.

Тыя, хто вярнуўся, браліся за работу, а многіх яшчэ не было. Праходзілі гады, а мы так і не дачакаліся з франтавых дарог Міколу Сурначова, Аляксея Коршака, Леаніда Гаўрылава, Андрэя Ушакова, Алеся Жаўрука і яшчэ многіх здольных пісьменнікаў. Яны аддалі сваё жыццё за шчасце і свабоду Радзімы, якую любілі ўсёй душой, як родную маці. Але да нас прыйшлі іх вершы. І мы зразумелі, што гэтыя песні-вершы трэба аддаць народу, каб ён ведаў, чым жылі, аб чым марылі яго лепшыя сыны, якія думы і пачуцці хвалявалі іх у апошнюю хвіліну жыцця. Так былі выдадзены зборнікі вершаў Міколы Сурначова, Леаніда Гаўрылава, а нядаўна выйшла з друку і кніжка вершаў Аляксея Коршака «Апаленыя пялёсткі»*.

З вялікім хваляваннем браў я ў рукі кніжку вершаў Аляксея Коршака. Гартаў старонку за старонкай, учытваўся ў радкі, і ў памяці ажывалі перадваенныя студэнцкія гады, нашы гарачыя спрэчкі. У кожным радку паэта я знаходзіў нешта знаёмае, дарагое і блізкае, што не забываецца ніколі...

Вось верш «Сабраў я песень звонкае бярэмя...» Дык яго ж Аляксей Коршак чытаў на студэнцкім вечары ў педагагічным інстытуце імя Горкага! Асабліва запомніліся радкі, напоўненыя глыбокім, светлым пачуццём:

Таварыш мой, вялікшае ёсць шчасце
Быць сябрам сонца, песні і вясны.

У педінстытуце было шмат аматараў паэзіі, і перш чым верш маладога паэта з'яўляўся ў друку, ён праходзіў строгае чысцілішча ў студэнцкім сяброўскім асяроддзі. Так было з вершамі Аляксея Коршака «Ластаўка», «Ростань», «Спакой», «На ўсходзе рой высокіх зорак» і іншымі.

Усім нам падабалася глыбокая лірычнасць вершаў Коршака. Адчувалася, што паэт плённа вучыцца ў класікаў беларускай літаратуры і асабліва ў Максіма Багдановіча. І ўсе мы, «строгія суддзі», адзінадушна захапляліся Аляксеевым вершам «Маладосць», які быў прысвечаны каханай:

Не патушы юнацтва шчырасць
І не губі лятункаў сад.
Ой, не ляці ў далёкі вырай,
Скуль не вяртаюцца назад...

І хоць лёс развеяў па свеце сяброў, як лісце з восенскіх бяроз, але паэт моцна верыў у жыццё, а таму з поўным правам гаварыў:

Зноў дні ў маёвым цвеце снежным,
І дружба ёсць, і шчасце ёсць,
І па-даўнейшаму гарэзна
Віруе ў сэрцы маладосць.

З маладосцю ён не мог ніяк расстацца. Такім і застаўся яго светлы вобраз у нашай памяці.

Як і ўсе юнакі, Аляксей Коршак быў поўны творчага гарэння. Асабліва шмат пісаў ён у часе летніх канікул, калі прыязджаў на сваю родную Капыльшчыну. Памятаю, у канцы жніўня 1939 года ён вярнуўся ў Мінск з цэлым сшыткам вершаў. Сустрэліся мы з ім на скверы па вуліцы Свярдлова. Селі на лавачку, і ён папрасіў паслухаць яго новыя вершы. Прачытаў «Дрэмле човен», «Перасадка», «У лесе», «Крочу ў песнях» і «Пячнік».

З лірычных вершаў мне асабліва спадабаўся «Дрэмле човен». Ды і каго не крануць яго шчырыя радкі:

Я саджуся ў човен неспакойны,
Дзе яна сядзела, сяду я.
Праплывай жа ты цяпер пад чоўнам,
Глыбіня азёрная мая.

Колькі скрозь нязнаных сэрцу чараў,
Супакой вакол і цішыня...
Пазбіраю сны яе і мары,
Што ў вадзе рассыпала яна.

Я такі на свеце ўжо не першы,
Што плыву і ціха сам сабе
На вясле пішу алоўкам вершы
Аб дзяўчыне, сэрцы і журбе.

Ты вярніся зноў, як вечар ляжа,
Вось сюды, на бераг, за сяло.
Пра мяне усё табе раскажа
Спісанае вершамі вясло.

Сярод лірычных вершаў сшытка 1939 года выдзяляўся верш «Пячнік». Гэта было нешта новае для паэта. Калі раней у паэта пераважала пачуццё, якім афарбоўвалася ўся фактура верша, то ў «Печніку» выступае канкрэтны вобраз чалавека ва ўсёй яго жыццёвай складанасці. Пячнік, малады хлопец, рабіў печ маладой удаве і закахаўся ў яе. Закахаўся так, што вырашыў да яе пасватацца. Ён быў упэўнены, што ўдава згодзіцца пайсці за яго. Ажно не, яна ўжо засватана і запрашае хлопца на вяселле, а яму абяцае пасватаць дзяўчыну. І хлопец засумаваў...

Паэт спрабаваў свае сілы ў класічных формах паэзіі, бо хацеў, відаць, дамагчыся дысцыпліны формы, яснасці паэтычнай думкі. У зборніку «Апаленыя пялёсткі» мы знаходзім санеты, трыпціхі і іншыя класічныя формы верша.

Ішоў 1940 год. На небасхіле збіраліся хмары вайны. У творчасці паэта з'яўляюцца новыя матывы, ён імкнецца зазірнуць у будучыню і вызначыць сваё месца ў баявым страі.

Прыгожа мчацца ў даль рашуча,
Калі ж упасці на шляху,
Дык толькі зоркаю бліскучай,—

піша Аляксей Коршак у вершы без назвы.

Вобразы крывавай вайны ўсё часцей сустракаюцца ў лірыцы паэта. У вершы «Першы снег» лісты кляновыя, як раны, гарац на грудзях лугоў. Гэты паэтычны вобраз развіваецца і далей:

І от зіме, як быццам рана,
А ўжо глядзі — не жарт, не смех,
Лістоў кляновых чырвань-раны
Забінтаваны ў першы снег.

Калі пачалася вайна, Аляксей Коршак, як і ўсе юнакі яго ўзросту, стаў салдатам.

Нямнога вершаў паэта данёс да нас суровы час, але і па іх мы можам меркаваць, што, калі грымелі гарматы, яго муза не маўчала. Відаць, у кароткія перапынкі паміж баямі, у рэдкія хвіліны адпачынку ён брався за аловак. І мы бачым у яго нешматлікіх вершах светлую юнацкую душу паэта-воіна.

У вершы «Гарачынь» паэт са смуткам гаворыць:

Скора ўстануць курганы,
і на кожным кургане,
Быццам яблыню, песню сваю пасаджу.

Мы не ведаем, як складваўся франтавы шлях паэта, аднак вершы — сведкі яго душэўных перажыванняў — гавораць, што ён зазнаў шмат гора і пакут, хоць у душы заўсёды жылі светлыя вобразы роднага краю, шырокі свет маленства:

Я расплюшчыў вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.
Плача кнігаўка ўгары, як маці
Па дачцы ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
Не шкадуй мяне.
Я б закрыў навек спакойна вочы,

Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакутнай ночы,

Красаваў, як май,
Каб хадзіў навокал спеў мінорны,

Што я ў бітвах лёг
За прыгожы родны край азёрны,

За вясну ў палёх.

Аляксей Коршак марыў некалі пра сваю кніжку вершаў і хацеў назваць яе «Пялёсткі». Але пры жыцці ён яе не пабачыў. Толькі цяпер, дзякуючы клопатам сяброў, удалося сабраць нешматлікую, але каштоўную спадчыну паэта і выдаць асобнай кніжкай. Да тае, задуманай паэтам назвы, цяпер прыйшлося дадаць журботнае слова — «апаленыя». Хай гэтая кніжка «Апаленыя пялёсткі» і будзе той яблыняй, якую марыў паэт пасадзіць на кожным кургане загінуўшага салдата.

**Рыгор НЯХАЙ.**

---

* Аляксей Коршак. Апаленыя пялёсткі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1963.

З блакнота падарожніка

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК**

# У СЯБРОЎ

Перад дарогай мяне звычайна ахоплівае непакой. Так было і на гэты раз. Нам махаюць рукамі, нешта гавораць, — за шклом не чуваць слоў, — я таксама махаю рукой, але думаю пра іншае.

Поезд ідзе ў Берлін... «Поезд дружбы». Трыста дваццаць юнакоў і дзяўчат з Беларусі і Украіны размясціліся ў дзевяці вагонах. Наша група ў дзевятым.

Дзяўчаты спяваюць песні. За акном ужо — Баранавічы. Мінулі карпусы новага камбіната. Хлопцы спрачаюцца пра нейкія новыя метады ў будаўніцтве. Я маўчу, бо не разбіраюся ў гэтым. Я ўрач.

Потым мы знаёмімся. Фабрыка імя Калініна, камвольны камбінат, аўтазавод, фабрыка імя Крупскай, акадэмія навук... Салідпае прадстаўніцтва з Мінска!..

У Брэсце нашы вагоны пераводзяць на вузкую, еўрапейскую каляю. Апошні раз вячэраем на роднай зямлі. Націскаем на жытні хлеб, бо чулі, што ў Германіі ён амаль не ўжываецца.

Ноччу праязджаем Польшчу, а раніцай пачынаецца блытаніна з часам. Некаторыя адразу пасля Брэста перавялі стрэлкі на дзве гадзіны назад. І вось цяпер не можам разабрацца, каторая гадзіна. Нарэшце, высвятляем, што па мясцоваму часу дзесяць гадзін. Значыць, у Мінску дванаццаць.

Поезд спыняецца на некалькі хвілін у Франкфурце-на-Одэры, першым нямецкім горадзе. На пероне нас вітае аркестр гарадской паліцыі. Але поезд спазняецца, і мы адразу едзем далей.

Электрапоезд ідзе з хуткасцю сто дваццаць кіламетраў у гадзіну. За акном мільгаюць чыстыя палі, белыя двухпавярховыя домікі, лясы. Ярка свеціць сонца. Цёпла. Цікава, як там у нас, у Мінску?..

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БЕРЛІН!

І вось Берлін. Усходні вакзал. Хвалюемся. Грыміць аркестр. На пероне — натоўп. Піянеры дораць нам кветкі, павязваюць сінія гальштукі і пазіраюць на нашы значкі. Здымаем значкі, прышпільваем да іх кашуль. Дастаем паштоўкі з відамі Мінска і таксама дорым. Піянеры просяць аўтографы і адрасы. Ледзь паспяваем адказваць на прывітанні юнакоў і дзяўчат у сініх блузах (форма Саюза свабоднай нямецкай моладзі). На рукавах у іх эмблема — залацістыя літары «FDJ («Freue deutsche junge») і прамені ўзыходзячага сонца.

Кароткі мітынг на вакзале. Гучыць Гімн Савецкага Саюза, затым Гімн Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

У Берліне я ўпершыню ўважліва ўслухаўся ў гэтую мелодыю. Ведаючы з гісторыі Германіі драматычны лёс рабочага класа і яго лепшых сыноў Карла Лібкнехта і Эрнста Тэльмана, не цяжка зразумець, пра што гаворыцца ў першай, жалобнай яе частцы. Далей ідзе светлая, жыццярадасная тэма.

Не ведаю чаму, але мяне да слёз кранае гэты гімн. Слухаючы яго, думаеш пра Маркса і Энгельса, пра рэвалюцыі 1848 і 1918 гадоў, якія былі патоплены ў крыві. Потым сусветны эканамічны крызіс 1929 — 1932 гадоў, які прывёў да аб'яднання камуністычных і сацыялістычных сіл. Насуперак волі сацыял-дэмакратычнага кіраўніцтва з'яўляюцца асновы адзінага рабочага фронту. Наспявае рэвалюцыйная сітуацыя. Тады ўступаюць у дзеянне манаполіі, якія падрыхтоўваюць звяржэнне Веймарскай рэспублікі і перадачу ўлады ў рукі Гітлера. Над Германіяй навісла ноч. Лепшыя сыны нямецкага народа трапілі ў канцлагеры, адкуль выхад быў адзін — праз печы крэматорыяў.

Гляджу на флаг рэспублікі. Тры паласы — чорная, чырвоная, жоўтая. «Ад чорнага мінулага з крывёю ў сэрцы за светлую будучыню» — так тлумачаць гэтыя колеры. У цэнтры — залацісты герб: штангенцыркуль і молат, акаймаваны каласамі.

На мітынгу нас вітаюць прадстаўнікі ФДІ. Потым выступае кіраўнік нашага «Поезда дружбы». Ва ўсіх прамовах асноўная думка — дружба.

Завязваюцца знаёмствы.

«Як цябе завуць? Дзе ты працуеш або вучышся?». З гэтых пытанняў пачынаецца гутарка. Часам чутны англійскія або французскія словы: каб зразумець адзін другога субяседнікі выкарыстоўваюць усе свае веды.

Пасля мітынгу, які заканчваецца спяваннем Гімна дэмакратычнай моладзі свету адначасова на двух мовах, садзімся ў аўтобусы. Юнакі і дзяўчаты гасцінна махаюць нам услед.

Настрой у нас добры. Такое адчуванне, быццам прыехалі да шчырых сяброў, якіх ведаем з дзяцінства. Што ж, добры дзень, Берлін!..

## НА ПОКУЦЕ — МЯДЗВЕДЗЬ

Звяртаем увагу, што нас суправаджае эскорт паліцэйскіх на матацыклах. Даведваемся, што гэта не толькі даніна пашаны, але і мера перасцярогі — машыны па вуліцах ідуць на вялікай хуткасці. Пазней нам не раз даводзілася бачыць, як паліцэйскія жэстам спынялі машыны, што мелі намер праскочыць ля самага нашага аўтобуса.

Праязджаем па Карл-Маркс-штрасэ. Цікаўнымі вачамі турыстаў глядзім па баках.

— Хлопцы, дык гэта ж наш Крашчацік! — не вытрымлівае хтосьці з украінцаў.

І сапраўды, шырокая вуліца, высокія светлыя дамы чымсьці нагадваюць цэнтральную вуліцу Кіева. Паспешліва шчоўкаюць фотаапараты. Кожнаму хочацца захаваць памяць аб гэтым прыгожым горадзе.

— Перад намі Франкфурцкія вароты, — гаворыць наш перакладчык Рэнэ, дасціпны і сімпатычны малады чалавек. — Таксама, як і Нікіцкія вароты ў Маскве, на ноч яны не запіраюцца...

— А гэта нешта падобнае на Мінск, — гаворыць хтосьці з беларускіх дзяўчат.

Аляксандэр-пляц, Унтэр-дэн-Ліндэн, Брандэнбургскія вароты... Знаёмыя назвы, а бачым усё гэта ўпершыню.

У вялікай, утульнай зале Фрыдрыхсхайле аркестр іграе вальсы, старадаўнія нямецкія мелодыі і рускія песні. На покуце стаіць велізарны, да столі, плюшавы Мішка. Ну як тут не сфатаграфавацца! Мядзведзь — традыцыйная эмблема Берліна.

Садзімся за столікі і з нецярплівасцю паглядваем на афіцыян-

та, які адкаркоўвае бутэлькі. І не таму, што галодныя. Звычайная цікаўнасць...

У невялікіх кубках — прыкладна з такіх у нас п'юць каву, толькі гэтыя больш тоўстыя — нам прыносяць булён. Падаюць і хлеб. Толькі... ці можна гэта назваць хлебам? Маленькія, з дзіцячы кулачок, зачарсцвелыя булачкі. Немцам адной такой булачкі хапае на абед. А нам... Афіцыянты гэта зразумелі і на кожны стол прынеслі цэлую вазу булачак. На другое падалі адбіўную, засмажаную ў сухарах. Прамавугольная талерка раздзелена на некалькі секцый. У адной ляжыць адбіўная, у другой бульба, у трэцяй салат з капусты ўсіх колераў і ўсіх гатункаў.

Каб больш не спыняцца на нямецкай кухні, заўважу, што на сняданак і на вячэру нас кармілі ў асноўным бутэрбродамі, якія падавалі на талерцы па восем-дзесяць. Калі ўлічыць, што немцы любяць, калі госці з'ядаюць **усё**, можна ўявіць, у якое становішча мы траплялі. Між іншым, самі немцы ўмудраюцца рабіць бутэрброды з чаго хочаце, нават з яйка ўсмятку. Сёй-той з нашых турыстаў паспрабаваў зрабіць тое самае, але гэта дорага абышлося — давялося збіраць сурвэткі з усяго стала.

## ЛІПСІ ВЫЙШАЎ З МОДЫ

Вечарам у клубе завода «Бергман-Борзіг» адбылася сустрэча нашых камсамольцаў і членаў Саюза свабоднай нямецкай моладзі Берліна. Калі праязджалі па адной з вуліц, вадзіцель выключыў у аўтобусе святло і папрасіў не спяваць — зусім побач знаходзілася сцяна, за якой пачынаўся Заходні Берлін. Пад'ехаўшы да завода, звярнулі ўвагу, што тут са зброяй у руках нясе варту рабочая дружына. Нам сказалі, што такая дружына ёсць на кожным прадпрыемстве. Пазней мы пераканаліся, што гэтыя меры далёка не дарэмныя.

У клубе за сталамі юнакі і дзяўчаты ў сініх блузах. Яны гасцінна ўсміхаюцца. Мы рассаджваемся, і пачынаецца ажыўленая гутарка, якая, калі можна так сказаць, нагадвае бег з перашкодамі. Да тых з нас, хто крыху ведае нямецкую мову, раз-пораз звяртаюцца з просьбай:

— Паслухай, як сказаць, што я займаюся завочна?

— Як сказаць па-нямецку, што ў мяне другі разрад па лыжах?

Перакладчыкі на вечары — самыя жаданыя людзі. Да іх паслуг звяртаюцца то за адным, то за другім сталом.

І паступова наладжваецца тая цёплая атмасфера, тое шчырае ўзаемаразуменне, што можа быць толькі сярод сяброў, у якіх шмат падобнага ў жыцці, вучобе, працы, у якіх агульныя задачы і мэты.

Адзін з кіраўнікоў Саюза свабоднай нямецкай моладзі Берліна прапаноўвае тост за камсамол, за яго слаўныя справы. Немцы дораць нашай дэлегацыі партрэт Эрнста Тэльмана. Затым выступае адзін з нашых кіраўнікоў. Ён прапаноўвае тост за вечную і непарушную дружбу паміж камсамолам і Саюзам свабоднай нямецкай моладзі. Ён дорыць нямецкім сябрам бюст У. І. Леніна і мадэль першага штучнага спадарожніка. Раздаюцца воплескі. Усе скандыруюць: «Друж-ба», «Фройнд-шафт»...

Пасля першых бакалаў за сталом становіцца больш ажыўлена. Ідзе абмен сувенірамі, значкамі, паштоўкамі, адрасамі.

Зайграў танцавальны аркестр. Нямецкія юнакі запрашаюць на вальс нашых дзяўчат. Нашы хлопцы танцуюць з дзяўчатамі ў блакітных блузах. Кожная пара пра штосьці гутарыць, часта гучыць смех.

Ледзь не кожны вечар нам даводзілася танцаваць. А на адным з вечароў Інстытут танца, — у рэспубліцы ёсць і такі, — прадэманстраваў нам танцавальныя стылі.

Нам спадабаўся боверы, спакойны, мілы танец, які чымсьці нагадвае лінду. З цікавасцю мы глядзелі, як танцуюць мэдысон і свінг.

Ну, а ліпсі? Мы яго так і не ўбачылі. «Выйшаў з моды», — растлумачылі нам нямецкія сябры.



Хтосьці з немцаў запявае «Падмаскоўныя вечары», і неўзабаве ўся зала спявае гэтую вядомую на ўвесь свет песню. Потым мы спяваем «Лаурэнсію». Спяваючы гэтую песню, трэба на пэўных словах уставаць, садзіцца, раскачвацца ўлева і ўправа. Каманду звычайна падае акардэаніст у аркестры. Гэта і вельмі забаўна і прыгожа.

А за сталамі ідуць бясконцыя гутаркі, гучаць жарты і смех. Хтосьці з нашых, зусім не ведаючы нямецкую мову, рашыў маляваць свае пытанні і адказы. Што ж, кожны знаходзіць выйсце...

Дамоў, у інтэрнат інстытута эканомікі, вяртаемся позна ноччу. У аўтобусах сядзім стомленыя, але задаволеныя. Дзелімся ўражаннямі. Хтосьці гаворыць, што заўтра будзе спаць позна. І тут кіраўнік групы паведамляе, што пад'ём а шостай гадзіне.

«Ну, не, — думаем мы. — Гэты нумар не пройдзе; трэба выспацца».




**У клубе маладых талентаў сабраліся сябры — нямецкая моладзь і савецкія турысты.**

## ПРА ТОЕ, ШТО ЯДНАЕ

Але раніцай, роўна ў шэсць, па ўсіх карпусах гучыць магутная сірэна нізкага тону. Вядома, спаць пасля гэтага ўжо нельга.

Пасля снедання ў клубе электратэхнічнага завода слухаем даклад другога сакратара Саюза свабоднай нямецкай моладзі Ота Наўмана аб рабоце гэтай арганізацыі.

Наўман падрабязна расказвае пра тую цяжкую работу, якую праводзіць арганізацыя па выхаванню моладзі. Пра недахопы гаворыць шчыра, нічога не таячы.

Да збудавання сцяны, якая аддзяляе Заходні Берлін, работа саюза была асабліва складанай. З Заходняга Берліна засылаліся крымінальныя элементы, каб дэзарганізоўваць работу. Заходні Берлін адмоўна ўздзейнічаў на моладзь дэмакратычнай часткі горада. Гэта відаць хаця б па такой статыстыцы Заходняга Берліна: кожныя 48 гадзін — забойства, 21 згвалтаванне, 1 392 лёгкіх і 118 цяжкіх раненняў. За месяц 3 786 злачынстваў! За адну гадзіну адбываецца 13 злачынстваў! Заходні Берлін атрымаў права на ганебную славу чэмпіёна Еўропы па крымінальных злачынствах.

Трэба таксама сказаць, што дзялкі і спекулянты з Заходняга Берліна парушалі нармальны гандаль, падрывалі эканоміку сталіцы рэспублікі. Толькі па самых сціплых падліках страты складаюць 30 мільёнаў марак.

Нам паказалі спецыяльны кіначасопіс, дзе адлюстравана, як у ноч на 13 жніўня 1961 года была пабудавана бетонная сцяна, што перагарадзіла дарогу фашысцкім малойчыкам. Раніцай наступнага дня здзіўлены Заходні Берлін убачыў, што ён адгароджаны сцяной. Обербургамістр Заходняга Берліна Вілі Брандт аж разявіў рот ад здзіўлення.

Пасля збудавання сцяны абставіны ў сталіцы рэспублікі прыкметна палепшыліся. У магазінах перастаў адчувацца недахоп прадуктаў. Дзіва што! Раней жа прадавалася столькі прадуктаў, быццам кожны жыхар дэмакратычнага Берліна есць за чацвярых.

Але па-ранейшаму радыё і тэлебачанне Заходняга Берліна вядзе

раз'юшаную прапаганду супраць дэмакратычнай рэспублікі. І тым не менш, маладзёжная арганізацыя дамагаецца вялікіх поспехаў у выхаванні маладога пакалення.

Пасля таго, як Ота Наўман адказаў на нашы шматлікія пытанні, едзем у Трэптаў-Парк.

Тут пад чатырма плітамі спачывае шэсць тысяч савецкіх воінаў, якія загінулі пры ўзяцці Берліна. Схілілі ніцыя галінкі рускія бярозы, лісце падае на зямлю, прывезеную з Падмаскоўя...

На ўзгорку — вядомая скульптура Воіна-вызваліцеля з дзіцем на руках. Унізе — разбітая свастыка.

Глядзіш на скульптуры, мазаіку, барэльефы і ўспамінаеш гады вайны, пажары, смерці...

Да мяне падыходзіць Петэр, мой новы сябар. Ён працуе на заводзе «Бергман-Борзіг». Петэр глядзіць на мяне сваімі разумнымі вачамі і, хвалюючыся, гаворыць:

— Мне здаецца, што калі рускія бачаць немцаў, яны не могуць пераадолець антыпатыі да нас. — Ён змаўкае, падбіраючы словы, і працягвае: — Цяпер трэба думаць не пра тое, што нас раз'ядноўвала, а пра тое, што нас яднае.

Ты праўду кажаш, Петэр! Было б неразумна, калі б мы атоесамлівалі старую Германію з рэспублікай, якая будуе сацыялізм. Мінулага забыць нельга, але двухтыднёвае знаходжанне ў рэспубліцы, шчырыя гутаркі з нямецкімі салдатамі і афіцэрамі пераканалі нас у тым, што народ Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі не толькі жадае дружыць з народамі савецкай краіны, але і гатовы быць у адным страі, локаць пры локці, у цяжкую хвіліну.



**Ля ўваходу ў Трэптаў-парк.**

Ну, а мінулае... Я ўспамінаю трох нямецкіх лётчыкаў, якія ў 1943 годзе прызямліліся на партызанскім аэрадроме на Любаншчыне з каштоўнымі звесткамі. Яны былі камуністы.

На могілках сацыялістаў, дзе мы таксама ўсклалі вянок, пахаваны лепшыя сыны Германіі, якія змагаліся супраць фашызму. На мемарыяльных дошках сустракаюцца шматлікія надпісы: «Загінуў у 1937 годзе ў Іспаніі». Так было і тады: Гітлер памагаў Франка, а нямецкія камуністы адстойвалі рэспубліку. На могілках спачывае прах змагароў рабочага класа розных часоў — ад Карла Лібкнехта да Вільгельма Піка і Розы Тэльман, жонкі і саратніка слаўнага сына рабочага класа, якая памёрла зусім нядаўна.



**Гэта скульптура, — савецкі воін, які смуткуе па тых, хто аддаў жыццё ў барацьбе з фашызмам, — стаіць у Трэптаў-парку. Там пахавана шэсць тысяч савецкіх змагароў за шчасце чалавецтва.**

Вечарам наведваем Берлінскі ансамбль. Тут працаваў Бертольд Брэхт. Нам паказваюць літаратурна-музычную кампазіцыю, складзеную з твораў Бертольда Брэхта.

На сцэне ў натуральнай абстаноўцы размясціліся ў крэслах артысты. Кожны па чарзе выходзіць на авансцэну, чытае ці спявае. У кампазіцыі зроблена спроба перадаць антыфашысцкія, антываенныя настроі Бертольда Брэхта, вялікага немца, пераўтваральніка тэатра. Пасля прадстаўлення адбылася сустрэча з артыстамі. Нашы нямецкія сябры былі ўзрадаваны, калі даведаліся, што ў Мінску пастаўлена «Матухна Кураж і яе дзеці».

Раніцай садзімся ў аўтобусы і едзем у Патсдам, горад, які ўвайшоў у гісторыю.

Злева ад шашы аэрадром Шонефельд, дзе прызямляюцца цяжкія самалёты, справа — кінастудыя «Дэфа». За зялёнінай дрэў відаць цэлыя гарадкі ўсіх часоў і ўсіх народаў, пабудаваныя для здымання кінафільмаў.

## ДЗЕ БЫЛО ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ

Патсдам. Вось і Цэцыліенгоф, гістарычнае памятнае месца, дзе 2 жніўня 1945 года кіраўнікі вялікіх дзяржаў — СССР, ЗША і Вялікабрытаніі — падпісалі Патсдамскае пагадненне.

Аркестр паліцэйскіх іграе прывітальныя маршы, юнакі і дзяўчаты дораць нам кветкі, памятныя сувеніры, і мы праходзім у палац. Раней тут пражывалі Гогенцолерны, бадай, самая рэакцыйная княжаская сям'я Германіі. Нядарма для яе эвакуацыі — яна вельмі баялася прыходу рускіх! — Гітлер выдзеліў спецыяльны поезд. І гэта ў той час, калі фашысты вялі жорсткія баі з наступаючымі часцямі Савецкай Арміі.

Аглядаем палац. Цёмныя сцены, цёмная мэбля, невялікія вокны, рабрыстая столь. Хіба тут можна было жыць? Новыя часы — новыя густы. Экскурсавод праводзіць нас па пакоях, дзе працавалі дэлегацыі саюзнікаў, зала, дзе



**На Могілках сацыялістаў.**

было падпісана пагадненне. У цэнтры круглага стала — флажкі саюзнікаў. Успамінаю сутнасць Патсдамскага пагаднення...

Знішчэнне мілітарызму і фашызму, а таксама пакаранне галоўных віноўнікаў.

Поўнае раззбраенне Германіі — прадухіленне адраджэння германскага мілітарызму і фашызму.

Знішчэнне манаполій, як рухаючых сіл абедзвюх сусветных войнаў.

Дэмакратызацыя ўсяго жыцця ў Германіі.

Эканамічнае, палітычнае і дзяржаўнае адзінства Германіі.

Мірны дагавор для Германіі.

Успамінаеш пункты пагаднення, і нельга стрымаць горкай усмешкі — што ад іх засталося? У Заходняй Германіі не выконваецца ні адзін пункт. Фашысцкія і мілітарысцкія арганізацыі растуць, як грыбы. Паміж Эльбай і Рэйнам зноў раздаюцца ваяўнічыя лозунгі: «Германія ў межах 1939 года», «Масква зноў у радыусе дзеяння нямецкай зброі». Хіба чалавечая памяць такая кароткая?

Па старым парку ідзём у музей нямецкай арміі. Тут нам прыемна было бачыць, што шмат аддзелаў музея прысвечана сумесным вучэнням армій Варшаўскага дагавору, асабліва савецкай і маладой, створанай толькі ў 1956 годзе,

Нацыянальнай Народнай Арміі ГДР. Не віна рэспублікі, што ёй давялося стварыць армію для абароны мірнай працы.

Потым мы былі ў палацы Фрыдрыха II, у так званым Сансусі. Кароль, які гаварыў толькі пафранцузску, даў яму такую назву. Сансусі — значыць, без клапот. Менавіта так бавіў ён тут час. На пабудову багатага палаца і разбіўку парку былі патрачаны велізарныя грошы. Але кароль хацеў паказаць іншаземцам, што нават пасля цяжкай Сямігадовай вайны грошы ў казне ёсць. Глядзіш на аляпаватую раскошу палаца, на маляўнічыя тэрасы ўзгорка, у якіх размешчаны некалькі ярусаў аранжарэй, на цудоўны парк, і цябе не пакідае дваістае пачуццё — захапляешся і думаеш пра тых, на чыёй крыві ўсё гэта пабудавана.

У 1945 годзе, каб не дапусціць разбурэння палаца і парку, камандаванне Савецкай Арміі вырашыла не весці наступальных аперацый у гэтым раёне — ён быў абыдзены.

## РАЗАМ З КУБІНЦАМІ

Позна ўвечары вяртаемся ў Берлін. Не паспелі павячэраць, як разнеслася вестка: на Кубе неспакойна. Зараз будзе мітынг.

— Што з Кубай?

— Ніхто не ведае.

У актавай зале інстытута, куды мы крыху спазніліся, ужо было шмат народу.

— Што здарылася? — пытаемся ў знаёмых.

— Пакуль вайны няма.

— І добра!

— Кенедзі аб'явіў ваенную блакаду Кубы.

На трыбуну падымаюцца немцы, студэнты афрыканскіх краін, якія навучаюцца ў ГДР. Усе яны асуджаюць небяспечную палітыку ЗША і заяўляюць аб сваёй падтрымцы Кубы.

Калі на трыбуну падняўся кіраўнік савецкай дэлегацыі і паўтарыў словы М. С. Хрушчова аб тым, што Савецкі Саюз не пакіне Кубу, кубінскія студэнты падняліся са сваіх месц, доўга і горача паціскалі рукі прадстаўнікам савецкай краіны. Затым выступіў кубінскі студэнт. Ён гаварыў, што народ, які пазнаў свабоду, будзе змагацца за яе да апошняй кроплі крыві. Пасля яго слоў «Патрыа о муэртэ!» зала ўстае і дружна апладзіруе. Пачынаюць скандыраваць «Венсарэмас!» — «Мы пераможам». Кубінскі студэнт запявае «Марш 26-га ліпеня». І хоць большасць не ведае слоў, усе дружна падхопліваюць гэтую мелодыю і, узяўшыся за рукі, спяваюць разам з кубінцамі.

## ЕДЗЕМ У МАГДЭБУРГ

Раніцай, падзяліўшыся на групы, мы ад'язджаем з Берліна ў буйнейшыя гарады рэспублікі — Гале, Дрэздэн, Расток, Лейпцыг, Магдэбург.

Мы, група мінчан і ўкраінцы з Запарожжа, едзем у Магдэбург, адкуль будзем рабіць радыяльныя маршруты ў другія гарады.

Кожны прыпынак на дарозе — новае выяўленне шчырай дружбы.



Калі мы пад'ехалі да аўтастрады, паліцэйскі эскорт матацыклістаў, які ні на хвіліну не пакідаў нас у Берліне, развітаўся і пажадаў шчаслівай дарогі.

Даўжыня аўтастрады ад Берліна да Магдэбурга 150 кіламетраў. Дзве шырокія бетанірававыя паласы, паміж іх зялёныя насаджэнні. Шырыня кожнай паласы — каля шасці метраў. Левая частка для абгону. Восем такіх аўтастрад ідуць ад Берліна да буйнейшых гарадоў Германіі. Гітлер пабудаваў іх, рыхтуючыся да вайны. Кожны кіламетр аўтастрады абышоўся ў мільён марак. Роўная і прамая, як страла, аўтастрада дае магчымасць развіваць вялікія хуткасці, да 160 кіламетраў у гадзіну. Дарэчы, па гэтай аўтастрадзе ідуць зносіны Заходняга Берліна з ФРГ.

Па аўтастрадзе праносяцца «вілісы» з белымі зоркамі. У кожнай машыне некалькі доўгіх антэн. За рулём негры, салдаты ў белых касках, на якіх дзве літары «МР» («мілітэры паліцай»). Ідуць і ідуць машыны — легкавыя, грузавыя, фургоны. Розных марак, розных краін. За дзень у Заходні Берлін праходзіць больш двух тысяч машын.

Едзем даволі доўга, і, каб хутчэй бавіўся час, наш перакладчык Рэнэ пачынае расказваць анекдоты. Немцы, зрэшты, як і іншыя народы, любяць гумар. У старадаўнім замку Вернігеродэ, дзе стаяць гарматы пятнаццатага стагоддзя, экскурсавод на поўным сур'ёзе папярэджвае турыстаў, што адміністрацыя музея будзе ўдзячна наведвальнікам, калі яны не будуць страляць з гармат.

На граніцы Магдэбургскай акругі нас вітаюць маладыя матацыклісты, члены арганізацыі, накшталт нашага ДТСААФ. Яны суправаджаюць нас да горада.

Перш за ўсё кідаюцца ў вочы руіны. Побач з новымі будынкамі ўзвышаюцца сцены з пустымі вокнамі. І іх шмат. А пасля ж вайны прайшло семнаццаць год!

Нам расказалі пра жахлівы лёс Магдэбурга.

У пачатку 1945 года над горадам быў збіты сын камандуючага англійскім паветраным флотам. Даведаўшыся пра гэта, ён аддаў загад сцерці горад з твару зямлі. Гэта было ў ноч на 15 студзеня 1945 года. Лёс вайны ўжо быў вырашаны. Але ў гэтую ноч да горада падыходзілі і падыходзілі эскадрыллі англійскіх цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў. За некалькі гадзін было разбурана 83 працэнты ўсіх будынкаў, загінула 16 000 жыхароў. Якая бессэнсоўная жорсткасць!

Такі ж лёс напаткаў і Дрэздэн. На яго абрушылася знішчальнымі ўдарамі авіяцыя саюзнікаў перад самым прыходам савецкіх войск. Міжволі ўспамінаецца загад савецкага камандавання аб захаванні палаца і парку Сансусі...

У Магдэбургу для нас пачаўся «рабочы тыдзень». Ужо назаўтра мы наведалі завод імя Карла Лібкнехта — адно з буйнейшых прадпрыемстваў Еўропы па вытворчасці і экспарту дызельных рухавікоў і абсталявання для хімічнай прамысловасці. У час гутаркі дырэктар завода сказаў: «Мы хочам якасць сваёй прадукцыі давесці да ўзроўню савецкай». Большая частка гэтай прадукцыі вырабляецца па заказу нашай краіны. Адміністрацыя завода прыязна азнаёміла нас з вытворчасцю, паказала нам цэх, дзе школьнікі праходзяць вытворчае навучанне.

## СТАНКІ І КВЕТКІ

Пра тое, што на заводах, якія мы наведалі, чыста і ўтульна, можна і не гаварыць. Звярнулі на сябе ўвагу і іншыя дэталі.

Ля станка стаіць грыфельная дошка, на якой крэйдай намалявана: «40 год» і галінкі лаўру. Нам расказалі, што гэта рабочыя вітаюць свайго калегу з юбілеем.

На сцяне кавальскага цэха можна ўбачыць карціны, на якіх — дзяўчаты ў купальніках. На аўтакары, які водзіць пажылы мужчына, вялікімі літарамі напісана крэйдай: «Марына». На радыятары цяжкага грузавіка прымацавана рэпрадукцыя — дзяўчына з усмешкай на твары. Нават плакат, які заклікае рабочых да барацьбы з траўматызмам на вытворчасці, зроблены ў жартоўнай форме: ма-



**На трактарным заводзе ў Шонабеку.**

Фота аўтара.

лады чалавек, увесь перабінтаваны, ляжыць у пасцелі, а прыгожая дзяўчына ідзе купацца. Подпіс абвяшчае: «Ах, калі б я быў асцярожны, здолеў бы пайсці з ёй». Відавочна, гэта ўздзейнічае больш, чым сухая, казённая фраза: «Беражыся траўматызму на вытворчасці!»

Жаданне стварыць у людзей добры настрой, выклікаць усмешку, адчуваецца ўсюды. У рудніку, на глыбіні звыш 400 метраў, можна бачыць грыфельную дошку, на якой старанна намалявана жаночая шпілька. Подпіс тлумачыць, што вечарам пасля работы можна будзе патанцаваць у клубе.

Імкненне рабіць усё жыва і цікава ўласціва і заводскім шматтыражкам. На лепшай фатаграфіі тыдня зняты два пяцідзесяцігадовыя мужчыны, якія спаборнічаюць на дзіцячых самакатах, спрабуючы абагнаць адзін другога. Здымак зроблены ў час адпачынку рабочых завода. На апошняй старонцы шматтыражка рэкамендуе моды і дае парады гаспадыням.

Цікава прайшла ў нас сустрэча са студэнтамі політэхнічнага інстытута. Яны цікавіліся, як жывуць і працуюць савецкія студэнты, мы ў сваю чаргу даведаліся шмат новага пра жыццё студэнтаў ГДР. Цікава, што прыёмных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, акрамя медыцынскіх, не існуе. Падаеш адпаведныя дакументы і цябе залічваюць. На першых экзаменах правяраюць веды. Здаў — добра, не здаў — даюць пераздаць. Другі раз не пераздаў — выключаюць. Не дзіўна таму, што адсеў складае 30 працэнтаў. З дзесяці студэнтаў астаецца сем. Але можна быць упэўненым, што гэтыя сем — стануць добрымі інжынерамі.

Студэнты паказалі нам свае інтэрнаты, сталоўкі. Вялікае ўражанне зрабіў вылічальны цэнтр інстытута.

## КАНЦЭРТ НА ВАДЗЕ

На другі дзень нас разбудзіў аркестр піянераў. Пасля цёплай сустрэчы з імі мы накіраваліся ў зімовы басейн «Алімпія» — цудоўны палац са шкла і бетону. Не лічачы кінатэатра «Космас» у Берліне, «Алімпія» — самае цудоўнае сучаснае збудаванне, якое мы ўбачылі ў Германіі. Трэба пабываць там, каб зразумець, які ён прыгожы. У гэтым лепшым басейне ў рэспубліцы трэніруецца нацыянальная зборная каманда плыўцоў.

Нам была паказана ў басейне вялікая канцэртная праграма. Іграў танцавальны аркестр, выступалі спевакі. А за шклянымі дзвярамі хлопчыкі, якія рыхтаваліся да выступлення на вадзе, з ручнікамі на шыі «выкручвалі» твіст. На жаль, гэты танец набыў сярод часткі моладзі некаторую папулярнасць.

Вялікае ўражанне зрабіла фігурнае плаванне, якое чымсьці нагадвае пластычныя кампазіцыі нашага ансамбля «Бярозка», а таксама камічныя нумары. Вялікая група плыўцоў, апранутых у гарнітуры мінулага стагоддзя, скакала з вышак, няўмела дрыгаючы нагамі, падаючы бокам або на спіну. Усё гэта было так вынаходліва і забаўна, што мы смяяліся да слёз. Зусім зразумела, што, каб так «няўмела» скакаць, трэба быць добрым спартсменам.

Пасля дыктар аб'явіў, што будзе паказана дзейнасць выратавальнай службы. Для гэтага патрэбен смяльчак-добраахвотнік, які не ўмее плаваць. Жадаючых не знайшлося, хоць сёй-той з турыстаў сапраўды не ўмеў плаваць. Немцы прадэманстравалі ўсе выратавальныя прыёмы на спартсменах. У канцы гэтай цікавай праграмы нам далі магчымасць паплаваць самім. Між іншым, у Магдэбургу, дзе налічваецца 300 000 жыхароў, ёсць 94 плавацельныя басейны і 18 стадыёнаў.

## ПРАЦА І МІР

Вельмі цікавай была паездка ў Штасфурт, дзе мы агледзелі калійны руднік і азнаёміліся, як здабываюць соль. Перад спускам у шахты нам выдалі каскі, спецыяльныя камбінезоны і ліхтары. Выгляд ва ўсіх быў пацешны, і мы пачалі фатаграфавацца. Апусціўшыся ў клеці на 460 метраў, мы селі ў спецыяльныя вагончыкі і ехалі тры кіламетры да месца здабычы солі (даўжыня некаторых пуцей складае 9 кіламетраў.) Большасць з нас упершыню знаходзілася ў шахце, і ўсё нам было цікава: як робяць узрывы, як ачышчаюць велізарныя пячоры, вышынёй па 120 метраў, як спускаюць соль па звычайных трубах уніз, дзе яе зграбаюць і ссыпаюць у ваганеткі, якія потым падымаюць наверх. Амаль усе працэсы механізаваны. Нам расказвалі, што ў суседніх шахтах ідзе здабыча солі гідраўлічным спосабам — разведзеную вадой соль выпампоўваюць наверх.

Глыбока пад зямлёй мы бачылі старыя пячоры, дзе ў гады вайны знаходзіліся ваенныя заводы. Тут рабіліся дэталі самалётаў. Працавалі на заводах ваеннапалонныя. Уцячы было немагчыма, і некаторыя пакутавалі пад зямлёй па некалькі год.

Цяпер руднік дае мірную прадукцыю — солі для хімічнай прамысловасці. І гэта глыбока сімвалічна. Новая Германія хоча міру. Там, дзе яшчэ не так даўно рабіліся танкі, гарматы, сёння выпускаюцца трактары, прамысловае абсталяванне. Звяртае на сябе ўвагу іншая дэталь — прамысловасць рэспублікі працуе ў шчыльным кантакце з краінамі сацыялістычнага лагеру — метал ідзе з Польшчы, станкі з Чэхаславакіі...

Але не забывае рэспубліка і пра пільнасць, пра абарону сваіх заваёў. Шматлікія сустрэчы ў армейскіх і паліцэйскіх часцях пераканалі нас у тым, што калі ўзнікне неабходнасць, юнакі ў пукатых зялёных касках стануць поплеч з салдатамі Савецкай Арміі.

У пагранічных раёнах мы сустрэліся са сціплымі, сарамлівымі маладымі людзьмі. І вельмі здзівіліся, калі даведаліся, якую мужнасць яны праявілі пры затрыманні ўзброеных парушальнікаў. Мы бачылі спецыяльную кінахроніку, якая паказвае вострыя інцыдэнты ля берлінскай сцяны, якія правакуюцца ўладамі Заходняга Берліна, і думалі пра тое, якія моцныя нервы трэба мець, каб не здрыганууцца, калі на цябе на поўным хаду ідзе танк...

Салдаты і паліцэйскія добра разумеюць, што яны адстойваюць перш за ўсё сваю рэспубліку, першую германскую дзяржаву рабочых і сялян. Дзве рэвалюцыі — 1848 і 1918 гадоў — былі патоплены ў крыві. На гэты раз немцы адстоюць сваю рэспубліку. І гарантыя гэтага — дружба з Савецкім Саюзам і ўсім сацыялістычным лагерам.

Наша праграма паездкі была вельмі перагружана. Здаралася, што мы снедалі ў атэлі Магдэбурга, абедалі ў курортным горадзе Шырке і вячэралі ў старажытным Вернігеродэ. Часта наш добры сябар Тоні, сакратар мясцовай маладзёжнай арганізацыі, які суправаджаў нас у паездцы, глядзеў на гадзіннік і, ківаючы галавой, шкадаваў, што мы куды-небудзь спазняемся.

* * *

Мы аб'ехалі многія гарады рэспублікі, сустракаліся з сотнямі юнакоў і дзяўчат. І ўсюды нас сустракалі ўсмешкі, сяброўскія поціскі рук, добразычлівасць.

Мы зразумелі, што рэспубліка свята выконвае запаветы Маркса і Энгельса, Тэльмана і Піка. Яна ажыццяўляе сваё важнейшае нацыянальнае і інтэрнацыянальнае прызначэнне: стрымліваць германскі мілітарызм, у барацьбе за мір і сацыялізм увасабляць будучыню нацыі і падрыхтоўваць гэтую будучыню. Гэтая барацьба служыць гарантыяй заключэння германскага мірнага дагавору, мірнага суіснавання, усеагульнага і поўнага раззбраення.

Зноў Усходні вакзал у Берліне. Іграе аркестр. Апошні абмен адрасамі, сувенірамі. Шчоўкаюць фотаапараты, гудуць камеры кінахронікі і тэлебачання. Усім хочацца зазняць вялікага плюшавага мядзведзя, якога трымае ў руках кіраўнік нашага поезда. Гэты старажытны сімвал Берліна будзе напамінаць мінскім камсамольцам пра тое, што ў Германіі і ў іх ёсць сапраўдныя сябры.

Садзімся ў вагоны. На вачах у маладой нямецкай перакладчыцы слёзы.

Бывай, Берлін! Бывайце, сябры! Сустрэча з вамі не забудзецца.



# АДВАЯВАНАЕ ШЧАСЦЕ



Нэля Кладніцкая на занятках.

Гучалі «Веснавыя галасы» Чайкоўскага, вясёлая полька Дэліба, «Песня аб вясне» Дунаеўскага... І кожны раз, калі на сярэдзіну залы выходзілі ўдзельніцы першынства Беларусі па мастацкай гімнастыцы, гледачы заміралі ў чаканні. Было ў гэтых спаборніцтвах нешта такое, ад чаго ўзнікала адчуванне, быццам ты знаходзішся не ў спартыўнай зале, а ў тэатры — так многа агульнага ёсць у мастацкай гімнастыцы з балетам.

Гледачы ўважліва сачылі за выступленнем гімнастак, шчыра ім апладзіравалі. Але бадай больш за ўсё мелі воплескаў малады ўрач Лідзія Літвінава і выхаванка музычнага вучылішча Нэля Кладніцкая. Нават строгія суддзі вымушаны былі на гэты раз не паскупіцца на самыя высокія балы.

Абедзве гімнасткі выступалі так, што толькі па 0,4 бала не хапала ім да нарматыву майстра спорту. А наперадзе была яшчэ адвольная праграма, дзе можна паказаць, на што ты здольны.

— Віншуем, — шчыра паціскалі ім рукі сяброўкі.

Першыя беларускія майстры спорту па мастацкай гімнастыцы... Яшчэ нікому ў нас у рэспубліцы не давялося дасягнуць такога.

— Пачакайце, яшчэ рана віншаваць,— гаварылі некаторыя. — Наперадзе яшчэ адказныя спаборніцтвы. А там, бывае, не хопіць адной дзесятай бала — і пачынай усё спачатку. Крыху перахвалюешся, трохі перастараешся, і тое, што заўсёды з заплюшчанымі вачыма лёгка выконваеш, можна сапсаваць. Бывае і так.

— Хвалявацца няма чаго, — настаўляла сваю выхаванку Нэлю Кладніцкую трэнер Ніна Васільеўна Фядотава. — Ты ж добра рыхтавалася, а гэта галоўнае. І поспех будзе, калі не сёння, то ў наступны раз. А цяпер добра адпачні...

Рыхтуючыся да чарговых выступленняў, Нэля Кладніцкая з удзячнасцю ўспомніла словы свайго трэнера.

Восем год назад упершыню пераступіла парог спартыўнай залы Мінскага палаца піянераў маленькая кволая дзяўчынка з вялікімі белымі бантамі ў тоненькіх косах — Нэля Кладніцкая. Яна старанна выконвала кожнае практыка-

ванне, якое паказвала на занятках трэнер Ніна Васільеўна, паўтарала дзесяткі разоў адзін і той жа нескладаны на першы погляд рух.

Дзяўчынка гэта марыла спачатку пра балет, але мастацкая гімнастыка захапіла яе. Працавітая, здольная, яна хутка засвойвала праграму і ўжо магла выступаць у спаборніцтвах, каб толькі не перашкаджалі акрабатычныя скачкі — не магла ж яна скокнуць вышэй за сябе, хоць гэтага патрабавала праграма другога спартыўнага разраду, разлічаная на дарослых спартсменак.

— Пацярпі, — супакойвала сваю вучаніцу Ніна Васільеўна. — Падрасцеш—адолееш...

Няшчасце напаткала Нэлю знянацку. Яна цяжка захварэла. Амаль тыдзень кідалася непрытомная ў пасцелі, а калі крыху ачуняла — не ўзрадавалася. Дыягназ і прадпісанні ўрачоў былі строгія. Хвароба дала сур'ёзнае ўскладненне на сэрца. І цяпер пра заняткі спортам нельга было і думаць.

— Адмовіцца ад сваёй мары, ад усяго, што было дарага і блізка? — Не.

У вачах чатырнаццацігадовай Нэлі стаялі слёзы, голас яе дрыжаў. Гэта кранула сэрца старога ўрача.

«Без мары, без надзеі ёй цяжка будзе перамагчы хваробу, — думаў Якаў Уладзіміравіч Нейфах. — У практыцы яшчэ не было такога, каб чалавека з цяжкім захворваннем сэрца абнадзеілі тым, што ён зможа калі-небудзь займацца спортам. Яму заўжды прыпісвалі толькі цішыню, спакой. А тут трэба рабіць усё наадварот...»

Шмат перадумаў Якаў Уладзіміравіч і нарэшце даў згоду: «Пачнем займацца лячэбнай фізкультурай».

Многа часу прайшло, пакуль Нэля ад павольных рухаў адными толькі рукамі яшчэ на бальнічным ложку перайшла да заняткаў у спартыўную залу. Праўда, і тут заняткі яе спачатку нагадвалі лячэбную фізкультуру, але паступова дзень за днём Якаў Уладзіміравіч разам з Нінай Васільеўнай уключалі ў іх усё новыя і новыя практыкаванні. Яны ўсе разам змагаліся за Нэліна здароўе і за здзяйсненне яе мэты.

Іншы раз Нэлі здавалася, што ўжо настаў час зрабіць нешта большае, чым ёй дазваляюць. Ёй хацелася хутчэй дагнаць сяброўак, якія пайшлі далёка наперад, а тут трэба было выконваць тое, з чаго некалі яна пачынала. Трымаючыся рэжыму, Нэля цярпліва чакала таго дня, калі, нарэшце, ёй дазволяць не толькі трэніравацца, але і выступаць на спаборніцтвах.

І гэты дзень настаў. Як роўная, змагалася яна за першынство на многіх спаборніцтвах, не раз была ўзнагароджана дыпломамі і граматамі. А цяпер яна была, як ніколі, блізкая да запаветнага рубяжа.

...Паліліся знаёмыя гукі музыкі, і Нэля пачала выконваць праграму. Складаныя перавароты, акрабатычныя падскокі ўдала спалучаліся з прыгожым, лёгкім танцавальным крокам, і ўсё гэта хутчэй нагадвала не спартыўнае спаборніцтва, а танец радасці, танец перамогі.

9,5; 9,5; 9,3 — такая была адзнака суддзяў за яе выступленні. 54,55 бала набрала Нэля на гэтых спаборніцтвах. Мара дзяўчынкі здзейснілася. І вось яна, шчаслівая, сярод родных і блізкіх ёй людзей. А маці, трэнер і доктар не могуць утаіць слёз на вачах. Яны ж змагаліся за яе шчасце!

Рубеж майстра спорту скарыўся. Нэля Кладніцкая ўжо не адзін раз паказвала сваё бліскучае майстэрства.

**Ніна ПРАКАПОВІЧ.**
Фота **С. Чырэшкіна.**



Нэля са сваім трэнерам Нінай Васільеўнай Фядотавай.

# ШАХМАТЫ

Пад рэдакцыяй міжнароднага майстра А. СУЭЦІНА

## У ШАХМАТНЫХ КУЛУАРАХ

Многія шахматныя балельшчыкі маюць звычку — абавязкова зазірнуць «за кулісы» шахматнага жыцця, і часам іх уражанні ад гэтага бываюць вельмі памылковыя. Напрыклад, пра матчы Батвіннік—Смыслоў (яны ж сустракаліся тройчы ў барацьбе за сусветную шахматную карону!) даводзілася чуць такія пытанні: «Скажыце, ці праўда, што Батвіннік — сваяк Смыслова?» Дарэчы, добра адказаў на гэтае пытанне сам Батвіннік, калі быў у нас у Мінску летась вясной: «Магчыма, але мне пра гэта нічога невядома...».

Многія глыбока памыляюцца, лічачы, што, як некалі ў цыркавых барцоў, можа мець месца нейкая папярэдняя дамоўленасць паміж шахматыстамі-сапернікамі турніра. Пра гэта не можа быць ніякай гутаркі. Ніколі ў гісторыі шахмат ніхто яшчэ званне чэмпіёна свету не саступаў і ніколі не саступіць нікому.

І тым не менш, у шахматах усё ж такі існуюць свае кулуары. Барацьба пачынаецца задоўга да таго, як майстры або гросмайстры паціснуць адзін аднаму рукі, а шахматныя гадзіннікі пачнуць адлічваць час.

### ПАРТЫЯ ВЫЙГРАЕЦЦА ДА ПАЧАТКУ ГУЛЬНІ

Кожнаму вядома, што шахматы маюць сваю, праз вякі выпрацаваную, тэорыю. І развіваецца гэтая тэорыя, калі можна так сказаць, у геаметрычнай прагрэсіі. Пры тым, асабліва хутка развіваецца тэорыя дэбюту — пачатковай стадыі гульні. Вядомы нямецкі шахматыст Вільгельм Стэйніц, які фактычна валодаў сусветнай шахматнай каронай на працягу 28 год (з 1866 па 1894 гады), у свой час заўважыў: «Самым складаным і цяжкім з'яўляецца пачатковае становішча на шахматнай дошцы».

Развіццё тэорыі ўсё больш пацвярджае гэтыя словы. Дэбют — не толькі стадыя мабілізацыі сіл перад асноўнай бітвай у сярэдзіне гульні (мітэльшпілі). Цяпер гэта — сукупнасць нашых ведаў пра дынамічныя шляхі развіцця барацьбы ў пачатку і сярэдзіне партыі. Сапраўды, вялікае мноства дэбютных варыянтаў вельмі хутка (амаль з матэматычнай дакладнасцю) прыводзіць да найскладанейшых пазіцый сярэдзіны гульні, а часам і далёкага эндшпілю (заключнай стадыі гульні). Ад кожнага сучаснага шахматнага майстра патрабуецца іменна такое **канкрэтнае** вывучэнне дэбютных варыянтаў.

І яшчэ адно. У шахматнай творчасці ўсё большую ролю пачынаюць адыгрываць псіхалагічныя фактары. У дэбютнай падрыхтоўцы гэта азначае, што шахматыст павінен вывучыць не толькі чыста спецыфічны бок пытання, але і запомніць усе памылкі і недакладнасці свайго партнёра ў дэбютным рэпертуары і пад-

рыхтаваць у адпаведнасці з гэтым непрыемныя «сюрпрызы».

Возьмем, напрыклад, такі выпадак. На XII чэмпіянаце СССР (1940 год) М. Батвіннік, гуляючы чорнымі з чэмпіёнам Літвы майстрам В. Мікенасам, «трапіў» на дэбютную распрацоўку ў наступным варыянце абароны Німцовіча: 1. d4 Kf6, 2. c4 e6, 3. Kc3 Cb4, 4. Фc2 d5, 5. cd ed, 6. Cg5 c5, 7.0—0—0! Абсалютна нечаканае і смелае рашэнне! Белыя імкліва адводзяць свайго караля з цэнтра, адначасова ствараючы непрыемны націск на лініі «d». І сапраўды, Батвіннік у гэтай партыі трапіў пад цяжкі «прэс», выбраўшы абарончую тактыку: Cc8—e6. 0—0 і г. д., і не здолеў выратаваць партыю.

Праз паўгода пачаўся матч-турнір на званне чэмпіёна СССР. У ім прымалі ўдзел толькі шэсць мацнейшых савецкіх гросмайстраў. З асаблівай нецярплівасцю аматары шахмат чакалі «дуэлі» двух асноўных фаварытаў — гросмайстраў М. Батвінніка і П. Кераса.

Эстонскі гросмайстар у першай жа сустрэчы з М. Батвіннікам з задавальненнем пайшоў на варыянт Мікенаса (ён гуляў белымі): 1. d4 Kf6, 2. c4 e6, 3. Kc3 Cb4, 4. Фc2 d5, 5. cd ed, 6. Cg5 h6!, 7. Ch4 c5, 8. 0—0—0.

Але нездарма Батвіннік лічыцца заснавальнікам «вышэйшай» школы дэбютнай падрыхтоўкі. Як бы прадчуваючы працяг, гэтай тэарэтычнай «дуэлі», ён падрыхтаваў бліскучае абвяржэнне: 8. ...C:c3!, 9. Ф:c3 g5!, 10. Cg3 cd!! Тры хады ўзапар чорныя «парушаюць» класічныя правілы — аслабляюць як быццам сваю пазіцыю. Але гэта не адступленне, а планамерныя ўдары, накіраваныя да адной мэты. Чорныя развіваюць сакрушальную атаку на пазіцыю белага караля. Пасля 11. Ф:d4 Kc6, 12. Фa4 Cf5, 13. e3 Фd7!, 14. Cd3 Лc8, 15. Kpb1 C:d3, 16. Л:d3 Фf5! — высветлілася, што белым няма чаго супроцьпастаўляць магутнаму націску чорных.

Вось якой можа быць сіла дамашняй падрыхтоўкі! Невыпадкова гросмайстар М. Тайманаў лічыць, што думаць трэба галоўным чынам дома, ў час гульні толькі выконваць задуманае. Гэта, вядома, жарт, але ў ім шмат праўды.

## «САКРЭТЫ» ІНДЫВІДУАЛЬНАЙ ПАДРЫХТОЎКІ

Як правільна весці падрыхтоўку да турніра? Гэтае пытанне хвалюе кожнага шахматыста, незалежна ад яго кваліфікацыі. Прынята лічыць, што прыкладна за месяц да спаборніцтва трэба абкласціся важкімі падручнікамі, добра праштудзіраваць іх і, набраўшыся розуму, выйсці на старт. У нейкай меры, вядома, гэта правільна, але далёка не ва ўсіх выпадках.

Так, гросмайстар Т. Петрасян, пераможца турніра прэтэндэнтаў на востраве Кюрасао, неяк у сяброўскай гутарцы прызнаўся, што рабіў якраз наадварот. За месяц да турніра ён вырашыў зусім не браць шахматы ў рукі. Разлік аказаўся правільны. Турнір прэтэндэнтаў працягваўся два месяцы — а гэта велізарная, вельмі нервовая дыстанцыя, сапраўдны «марафон», і каб захаваць на ўсю дыстанцыю прагу да шахматнай творчасці, «хітры» Тыгран вырашыў не затлумляць галаву, а наадварот, як бы асвяжыць яе. І вынік быў добры. Праўда, гэта можа дазволіць сабе той, хто сістэматычна займаецца тэорыяй шахмат — на працягу ўсяго года!

Трэніравацца трэба 2—3 разы ў тыдзень па тры-чатыры гадзіны. Для шахматыста, які хоча стаць майстрам, гэта складае 30—35 гадзін актыўных заняткаў! Толькі ў такім выпадку можна дазволіць сабе працяглы адпачынак перад адказным турнірам.

Не менш важныя правільная падрыхтоўка да турніра і тактыка ў час яго. Фармальна турнірны «працоўны дзень» — пяць гадзін. На самай жа справе ён — значна даўжэйшы. Падрыхтоўка да партыі нярэдка бывае вельмі працаёмкім заняткам. Міжволі ўспамінаюцца словы Уладзіміра Маякоўскага, што для «здабычы» патрэбнага слова трэба перавярнуць тысячы тон слоўнай руды. Гэта датычыць і пошукаў патрэбнага варыянта ў шахматнай гульні.

На жаль, шахматысту прыходзіцца тварыць у барацьбе з партнёрам, які ўжо з самага пачатку гульні ніяк не хоча падпарадкоўвацца вашым папярэднім думкам і намерам. Вельмі, вельмі рэдка даводзіцца ажыццявіць іменна той здабыты ў пакутах творчасці варыянт, які вы распрацуеце загадзя. Суцяшае толькі тое, што праца ваша не прападзе марна, калі-небудзь зусім нечакана распрацаваны варыянт якраз і спатрэбіцца.

Але справа не ў варыянце. Галоўнае — унутраная сабранасць перад партыяй, адчуванне, што ты гатовы да барацьбы. І часта гэта бывае звязана з вырашэннем варыянтнага пытання. Не трэба толькі занадта ператамляць сябе доўгім сядзеннем над яго распрацоўкай, бо ў час гульні на турніры можа з'явіцца апатыя. Асноўны час трэба затраціць на «размінку», а не на катэгарычнае рашэнне.

Цяпер некалькі слоў пра турнірную тактыку. Здавалася б, тут усё ясна: поўны ўперад! Ачкі ж потым падлічваюцца! І ўсё ж у вялікіх турнірах, як, напрыклад, першынствы СССР, або міжнародныя сустрэчы, тактыка павінна быць куды больш гнуткая. Так, Т. Петрасян на востраве Кюрасао зусім свядома вырашыў не быць лідарам на дыстанцыі, а ісці «па пятах». Разлік тут просты: з лідарам усе гуляюць асабліва натхнёна, і яму даводзіцца прымаць галоўны цяжар удараў! У кюрасаўскім турніры такая тактыка цалкам сябе апраўдала: Петрасян выйшаў уперад якраз тады, калі трэба было — перад апошнім штурмам!

Але, наогул, тактыка ў многім — справа чыста індывідуальная. Батвіннік, напрыклад, гуляе з асаблівым натхненнем, калі ідзе ўперадзе сам, а не наступае «на пяты» іншым.

## ПАРТЫЯ АДКЛАДЗЕНА...

Многіх неспакушаных у тонкасцях шахматнай барацьбы аматараў цікавіць пытанне, ці можна памагчы ў час перапынку таму шахматысту, партыя якога адкладзена да наступнага дня? Тут абмежаванняў няма. Партыя адкладзена, шахматыст можа дома прааналізаваць яе, перасоўваючы фігуры па свайму жаданню, без ніякага абмежавання ў часе, прымаючы чыю-небудзь дапамогу і г. д. Тут ніяк немагчыма абмежаваць шахматыста нейкімі законамі і лімітамі. Але нельга надта спадзявацца на тую дапамогу, якую шахматыст можа атрымаць у час перапынку. Ніхто не можа так паглыбіцца ў сутнасць барацьбы, як ён сам. Ён жа адчувае сваю партыю не толькі розумам, але і сэрцам. І выходзіць так, што калі пазіцыя ясная, дык нічыёй дапамогі і не патрэбна. А калі яна складаная, памагчы бывае зусім не проста, і аднаму нават лепш яе аналізаваць.

Успамінаецца нядаўні выпадак з маёй практыкі. У Мінскім паўфінале XXX першынства краіны за два туры да канца я стаяў ужо «на выхадзе», як раптам у перадапошнім туры «спатыкнуўся» і адклаў партыю з С. Жухавіцкім у вельмі цяжкім становішчы. Дагульванне было на наступны дзень, і палову ночы і ўвесь наступны дзень я праседзеў, шукаючы ў адзіноце ратунку. Атрымліваліся тэарэтычныя пазіцыі, і давялося праштудзіраваць некалькі падручнікаў.

У майго партнёра, як мне потым расказвалі, было многа кансультантаў: усе мае канкурэнты і шмат хто з удзельнікаў турніра прынялі ўдзел у аналізе яго партыі самы дзейсны ўдзел. Магчыма, што іх аналіз быў нават больш дакладны ў галоўных варыянтах. Але калі я прыняў «нелагічнае» рашэнне, мой партнёр, які ад вялікай колькасці кансультацый не паспеў адчуць усіх неспадзяванак пазіцыі (на жаль, шахматы пакуль яшчэ невычарпальныя!), страціў арыенцір і сваю перавагу. Пасля партыі ён растлумачыў, што глядзеў толькі «лепшыя» адказы, а не мае.

Дарэчы, пра «дарадцаў». Сярод некаторай часткі маладых шахматыстаў нярэдка сустракаецца нездаровая тэндэнцыя: спачатку яны супраць вас, а потым, як ні ў чым не бывала, імкнуцца даць вам параду (вядома, калі вы праіграеце). Зразумела, што такая тактыка мала спрыяе духу сяброўства. Усякая дапамога павінна быць шчырая і прынцыповая.

На апошнім фінале першынства СССР, які адбываўся ў горадзе Баку, за залаты медаль змагаліся галоўным чынам Б. Спаскі і Л. Палугаеўскі. Але калі Б. Спаскаму прапанавалі ў рашаючы момант барацьбы памагчы «супраць» Палугаеўскага, ён катэгарычна адмовіўся. Перамога павінна задаволіць як мага больш поўна — у гэтым яе каштоўнасць!

На гэтым закончым пакуль што нашу гутарку. Заўважым толькі, што ў шахматных падручніках пра многае, што неабходна ведаць кожнаму шахматысту не менш, чым варыянты, пакуль што яшчэ не прынята гаварыць. А гаварыць, як відаць, трэба!

## ДРОБЯЗІ БЫТУ



Адгадай, які падарунак я табе паднясу?




— Я ж пазнюся на вечар.
— А як вы дакажаце, што вы здавалі штаны?

### У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:

**Аповесць Уладзіміра ШЫЦІКА «МАЙСКАЯ РАНІЦА».**
**Апавяданні Міколы ГРОДНЕВА,**
**Міхася ДАНІЛЕНКІ, Івана ШАЛЬМАНАВА.**
**Вершы Рыгора БАРАДУЛІНА, Вольгі ІПАТАВАЙ,**
**Уладзіміра ПАЎЛАВА, Рамана ТАРМОЛЫ, Леаніда ЯЎМЕНАВА.**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8115. Цана 40 кап.
АТ 06719. Здадзена ў набор 26.IV.63 г. Падпісана да друку 3.V.63 г. Зак. 187.

Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праспект, 79.



**П. Данелія. Праясняецца.** Рэспубліканская мастацкая выстаўка.



**Хто з вас, сябры, не чытаў такія выдатныя кнігі як «Сын вады», «У краіне райскай птушкі», «Амок»... Яны створаны старэйшым беларускім пісьменнікам Янкам Маўрам (Іванам Міхайлавічам Фёдаравым), якому споўнілася 80 год.**

**Ён пісаў свае кнігі пра далёкія заморскія краіны, ні разу не пабываўшы там. Цяпер, у такім узросце, ужо цяжка адважыцца на працяглае падарожжа. Іван Міхайлавіч цешыцца флорай гарачых краін, сабранай у батанічным садзе Акадэміі навук БССР. Тут і зроблен гэты здымак нашым карэспандэнтам А. Дзітлавым.**

**Віншуючы дарагога Янку Маўра з 80-годдзем, жадаем яму добрага здароўя, доўгіх год жыцця, бадзёрага творчага настрою!**



**П. Данелія. Пад вечар.** Рэспубліканская мастацкая выстаўка.



**П. Данелія. Дарога.** Рэспубліканская мастацкая выстаўка.